# Янка Купала

*Поўны збор твораў у дзевяці тамах*



# Янка Купала

*Поўны збор твораў*



*Том*

# 9

*Кніга другая*

**ДАПАЎНЕННІ**
**ДА ПАПЯРЭДНІХ ТАМОЎ**
**ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ**
**ДАДАТАК**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
2003

УДК 821.161.3+821.161.3.09
ББК 84(4Беи)+83.3 (4Беи)
К 92

Рэдактары тома:

ЗОЛАВА Э. А., МУШЫНСКІ М. І., СКАЛАБАН В. У.

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі:

ГЕСЬ А. М., ГОЛУБ Т. С., ЗОЛАВАЙ Э. А., СКАЛАБАНА В. У.,
«Летапіс жыцця і творчасці» — САЛАМЕВІЧА І. У.

ISBN 985-02-0661-6
ISBN 5-340-01093-7



## НЕ ПЛЮЙ У КАРЫТЦА...

*(Прыпеўкі)*

Жылі́ мы, былі́ мы
Пад панам, пад царам,
І леты і зімы
Карк гнулі не дарам.

Нагайка свісцела,
Гудзеў гонар панскі,
Мы смела, нясмела
Разводзілі казкі...
Не плюй у карытца —
Прыдасца напіцца.
Змяніліся часы,
І самі — мы самі —
Не ля тэй акрасы
Ўжо сталі панамі.

Ды к працы заўзятай
Пайшлі мы марудна:
Раскідалі хаты,
А склеіць штосьь трудна...
Не плюй у карытца —
Прыдасца напіцца.
Зямлі нам надалі
І нашай, і дворнай,
Надалі, а далей —
Нам штось не прасторна.

Зямлі і свабоды
Ужо нам замала...

Якой жа выгоды
Яшчэ не ставала?!
    Не плюй у карытца —
    Прыдасца напіцца.
Бах, нашу Айчыну
Без нашае волі,
Як тую аўчыну
Ў шматкі папаролі.

А нам чужы статут
Паднёс пяць паветаў,—
Жыві і ўладай тут!
Ну, дзякуй за гэта!..
    Не плюй у карытца —
    Прыдасца напіцца.
І «польскі», і «рускі»,
І ўсякі чорт іншы
На сказ беларускі
Плюе, не купіўшы —

Каб нам, беларусам,
І немач, і ліха...
А мы што? — пад вусам
Бармочама сціха:
    Не плюй у карытца —
    Прыдасца напіцца.

*15.1.<19>22 г.*

## <У РЭДАКЦЫЮ ГАЗ. «ЗВЯЗДА»>

*7 красавіка 1931 г.*

З прычыны нездароўя я не мог быць на сходзе і падпісаць рэзалюцыю-пратэст супраць нечуванага ўціску нацыянальных меншасцяй у Польшчы, супраць пагромаў на Зах<одняй> Беларусі і Зах<одняй> Украіне, прынятую пісьменнікамі БССР і надрукаваную ў «Звяздзе» ад 6-IV-31 г.

Праз гэта пісьмо ў вашу, т<аварыш> рэдактар, газету я далучаю свой подпіс пад вышэйпамянёнай рэзалюцыяй.

*Янка Купала*

Менск, 7-IV-31 г.

## ДА А. С. НОВІКАВА-ПРЫБОЯ

[23.3.1937 г.]

Дорогой Алексей Силыч! Всем сердцем приветствую день Вашего юбилея. Сожалею, что не могу из-за болезни лично присутствовать на празднике советской литературы, празднике славного автора «Цусимы». Пусть Ваше творчество долгие, долгие годы бьет новым и новым прибоем на радость и счастье нашей великой социалистической Родины. Горячий привет. *Янка Купала.*

## ДА А. С. НОВІКАВА-ПРЫБОЯ

[18.7.1938 г.]

Дорогой славный Алексей Силыч!

Я недавно был в Москве. Страшно хотелось побывать у Вас на даче, но мне сказали, что Вы странствуете по Донбассу. Так и не сбылось мое горячее хотение. Но это дело поправимо. Думаю во второй половине августа быть в Москве и тогда уже во что бы [то] ни было побываю в Вашей сказочной Семирамиде.

Сегодня только я уезжаю к себе на дачу. Должен Вам сказать, милый Алексей Силыч, что весна и кусок лета до сего почти времени прошли очень плохо. Весь май пролежал с каким-то воспалением легких, так что еле вычухался. Июнь проходил около кровати, а теперь чувствую себя неплохо. Теперь вот что, Алексей Силыч: приезжайте ко мне на дачу погостить сколько Вам заблагорассудится. У меня хорошо. На крутом берегу Днепра. Бытовые условия, уют, развлечения получите самые приятные. Одним словом, приезжайте. Буду ждать. Ехать очень удобно. Выезжайте из Москвы курьерским поездом с Белорусского вокзала в 11 ч. 5 м. вечера, приезжаете в Оршу, а я уже буду Вас ждать с машиной, и ко мне на дачу приезжаем завтракать, купаться, развлекаться. Хорошо! Только предварительно, Алексей Силыч, сообщить мне телеграммкой о дне Вашего выезда из Москвы. Адрес для писем и телеграмм: *Копысь, Оршанского района.* Можно по этому же адресу звонить и по телефону. На даче у меня хороший телефон. Сможете в любое время поговорить по телефону и с

Москвой. Кроме того, будем регулярно слушать по радио последние новости из Москвы. Значит, договорились. А пока жду от Вас письма у себя на даче. Сердечный привет Марии Людвиковне. Вам всего солнечного и радостного.

Ваш *Я. Купала.*

P. S. Когда окончил письмо, вспомнил, что мы договорились говорить себе «на ты».

Посылаю цицматы — можно сейчас посеять — вырастут.

## ДА А. С. НОВІКАВА-ПРЫБОЯ

[Пасля 22.10.1938 г.]

Дорогой Алексей Силыч!

Страшно жалею, что не смог с Тобой повидаться в Москве в последний мой приезд. Но этим дело не поправишь! Теперь вот что: в первых числах ноября еду в Цхалтубо. Что, если бы и Ты, милый Алексей Силыч, присоединился ко мне? Это меня очень и очень обрадовало бы. Путевки достанем в Тбилиси, а там — подмолодимся немножко. Не раздумывая долго, соглашайся, славный дружище, и давай мне телеграмму, что всегда готов ехать. Из Цхалтубо заедем на месяц в Кисловодск закрепить лечение. Жду с нетерпением Твоего ответа.

Всего солнечного и радостного.

Твой *Янка Купала.*

Жена моя низко кланяется Тебе и Марии Людвиковне. От меня также сердечный привет Марии Людвиковне.

*Я. Купала.*

Адрес: Минск, Октябрьская, 40.

# ДАРЧЫЯ НАДПІСЫ

**Дорогому Гасану Лахути с братским песнярским приветом. Янка Купала. Москва. 23.VIII.1934 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи». М., 1934 (захоўваецца ў фондах Інстытута мовы і літаратуры імя Рудакі АН Таджыкістана).*

**Дорогим и милым т. Бану и Лахути с искренней сердечностью. Я. Купала. Москва. 1.XII.1935 г.**

*На кнізе: «Избранные стихи и поэмы». М., 1935 (захоўваецца ў фондах Інстытута мовы і літаратуры імя Рудакі АН Таджыкістана).*

*Лахуці Абулькасім Ахмадзадэ* (1887—1957) — іранскі паэт, адзін з заснавальнікаў таджыкскай паэзіі. З 1922 г. жыў у СССР. Пазнаёміўся з Купалам у 1933 г. у Маскве ў час падрыхтоўкі да стварэння ССП СССР. Удзельнічаў у святкаванні юбілеяў Янкі Купалы ў Мінску (1935) і Маскве (1940). Прысвяціў Купалу верш «Кастрычнік і паэт» у 1935 г., у 1942 г. напісаў артыкул «Памяці Купалы», аўтар успамінаў пра паэта.

## КАЛЕКТЫЎНАЕ

### У НАРОДНЫ КАМІСАРЫЯТ АСВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Рост і паглыбленне дзяржаўнага, гаспадарскага і культурнага будаўніцтва БССР за апошнія часы падняў зацікаўленасць да Беларусі ў шырокіх колах Саюзнага грамадзянства і заграніцы. Беларускае пытанне зараз не з'яўляецца рэччу вузкага кола беларускага жыхарства. Аб ім гутараць і пішуць у савецкіх брацкіх рэспубліках і ў буржуазных краінах. Асабліва значна паднялася зацікаўленасць беларускім пытаннем пасля наступных трох здарэнняў: акадэмічнае канферэнцыі ў 1926 г., дакладу правіцельства БССР на III сесіі ў пачатку гэтага года і разгрому Беларускай сялянска-рабочай Грамады ў Заходняй Беларусі; гэты фактар таксама знімае агромністыя надзеі на БССР беларускага насельніцтва Заходняе Беларусі, Латвіі, Літвы і эмігранскіх калоніяў у Амерыцы, Чэхаславакіі, Югаславіі і інш.

Аднак, нягледзячы на гэта, усе тыя, хто зацікаўлены беларускім пытаннем, мала маюць правідовых даных аб яго сапраўдным выглядзе. Пры гэтым зашмат ёсць усюды заядлых ворагаў Савецкай Беларусі як нацыянальнае рэспублікі. Усё гэта трэба перамагчы, абмінуць і заставіць грамадскую думку працоўных усіх краёў больш-менш поўна асвядоміцца з гістарычным фактарам, якім ёсць нараджэнне БССР у скутку Кастрычніцкіх падзей, мінулае Беларусі, сённяшнее і наступнае. Зрабіць гэта мажліва праз навязанне культурнае сувязі з зарубежжам, шляхам заграні́чных камандзіровак з наладжаннем дакладаў аб будаўніцтве культуры ў БССР, літаратурных вечароў, навязаннем сувязі з культурнымі арганізацыямі і ўстановамі і асвятленнем беларускага жыцця ў заграні́чным друку. Апошнія настойна вымагаюцца зараз жа, калі беларус-

кае пытанне абвострана і стаіць у зяніце ўвагі ў Польшчы, Латвіі, Нямеччыне, Чэхаславакіі, не кажучы ўжо аб беларускай меншасці ў гэтых дзяржавах.

Прымаючы ўсё гэта на ўвагу і, лічачы ў дадатак, патрэбу даць мажлівасць праз камандзіроўку пазнаёміцца з культураю і бытам іншых народаў, што для творчае працы пісьменніка вельмі карысна і патрэбна, просім Народны камісарыят асветы даць нам навуковую камандзіроўку на два месяцы ў Латвію, Нямеччыну, Чэхаславакію і Аўстрыю.

*З. Жылуновіч (Ц. Гартны)*
*Ів. Луцэвіч (Я. Купала)*
*М. Чарот (М. Кудзелька)*

Менск, 16/V — 27 г.

P. S. Па хадайніцтву «Маладняка» прашу далучыць да гэтай групы т. Зарэцкага М. (М. Касянкова).

Старш<ыня> ЦБ «Маладняка» *М. Чарот.*

## У ЦЭНТРАЛЬНЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ САВЕТАЎ БССР

Мы, ніжэй падпісаныя, просім ЦВК БССР дараваць беларускаму пісьменніку-драматургу Францышку Аляхновічу і выпусціць на волю дзеля літаратурнае і тэатральнае працы ў БССР.

25 кастрычніка 1927 г.

Падпісалі:

*Якуб Колас, М. Гарэцкі,* аўтар «Гісторыі беларускай літаратуры», *З. Бядуля, В. Друшчыц,* праф. Беларускага Дзярж. Універсітэту, *Міх. Грамыка,* дацэнт БДУ і пісьменнік *Янка Купала, А. Гурло, Аркадзь Смоліч,* праф. БДУ, правадзейны член Інстытуту Беларускай культуры, *Язэп Лёсік,* член Інбелкульта, *Уладзімір Жылка, Бр. Эпімах-Шыпіла, А. Багдановіч,* дацэнт БДУ, *Мікола Байкоў, Н. Красінскі* — дырэктар БДТ-2, *Янка Лабаноўскі, А. Грыневіч, Ч. Родзевіч,* член ІБК, *А. Піятуховіч,* праф. БДУ.

## ДА НАВУКОВЫХ І КУЛЬТУРНЫХ ДЗЕЯЧОЎ І ПРАЦОЎНЫХ УСЯГО СВЕТУ

Чатырохмільённае насяленне Беларусі, што апынулася ў межах польскай дзяржавы, перажывае найбольш трагічны момант у гісторыі свайго існавання. Шэсць гадоў панавання Польшчы над Заходняй Беларуссю прывяло апошнюю да поўнага эканамічнага і культурнага заняпаду. Палітыка паланізацыі і імкненне Польшчы зрабіць Заходнюю Беларусь аграрнай калоніяй пагоршыла становішча беларускага сялянства — нават у параўнанні з даваенным часам.

Асабліва цяжка адбіваецца на сялянстве так званае «асадніцтва», або раздача беларускіх земляў польскім дэмабілізаваным жаўнерам. Пасёлкі асаднікаў укліняюцца ў беларускія землі ў мэтах штучнай паланізацыі і замацавання краю за Польшчай.

Фармальна раўнапраўныя, беларускія сяляне і рабочыя фактычна пазбаўлены ўсялякіх правоў: беларусаў не прымаюць на работу не толькі ў дзяржаўныя ўстановы, на фабрыкі, на чыгункі, але нават і ў памешчыцкія маёнткі.

**Чатырохмільённае насяленне пазбаўлена права мець школу на роднай мове.** Беларускія школы і настаўніцкія семінарыі зачынены польскім урадам у 1921 г. Беларускіх дзяцей гвалтам заганяюць у польскія школы, а бацькоў за непасылку дзяцей у гэтыя школы штрафуюць і караюць, нягледзячы на тое, што, згодна польскай жа даваеннай статыстыкі, у Заходняй Беларусі налічвалася не больш 4 прац. палякаў.

Малазямелле, асадніцтва, вельмі цяжкія падаткі, накладанне штрафаў, забарона школы на роднай мове — усё гэта кладзецца надзвычайным цяжарам на беларускі народ, вядзе яго да поўнага культурнага заняпаду, збяднення, нэндзы і голаду.

Усякі пратэст супраць нячуванага эканамічнага і нацыянальнага прыгнечання разглядаецца польскім урадам як здрада дзяржаве, як найвялікшае дзяржаўнае злачынства. Праз увесь час не спыняюцца масавыя арышты — арыштоўваюць за ўсякае выяўленне актыўнасці як у галіне культурнай, так нават і кааперацыйнай дзейнасці. Польскія турмы перапоўнены тысячамі беларусаў.

Катаванні, здзекі ў турмах уведзены ў сістэму. Гэтыя бязлітасныя катаванні арыштаваных у польскіх засценках напамінаюць часы сярэднявяковай інквізіцыі. Аб гэтым найяскравей сведчаць афіцыйныя дакументы польскага сойму — інтэрпеляцыі беларускіх дэпутатаў гэтага сойму.

Нячуванае прыгнечанне і рэпрэсіі выклікалі часамі ў часткі насялення стыхійныя ўздымы збройнай барацьбы, партызанскія выступленні, якія з лютаю жорсткасцю прыдушаліся польскім урадам. Пераважная ж большасць беларускага насялення Заходняй Беларусі ў мэтах абароны нацыянальных правоў, у мэтах захавання чалавечай годнасці стала на шлях масавага арганізаванага змагання і самадзейнасці.

Формай гэтага масавага змагання, якое ахапіла да 100 тысяч беларускіх сялян і рабочых, была Беларуская сялянска-работніцкая Грамада, статут якой быў легалізаваны. Гэта арганізацыя ўзнікла як натуральны акт самаабароны і самазахавання нацыі ад поўнага фізічнага знішчэння.

Уся дзейнасць Грамады была накіравана на арганізацыю шырокіх н а р о д н ы х мас дзеля змагання з самавольствам улады і нацыянальным прыгнечаннем, дзеля змагання за інтарэсы культурнага і эканамічнага існавання працоўных мас Заходняй Беларусі.

**Арганізацыя беларускай школы і культурных устаноў, каапераванне насялення і г. д.— вось віна Грамады перад польскім урадам, віна, за якую была разгромлена 100-тысячная арганізацыя, арыштаваны сотні яе членаў.** Арышты беларускіх паслоў польскага сойму — Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлы і Валошына адбыліся шляхам парушэння закону аб дэпутацкай недатычнасці.

Поруч з разгромам Грамады пачаўся разгром беларускіх культурных і каапперацыйных устаноў і арганізацый. Зачынены беларускія каапперацыйныя банкі, а іх кіраўнікі арыштаваны. Арыштаваны Антон Луцкевіч і Радаслаў Астроўскі, кіраўнікі Таварыства Беларускай Школы. Усе арышты робяцца паводле паказанняў шпіёнаў і правакатараў нібы за тое, што сябры Грамады з'яўляюцца «агентамі чужой дзяржавы». У сапраўднасці ж усе гэтыя арышты, як і суд над Беларускай сялянска-работніцкай Грамадой, выяўляюць намеры польскага ўраду задушыць культурныя беларускія цэнтры, задушыць самадзейнасць мас.

Мы, прадстаўнікі навукі і культуры БССР, кроўна звязаныя з працоўнымі масамі Заходняй Беларусі, будуючы беларускую культуру ў вольнай савецкай краіне, **горача пратэстуем супроць палітыкі польскага ўраду, накіраванай да фізічнага знішчэння беларускага народу. Мы пратэстуем супроць суду, які адбываецца над цэлай нацыяй.**

Мы заклікаем працоўныя масы братэрскіх Саюзных Рэспублік **узняць шырокі рух пратэсту супраць акту класавае расправы, што чыніцца кіруючай верхавінай Польшчы над сялянамі і рабочымі Заходняй Беларусі.**

Мы заклікаем людзей навукі і культуры, заклікаем працоўных усяго свету далучыцца да нашага абурлівага пратэсту.

Мы заклікаем увесь культурны свет узняць магутны голас пратэсту супраць суду над цэлым заняволеным народам.

Арганізуйце камітэты абароны!

Пасылайце выказванне свайго пратэсту польскаму ўраду!

Не дайце адбыцца нечуванай несправядлівасці над цэлай нацыяй!

Спыніце ўзнятую над працоўнымі масамі Заходняй Беларусі руку польскага фашызму!

Камітэт навуковых працаўнікоў і пісьменнікаў БССР па абароне Беларускай сялянска-работніцкай Грамады:

Старшыня камітэта, народны паэт Беларусі, правадзейны член Інбелкульта *Я. Купала.*

Члены: народны паэт Беларусі, правадзейны член Інбелкульта *Якуб Колас,* Старшыня Секцыі навуковых працаўнікоў БССР прафесар *Я. С. Вальфсон,* Прэзідэнт Інбелкульта прафесар *У. Ігнатоўскі,* заслужаны прафесар, рэктар БДУ, правадзейны член Інбелкульта *У. Пічэта,* правадзейны член Інбелкульта *З. Жылуновіч,* правадзейны член, неадменны сакратар Інбелкульта *В. Ластоўскі,* дацэнт БДУ д-р *А. Сянькевіч,* правадзейны член Інбелкульта і старшыня Галоўнавукі *<С.>Некрашэвіч,* дырэктар Інстытута сельскай і лясной гаспадаркі *Г. Гарэцкі,* правадзейны член Інбелкульта прафесар *А. Смоліч,* прафесар *М. Грэдзінгер, А. Цвікевіч, Л. Ашаровіч,* правадзейны член Інбелкульта, дацэнт БДУ *Язэп Лёсік, Я. Клыс,* асістэнт БДУ д-р *<П>.Трамповіч.*

## АДОЗВА ДА КУЛЬТУРНЫХ ДЗЕЯЧОЎ І ПРАЦАЎНІКОЎ СССР І ЎСЯГО СВЕТУ

Год таму назад польскі ўрад разграміў стотысячную Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду і сотні актыўных сяброў гэтай арганізацыі кінуў на катаргу і ў турмы. Польскі ўрад не

звярнуў увагі на многалічныя пратэсты культурных дзеячоў і працоўных усіх краін свету. Польская фашысцкая юстыцыя асудзіла імкненні беларускага народа да элементарных нацыянальных правоў, паставіла найшырэйшыя працоўныя масы Заходняй Беларусі па-за законам.

28 лютага 1929 года польскі апеляцыйны суд будзе нанова судзіць масавую нацыянальна-рэвалюцыйную арганізацыю беларускага народа; будзе нанова судзіць прадстаўнікоў разгромленай масавай арганізацыі рабочых і сялян Заходняй Беларусі.

Беларуская нацыянальнасць мае большасць у складзе насельніцтва на вялізных паўночна-ўсходніх прасторах сучаснай Польшчы, на тэрыторыі ў 106 тыс[яч] квадр[атных] кіламетраў, г[эта] значыць, больш як адной чацвёртай частцы тэрыторыі сучаснай польскай дзяржавы. На гэтых прасторах Заходняй Беларусі жыве 4 мільёны насельніцтва, з іх звыш 3-х мільёнаў беларусаў. Польскі фашызм шляхам сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, шляхам рабавання прыродных багаццяў краіны імкнецца ўзмацніць частковую гнілую стабілізацыю капіталізму ў Польшчы дзеля больш паспяховай падрыхтоўкі да вайны супраць СССР.

Дзесяцёхгадовае панаванне польскіх абшарнікаў і капіталістаў давяло шырокія масы Зах[одняй] Беларусі да поўнага эканамічнага заняпаду і руіны. Індустрыяльныя цэнтры ў Беластоку, Вільні, Берасці, Горадні занепадаюць. Гарады страцілі ўсе падставы дзеля ўзросту.

Сельская гаспадарка асноўнай сялянскай масы Заходняй Беларусі занепадае і руйнуецца. Побач з вялізнымі латыфундыямі польскіх магнатаў і паноў, якім належыць звыш паловы ўсёй зямельнай плошчы, асноўная маса беларускага сялянства, лік гаспадарак якіх дасягае звыш трох чвэртак усяго ліку гаспадарак, гібее на дробных надзелах, перажывае перыядычныя галадоўкі.

Польскі фашызм задаўся мэтаю спольшчыць каласальныя прасторы Заходняй Беларусі. Дзеля гэтага праводзіцца сістэматычная польская паланізацыя Заходняй Беларусі, лепшыя землі перадаюцца вайсковым каланістам-асаднікам, асвета на беларускай мове знішчана, з 400 беларускіх школ, існаваўшых у 1919 годзе, не засталося аніводнае; нацыянальны беларускі друк задушан.

Усё гэта, побач з існаваннем па суседству з Заходняй Беларуссю Беларусі Савецкай, дзе рабочыя і сяляне з'яўляюцца гаспадарамі свайго ўласнага жыцця, дзе ідзе роскквіт беларускай эканомікі і нацыянальнай культуры, стварае грунт для

нацыянальна-рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, які шырокаю хваляю залівае беларускія прасторы ў Польшчы. Беларускі нацыянальна-рэвалюцыйны рух дасягнуў надзвычайнага размаху і масавасці ў Заходняй Беларусі, вынікам якога і было існаванне Беларускай сялянска-работніцкай Грамады.

Палітыка буржуазнай Польшчы не ў сілах змяніць арганічныя супярэчнасці, якія існуюць паміж працоўнымі Зах[одняй] Беларусі і сучаснай панскай Польшчай. Польскі фашызм не змог і не зможа выграшыць ні сацыяльна-эканамічнае, ні аграрнае, ні нацыянальнае пытанне ў Заходняй Беларусі. Усе спробы фашызму шляхам жорсткага тэрору, шляхам падачак, подкупу і палітычных камбінацый разлажыць і задушыць рэвалюцыйна-нацыянальны рух пры дапамозе беларускіх згоднікаў і рэнегатаў — не ўдадуцца.

Мы заклікаем працоўных і культурных дзеячоў СССР і ўсяго свету далучыць свой голас пратэсту супроць здзекаў і праследванняў нацыянальна-рэвалюцыйнага руху ў Зах[одняй] Беларусі.

Патрабуйце свабоды дзейнасці для палітычных, культурных і эканамічных арганізацый рабочых, працоўнага сялянства Заходняй Беларусі.

Мы заклікаем працоўныя масы і культурных дзеячоў СССР і ўсяго свету падняць рашучы голас супраць нечуваных здзекаў польскага фашызму над працоўнымі Заходняе Беларусі за вызваленне тысяч нявінна засуджаных людзей, якія апынуліся за кратамі польскіх турмаў.

Члены Камітэта пісьменнікаў і навуковых Працаўнікоў БССР па абароне Беларускай сялянска-работніцкай Грамады:

Народны паэт і акадэмік — *Я. Купала*, народны паэт і акадэмік — *Я. Колас*, старшыня секцыі навуковых працаўнікоў — акадэмік *С. Я. Вальфсон*, прэзідэнт Беларускай акадэміі навук — *У. Ігнатоўскі*, рэктар БДУ акадэмік — *Пічэта*, рэктар КУБ'а — *А. Сянкевіч*, акадэмік — *З. Жылуновіч*, неадменны сакратар Акадэміі навук — акадэмік *В. Ластоўскі*, старшыня Галоўнавукі — акадэмік *С. Некрашэвіч*, дырэктар Інстытута сельскай і лясной гаспадаркі — акадэмік *Г. Гарэцкі*, прафесар *А. Смоліч*, акадэмік *М. Грэдынгер*, акадэмік *Я. Лёсік*, *А. Цвікевіч*, *Л. Ашаровіч*, *Я. Клыс*, дацэнт БДУ д-р *Трамповіч*.

## <ВІНШАВАННЕ А. ГУРЛО>

*Паважаны Алесь Кандратавіч!*

У дзень твайго 20-цігадовага юбілею літаратурнай дзейнасці мы, твае таварышы па працы, пасылаем табе сваё гарачае прывітанне.

Спявай, пясняр, аб магутным сацыялістычным будаўніцтве!

Працуй на карысць новага сацыялістычнага грамадства!

*Цішка Гартны, З. Бядуля, Міх. Грамыка, Янка Купала, Ян. Нёманскі, В. Сташэўскі, М. Гарэцкі, Якуб Колас.*

## СТОЙКАМУ БАЛЬШАВІКУ — ПРЫВІТАННЕ!

Агульны сход савецкіх пісьменнікаў горада Менска шчыра вітае Міколу Мацвеевіча Галадзеда, стойкага бальшавіка, адданага змагара за генеральную лінію партыі, за ленінскую нацыянальную палітыку ў пяціголддзе яго работы старшынёй СНК БССР.

Поспехі ленінскай культурнай рэвалюцыі, поспехі нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР самым шчыльным чынам звязаны з імем Міколы Мацвеевіча Галадзеда.

Мікола Мацвеевіч заўсёды пільна, уважліва і чула адносіўся і сачыў за развіццём літаратурнай справы ў нашай рэспубліцы, за ростам пралетарскай літаратуры, за ростам кадраў пралетарскай літаратуры з фабрык і заводаў.

Выступленні М. М. Галадзеда па пытаннях літаратуры, яго ўказанні, парады давалі нам, савецкім пісьменнікам, заўсёды бальшавіцкую, партыйную арыентацыю ў змаганні за літаратуру, сацыялістычную зместам і нацыянальную формай.

Шчыра вітаючы Міколу Мацвеевіча Галадзеда ад імя літаратурнага савецкага фронта БССР, жадаем яму далейшых поспехаў у рабоце, на якую яго паставіла партыя і рабочы клас.

Прэзідыум сходу: *Я. Колас, М. Лынькоў, Я. Купала, А. Александровіч, К. Крапіва, П. Швэйдэль, П. Галавач, Ц. Гартны, В. Вольскі, І. Харык, М. Чарот, М. Кульбак, Л. Кацовіч, Модэль, І. Шапавалаў.*

Рэд<акцыя> газ<еты> «Літ. і мастацтва».

## РЭЗАЛЮЦЫЯ ПРАТЭСТУ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Зноў з гоняў паднявольнай Заходняй Беларусі даносяцца да нас стогны і крыкі.

Гэта — голас дзяцей, якіх выкінуў фашызм з беларускіх школ. Гэта — галасы з-за крат лепшых прадстаўнікоў рабочага класа, працоўнага сялянства, правадыроў нацыянальна-вызваленчага руху — **Тарашкевіча, Валошына, Дварчаніна, Гаўрыліка, Валынца, Крынчыка і тысячы лепшых сыноў рабоча-сялянскай сям'і.** Гэта звіняць ланцугамі дэлегаты з'езда ТБШ. Іх паслалі масы падзяліцца вопытам барацьбы, вызначыць далейшыя шляхі змагання. Але дэфензіва кінула іх за краты.

Так «вырашаюць» нацыянальнае пытанне «місіянеры культуры і цывілізацыі» ў незалежнай і «дэмакратычнай» Польшчы...

**Мы, пісьменнікі Савецкай Беларусі, ганьбім барбараў XX стагоддзя, носьбітаў чорнай рэакцыі, подлых і цынічных фашыстаў-пілсудчыкаў.**

Польскіх імперыялістаў сёння акрыляе надзея, што вось-вось разгарыцца «вогнішча вайны», на якім з прыемнасцю можна «пагрэць скарчанелыя ад крызісу рукі».

Таму яны распачалі свой азвярэлы паход супраць Савецкага Саюза, азвярэлы паход на Заходнюю Беларусь, Заходнюю Украіну, дзе нарастае рэвалюцыйная хваля нацыянальна-вызваленчага руху, дзе нарастае грозная хваля нянавісці і гневу да катаў і душыцеляў.

Гэтая хваля змяце інтэрвенцыянісцкія планы польскіх імперыялістаў, іх стратэгічныя намеры ў падрыхтоўцы крывавага паходу на бацькаўшчыну сусветнага пралетарыяту.

Планы польскіх акупантаў па прыдушэнні нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі і Украіне і падрыхтоўцы інтэрвенцыі на Савецкі Саюз праводзяцца ў цесным кантакце з заходнебеларускімі і заходнеўкраінскімі нацыянал-фашыстамі, якія самым наглым чынам прадаюць польскаму фашызму інтарэсы мільённых мас пралетарыяту і працоўных.

Фашызм тысячамі год катаргі, шыбеніцамі і расстрэламі хоча задушыць магутную рэвалюцыйную хвалю.

Дарэмныя надзеі, паны «цывілізатары», падпальшчыкі новай вайны! Працоўныя ўсяго свету прыглядаюцца да вашай дзейнасці. **І не забывайце, што рабочыя і сяляне, якіх вы душыце, на чыіх спінах гуляе ваш пацыфікатарскі бізун, не забывайце, што яны маюць мільёны сваіх братоў па ўсім свеце, якія змагаюцца разам з імі за сусветную пралетарскую рэвалюцыю.**

Ва ўсім капіталістычным свеце кіпіць барацьба з эксплуатацыяй і ўціскам, у рабочых і сялян усяго свету ваша катаўская работа выклікае буру гневу і пратэсту.

І сёння мы галасна клічам: **усе на дапамогу заходнебеларускім братам!** Польскі імперыялізм робіць новае злачынства перад чалавецтвам.

**Пакрыем ганьбаю іх саюзнікаў, агідных здраднікаў — беларускіх нацыянал-фашыстаў, подлых Луцкевічаў і Астроўскіх!**

Рабочыя і калгаснікі Савецкай Беларусі, працоўныя і рэвалюцыйныя пісьменнікі ўсяго свету! Пралетарская салідарнасць не раз вырывала нашых братоў з рук катаў. Да пратэсту! Шквалам дэманстрацый пратэсту спынім паход акупантаў на Заходняй Беларусі.

**Дапаможам вырваць з турмы Тарашкевіча!**

**Рукі прэч ад ТБШ, ад беларускіх гімназій і пачатковых школ!**

**Няхай жыве гераічная нацыянальна-вызваленчая барацьба рабочых і сялян Заходняй Беларусі!**

**Няхай жыве адзіны верны і непахісны правадыр гэтай барацьбы — КПЗБ!**

*Янка Купала, Кузьма Чорны, А. Кучар, С. Ліхадзіеўскі, Б. Мікуліч, А. Салагуб, У. Хадыка, П. Галавач, І. Харык, В. Таўлай, А. Александровіч, К. Крапіва, П. Глебка, С. Баранавых, І. Барашка, Я. Скрыган, В. Казлоўскі, М. Блісцінаў, Ц. Зарэчны, З. Астапенка, С. Куніцкі, М. Шалаеў, М. Кавалёў, Л. Бэндэ, Р. Кобец, А. Вольны, М. Багун, С. Нортман, В. Вольскі, І. Гурскі, М. Зарэцкі, В. Маракоў, В. Шашалевіч, А. Дудар, Я. Колас.*

## САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ РАХУНАК

*Нядаўна скончылася чыстка ячэйкі КП(б)Б Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі. Чыстка ўскрыла шэраг сур'ёзных недахопаў як у працы асобных сектараў выдавецтва, так і ў ДзВБ у цэлым. Асабліва дрэнна пастаўлена работа ў сектары літаратуры і мастацтва.*

*Пісьменнікі Менска, крытыкуючы работу выдавецтва і сваю работу, прад'явілі ДзВБ наступны сацыялістычны рахунак.*

Сацыялістычны рахунак:

«Велізарнейшы размах сацыялістычнага будаўніцтва карэнным чынам змяніў эканамічную і культурна-палітычную геаграфію Беларусі.

Беларусь — краіна эканамічна і культурна адсталая ў мінулым, краіна балот, цемры і жабрацтва — пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК, на чале з правадыром сусветнага пралетарыяту тав. Сталіным і пры дапамозе рабочага класа брацкіх савецкіх рэспублік ператварылася ў краіну калгасаў, фабрык, заводаў, у краіну суцэльнай пісьменнасці.

Гэтых поспехаў дабілася партыя і рабочы клас, дзякуючы бязлітаснай барацьбе на два франты з «правым» і «левым» апартунізмам, у барацьбе з нацыянал-дэмакратызмам, з вялікадзяржаўным шавінізмам, з буржуазна-кулацкімі нацыяналістычнымі тэндэнцыямі, у барацьбе за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізму.

На аснове поспехаў сацыялістычнага будаўніцтва, правільнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі савецкая літаратура БССР дабілася велізарных дасягненняў.

Гістарычная пастанова ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. паставіла літаратурную арганізацыю БССР на цвёрдыя ногі. Асноўныя пісьменніцкія кадры сталі на платформу Савецкай улады і сацыялістычнага будаўніцтва. Творчы актыў савецкай літаратуры БССР адказаў на пастанову ЦК УсеКП(б) новым творчым уздымам. Аб гэтым творчым уздыме пісьменнікаў яскрава сведчыць іх работа над новымі буйнымі творамі, уключэнне пісьменнікаў ва ўсебеларускі конкурс па напісанію п'ес і г. д.

Аднак наша савецкая літаратура ўсяго Савецкага Саюза, і ў прыватнасці БССР, адстае яшчэ і на сённяшні дзень ад рэвалюцый рэчаіснасці і ад запатрабаванняў працоўнага чытача.

Тая тэматыка, якая ў нас ёсць, не адлюстроўвае ўсіх бакоў нашай рэчаіснасці, не заўсёды правільна асмыслівае яе складаную шматграннасць.

Перад пісьменнікамі пастаўлена задача паказаць грандыёзныя зрухі і велізарнейшае будаўніцтва ў нашай краіне, паказаць працэс сацыялістычнай пераробкі працоўных, дапамагчы гэтаму працэсу ў выкарчоўванні перажыткаў капіталізму з псіхікі людзей і ў ператварэнні іх у свядомых будаўнікоў бяскласавага сацыялістычнага грамадства.

За гэтыя высоты рэчаіснасці, якіх павінна дасягнуць наша літаратура, мы будзем змагацца і даб'емся гэтых высот, вядучы рашучую непрымірымую барацьбу з рэшткамі групаўшчыны, барацьбу з тымі, хто будзе перашкаджаць ідэйна-мастацкаму развіццю літаратуры.

Мы самым рашучым чынам будзем весці барацьбу з рэшткамі недабітага яшчэ ахвосця нацыянал-дэмакратызму, якое ў сваіх контррэвалюцыйных інтэрвенцыянцкіх мэтах, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам, дзейнічае ціхай сапай, каб сарваць наша сацыялістычнае будаўніцтва.

ДзВБ у барацьбе на ідэалагічным фронце мае надзвычай важнае значэнне.

Поспехі ў гэтай барацьбе будуць залежаць ад таго, наколькі мы класава будзем пільныя, наколькі мы па-баявому, па-бальшавіцкі будзем змагацца за ажыццяўленне задач, пастаўленых перад намі партыяй.

Бяручы на сябе велізарнейшы абавязак паказаць у сваіх творах увесь пафас сацыялістычнага будаўніцтва, паказаць працэс сацыялістычнай перапрацоўкі людзей, мы патрабуем ад Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі:

1. Разгарнуць канкрэтную барацьбу за высокую якасць прадукцыі, паставіўшы сабе задачай цвёрда праводзіць у рэдакцыйна-выдавецкай рабоце дырэктывы, дадзеныя тав. Сталіным у гістарычным лісце ў рэдакцыю часопіса «Пралетарская рэвалюцыя»,— павысіць класавую пільнасць, змагацца з усімі праявамі апартунізму, прымірэнцтвам, гнілым лібералізмам у адносінах да ідэалагічнага браку. Усямерна выяўляць малейшыя спробы працягвання нацыянал-дэмакратычных ідэй, кулацка-буржуазных нацыяналістычных тэндэнцый.

2. Да канца верасня м-ца г. г. перагледзець усе рукапісы, якія ёсць у выдавецтве (як арыгінальныя, так і перакладныя) з пункта гледжання іх ідэйнай і мастацкай якасці. Прыцягнуць да гэтай работы пісьменніцкія сілы.

3. Бяручы на сябе абавязак своечасовага прадстаўлення рукапісаў, вызначаных дагаварамі, і адказнасць за выкананне якасных і колькасных паказчыкаў выдавецкіх планаў, мы патрабуем ад ДзВБ ліквідаваць практыку маруднага прасоўвання рукапісаў ад рэдактара да друку і асобных фактаў замарожвання ідэйна-мастацкіх каштоўных твораў.

Устанавіць цвёрдыя тэрміны праходжання і афармлення рукапісаў.

4. Павысіць персанальную адказнасць рэдакцыйна-выдавецкіх працаўнікоў як за ідэалагічны брак, так і за брак якаснага афармлення прадукцыі.

Устанавіць якасныя паказчыкі для паліграфіі і для выдавецтва (дабраякасныя арыгіналы, малюнкі, афармленне, папера).

5. Улічваючы важнасць задачы зніжэння сабекошта мастацкай кнігі, ДзВБ перагледзець калькуліраванне кніжнай прадукцыі.

6. Увесці ў практыку работы ДзВБ сістэматычна склікаць разам з гаркомам пісьменнікаў вытворчыя нарады пісьменнікаў і рэдактараў па пытаннях, звязаных з выпускам мастацкай літаратуры.

7. Павесці масавую і творчую работу з пісьменнікамі шляхам пасылкі ў творчыя камандыроўкі, склікання нарад пісьменнікаў па асобных творчых пытаннях, арганізацыі творчых вечароў, сустрэч.

Арганізаваць сталую кансультацыю для маладых пачынаючых пісьменнікаў пры сектары ЛІМ.

8. Звярнуць увагу на драматургічную літаратуру, асабліва для вясковых і клубных тэатраў, стварыць спрыяючыя ўмовы для творчасці драматургаў, арганізаваць разам з Аргкамітэтам і Гаркомам пісьменнікаў абгаварэнне і крытыку драматургічных твораў.

9. Арганізаваць выпуск таннай кнігі тыражом у 25 тысяч экземпляраў лепшых па сваёй ідэйнай і мастацкай якасці твораў.

10. У мэтах хутчэйшага прасоўвання мастацкай літаратуры для працоўнага чытача мы патрабуем ад ДзВБ:

а) хутчэйшага выканання пастановы ЦК аб арганізацыі кіёскаў у палітаддзелах МТС і саўгасаў;

б) арганізацыі масавай работы сярод чытачоў;

в) укамплектаваць кнігагандлюючую сетку падрыхтаванымі кадрамі, якія ведаюць літаратуру і здольны яе прасоўваць да працоўнага чытача;

г) своечасова праз рэкламу, рэцэнзіі даводзіць да ведама працоўных мас аб выхадзе кнігі з друку.

11. Паставіўшы сабе задачу поўнага ахопу пісьменнікаў палітвучобай у марксісцка-ленінскіх гуртках, разгортвання літаратурна-масавай і культурна-палітычнай работы сярод пісьменнікаў, мы патрабуем ад ДзВБ асігнавання сродкаў на правядзенне ўсёй гэтай работы.

12. Упарадачыць пытанне выплаты ганарару.

По даручэнню агульнага сходу пісьменнікаў г. Менска: *Янка Купала, Кузьма Чорны, Крапіва, Кульбак, Аксельрод, Броўка, Харык.*

## ПАМЯЦІ ЭДУАРДА БАГРЫЦКАГА

Памёр Эдуард Багрыцкі — вялікі рэвалюцыйны паэт сучаснасці.

Творы Багрыцкага, пакінутыя ў спадчыну нашай эпосе, будуць заўсёды хваляваць чытача магутнай аптымістычнай сілай адчування прыроды, жыцця, радасці і нават смерці.

І як пакутна і кантрастна гучыць гэтая вестка, прынесеная тэлеграфам пра дачасную смерць паэта, з вялікай смагаю і радасцю жыцця выражанай у яго апошніх творах:

Нас водила молодость в сабельный поход,
Нас бросала молодость на кронштадский лёд.
Боевые лошади уносили нас,
На широкой площади убивали нас.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Чтоб земля суровая кровью истекла,
Чтобы юность новая из костей взошла.

Эдуард Багрыцкі належыў да ліку тае літаратурнае інтэлігенцыі, якая ад самага Кастрычніка пайшла шляхамі пралетарскай рэвалюцыі. Яна, гэтая інтэлігенцыя, бачыла ў рэвалюцыі сапраўды вялікае, магутнае, рамантычнае, якое ішло на змену старому свету рабства, эксплуатацыі і прыгнёту. Гэтае сапраўды рамантычнае і вялікае яе захапляла на франтах грамадзянскай вайны, у сацыялістычным будаўніцтве. Часамі сацыяльна вялікія падзеі тая частка літаратурнае інтэлігенцыі, да якое належыў Эдуард Багрыцкі, бачыла, як старыя рамантычныя, нават рыцарскія подзвігі і справы, але заўсёды яна шчыра верыла ў вялікія здольнасці рэвалюцыйнага пралетарыяту пабудаваць новы сацыялістычны лад.

Эдуард Багрыцкі выступіў у літаратуры як паэт глыбока арыгінальны, паэт вялікіх чалавечых пачуццяў і думак. Ад ранніх вершаў, у якіх Багрыцкі ўслаўляў голас прыроды, звера, птушкі — ён паступова ішоў да сацыяльнай лірыкі, да выражэння шматгранных пачуццяў чалавека-рэвалюцыянера, які аддае ўсё сваё жыццё, усю сваю кроў кропляй за кропляй пралетарскай рэвалюцыі. Іменна такія творы Э. Багрыцкага, як «ТБЦ», «Дума пра Апанаса», «Смерць піянеркі», дзе чалавек адчувае сваю бяссмертнасць у справах рэвалюцыі, паставілі Эдуарда Багрыцкага ў шэрагі найпрыгажэйшых і выдатнейшых імён паэзіі Савецкага Саюза.

Памёр вялікі рэвалюцыйны паэт.

*М. Клімковіч, А. Александровіч, Янка Купала, Якуб Колас, А. Куляшоў, К. Крапіва, А. Кучар, П. Броўка, Б. Мікуліч, Х. Дунец, І. Гурскі, П. Галавач, З. Аксельрод, П. Глебка, У. Хадыка, З. Бядуля.*

## ПРОТЕСТ БЕЛОРУССКИХ ОБЩЕСТВЕННЫХ ДЕЯТЕЛЕЙ ПРОТИВ ЗВЕРСТВ ГЕРМАНСКИХ ВЛАСТЕЙ, ЧИНИМЫХ НАД НАРОДОМ БЕЛОРУССИИ

Февраль 1942 года

### МЕЖДУНАРОДНОМУ КОМИТЕТУ КРАСНОГО КРЕСТА

Женева (Швейцария)

Временно оккупировав Белоруссию, немецко-фашистские захватчики творят невиданные в мире преступления против ни в чем невинного мирного населения белорусских земель. Поголовное истребление народа, чудовищные издевательства над женщинами, стариками и детьми, ужаснейшие пытки, насилия, убийства, циничные надругательства над человеческой честью, неизвестная даже в мрачную эпоху средневековья жестокость — все это стало повседневным явлением в жизни белорусского народа на белорусской земле, захваченной немецкими полчищами.

Немецкие оккупанты совершают над белорусским народом кровавую расправу. Фашистские людоеды уничтожают материальные и культурные ценности, созданные народом за века его истории, сжигают города и села, установили сверхкаторжный режим принудительного изнуряющего труда.

Немецкие захватчики полностью или частично сожгли древние белорусские города, которыми по праву гордился народ,— Минск, Гомель, Бобруйск, Витебск, Рогачев, Орша, Полоцк и другие. Немцы сожгли и уничтожили много сотен белорусских сел и деревень.

Уже с самого начала войны, с момента немецко-фашистского нападения на СССР стало очевидным, что гитлеровское правительство в Германии поставило перед собой, как одну из целей войны, задачу уничтожения народов, поголовное истребление мирного населения на захваченных территориях. Только этим можно объяснить бесконечные факты военных расстрелов немцами невоенного населения — женщин, детей и стариков, спасавшихся от огня фронта.

Приведем факты из одного только участка белорусской территории и только в самые первые дни войны.

25 июня 1941 г. на Минско-Могилевском шоссе, в четырех км от Минска пулеметным огнем из немецкого самолета была расстреляна толпа женщин и детей, покидавших подожженный немецкими бомбардировщиками Минск.

26 июня 1941 г. в пяти километрах от м. Острошицкий Городок, по дороге на Смолевичи, была расстреляна пулеметным огнем из немецкого самолета толпа женщин и детей,

спасавшихся от немецкой бомбардировки гор. Минска. Всего было убито свыше 40 женщин и детей. Того же числа через три километра дальше, по той же дороге, пулеметной очередью из немецкого самолета было убито 4 женщины и двое детей. Того же числа, на участке дороги между дер. Прудище и м. Острошицкий Городок немецкий самолет долго преследовал двух женщин, много раз стрелял по ним, пока они не упали, простреленные.

27 июня 1941 года на участке дороги между дер. Юрово и Антопольем немецкий самолет выпустил несколько пулеметных очередей в толпу минских беженцев — женщин и детей. Среди убитых была 4-хлетняя девочка из гор. Минска Нина САВИЧ.

28 июня 1941 г. по дороге между селами Сытоки и Антополье немецкий самолет открыл пулеметный огонь по толпе беженцев — женщин и детей. Толпа рассеялась по полю, и немецкий летчик долго обстреливал поле. Было убито свыше десяти женщин и детей.

Повторяем — это только несколько фактов, взятых из очень незначительного участка белорусской территории. Факты эти красноречиво говорят о системе действий немецко-фашистского зверья, об истинных намерениях преступного правительства гитлеровской Германии уничтожить белорусский народ.

Особенно ужасные и уже вполне систематические расправы с белорусским народом немцы начали с того момента, когда они заняли территорию Белоруссии и стали считать себя хозяевами белорусской земли.

Началось чудовищное истребление и ограбление белорусского народа.

У крестьян дер. Слободка Полесской области немцы отняли весь хлеб, картофель и другие продукты. В Петрикове немцы выгнали все население из рабочего поселка и до нитки ограбили их квартиры.

В дер. Роговский Прудок Пропойского района немцы открыли пулеметный огонь по населению. Стрельба началась беспричинно, затем фашисты полностью ограбили деревню и изнасиловали много девушек.

Факты массового грабежа и убийств имеются в каждом районе, в каждой деревне.

В дер. Костровка Кричевского района (Могилевская область) два немецких солдата и один офицер ворвались в дом гр-ки ДРИГУЛИНОЙ. Забрав все имущество на автомашины, солдаты увели и ее корову. ДРИГУЛИНА начала протес-

товать и просить, чтобы корову оставили, так как у нее имеется четверо детей. В ответ на это офицер застрелил ДРИГУЛИНУ, ее детей солдаты бросили в погреб и начали принуждать колхозника ЖМИРА, чтобы он засыпал их землей. Колхозник отказался, палачи расстреляли ЖМИРУ, а его труп привязали к забору.

В дер. Холмы Климовичского района (Могилевская область) немцы схватили шесть 15-тилетних девушек, изнасиловали, а затем отрезали груди, выкололи глаза и убили. Одну девушку разорвали на деревьях.

В дер. Городки Жлобинского района (Гомельская область) солдат застрелил 15-тилетнюю девушку за то, что она просила его не отнимать последнюю корову.

В дер. Полянка Житковичского района (Полесская область) были расстреляны 4 ученика ремесленной школы за то, что они хорошо отозвались о Красной Армии.

В дер. Исконь Кормянского района (Гомельская область) у колхозницы отобрали последнюю корову. Она запротестовала, и ее тут же расстреляли. К упавшей матери бросился ребенок. Бандиты не пощадили и ребенка. Его тотчас же расстреляли.

Расстрелы мирного населения Белоруссии, казни детей, женщин и стариков, надругательства над женской честью — это не одиночные случаи, это дело кровавых лап не отдельных недисциплинированных, особенно озверевших фашистских палачей. Нет, это выполнение чудовищных приказов гитлеровского командования.

Инструкции, приказы германского командования цинично требуют от немецких солдат и офицеров массового истребления мирного населения. В инструкции говорится: «Любое враждебное поведение населения по отношению к немецким вооруженным силам и их организациям наказывается смертью. Кто укрывает красноармейцев или партизан, кто поддерживает их, наказывается смертью. Если партизана не нашли, следует взять заложников из населения. Этих заложников следует повесить, если виновники или их помощники в течение 24-х часов не будут доставлены. В последующие сутки на этом же месте следует повесить удвоенное число заложников».

Полковник немецкой армии Зигерман в приказе по частям обращается к солдатам с требованием беспощадно истреблять мирное население Белоруссии. «Особенно безжалостно,— говорится в приказе,— следует уничтожать молодежь, так как она свирепа в своей ненависти к немцам».

Выполняя чудовищные приказы гитлеровского командования, немецкие оккупанты залили нашу родную белорусскую

землю кровью мирного населения — мужчин, женщин, не щадя грудных детей и седых стариков. По всей нашей земле, временно захваченной врагом, слышится стон истерзанных, хрип умирающих, ни в чем не повинных людей, душераздирающий плач сотен, тысяч несчастных, не успевших своевременно выбраться из фашистского пекла. Человеческому воображению трудно даже представить кошмарные зверства гитлеровских орд в Белоруссии. Кровь стынет в жилах каждого честного человека при мысли о фашистских кошмарах.

Вот только некоторые факты чудовищных злодеяний гитлеровских варваров.

В м-ке Корма Гомельской области всех мирных жителей немцы согнали на тяжелые работы, четыре 70-тилетних старика заявили, что они не могут пойти на работу. Тогда немецкий офицер спросил: «Кто еще не может идти на работу?» Отозвалось еще 64 человека. Все 68 человек немедленно были расстреляны.

Немецкие людоеды сожгли колхоз им. Белорусского Особого Военного Округа, а затем на глазах у родителей убивали маленьких детей, а некоторых бросали в костер. Десятки колхозников расстреляны.

В сентябре месяце прошлого года, ворвавшись в городской поселок Лельчицы (Полесская область), фашистские звери приступили к своему кровавому черному делу. Они согнали во двор дома Соц. Культуры 800 человек еврейского населения и учинили дикую расправу. Большими толпами они выводили людей за городской поселок и расстреливали, а 150 детей бросили и закопали живьем в яму. Озверелые бандиты не ограничились этим чудовищным преступлением. Из всей толпы они отобрали 80 молодых девушек, погнали их в лес, изнасиловали, а затем отрезали у них груди и выкололи им глаза.

В гор. Петрикове (Полесская область) немецкий офицер бросил в костер ребенка учительницы КУСТАНОВИЧ за то, что она не сказала, где находятся местные коммунисты. Ребенок на глазах у матери сгорел.

В гор. Мозыре стариков заставили носить из реки Припять воду на гору. Как только тот или другой старик выбивался из сил и падал, его тотчас же расстреливали.

После уничтожения немецкого парохода на реке Припять около города Петрикова (Полесская область) немецкое командование открыло артиллерийский огонь по городу и почти полностью уничтожило его. Затем немцы согнали к реке большинство населения города, взрослых расстреляли, а детей бросили в реку Припять.

В Гомеле немцы схватили 8 девушек, завели их в Ново-Белицкий лес, изнасиловали, а затем расстреляли.

В м. Шацк Минской области немецкие изверги согнали на площадь всех девушек и женщин, раздели их и заставили танцевать под звуки фанфар. После этого всех их изнасиловали.

В Ельске немцы посадили на барку 500 женщин и детей, шесть дней возили их по реке голодными, а затем их потопили. То же самое было в Мозыре и др. городах.

В Минске немецкие оккупанты учинили дикую резню и истребили больше 50-ти тысяч человек. В Могилеве расстреляли 4 тысячи человек. В Шклове расстреляно до 8 тысяч чел. В Крупках — 1080 чел., в м. Бобр Крупского района — 600 чел. В м-ке Круча Круглянского района замучено 169 человек.

Особенно беспощадно гитлеровские палачи расправляются с еврейским населением. На всей территории Белоруссии уничтожено почти все еврейское население.

В захваченном нашими частями донесении командира немецкого 2-го полка кавалерийской бригады «СС» — фон Магил сказано о «Припятьской операции» (На Полесьи): «Мы выгоняли женщин и детей в болото, но это не дало соответствующего эффекта, так как болото оказалось не настолько глубоким, чтобы можно было в нем утонуть. На глубине одного метра можно достигнуть твердого грунта».

Вот чем озабочено немецкое командование. Правители из Берлина требуют больше крови мирного белорусского населения. В официальной инструкции верховного немецкого командования говорится: «Полная решимость уничтожить партизан и заподозренных является часто непосильной даже для самого черствого солдата. Но это необходимо. Правильно поступает тот, кто полностью, пренебрегая личными чувствами, беспощадно и бессердечно действует в бою».

Эти и многие другие документы ясно свидетельствуют о том, что массовое истребление немецкими захватчиками белорусского народа, убийства, расстрелы, пытки, издевательства, ограбления — являются частью государственной системы гитлеровской Германии. Гитлеровское правительство для достижения своих преступных целей сознательно повело своих солдат и всю нацию немцев на озверение.

Немецкие звери обильно поливают белорусскую землю кровью белорусского народа. Сотни тысяч кровавых драм разыгрались и разыгрываются на белорусской земле. Целое поколение белорусских детей искалечено страданиями. Сотни тысяч осиротевших детей, видевших смерть своих отцов и матерей под пытками немецких палачей, сотни тысяч отцов и

матерей, видевших невыносимые страдания и смерть своих детей от рук гитлеровских бандитов, сотни тысяч невинных людей, выгнанных немцами из своего дома и начисто ограбленных, развалины и кучи пепла на месте цветущих городов и сел — вот за что мы взываем о мести.

Этот отчет мы предъявляем гитлеровской Германии по дню последней расплаты.

Центральный Комитет Коммунистической Партии (большевиков) Белоруссии: *П. Пономаренко, П. Калинин.*

Совет Народных Комиссаров Белорусской ССР: *И. Билинский, И. Крупеня.*

Президиум Верховного Совета Белорусской ССР: *Н. Наталевич, Л. Папков.*

Общественные деятели: Народный поэт БССР — академик *Янка Купала,* Народный поэт БССР — вице-президент Академии наук *Якуб Колас,* Президент Академии Наук БССР *К. Горев.*

Академики: *В. Леонов, С. Липатов, С. Мелких.*

Народная артистка БССР и СССР *Л. Александровская.*

Народные артисты БССР: *Григонис, Р. Млодэк, Владомирский, Глебов, Жданович, Ильинский, Засецкий, З. Васильева.*

Заслуженные деятели исскуств: скульпторы: *Александр Груббе, Бембель, З. Азгур, Глебов.* Композиторы: *Е. Тикоцкий, А. Богатырев.* Художники: *Зайцев, Кудревич, Красовский.*

Литераторы: *Михась Лыньков, Кондрат Крапива, Кузьма Черный, Максим Танк, Т. Горбунов, М. Астапенко, П. Бровка, П. Глебко, П. Панченко, И. Гурский.*

Деятели медицины: *Прокопчук, Голуб, Коваленок, Серкова.*

Экономисты и ученые: *Пернев, Годнев, Ильюшин, Вольфсон, Борисенко.*

Заслуженные артисты: *Молчанов, Сергейчик, Ржецкая, Рахленко, Миронова, Платонов, Болотин, Арсенко, Денисов, Муромцев, Малькова, Ничопаева.*

Знатные люди БССР: *Сергей Притыцкий, Баторкин, Кобыш, Баруйков.*

# СЛУЖБОВЫЯ ДАКУМЕНТЫ

## № 1. ПРЫБЛІЗНЫ МЕСЯЧНЫ КАШТАРЫС ПА РЭДАГАВАННЮ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЦЁ»

*Мінск. 19 красавіка 1920 г.*

Прыбліжоная месячная смета на расходы па рэдагаванню часопісі «Беларускае жыццё»
(чатыры нумары ў м[еся]ц па 8 страніц)

| | |
|---|---|
| 1) Рэдактар | 1500 мк. |
| 2) Сакратар рэдакцыі | 750 мк. |
| 3) Карэктар | 500 мк. |
| 4) Ганарар ад радка | 3200 мк. |
| 5) Клішэ | 1200 мк. |
| 6) Кватэра для рэдакцыі | 250 мк. |
| 7) Канцылярскія і інш. расходы | 150 мк. |
| Разам | 7550 мк. |

*Ів. Луцэвіч*

Менск 19/IV — 20 г.

## № 2. КАШТАРЫС ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЦЁ» З 15 КРАСАВІКА ДА 15 МАЯ 1920 г.

*Мінск. Не пазней 21 красавіка 1920 г.*

Расход — Прыход

Каштарыс
тыднёвіка «Беларускае жыццё»
з 15 красавіка да 15 траўня 1920 г. па 750 экз.

| № п/п | Названне расходу | На 4 нумары ў м-ц | На 2 нумары ў м-ц | Названне прыходу | За 4 нумары ў м-ц | За 2 нумары ў м-ц |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Маркі | Маркі | | | |
| 1. | Набор і друк | 3000 | 1500 | Прадажа 1200 экз. х 5 мк. | 6000 | |
| 2. | Клішэ (10 шт. х 100 мк.) | 1000 | 1000 | — ”— 600 экз. х 7 мк. | | 4200 |
| 3. | Папера (2 стапы ёсць) 1 ст. | 2000 | 2000 | Дэфіцыт | -7898 | 5475 |
| 4. | Кватэра | 250 | 250 | | | |
| 5. | Канцылярскія расходы | 150 | 150 | | | |
| 6. | Карэктар і сакратар | 1000 | 750 | | | |
| 7. | Рэдактар | 1500 | 1500 | | | |
| 8. | Ганарар:<br>1. Проза 6580 радк. х 60 фен.<br>2. Вершы 700 рад. х 1м.50 фен. | <br>3948<br>1050 | <br>2000<br>525 | | | |
| | Разам | 13898 | 9675 | | 13898 | 9675 |

## № 3. ВЕДАМАСЦЬ НА ВЫПЛАТУ ГАНАРАРУ АЎТАРАМ ЧАСОПІСА «ВОЛЬНЫ СЦЯГ» № 5 (7)

*Мінск. Не пазней 13 снежня 1921 г.*

Требовательная ведомость
на выплату авторского гонорара
сотрудникам белорусского журнала
«Вольны сцяг» № 5 (7)

Примечание к расценке: «Принимая во внимание постановление Совета Профессиональных Союзов об оплате газетных работников от 3 декабря 1921 года, оплата газетной строки специальных художественных — в стихах и прозе — и научных произведений берется из расчета до 1000 рублей за одну строку.

Журнальная же строка, по количеству печатных знаков в $1^1/_2$ раза превышающая газетную, расценивается в 1000 рублей за строку художественных произведений в стихах и 1500 рублей за строку специальной художественной прозы и научных произведений.

Требовательная ведомость
на выплату авторского гонорара сотрудникам белорусского журнала «Вольны Сцяг» № 5 (7)

| № п/п | Фамилии и имена авторов | Название произведений | Род произв. | Количество строк | | За одну строку | Сумма | Причитается к выдаче | Расписка в получении |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | стихи | проза | | | | |
| 1. | Луцевич Иван | «Песня аб паходзе Ігара» | стих. | 373 | — | 1000 р. | 373000 | 373000 | |
| 2. | Родзевич Л. | «Дробныя гамонкі» | спец. худ. пр. | — | 200 | 1500 р. | 300000 | 300000 | |
| 3. | Плавник Самуил | «А ў бары...» | стих. | 38 | — | 1000 р. | 38000 | 38000 | |
| 4. | Забелло Т. | «Аблава» | спец. худ. пр. | — | 318 | 1000 р. | 318000 | 318000 | |
| 5. | Луцевич Иван | «Эрос і Псіха» | стих. | 907 | — | 1000 р. | 907000 | 907000 | |
| 6. | Лесик Я. | «Беларуская Энеіда навыварат» | сп. научн. | 244 | — | 1000 р. | 244000 | 1441000 | |
| | — « — | — « — | — « — | — | 798 | 1500 р. | 1197000 | | |
| 7. | Дашкевич Л. | Заслаўе ў гістарычнай персп[ектыве] | сп. научн. | — | 334 | 1000 р. | 334000 | 334000 | |
| 8. | Игнатовский В. | «Сучасныя матывы белар[ускай] лірыкі» | сп. научн. | 80 | — | 1000 р. | 80000 | 242000 | |
| | — « — | — « — | — « — | — | 108 | 1500 р. | 162000 | | |
| 9. | Плавник Самуил | «Рукапіс чарнакніжніка XVIII веку» | сп. научн. | — | 296 | 1500 р. | 354000 | 354000 | |
| | | | | | | | **Итого** | **4307000 руб.** | |

Итого по сей требовательной ведомости выписано четыре миллиона триста семь тысяч руб. (4.307.000 рублей).

Председатель Литературной Комиссии Академического Центра *Ів. Луцэвіч*

Редактор журнала *А. Раманоўскі*

## № 4. ВЕДАМАСЦЬ НА ВЫПЛАТУ ГАНАРАРУ АЎТАРАМ ЧАСОПІСА «ЗОРКІ» № 4

*Мінск. Не пазней 17 снежня 1921 г.*

Требовательная ведомость
на выплату авторского гонорара
сотрудникам белорусского детского журнала
«Зоркі» № 4

Ввиду того, что строка прозы в журнале «Зоркі» вмещает двойную газетную строку, построчный гонорар за прозу в сей ведомости увеличен в два раза.

Требовательная ведомость
на выплату авторского гонорара сотрудникам белорусского детского журнала «Зоркі» № 4.

| № п/п | Фамилии и имена авторов | Название произведений | Род произв. | Количество строк | | За одну строку | Сумма | Причитается к выдаче | Расписка в получении |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | стихи | проза | | | | |
| 1. | Луцевич Ив. Дом. | «А зязюлька кукавала...» | стих. | 38 | — | 1000 | 38000 р. | 38000 р. | |
| 2. | Мицкевич К. | «Рыбакі» | худ. пр. | — | 106 | 2000 | 212000 р. | 266000 р. | |
| 3. | —«— | «Юрка і кот» | стих. | 54 | — | 1000 | 54000 р. | | |
| 4. | Плавник С. | «Возера» | худ. пр. | — | 203 | 2000 | 406000 р. | 980000 р. | |
| 5. | —«— | «Тысяча шэсцьдзесят чатыры і адна ноч» | худ. пр. перакл.<br>худ. пр. | — | 175 | 1200 | 210000 р. | | |
| 6. | —«— | «Жаўранаю» | стих. | — | 100 | 2000 | 200000 р. | | |
| 7. | —«— | «Для маленькіх дзетаю» | стих. | 141 | — | 1000 | 141000 р. | | |
| 8. | —«— | «Восень» | | 23 | — | 1000 | 23000 р. | | |
| 9. | Рейзин С. | «Восень» | стихи пер. | 23 | — | 1000 | 23000 р. | 23000 р. | |
| 10. | Ракуцька Я. | «Маленькі герой лесу» | худ. пр. | — | 82 | 1500 | 123000 р. | 123000 р. | |
| 11. | Романовский А. | «Мяцеліца» | худ. пр. перакл. | — | 118 | 1200 | 141600 р. | 141600 р. | |
| 12. | Громыко М. | «У купальскую ноч» | стих. | 154 | — | 1000 | 154000 р. | 154000 р. | |
| 13. | Александрович Л. | «Гульня ў ваўкі» | стих. | 25 | — | 800 | 20000 р. | 20000 р. | |
| 14. | Пуровский[К.] | Ноты к «Дзіцячым гульням» | | | | | 20000 р. | 20000 р. | |

Итого по сей треб[овательной] ведом[ости] выписано один миллион семьсот шестьдесят пять тыс. шестьсот руб. 1765600 р.
Председатель Литературной Комиссии Академического Центра *Ів. Луцэвіч*
Редактор журнала *С. Плавник*

## № 5. ВЕДАМАСЦЬ НА ВЫПЛАТУ ГАНАРАРУ АЎТАРАМ ЧАСОПІСА «ЗОРКІ» № 5

*Мінск. Не пазней 17 снежня 1921 г.*

Требовательная ведомость
на выплату авторского гонорара
сотрудникам белорусского детского журнала
«Зоркі» № 5

Ввиду того, что строка прозы в журнале «Зоркі» вмещает двойную газетную строку, построчный гонорар за прозу в этой ведомости увеличен в два раза.

## Требовательная ведомость
## на выплату авторского гонорара сотрудникам белорусского журнала «Зоркі» № 5.

| № п/п | Фамилии и имена авторов | Название произведений | Род произв. | Количество строк: стихи | Количество строк: проза | За одну строку | Сумма | Причитается к выдаче | Расписка в получении |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Пономарева Н. | «Восень» | стих. | 32 | — | 1000 р. | 39000 р. | 70000 р. | |
| 2. | — « — | «Старая хатка» | стих. | 38 | — | 1000 р. | 38000 р. | | |
| 3. | Мицкевич К. | «Страшнае спатканне» | худ. пр. | — | 267 | 2000 р. | 534000 р. | 713600 р. | |
| 4. | — « — | «На адзіноце» | стих. | 102 | — | 1000 р. | 102000 р. | | |
| 5. | — « — | «Пастушка» | стих. | 38 | — | 1000 р. | 38000 р. | | |
| 6. | — « — | «Задачкі» | проза | — | 33 | 1200 р. | 39600 р. | | |
| 7. | Плавник С. | «Музыка» | худ. пр. | — | 109 | 2000 р. | 218000 р. | 740000 р. | |
| 8. | — « — | «Як божыя кароўкі хатку будавалі» | худ. пр. | — | 76 | 2000 р. | 152000 р. | | |
| 9. | — « — | «Як забаўляюцца дзеці ў белар[ускіх] вёсках» | проза | — | 93 | 1500 р. | 149500 р. | | |
| 10. | — « — | «Што гэта?» | стих. | 28 | — | 750 р. | 21000 р. | | |
| 11. | — « — | «Для маленькіх дзетаю» | стих. | 177 | — | 1000 р. | 177000 р. | | |
| 12. | — « — | «Млын» | стих. | 23 | — | 1000 р. | 23000 р. | | |
| 13. | Луцевич И. | «Дзед и баба» | стих. | 64 | — | 1000 р. | 64000 р. | 85000 р. | |
| 14. | — « — | «Зімка» | стих. | 21 | — | 1000 р. | 21000 р. | | |

*Продолжение*

| № п/п | Фамилии и имена авторов | Название произведений | Род произв. | Количество строк | | За одну строку | Сумма | Причитается к выдаче | Расписка в получении |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | стихи | проза | | | | |
| 15. | Романовский А. | «Шэсць лебедзяў» | худ. проза перакл. | — | 143 | 1200 р. | 171600 р. | 171600 р. | |
| 16. | Громыко М. | «Сынок Ляпуною» | худ. проза перакл. | — | 69 | 1200 р. | 82800 р. | 82800 р. | |
| 17. | Пуровский [К.] | Ноты к «Дзіцячым гульням» | — | — | — | — | 20000 р. | 20000 р. | |
| | | | | | | | | 1883500 р. | |

Итого по сей требовательной ведомости выписано один миллион восемьсот восемьдесят три тыс. пятьсот руб. (1883500 р.)

Председатель Литературной Комиссии Академического Центра *Ів. Луцэвіч*

Редактор журнала *С. Плавнік*



## 1879

У 2-й палове 19 ст. сям'я Ануфрыя Луцэвіча, дзеда Яся Луцэвіча, перабралася ў фальварак Раговічы Старасельскай вол. Мінскай губ. (цяпер у Мінскім р-не) на арэнду да памешчыка Набароўскага. Тут у 1879 г. яго сын Дамінік, будучы бацька Янкі Купалы, ажаніўся з Бянігнай Іванаўнай Валасевіч. Ён аддзяліўся ад сям'і і пайшоў служыць у фальварак Паморшчына (зараз зліўся з в. Ракаў Валожынскага р-на Мінскай вобл.) да памешчыка Здзяхоўскага, дзе ўзяў у арэнду кавалак зямлі.

Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч (4.5.1846—14.5.1902) нарадзіўся ў засценку Лазараўшчына (Пяскі, Луцэвічы) Магільнянскай вол. Ігуменскага пав. Мінскай губ. (цяпер Уздзенскі р-н).

Бянігна Іванаўна Луцэвіч (1857—30.6.1942) нарадзілася ў фальварку Няшота Стаўбцоўскай вол. Мінскага пав. і губ. (цяпер в. Ручын Стаўбцоўскага р-на). У 1879 г. супраць волі бацькоў, парваўшы з сям'ёй, выйшла замуж за Д. А. Луцэвіча.

Сястра Я. Купалы Ганна расказвала: «Па знешняму выгляду і па натуры Купала быў падобны да маці, але хадзіў гэтак жа шпарка, як бацька. Наша маці была поўная, прыгожая жанчына, шатэнка, па натуры спакойная, ураўнаважаная, маўклівая. З дзяцей яна больш за ўсіх любіла Яся... Нарадзілася маці каля Рубяжэвічаў. Бацьку маці я не помню, а бабуня Катажына, маці маёй маці, прыязджала да нас. Яна жыла каля Рубяжэвічаў і калі прыязджала, то прывозіла арэхі і розныя ласункі для дзяцей. Маці з выгляду была падобна на бабуню Катажыну. Памёрла бабуня Катажына 85 год». *Любі-*

*мы паэт беларускага народа: Зборнік успамінаў. Мн., 1960. С. 45 (далей будзе: Любімы паэт.— Я. С.).*

Ганна Дамінікаўна ўспамінала: «Бацька мой, Дамінік Луцэвіч, быў высокага росту, бландзін, з рыжаватай барадкай. Быў ён чалавек нервовы, але добры і вясёлы, зычлівы. Хварэў 35 год катарам страўніка, ад чаго прымаў піццявую соду... Бацька быў гаваркі, вясёлы, любіў шпарка хадзіць. Апранаўся ён чыста і акуратна, увосень і ўзімку насіў высокія боты, а летам бацінкі». *Любімы паэт, с. 45.*

Былы парабак фальварка Селішча А. С. Бялькевіч сведчыў: «Бацька Янкі Купалы, Д. А. Луцэвіч, быў хударлявы, нос гарбаваты, валасы светла-русыя з дамешкай сівізны. Вусы падстрыгаў, бараду насіў невялікую (клінам), падстрыжаную». *Любімы паэт, с. 45.*

Ганна Луцэвіч прыгадвала: «Быў ён жывы чалавек, любіў парадаваць дзяцей, даставіць ім асалоду. Часта запрашаў ён да нас у дом гарманіста..., каб ён пайграў для дзяцей і пазабавіў іх. Калі прыязджалі да нас «крамнікі», дробныя гандляры, якія ездзілі па вёсках і фальварках і прадавалі розныя рэчы — хусткі, грабеньчыкі, люстэркі, цацкі і інш., бацька заўсёды купляў што-небудзь для дзяцей. Дзеля гэтага яму часта прыходзілася пазычаць грошы. Бацька быў вельмі шчодры, таму і грошай у яго звычайна не было. Грошы ў яго не трымаліся, і ён часта мусіў пазычаць у суседзяў». *Любімы паэт, с. 45.*

Сучаснікі бацькі паэта ўспаміналі: «Адносіны Д. А. Луцэвіча да сялян былі ветлівыя і ласкавыя. І сяляне адносіліся да яго таксама добра. Калі пачынаўся ўборачны час, то да Луцэвіча сезонныя рабочыя лепей ішлі на работу, як да навакольных наймальнікаў, бо Д. А. Луцэвіч плаціў заўсёды на некалькі капеек даражэй, даваў адзін раз на дзень есці, таму заўсёды Д. А. Луцэвіч раней убіраў усё з поля, хаця ўборка праводзілася ўручную. У той час машын ніякіх уборачных не было, нават плугоў жалезных не было, а былі драўляныя сохі. Гаспадарку Луцэвіч Д. А. вёў добра і разумеў па гаспадарцы». *Любімы паэт, с. 46.*

Леакадзія Дамінікаўна расказвала: «Пасля смерці бацькі Ясь застаўся за гаспадара. Вельмі многа яму даводзілася працаваць. Ён стаў панурым, маўклівым...

...Да маці даходзілі чуткі пра тое, што Ясь піша вершы... Яна часам пачынала з Ясем гутарку:

— Ясю, як жыць будзем? Бацькі няма, ты ўсё кніжкі чытаеш, вершы складаеш. Дабром усё гэта не скончыцца. Што ты сабе думаеш? Ці ты хлеб з гэтага будзеш есці?

— Мама, ці хацела б ты, каб бацька вярнуўся з таго свету і зноў пачаў жыць з намі?!

— Чаму ж, дзеткі, не хацела б! Ой, як бы яшчэ хацела.

— Як табе хочацца, каб бацька вярнуўся да цябе, так мне хочацца пісаць. Нельга вярнуць бацьку да нас, нельга забараніць мне вершы складаць». *Такі ён быў: Зборнік успамінаў. Мн., 1975. С. 32 (далей будзе: Такі ён быў.— Я. С.).*

## 1881

Дамінік Луцэвіч з Бянігнаю пераехалі ў фальварак Вязынка Мінскага пав. (цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) за 35 км ад Мінска, 40 км ад Маладзечна. Тут жылі браты Дамініка Антон, Юльян, Міхал, Адам, сёстры Марыя, Эмілія, Садалія. Арандавалі зямлю «на запашкі» ў пана С. Замбржыцкага. Жылі ў адной хаце з бацькамі.

*Май, 4.* У Дамініка і Бянігны нарадзіўся сын Мікалай. Хрышчаны ў Радашковіцкім касцёле. Хроснымі бацькамі былі жонка ўладальніка Вязынкі Алімпія Замбржыцкая і Язэп Банцарэвіч. Хутка, відаць, хлопчык памёр. Янка Купала нідзе пра яго не ўспамінае. *«Свабода», 1996, № 49, 5 ліп. (публікацыя Я. Янушкевіча).*

## 1882

*Чэрвень, 25 (ліпень, 7).* У сям'і Дамініка і Бянігны Луцэвічаў нарадзіўся сын Ясь (Ян, Іван), будучы Янка Купала. Хрышчаны 12 ліпеня ў Радашковіцкім касцёле ксяндзом Станіславам Сульжынскім. Хросныя бацькі — Алімпія Замбржыцкая і Язэп Банцарэвіч. *Пуцявінамі Янкі Купалы. Дакументы і матэрыялы. Укладальнік Г. В. Кісялёў. Мн., 1981. С. 45 (далей будзе: Пуцявінамі Янкі Купалы.— Я. С.).*

## 1883—1886

Сям'я Луцэвічаў жыла ў в. Юзафове (Барысаўскі р-н Мінскай вобл.). Бацька служыў у маёнтку памешчыка Багдановіча.

## 1886

У Юзафове нарадзілася сястра Ганна (1886—29.12.1962). Жылі разам у Косіне, Сенніцы, Мінску, Прудзішчы, Селішчы, Бараўцах, Акопах. Я. Купала вучыў яе грамаце. З канца 1920-х гг. жыла ў доме Я. Купалы ў Мінску (Кастрычніцкая, 40). У гады Вялікай Айчыннай вайны жыла ў Мінску з маці. Пахавана на Усходніх могілках у Мінску.

## 1887

*Верасень, 8.* Нарадзілася сястра Марыя (8.9.1887—19.9.1966). Жылі разам у Косіне, Сенніцы, Прудзішчы, Селішчы, Бараўцах. Дома вучылася ў Яся. У 1906 г. выйшла замуж за І. К. Аўлачынскага. Да 1914 г. жыла з сям'ёй маці. Пасля ў засценку Ляўшова Слабадской вол. Барысаўскага пав. Мінскай губ., за 1,5 км ад хутара Акопы (у 1930-я гг. увайшоў у в. Харужанцы Лагойскага р-на). З 1935 г. да 1941 г. жыла ў в. Пчэльнік Барысаўскага р-на, працавала ў саўгасе. З 1953 г. у Мінску з У. Ф. Луцэвіч. Пахавана на Усходніх могілках у Мінску.

## 1887—1889

Сям'я Луцэвічаў жыла ў в. Косіна (цяпер Лагойскі р-н). Бацька працаваў у маёнтку памешчыка Багдановіча. Ясь вучыўся ў вандроўнага настаўніка («дарэктара»).

## 1888

У Косіне вучыцца пачатковай грамаце ў сына служачага маёнтка, вучня гімназіі Патаповіча. *Янка Купала: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986. С. 303 (далей будзе: ЭД. — Я. С.).*

## 1889—1890

У в. Сенніца (Мінскі р-н) бацька Яся працаваў аканомам у маёнтку памешчыка Турчынскага. Зімой 1889 г.— вясной 1890 г. Ясь вучыўся ў Сенніцкай школе. Настаўніцай была А. В. Сонцава, якая мела добрую адукацыю, валодала фран-

цузскай і нямецкай мовамі, іграла на фартэпіяна. Перадавала дзецям любоў да прыроды. У 1982 г. у Сенніцкай школе адкрыты Купалаўскі музей, адзін са стэндаў якога прысвечаны А. В. Сонцавай.

С. Х. Александровіч пісаў: «У вялікім цемнаватым пакоі на сцяне вісела аблезлая дошка, у два рады стаялі парты, а збоку нязграбная печ. Тут змяшчалася каля васьмідзесяці вучняў, наперадзе сядзелі першакі, а на апошніх партах дзябёлыя дзецюкі. Навічка Івана Луцэвіча, які тыдні два таму назад прыйшоў у школу, настаўніца пасадзіла на першай парце, каля свайго стала. Няхай будзе навідавоку. Можна хутчэй даведацца, якая патрэбна яму дапамога. Алімпіядзе Васільеўне падабаўся гэты жвавы хлопчык, які разумнымі вачанятамі пазіраў на дошку, лавіў кожнае слова тлумачэння». *Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. Мн., 1959. С. 91.*

## 1890

*Люты, 15.* Нарадзілася сястра Яся Леакадзія (15.2.1890—18.12.1970). У 1915 г. выйшла замуж за Ю. Ф. Раманоўскага. З 1918 г. яе сям'я жыла ў Калісбергу (Калізберг, Карлсберг; фальварак у Мінскім пав., за 1,5—2 км ад Радашковіч), дзе арандавала зямлю А. К. Сніткі, цесця Б. А. Тарашкевіча. Сюды ў жніўні 1919 г. прыязджаў Я. Купала. З 1927 г. сям'я Л. Д. Раманоўскай жыла ў Мінску ў доме Я. Купалы (вул. Кастрычніцкая, 40). З 1936 г. кожнае лета жыла з сям'ёй на дачы Я. Купалы ў Ляўках. Пахавана на Усходніх могілках у Мінску.

Сям'я Луцэвічаў пераехала ў Мінск. Купіўшы каня, бацька працаваў рамізнікам. Ясь вучыўся ў прыватнай падрыхтоўчай школе.

Віталь Вольскі пісаў: «Жылі Луцэвічы ў Мінску на Аляксандраўскай вуліцы (цяпер вуліца Максіма Горкага), каля Траецкай гары. У нашыя дні на былой Траецкай гары высіцца пасярод маладога прыгожага парку будынак Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета. У той час усю гэту плошчу займаў рынак. На адным баку Аляксандраўскай вуліцы былі невялікія двухпавярховыя мураваныя дамы, а на другім — вялізны незабрукаваны пустыр, дзе стаялі скрозь сялянскія фурманкі... У дамах жылі дробныя чыноўнікі, гандляры, рамеснікі, перакупшчыкі. Тут было некалькі заездаў, шмат чайных, піўных і закусачных. У дварах адбываліся гандлёвыя здзелкі.

Дом на рагу Аляксандраўскай і Набярэжнай вуліц, насупраць моста цераз Свіслач, належаў аднаму мешчаніну з Радашковічаў. У гэтым доме таксама быў заезд. Сюды заязджалі звычайна людзі з Радашковіцкай воласці. Спыняліся тут і ракаўскія ганчары, якія прывозілі на базар свае гліняныя вырабы — гаршкі, міскі, збаны, конаўкі, дзіцячыя цацкі. У гэтым доме, двор якога выходзіў на Стара-Віленскую вуліцу, недалёка ад лазні, і пасяліўся з сям'ёй Дамінік Луцэвіч. Месца было яму знаёмае. Ён неаднойчы тут начаваў, калі прыязджаў у Мінск з-пад Радашковіч.

Адразу за мостам пачынаўся Ніжні рынак і вуліца Няміга, гандлёвая частка горада.

Тут было заўсёды поўна народу. Сяляне з суседніх валасцей прывозілі на Траецкую гару мяса, муку, сала, масла, дровы, сена. Уся плошча была застаўлена вазамі. На рынку стаялі цэбры, кадкі, бочкі. Ад воза да воза хадзілі пакупнікі, хатнія гаспадыні, гандляры і гандляркі. Спявалі жабракі. Каля сялян круціліся ў пошуках лёгкай нажывы вёрткія прайдзісветы. Рохкалі свінні, іржалі коні.

На адным з дамоў вісела зялёная шыльда з надпісам: «Казённая винная лавка». Гэта была манаполька, тут куплялі гарэлку. Каля гэтай «установы» заўсёды бадзяліся п'яныя басякі, а каменныя прыступкі ля ўваходу былі запэцканы чырвонымі плямамі сургучу ад раскаркаваных на месцы бутэлек.

У 1890 годзе ў Мінску была пракладзена першая лінія гарадскога транспарту ад Брэсцкага вакзала (цяпер Таварная станцыя) да Старажоўкі, і вагоны конкі залязгалі на пад'ёме Аляксандраўскай вуліцы паўз дом, дзе жыў з бацькамі васьмігадовы Ясь. У тым жа годзе пачаў дзейнічаць у горадзе новы водаправод, але электрычнага асвятлення яшчэ не было, і па вечарах на вуліцах запальваліся ўручную бляшаныя ліхтары на невысокіх тоўстых слупах.

Месца, дзе жыла сям'я Луцэвічаў, было шумнае і люднае, асабліва ў параўнанні з ціхім, спакойным жыццём у Косіне ці Сенніцы, сярод маляўнічай, паэтычнай прыроды, сярод маўклівага спакою палёў і лясоў.

Хлапчук апынуўся ў самым віры тагачаснага гарадскога жыцця. Усё тут было нязвыкла, поўна новых уражанняў. Пастаяльцы ў заездзе кожны дзень мяняліся. Хлапчуку даводзілася сустракацца з людзьмі рознага стану, розных прафесій. Жыццё ў шумным, дагэтуль яму незнаёмым горадзе пашырала кругагляд малога Яся, узбагачала яго новымі ўражаннямі. [...]

Неўзабаве бацька аддаў Яся ў прыватную падрыхтоўчую школу. Аб тым, што гэта была за школа, мы можам даведацца з уласных успамінаў паэта: «Нейкі стары настаўнік трымаў групу вучняў, якіх падрыхтоўваў у розныя навучальныя ўстановы горада Мінска. Настаўнік любіў піць запоем, так што часта вучні заставаліся без настаўніка».

Дамінік Луцэвіч хацеў у той час, каб сын падрыхтаваўся да паступлення ў рэальнае вучылішча. Але планы бацькі хутка змяніліся, і гарадское жыццё скончылася». *Любімы паэт, с. 35—36.*

## 1891—1895

Бацька з сям'ёй арандаваў Прудзішча, фальварак памешчыка Жаброўскага ў Бяларуцкай вол. Мінскай губ. (зараз Лагойскі р-н). Ясь пачаў многа чытаць.

З ліста да Л. М. Клейнбарта 21.9.1928 г.: «Они, книги, разбудили во мне фантазию, создав постоянную коллизию между этой фантазией и действительностью. Но больше всего, я думаю, оказали влияние на меня — это белор. народные сказки, слышанные мною в детстве. Когда мы жили в Прудище (тогда еще я был малышом), у нас служил рабочий (парабак) некто Песляк (даже фамилию помню!). И вот он был, как мне тогда казалось, необыкновенный мастер рассказывать сказки, да оно так и было. Помню, что я ему не давал прохода. Пойдет ли он в поле пахать, или едет на ночное, я всегда с ним и всегда вымаливаю у него сказки. Рассказывал он удивительно. Чтобы его подбодрить, не раз крал я у матери сало или сыр и нес ему в награду за сказки. Можете себе представить: человек ходит за сохой, а следом за ним, как ворона, хожу я и слушаю». *Поўны збор твораў у дзевяці тамах. Мн., 1995—2003. Т. 9. Кн. 1. С. 270—271 (далей будзе: ПЗТ.— Я. С.).*

Віталь Вольскі пісаў: «З Прудзішча Дамінік Луцэвіч паслаў сына да сваіх знаёмых Стацкевіча і Мяскоўскага ў Аўгустова і Слабодку, маёнткі графа Тышкевіча, каля мястэчка Лагойск Барысаўскага павета. Там хлапчук вучыўся па чарзе на працягу адной зімы ў вандроўнага настаўніка, так званага «дарэктара».

На другі год бацька паслаў яго ў маёнтак Гаяны да арандаткі Шкоды, у доме якой таксама жыў «дарэктар». Ён вучыў дзяцей арандатаркі, а заадно і Яся Луцэвіча.

Што такое «дарэктар»? Гэта — тып, характэрны для старой, дарэвалюцыйнай Беларусі. Сам Янка Купала ў сваёй

біяграфіі піша: «Тып гэтых перасоўнікаў-настаўнікаў быў у той час даволі распаўсюджаны на Беларусі... Адкуль яны набраліся, якога роду-племені, цяжка сказаць. Але выклікалі іх да жыцця, відавочна, тыя абставіны, што: 1) было вельмі мала афіцыйных школ, 2) яны навучалі першым чынам ці па крайняй меры ў большасці па-польску, г. зн. на той мове, якая была афіцыйна забаронена».

У фальварках і маёнтках вандроўнымі настаўнікамі былі звычайна вучні сярэдніх навучальных устаноў. У вёсцы ў ролі «дарэктара» выступаў часцей за ўсё падлетак, які скончыў пачатковую школу і на глебе набытых ведаў вучыў грамаце сялянскіх дзяцей». *Любімы паэт, с. 37.*

З ліста да Л. М. Клейнбарта: «Читать книги я начал рано. Помню, еще в Прудище, когда отец отправлял меня с сестрой на ночное (ночлег) пасти лошадей, я брал с собою книги и при свете костра или луны читал. Конечно, не обходилось без того, чтобы я не засыпал, а лошади не попадали в шкоду. Разумеется, отец за это меня не миловал и зачастую не давал мне брать с собою книг. Конечно, читал я без разбору, все, что могло попасться под руку в глухой провинции, — от «Северо-Зап. календаря» до «Философии польской истории» («Filozofia Historji polskiej»).

Какой автор тогда произвел на меня большее впечатление — трудно сказать. Но в общем помню хорошо, что книга, где говорилось о тяжелой доле бедного люда, всегда меня захватывала. Из этого, конечно, следует, что такие авторы, как Кондратович, Конопницкая, Ожешко (польские) и Некрасов, Кольцов (русские), меня больше всего интересовали. Впоследствии я увлекался Лермонтовым, Надсоном, Пушкиным (не особенно). То место, где он где-то вспоминает о «черни», мне очень не нравилось, оскорбляло. Разумеется, это выражение я поверхностно тогда понимал. Из польских авторов на меня большое впечатление производили Выспянский, Словацкий, Мицкевич, отчасти Крашевский своими историческими романами». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 267.*

Сястра Леакадзія ўспамінала: «Добра памятаю жыццё сям'і ў Прудзішчах. Нам жылося там вельмі цяжка. Пераехалі мы з Мінска, дзе бацька паўтара года працаваў возчыкам. Усю гаспадарку прыходзілася будаваць нанава. Зямля была вельмі кепская, камяністая. Працавалі ўсе — малыя і дарослыя — ад цёмнага і да цёмнага. Мы, дзеці, цэлымі днямі зносілі каменне з поля. Хадзілі з пазбіванымі да крыві нагамі. Ледзь выраблялі на арэнду. Да таго ж пані Шаброўская была вельмі капрызная і злосная.

У маёнтку жыў парабак, які склаў верш пра жыццё ў Прудзішчах:

Хто хоча гора нажыць,
Няхай ідзе ў Прудзішчы
Да Шаброўскіх служыць.
У іх надта добра:
Вадой — хоць заліся,
А камення — хоць забіся.
Дадуць есці голую косць,
Сядзеш за стол — проста злосць.

Гэты верш нам усім падабаўся, бо ён праўдзіва перадаваў, як цяжка было жыць і працаваць у памешчыцы.

Мы жылі вельмі бедна. Бацька прасіў пані зменшыць арэнду, пані не згадзілася, і мы пераехалі на хутар Селішчы». *«Бярозка», 1982, № 7, с. 4.*

### 1891

У фальварку Прудзішча нарадзіўся брат Казімір (1891—1902).

### 1893

У Прудзішчы нарадзілася сястра Сабіна (1893—1902).

### 1895—1904

У Селішчы (засценак Гайна-Слабадской вол. Барысаўскага пав. Мінскай губ., (цяпер Лагойскі р-н) бацькі арандавалі зямлю ў памешчыцы Манюшка. Знаходзіўся непадалёку ад в. Бяларучы.

З ліста Л. М. Клейнбарту 21.9.1928 г.: «Когда мы жили в Селище, я познакомился с одним польским помещиком Сигизмундом Чеховичем в им. Бесядка Вилейск. у. Помещик этот был в свое время сослан Муравьевым в Сибирь, но впоследствии вернулся и жил безвыездно в своем имении Бесядах. У него была громадная библиотека, в большинстве из польских книг. Вот тут-то мне и открылся, что называется, клад. Помещик был идеалист, мечтатель. Этому способствовала, во-первых, ссылка, во-вторых, жил он как будто полулегально, притом жена у него была настоящая ведьма. Она его держала впроголодь и не давала ему вмешиваться абсолютно ни в какие дела. Так что он даже с женой не встречался. Жил

отдельно, куда ему посылалась какая-то пища, ни с кем не встречался, всегда поглощенный книгами. И вот его библиотека открыла мне глаза на многое, что доселе было неизвестно. Бывал у него я часто, принося ему в благодарность за книги то масла, то сыру, т. к. того, что доставалось ему от жены, на пропитание не хватало. Беседовали с ним много, о чем — трудно вспомнить, но больше всего, кажется, о польском восстании (18)63 года. Часто он мне выбирал книги для чтения, а иногда я сам просил его таких или других авторов. Кроме всякого рода поэзии, которой я больше всего увлекался, беллетристики, истории и т. п., у него первого я познакомился с нелегальной литературой, больше всего относящейся к польскому восстанию. Были это издания краковские, лондонские, парижские и т. д.

Встречалась ли мне тогда у него социалистическая литература — не помню. Но помню хорошо, что читаемая тогда мною нелегальная литература была проникнута вся ненавистью к царизму и любовью к свободе и независимости». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 268.*

Сястра Леакадзія прыгадвала: «Яшчэ ў Прудзішчах Ясь вельмі любіў чытаць. Кніжак сваіх у нас не было. І Ясь пазычаў іх у суседзяў.

Калі Ясю было гадоў трынаццаць, ён пачаў сам выпісваць газеты і часопісы. Якія газеты ён выпісваў, я не памятаю; з часопісаў ён выпісваў «Родину». Колькі яму, беднаму, прыйшлося пахадзіць за бацькам, пакуль той даў яму грошы на газеты. Ясь старанна выконваў усё, што загадваў бацька па гаспадарцы, каб «выслужыць» грошы.

Удзень чытаць ён не меў часу, бо трэба было працаваць на гаспадарцы. Ясь чытаў увечары і ўночы. Чытаў пры лямпе, пры лучыне, на начлезе пры вогнішчы. Сядзе, бывала, вечарам за кнігу, а яго пачынаюць гнаць спаць.

— Кідай сваё чытанне. Няма чаго вачэй сляпіць і дарэмна газу паліць.

Патушаць лямпу, а ён запаліць лучыну, прыладзіцца і чытае. У святочныя дні, улетку, ён зранку браў кнігу і на цэлы дзень сыходзіў у лес. Кніжцы ён аддаваў кожную вольную хвіліну. Што б ні рабіў, заўсёды пры сабе меў кніжку». *«Бярозка», 1982, № 7, с. 5.*

З яе ўспамінаў: «Апрача кніжак, Ясь захапляўся музыкай.

Памятаю, як ён прасіў бацьку купіць яму скрыпку. Скора бацька купіў яму ў пастуха скрыпку за 50 капеек. Колькі радасці было, і не толькі яму аднаму, але і нам. Скончыць Ясь

увечары работу і — за скрыпку. Іграе цэлы вечар. Нарэшце мама пачынае прасіць:

— Пакінь ужо, галава развальваецца ад тваёй музыкі.

А ён усё іграе.

Вучыў яго іграць на скрыпцы парабак Мартын. Мартын быў вельмі цікавы чалавек, майстар на ўсе рукі: і на скрыпцы іграў, і добра расказваў казкі, і да работы быў ахвочы. З Ясем яны сябравалі. Сядуць разам і стануць на скрыпках іграць або Мартын казкі пачне расказваць, а Ясь слухае. Ну і мы Мартына акружым. Бацька паглядзіць і, усміхаючыся, скажа:

— Ну, ужо абляпілі.

Памятаю такі выпадак. Было гэта ўвосень. Звезлі з поля збожжа. Бацька паслаў Яся начаваць у гумно — пільнаваць. З ім разам пайшоў і Мартын. Ну, вядома, узялі з сабой і свае скрыпкі. Ігралі яны там да рання.

Назаўтра суседзі, жартуючы, пыталіся ў бацькі:

— Што гэта ў гумне ўчора апоўначы рабілася? Ці не завёўся там нячысцік?

Неяк у часопісе «Родина» Ясь вычытаў, што за два рублі можна выпісаць музычны інструмент. Яму вельмі захацелася мець гэты інструмент. Пачаў прасіць грошы ў бацькоў.

— Што ты сабе думаеш? Ці гэта ў нас рублі валяюцца? Выкінуць два рублі на нейкую дудачку!

Праз некалькі дзён мама ўсё ж дала Ясю два рублі.

— На, купі сабе дудачку...

Аднойчы ў святочны дзень, бачу, ідзе Ясь дадому і нясе нейкі скрутак. Пакуль ён распакоўваў яго, мы ўсе стаялі як зачараваныя. Не памятаю, як гэты інструмент называўся, але падобны ён быў на флейту.

Ясь цэлы дзень іграў. Настаў вечар, а ён усё іграе. Патушылі лямпу, усе ляглі спаць, а ён хоць ціхенька, а ўсё ж іграе. Бацька прагнаў яго ў сенцы, а ён і там усё наігрывае на сваёй дудачцы. Праз пару дзён расклеілася Ясева дудачка. Як ён яе ні ладзіў, нічога не выходзіла. Насіў ён яе «на лекі» да паважанага музыканта Павелыка на суседні хутар. Але і той не даў ніякай рады дудачцы.

— Ну, наладзіў дудачку? — спытала я.

— Адчапіся... Ашуканцы... Яна ўся зроблена з паперы. А яшчэ два рублі садралі». *«Бярозка», 1982, № 8, с. 5.*

## 1896

У Селішчы нарадзілася сястра Гэля (Гэлена) (1896—1902).

## 1897—1898

Ясь вучыўся ў Бяларучскім двухкласным народным вучылішчы Мінскага пав., якое скончыў за адзін год.

З успамінаў Д. М. Войніч, дачкі М. Ф. Турчановіча, дырэктара вучылішча: «Вучыўся Янка Купала добра, за адзін год ён паспяхова скончыў два класы. Вольны ад заняткаў час Янка Купала аддаваў чытанню мастацкай літаратуры. Я вучылася ў адной школе з Купалам і даставала яму кнігі і часопісы, якія яго цікавілі. Янка Купала быў цікаўным, жывым хлапчуком, любіў пажартаваць са сваіх таварышаў, сказаць «краснае слоўца»... Апранаўся Купала проста. Верхнім адзеннем служыў яму сялянскі кажух». *Любімы паэт, с. 41.*

«Свидетельство

сим удостоверяет, что крестьянин Минской губернии и уезда Белоручской волости, фольварка Селищи Иван Доминикович Луцевич, католического вероисповедания, родившегося июня 25 дня 1882 года, успешно окончил полный курс учения в Белоручском народном училище.

А потому права имеет на льготу, определенную пунктом 3-м статьи 56 Устава о воинской повинности изд. 1886 г.

Выдано апреля 30 дня 1898 года». *Ярош М. Пясняр роднай зямлі. Жыццё і творчасць Янкі Купалы. Мн., 1982. С. 28 (далей будзе: Ярош.— Я. С.).*

## 1902

*Люты.* Першыя паэтычныя вопыты на польскай мове: у дзень імянін сястры Леакадзіі напісаў прысвечаны ёй гумарыстычны верш. Сястра прыгадвала: «У Селішчы Ясь пачаў складаць вершы. Першы верш ён напісаў на мае імяніны. Было гэта ў 1902 годзе. Раніцой мама паслала мяне ў мястэчка Бесяды да крамніка Абромкі купіць мукі, цукру, дражджэй. Я пайшла. У гэты дзень усё нешта не ладзілася ў мяне з работай. Ясь хадзіў і падсмейваўся з мяне.

Вечарам ён прачытаў верш, у якім расказваў пра мой няўдалы дзень, пра ўсё, куды я хадзіла і што рабіла.

Усе пачалі смяяцца з мяне. Я вельмі абразілася на Яся, выхваціла паперку з яго рук і кінула ў печ.

Гэта быў першы верш брата». *«Бярозка», 1982, № 8, с. 5.*

*Май, 14.* Памёр бацька. Янка, старэйшы, астаўся за гаспадара.

*Восень.* Памёр малодшы брат Казімір, а яшчэ праз тыдзень ад шкарлятыны сёстры Сабіна і Гэля. Пахаваны ў в. Корань Лагойскага р-на.

З ліста да Л. М. Клейнбарта: «Интересный произошел случай при похоронах. Брат умер на неделю раньше. Когда впоследствии я привез хоронить обеих сестер вместе, то ксендз потребовал двойную плату за похороны. Я запротестовал, потому что его труд был ни больше ни меньше, чем при похоронах одного брата. На это ксендз ответил, что там он брал плату за одну голову, а тут за две головы». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 265.*

## 1903

Працаваў хатнім настаўнікам, пісарам судовага следчага ў Радашковічах.

Пісаў Л. М. Клейнбарту ў 1910 г.: «Благодаря, как водится, протекции я достал место письмоводителя у одного следователя. Последний был вполне культурный человек, играл на скрипке и любил при случае развлекать своих гостей (доктора, начальника почтовой конторы и др.) чтением следственного криминального материала (относящегося к изнасилованию и растлению малолетних). К сожалению, пробыв у следователя 2—3 недели, получил от него записочку, гласящую, что «вы-де, мол, молодой человек, не обладаете приятным почерком, ввиду чего по-дружески советую вам вернуться к прежнему образу жизни». Одним словом, прогнал». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 227.*

Быў хросным бацькам дачкі А. Бычкоўскага Марыі.

*Снежань.* Атрымаў месца ў канторы маёнтка Беліца Сенненскага пав. Магілёўскай губ. (Сенненскі р-н, за 15 км ад г. Сянно). Спачатку ў канторы маёнтка пана Свяцкага, потым малодшым прыказчыкам на яго гаспадарцы.

З ліста да Л. М. Клейнбарта: «Там я прослужил сначала в конторе имения, а потом, под весну, уже в 1904 г.— в качестве младшего приказчика на поле по хозяйству. Жалования помещик признасил мне 10 руб. в м-ц, притом заявил откровенно, что на моей обязанности лежит самая усердная эксплуатация рабочих (его слова). Но эта моя «эксплуатация» долго

не продолжалась. Я получил телеграмму о болезни матери и вынужден бросить службу и выехать домой к себе в Селище и снова заняться своим хозяйством». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 265.*

«В 1904 г. попадаются мне в руки белорусские прокламации и revol. брошюры на бел. языке. Это окончательно решило, что я белорус и что единственное мое призвание — служить своему народу всеми силами своей души и сердца. Я уже писал Вам, что не только близость к народу, с которым я делил и горе, и радость, но и народное творчество, с каким я знакомился, слушая от близких мне людей сказки и пр., безусловно, оказывали на меня свое влияние в смысле развития фантазии в направлении жить белорусскими думами». [...]

«Первое стихотворение на белорусском языке я написал, если можно так выразиться, случайно. Ехал я в Минск. Передо мной ехали известные мне барышни высшего от моего класса. Вдруг они выпали из повозки довольно в пикантных позах. Вот этот эпизод и толкнул меня написать юмористич. стихотв. Написано оно было, насколько помню, очень слабо в смысле поэтики, но меня самого удивило то, что и я могу сочинять «вершы». С этого времени я и начал писать». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 274.*

У 1910 г. Я. Купала пісаў Л. М. Клейнбарту: «Писать начал я с 1904 г., но сначала ничего путного не выходило, т. к. не имел тогда еще ни малейшего представления о теории стихосложения. Впоследствии попалась мне в руки стилистика, и дело начало налаживаться». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 228.*

Я. Купала паведамляў Л. М. Клейнбарту 21.9.1928 г.: «Кстати, отмечу здесь, что сразу и впоследствии до 1915 г. я писал много, и это мне давалось очень легко. Я мог за один день написать 200—300 строк стихов и редко когда после написания исправлял. Писал где и как попалось: при костре, при луне, ощупью ночью, в дороге, за работой. Помню стихотв. «Чаго вам хочацца, панове?» (верш «Ворагам Беларушчыны».— *Я. С.*) написано мною при перегонном и контрольном аппарате в винокур. заводе, когда я должен был наблюдать за этим аппаратом, чтобы регулярно поступал в него спирт. Громадная часть написанного мною пропала. Это было так: когда я жил в деревне, много написанного я передавал Самойло... При обысках... или других обстоятельствах часть моих материалов пропала. Потом я массу посылал в Вильно в «Нашу ніву» revol. стихов, которых по цензурн. тогдашним условиям печатать нельзя было. И они где-то с архивом «Нашай нівы» пропали». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 271.*

*Ліпень, 14.* Напісаў гумарыстычны верш «O cobiecie» («Пра жанчыну»). Яго аўтограф у ДзЛМЯнК — самы ранні з вядомых польскіх аўтографаў паэта.

*Ліпень, 15.* Напісаны верш «Мая доля» («Мая доля, дык вось доля») — самы ранні вядомы беларускі верш Янкі Купалы.

*Лета.* У Мінску пазнаёміўся з А. Бурбісам — удзельнікам рэвалюцыйнага руху. Атрымліваў нелегальную літаратуру для распаўсюджвання. *ЭД, с. 97.*

## 1904—1906

Сустракаўся з Ядвігіным Ш.

Я. Купала ўспамінаў: «Я познакомился с Ядвигиным Ш. ... Это было для меня большое событие, т. к. я впервые столкнулся с человеком, который не только писатель, которого печатают, но и пишет по-белорусски. С Ядвигиным Ш. я очень сблизился. Он мне много рассказывал о не знакомых мне до того времени писательских делах и т. п. Человек он был с высшим образованием (правда, университета из-за революционных дел не окончил), притом очень интересным и остроумным собеседником». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 274.*

## 1904—1909

Сям'я Луцэвічаў пераехала ў Бараўцы (вёска ў Мінскім р-не, 18 км ад Мінска). Арандавала тут фальварак (быў у канцы вёскі). Ясь увосень 1905 г. пайшоў працаваць на бровар у Сёмкава. Прыязджаў у Бараўцы ў 1906 г., калі працаваў на бровары ў Яхімоўшчыне і ў 1907 г., калі быў памочнікам вінакура ў Дольным Снове Нясвіжскага р-на. У гэты час аднавіў ранейшыя стасункі з У. І. Самойлам, якому паказваў свае вершы. Наведваўся ў Бараўцы з Вільні пасля 1908 г.

Пазнаёміўся з братамі І. І. і А. І. Луцкевічамі. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 269.*

Пісаў Л. М. Клейнбарту: «Я познакомился с белор. револ. деятелями... когда жил еще в Боровцах. Я уже тогда писал и свои стихи показывал В. И. Самойло, в течение 2—3 лет и переписываясь с ним. Он всегда хвалил и поощрял меня к писанию. При его содействии было напечатано по-белорусски мое первое стихотв. «Мужик» в минской газете «Сев.-Зап. край» прогрессивн. направления». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 269.*

Пазнаёміўся з рэвалюцыйнымі пракламацыямі на беларускай мове, з творчасцю В. І. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча. Прыняў рашэнне пісаць толькі па-беларуску.

## 1905

*Студзень, 9.* Царскія войскі расстралялі мірную маніфестацыю пецярбургскіх рабочых. Варварскі акт царызму выклікаў магутную хвалю пратэсту працоўных, у тым ліку і на Беларусі. Пралетарыят адказаў масавымі палітычнымі стачкамі і дэманстрацыямі. У студзені 1905 г. стачкі адбыліся ў 66 гарадах Расіі. Рабочыя баставалі і ў Мінску, Гомелі, Магілёве, Полацку, Бабруйску і іншых гарадах і мястэчках Беларусі. Пачалася першая руская рэвалюцыя. Узмацнілася барацьба сялян. Пашырыліся высечкі лесу, захоп памешчыцкай маёмасці, падпалы маёнткаў у Полацкім, Лепельскім, Бабруйскім, Быхаўскім, Барысаўскім і іншых паветах.

Вялікае ўражанне зрабілі ўсе гэтыя падзеі на маладога Янку Купалу.

*Вясна.* Я. Купала прымае ўдзел у першамайскай маёўцы рэвалюцыйна настроеных рабочых гуты «Залессе». *ЭД, с. 239.*

*Май, 15.* У грамадска-палітычнай і літаратурнай мінскай газеце «Северо-Западный край» з дапамогаю У. І. Самойлы, які тады працаваў у гэтай газеце, апублікаваны на беларускай мове верш «Мужык», падпісаны псеўданімам «Я. Купала». Гэта першае выступленне паэта ў друку.

*Ліпень, 9.* Пераклаў на беларускую мову «Тры Будрысы» А. Міцкевіча. Упершыню — зборнік «Шляхам жыцця», 1913.

*Ліпень, 22.* Пераклаў на беларускую мову «Галадоўліцу» (песню «Галодная» з паэмы «Каму на Русі жыць добра») М. А. Някрасава. Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6.

*Ліпень, 23.* Пераклаў байку А. Міцкевіча «Мужык і вужака» («Chłop i żmija»). Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6.

*Ліпень, 25.* Пераклаў байку І. А. Крылова «Лебедзь, Шчупак і Рак». Упершыню — зборнік «Жалейка», 1908.

*Восень.* Паступіў практыкантам на бровар памешчыка Р. Хялкоўскага ў Сёмкаве (16 км ад Мінска) да вінакура Сарнецкага, дзе фактычна быў чорнарабочым.

*На працягу года.* Напісаў вершы «Водклік з 29 кастрычніка 1905 г. у Мінску», «Думы маркотныя...», «У зялёным садочку» («Ой, не раз удваёчку...»), «Чаго б я хацеў...» і інш. Пераклаў на беларускую мову творы рускай і польскай паэзіі:

«З песень барацьбы за волю» Дз. Цэнзара, «На Палессі» У. Сыракомлі (Л. Кандратовіча), «Салёная» (з паэмы «Каму на Русі жыць добра») М. А. Някрасава, «Жальба дзяўчыны» Яскулкі.

## 1905—1906

Першыя пераклады з Т. Шаўчэнкі: «Пажоўкнуў ліст... Прыгаслі вочы», «Думка», «За думаю дума роем вылятае» (урывак з верша «Гогалю»).

## 1906

*Люты, 1.* Завяршыў паэму «Зімою.

*Сакавік, 10.* Напісаны верш «Нуда». Упершыню — «Жалейка».

*Сакавік, 12.* Напісаны верш «Каршун». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3.

*Сакавік, 18.* Напісаны верш «Нябожчык». Упершыню — «Жалейка».

*Сакавік, 30.* Напісаны верш «З песень а бітвах». Упершыню — «Жалейка».

*Сакавік, 31.* Напісаны верш «Паэтам». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3.

*Красавік, да 7.* Напісаны вершы «Што ты спіш?». Упершыню — Свянціцкі І. «Відродження білоруського письменства». Львоў, 1908; «Не рвіся к багатым». Упершыню — «Жалейка»; «Пашкадуй мужыка!». Упершыню — «Жалейка». Вершы чытаў А. Бурбіс 7 (20).4.1906 г. на прадстаўленні ў Пятроўшчыне каля Мінска.

*Красавік, 15.* Напісаны верш «Не кляніце мяне». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Красавік, 18.* Пераклаў верш М. А. Някрасава «Што ні год памяншаюцца сілы». Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6.

*Май, 12.* Напісаны верш «І як тут не смяяцца». Упершыню — «Жалейка».

*Май, пасля 15.* Напісаў верш, прысвечаны створанай у Пецярбургу 5 мая 1906 г. «Беларускай выдавецкай суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца». Упершыню — «Жалейка».

*Май, 28.* Напісаны верш «Адзін». Упершыню — «Жалейка».

*Май, канец.* Л. Пракопчык пісаў: «Канец мая. Перад апоўднем, недзе аб адзінаццатай гадзіне, у Лысую Гару да Быч-

коўскіх прыехаў Купала. Каня паставіў пад вокнамі і, завязаўшы лейцы за плот, зайшоў у дом. Антон адразу ж паслаў некага з дзяцей па сваіх стрыечных братоў, Шпакоўскага і Казлоўскага, што якраз гасцілі ў Лысай Гары. Сабраліся шасцёра, зачыніліся ў пакоі... Гэты майскі дзень і пазнейшыя бурныя падзеі на ўсё жыццё запомніла наша цётка Соф'я, якая мела на той час 12 гадоў. Цікава, што амаль з тымі ж дэталямі аб арышце Бычкоўскіх расказваў праз шмат гадоў іхні сусед, тады таксама 13—14-гадовы падлетак Антон Маліноўскі». [...] Сустрэча была перапынена крыкам цёткі Анэты: «Сядзіце тут, гляньце ў акно!» Па дарозе ад Пунішчаў да Лысай Гары рухаліся коннікі — цэлая калона. Былі яны апрануты ва ўсё чорнае. Вядома ж, стражнікі. Ззаду, у лёгкай брычцы, ехалі прыстаў і ўраднік. «Гэта па нас! — прамовіў Антон.— Нам няма куды схавацца, а ты хутчэй едзь, Ян!» — загадаў дзядзька Купалу. Той выбег на вуліцу. Пугі на месцы не аказалася, вырваў з плоту штыкетнік, ускочыў на воз і паімчаў уніз да Будаў незаўважаны. Паліцыя акружыла дом Антона, на двор нікога не выпусцілі. Вобыск зацягнуўся да вечара: шукалі лістоўкі, зброю...» *Пракопчык Л. Дрэмле памятка дзён... Краязнаўчыя нарысы. Мн., 1981. С. 172—173.*

*Чэрвень, 2.* Напісаны верш «Зашумеў лес разгуканы». Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6.

*Чэрвень, 11.* Напісаны верш «Для куска хлеба». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Чэрвень, 12.* Пераклаў верш М. А. Някрасава «У людзей і ў нас». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Напісаны верш «Мая эпітафія». Упершыню — Зб. тв., 1932, т. VI.

*Чэрвень, 24.* Напісаны верш «Песенька для некаторых маладых людзей». Упершыню — «Жалейка».

*Ліпень, 5.* Напісаны верш «Мая малітва» («Я буду маліцца і сэрцам, і думамі...»). Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Ліпень, 9.* Пераклаў верш М. Канапніцкай «Пара» («Przeorały raz i drugi»). Упершыню — «Жалейка».

*Ліпень, 11.* Пераклаў верш М. Канапніцкай «Каму» («Temu tylko pług a socha»). Упершыню — «Жалейка».

*Ліпень, 26.* Напісаны верш «Ой, чаму на хаты гэтыя?..». Упершыню — «Жалейка». Эпіграмы «Вось так хлопец, вось так ён...», «На беларускую выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша аконца» (І. «Што і мы аб чымсь дбаем,— выдавецкую маем...»; ІІ. «Горы абяцаці...», «Ён работнік гра-

мадзянскі...», «То беларус, то палячок...», «Ў кавярні водзіць рэй і лад...», «Варшаўскіх брукаў марны франт...», «Мо чалавекам з рук, з вачэй...», «Любіць ён работу...», «Дэпутату N. N.». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3.

*Ліпень, 28.* Пераклаў верш М. Канапніцкай «На жалейцы» («A czemuż wy, chłodne rosy»). Упершыню — «Жалейка».

*Жнівень, 10.* Напісаны верш «Дзе ні вылеці з няволі...». Упершыню — «Жалейка».

*Жнівень, 14.* Напісаны верш «Вольха». Упершыню — «Жалейка».

*Жнівень, 15.* Напісаны вершы «Я бачыў», «Ліпа». Упершыню — «Жалейка».

*Жнівень, 18.* Напісаны верш «Шчасце» («Мы гонімся часта за мараю блуднай...»). Упершыню — «Жалейка».

*Жнівень, 24.* Пераклаў верш І. Пілецкай «Сон на куццю». Упершыню — «Жалейка».

*Жнівень, 28.* Напісаны верш «Над сваёй Айчызнай». Упершыню — «Жалейка».

*Верасень, 2.* Напісаны верш «Песня жней». Упершыню — «Жалейка».

*Верасень, 10.* Напісаны верш «Спрасоння». Упершыню — «Жалейка».

*Кастрычнік, 16.* Напісаны верш «Не тужы». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Кастрычнік, 22.* Напісаны верш «Пакіньма напуста на лёс свой наракаць...». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Кастрычнік, 31.* Напісаны верш «За што?..» («Маці мая, маці...»). Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Лістапад, 9.* Напісаны верш «З людзьмі». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3.

*Лістапад, 24.* Газета «Наша ніва» паведаміла, што ў суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца» хутка выйдзе зборнік Янкі Купалы «Жалейка». Гэта першае паведамленне ў беларускім друку пра Янку Купалу і яго зборнік «Жалейка».

*Лістапад, 27.* Напісаны верш «Пойдзем». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Восень 1906 — вясна 1907.* Працуе памочнікам вінакура Сасноўскага на бровары памешчыка Любанскага ў Яхімоўшчыне, за 20 км ад Маладзечна, недалёка ад чыгуначнай станцыі Палачаны.

*Верасень—снежань.* Напісаў паэму «Нікому». Упершыню — «Чырвоны сейбіт», 1926, № 1, 2 з падзагалоўкам «З часоў прыгону».

З успамінаў Восіпа Лук'янавіча Парфена: «Я часта сустракаўся з Купалам. Мне цікава было, што Купала вельмі любіў слухаць апавяданні аб жыцці простых працоўных людзей. Часта-часта, амаль кожны дзень мы гаварылі з ім. Я расказваў аб жыцці сялян бліжэйшых вёсак, аб сваім жыцці, і Купала слухаў з цікавасцю. Аднойчы я расказаў бытаваўшае ў народзе апавяданне з часоў прыгону. У апавяданні расказвалася аб здзеках жорсткага пана з сваіх сялян, аб тым, як загубіў ён жыццё маладога хлапца і дзяўчыны». Гэтае апавяданне В. Л. Парфена і стала асноваю сюжэта паэмы «Нікому». *Янка Купала: Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта. Мн., 1955. С. 292—293.*

*Снежань, 8.* Напісаны верш «Да N.». Упершыню — Зб. тв., 1932, т. VI.

*На працягу года.* Напісаны вершы «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай», «Благая жонка...», «Бываюць хвілі...», «Віхор загуляў», «Вы кажаце...», «Вясна» («Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы...»), «Дуб» («Калыханы ветрамі...»), «Доля ўдавы», «Думкі перад вясною», «З песень бедака», «З песень нядолі» («Колькі жудкага...»), «З сіроцкай долі», «Кацярына» («Ох, як гэта Кацярына...»), «Куды ні ўцякаю», «На службе», «Нашай долі», «Не глядзі...», «Паэзія», «Першыя песні», «Праз вайну», «Пры выпіўцы», «Прыпеўка», «Родныя песні», «Спроба актавы», «Там», «Усе разам», «Хай жа вам так не здаецца», «Хлеб», «Шуміць шумненька гаёк», «Янка Канцавы» і інш.

Зрабіў пераклад паэмы У. Сыракомлі «Niedziela» («Нядзеля»), якая мае падзагаловак «Ідылія з нядаўняга мінулага».

В. Ю. Ластоўскі ўспамінаў: «З творчасцю Янкі Купалы я пазнаёміўся ў Ленінградзе ў 1906 годзе. Тады прыбылі там поштай рукапісы яго вершаў, якія пасля ўвайшлі ў зборнічак «Жалейка», і іх чытаў, у кружку тагачасных ленінградскіх беларусаў, праф. Эпімах-Шыпіла». *Шляхам гадоў. Мн., 1993. С. 152.*

Захаваўся машынапіс 22 вершаў на польскай мове з аўтарскімі праўкамі і подпісам: «Пісаў у 1906 г. І. Луцэвіч».

## 1907

*Студзень, 1.* У. І. Самойла напісаў і накіраваў з Мінска Я. Купалу верш «Янку Купале. В ответ на поздравление с Новым 1907 годом». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 51—52.*

*Студзень, 29.* Напісаны верш «Цяжка мне, цяжка, слузе беспрытоннаму». Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6.

*Сакавік, 21.* Напісаны верш «Сон» («Не помню дня і той мінуты»). Упершыню — «Полымя», 1929, № 3 (апошнія 8 радкоў упершыню ў Зб. тв., 1972, т. 1).

*Вясна.* Я. Купала працуе памочнікам вінакура ў маёнтку Дольны Сноў памешчыка М. Гартынга Навагрудскага пав. Мінскай губ. (цяпер Нясвіжскі р-н).

*Май, 10 — чэрвень.* З ліста Я. Коласа Л. М. Клейнбарту 7.10.1928 г.: «Это имя впервые услыхал я, вернее, увидел в мою бытность в редакции «Нашей нивы» весною 1907 года, когда стали появляться его стихи. Я имел тогда очень близкое отношение к чисто литературному отделу в газете и прочитывал Купалины стихи в рукописи. Оригинальность, свежесть и талантливость их автора сразу обращали на себя внимание. В тесном кругу незначительной числом белорусской интеллигенции того времени имя Купалы повторялось очень часто как имя даровитого поэта, от которого ожидалось очень много. Поэзия Купалы растет, развивается и на страницах «Нашей нивы» занимает первое место». *Якуб Колас. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Мн., 1972—1978. Т. 13. С. 86 (далей будзе: Колас.— Я. С.).*

*Май, 11.* У газеце «Наша ніва» (№ 18) верш «Касцу» — першае выступленне паэта ў беларускім друку.

*Чэрвень, 8.* Напісаны верш «Я не для вас...». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Чэрвень, 9.* Напісаны верш «Перад Сёмухай». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3.

*Чэрвень, 12.* Напісаны верш «Ночка». Упершыню — зборнік «Гусляр», 1910.

*Чэрвень, 14.* Напісаны вершы «Перад бурай». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2. Заўвага аўтара: «Верш гэты напісаны пасля разгону царом другой Думы» (разагнана 3.6.1907 г.); «Не чакай...». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Чэрвень, 16.* Напісаны верш «Калі ў свет я ні гляну прыгожы...». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Чэрвень, 19.* Напісаны верш «Не чапайся, панічок!..». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3.

*Чэрвень, 27.* Гальяш Леўчык напісаў у Варшаве санет «На Купалле» — першы твор беларускай паэзіі, прысвечаны Янку Купалу.

*Ліпень, 4.* Напісаны верш «З бяды і нуды». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Ліпень, 6.* У «Нашай ніве» (№ 24) вершы «Ці ж гэта многа?!» і «Лета» («Эх ты, лета, гарачае, бурнае!..»).

*Ліпень, 15.* Напісаны верш «Устань». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Ліпень, 20.* Напісаны верш «Далей і болей...». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2. У «Нашай ніве» (№ 25) верш «З песень беззямельнага» («Ніваў загоны»).

*Ліпень, 25.* Напісаны верш «Хлеб». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

У «Нашай ніве» (№ 25) нататка «Беніцкая валасць Ашмянскага павету...» (подпіс И. Л.). *ПЗТ, т. 8, с. 7, 362.*

*Ліпень, 26.* Напісаны верш «Покуль сонца ўзыйдзе...». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2.

*Жнівень, 3.* У «Нашай ніве» (№ 26) (цалкам у зборніку «Шляхам жыцця») 2-я частка верша «Над ніваю ў непагоду» пад назваю «Непагода» («І чаго ж, непагода слязлівая»); пад псеўданімам «Янук с-пад Мінска» — «Старыя праўды на новы лад». У паштовай скрынцы газеты: «Астрашыцкі Гарадок. Мінск. г. Янцэ Купале: не ўжывайце беларускіх слоў малавядомых, так званых правінцыяналізмаў».

*Жнівень, 17.* У «Нашай ніве» (№ 27) артыкул «Хто к лесу, а хто к бесу» пад псеўданімам «Янук с-пад Мінска» і верш «Вучыся!..».

*Жнівень, 31.* У «Нашай ніве» (№ 28) верш «З песень аб мужыцкай долі» («Сажань шырынёю...»).

*Верасень, 1.* Мінская машыністка С. Свірноўская атрымала ад У. І. Самойлы разлік за перадрук вершаў зборніка Я. Купалы «Жалейка». *Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць. Мн., 1968. С. 175 (далей будзе: Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць.— Я. С.).*

*Верасень, 14.* У «Нашай ніве» (№ 29) верш «Былі ў бацькі тры сыны» пад загалоўкам «Старая песня на новы лад».

*Верасень, 15.* Я. Купала атрымаў пашпарт № 3726, выдадзены Мінскай мяшчанскай управаю. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 47—50.*

*Верасень, 28.* У «Нашай ніве» верш «На што?», прысвечаны Я. Коласу.

*Кастрычнік, 12.* У «Нашай ніве» верш «Чары» («Покі світкі не стыдаўся»).

*Кастрычнік, 26.* У «Нашай ніве» верш «Прыйшла восень...».

*На працягу года.* Напісаны паэма «Калека». Упершыню — «Чырвоны сейбіт», 1926, № 3; вершы «Ах, ці доўга...», «Ворагам Беларушчыны», «З маркотных думак», «З нуды», «З

песень аб няволі», «Згінула сонца», «Замаўчыце, думы», «Куды ты рвешся!..», «Легла на сэрцы гора нядольнае», «На адвітанне», «На беларускую выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша аконца», «Не дайце згінуць», «Не дружы...», «Поле роднае», «Праступнік», «Прыйшла восень», «Разлад», «Сумна, сумна жыць на свеце», «Тканне намёткі», «У зялёным садочку» і інш.

## 1908

*Студзень, 4.* У «Нашай ніве» (№ 1) верш «Чаго хмурыцца?..» без загалоўка.

*Люты, 1.* У «Нашай ніве» (№ 3) верш «Хто ты гэткі?».

*Люты, 15.* У «Нашай ніве» (№ 4) верш «За праўду».

*Сакавік, 5.* З-за змешчаных у ёй вершаў Я. Купалы «Што ты спіш?» і «Там» забаронена брашура І. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства» (Львоў, 1908). З даклада цэнзара М. А. Васянцовіча-Макарэвіча: «...В конце же брошюры автор поместил два стихотворения: 1) «Что ты спиш?» Марка Бяздольного... и 2) «Там» Янка Купала..., относительно которых он сам сомневается, могут ли они скоро увидеть дневной свет в России. Действительно в первом стихотворении обращается внимание мужика на то, что ведь на его деньги делается все: царь и дворец себе строит, и войну ведет, а мужик с детьми помирает с голоду. Так пусть же он идет с косою в руке и требует возврата себе всего, что ему принадлежит, пусть кричит на весь мир, что с ним сделал царь! Во втором стихотворении описывается, как «там» борцы за свободу идут на виселицы, а царь стоит с нагайкой над теми, что своим потом поливают землю. Восстаньте же, пока царь еще не высосал всей крови из вас! Полагаю, что этого вполне достаточно для запрещения брошюры с невыдачей просителям». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 57—58.*

*Сакавік, да 11.* Як паведаміла «Наша ніва» 11.3.1908 г. у № 8, выйшаў з друку першы зборнік паэзіі Я. Купалы «Жалейка». У гэтым самым нумары газеты змешчана аб'ява, што «Жалейка» мае цану 50 кап.

*Сакавік, 14.* У «Нашай ніве» (№ 6) верш з цыкла «З песень беззямельнага» («Што за шчасце, што за доля») і верш Альберта Паўловіча «Каліва праўды», прысвечаны Я. Купалу.

*Красавік, 4.* Газета «Минское слово» назвала вершы Я. Купалы, надрукаваныя ў брашуры І. Свянціцкага «Ад-

раджэнне беларускага пісьменства», падпольнымі пракламацыямі, напоўненымі «самой бесшабашной ложью и неизбежными призывами к бунту».

*Красавік, 13.* У газеце «Минский курьер» (№ 67—68) пераклад В. С. (У. І. Самойлы) верша Я. Купалы «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні» пад назваю «Белорусу». Гэта першы пераклад твораў Я. Купалы на рускую мову.

*Красавік, 25.* У «Нашай ніве» (№ 9) вершы «Аратаму» і «За пасвяшчэнне, вершык харошы», прысвечаны А. Паўловічу як адказ на яго верш «Каліва праўды».

*Май, 9.* У «Нашай ніве» (№ 10) байка «Асёл і навука» (подпіс И. Л.) і верш «Песня» («За сахой, бараной»).

*Май, 22.* У «Нашай ніве» (№ 11) пераклад верша М. Канапніцкай «Тры дарогі» («Trzy ścieżki idą z chaty»); нататка «М. Мір Мінск. губ.». *ПЗТ, т. 8, с. 10, 363.*

*Чэрвень, 6.* У «Нашай ніве» (№ 12) верш «Ворагам Беларушчыны». Ён паявіўся як рэакцыя на нападкі рускіх і польскіх чарнасоценных газет на ўсё беларускае.

*Чэрвень, 20.* У «Нашай ніве» (№ 13) верш «Касцам».

*Ліпень, 4.* У «Нашай ніве» (№ 14) вершы «Да моладасці» і «На сенажаці». У гэтым нумары змешчана аб'ява, у якой сказана, што «Жалейка» на «лепшай» паперы каштуе 80 кап. (Выданне не выяўлена.)

*Ліпень, 9.* У газеце «Минское эхо» першая рэцэнзія на зборнік «Жалейка». Вось яе тэкст:

«БИБЛИОГРАФИЯ

Жалейка Янки Купалы. Издание супалки «Загляне сонца і ў наша ваконца». Петербург. 1908 г. цена 50 к.

«Лучше быть первым в деревне, чем вторым в Риме»... вот первое, навязывающееся, впечатление при чтении новоиспеченного довольно объемистого (152 стр.) томика белорусских стихотворений Янки Купалы под общим заглавием «Жалейка».

И, если мечте белоруссоманов,— воскресить и дать литературную оболочку умирающему белорусскому наречию,— суждено осуществиться,— то между пионерами этой идеи одно из первых мест займет бесспорно Янка Купала.

Мы воздержимся пока от детальной оценки по существу и тенденциозности большинства стихотворений «Жалейки»*:

Они были писаны в те годы, когда в нашей изстрадавшейся родине слишком быстро чередовались то ослепительные блес-

---

* Как нам удалось узнать, не мало материала подготовлено уже поэтом для второго тома. Будем надеяться, что в нем даровитость и взгляды поэта выступят более определенно, более рельефно.

ки, то черные тени, что не могло не отразиться ни на отзывчивости, ни на восприимчивости поэта вообще, а тем более народного.

Жизнь белоруса слишком монотонна, и мы не должны поэтому быть особенно требовательны в разноколерности сюжетов его народного поэта.

Мы позволили себе только высказаться за сохранностью чистоты особенностей белорусского говора и тем более поэзии, как переживающей в народе более долгие, чем проза, годы.

Таким классическим образом служит стихотворение Янки Купалы «Соха» (стр. 12).

Надо быть не только знатоком белорусского наречия, но и даровитым поэтом, чтобы при сочетании слов этого топорного (да простят мне белорусы!) языка явилось вполне лирическое стихотворение.

Таких стихотворений в «Жалейке» читатель найдет не мало.

Количество ошибок в издании вполне понятно и извинительно, бумага недурна, шрифт четок, виньетка такова, что можно было на обложку употребить и лучшую, более прочную бумагу.

Ядвигин Ш.».

*Лета.* Якуб Колас у Мікалаеўшчыне перакладае на беларускую мову для «Нашай нівы» рэцэнзію У. І. Самойлы (Владака з Казіміраўкі) на зборнік Я. Купалы «Жалейка». *Колас, т. 13, с. 86.*

*Ліпень, 18.* У «Нашай ніве» (№ 15) верш «Развейся, туман...».

*Жнівень, 1.* У «Нашай ніве» (№ 16) вершы «З песень жыцця» («Час быў вясенні. На скібіны дно»), «Сват» (подпіс И. Л.) з падзагалоўкам «Апавяданне старога дзеда», «Хмары і думы».

*Жнівень, 4.* «Жалейку чытаў А. Ельскі, рабіў не заўсёды аб'ектыўныя заўвагі і паметкі». *«Полымя», 1951, № 10, с. 85.*

*Жнівень, 15.* У «Нашай ніве» (№ 17) вершы «Лявон» (подпіс И. Л.), «Як выйду за хату...», рэцэнзія Владака з Казіміраўкі на зборнік «Жалейка».

З рэцэнзіі Владака з Казіміраўкі (У. І. Самойлы): «...Песні Купалы — гэта люстра, у каторым свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго родны край; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самай глыбі народнай душы, гэта — «крык, што жыве Беларусь». І хто раней не верыў, каб бела-

рускі народ мог прачнуцца і пайсці сваёй уласнай дарогай, той цяпер мусіць прызнаць, што беларусы яшчэ не ўмёрлі, яшчэ маюць сілу жыць і развівацца... Пясняр моцна верыць у сілу грамады... Мы шчыра падтрымліваем добрае жаданне песняра. Няхай яго думкі, «думкі-весялушкі», што ў сэрцы паэты народнага, «нібы птушкі песняй азваліся», знойдуць сабе дарогу ў кожную хату вясковага беларуса. Няхай «Жалейка» будзіць народнае самапачуццё, няхай памагае беларусам прачнуцца ад векавога сну, жыць новым жыццём, расці і развівацца ў добрай згодзе і разам з братнімі суседнімі народамі!»

*Жнівень, 22.* У Бараўцах завяршыў паэму «Адвечная песня». Упершыню — асобным выданнем у выдавецтве А. Грыневіча (СПб., 1910).

*Жнівень, 23.* Газета «Минский курьер» (№ 113) за подпісам Вл. С. (У. І. Самойла) апублікавала рэцэнзію на зборнік «Жалейка».

*Жнівень, 28.* У «Нашай ніве» (№ 18) верш «Як не выйдуць чарнасотнікі...» пад псеўданімам «Левы» і за подпісам Янук Купала верш «Дзе вы?».

*Верасень, 11.* Пад псеўданімам «Вайдэлота» «Наша ніва» апублікавала гумарыстычны верш «Страх» і верш «Яшчэ прыйдзе вясна» без назвы («Не пужайся, што здрадныя хмары»); нататку «М. Астрашыцкі Гарадок...». *ПЗТ, т. 8, с. 10, 363.*

*Верасень, 12.* Напісаны верш «Песня» («Там, гэй, на ліпе на расахатай»). Упершыню — зборнік «Спадчына», 1922.

*Верасень, каля 20.* На запрашэнне «Нашай нівы» пераехаў у Вільню.

*Верасень, 21.* У 2-м паліцэйскім участку г. Вільні прапісаны ў доме 20, кв. 12 па Віленскай вуліцы. Пачынае працаваць у прыватнай бібліятэцы Б. Даніловіча «Знание» і супрацоўнічаць з газетай «Наша ніва».

*Верасень, 22.* А. Кемерлінг з Віленскага часовага камітэта па справах друку паслаў у Санкт-Пецярбургскі камітэт па справах друку зборнікі Я. Купалы «Жалейка», Ф. Багушэвіча «Смык беларускі» і «Дудка беларуская» з запытаннем: «могут ли они быть допущены к обращению». *Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць, с. 177.*

*Верасень, 25.* У «Нашай ніве» (№ 20) верш «Бор». У «Паштовай скрынцы» «Нашай нівы»: «М. Долгиново Вилейск. п. Сос—му (В. Сосенскаму). З «Самоучки» наш паэта Купала нешта прабуе зрабіць. Чакайце цярпліва».

*Кастрычнік, 9.* У «Нашай ніве» (№ 21) пераклад Я. Купалы з У. Сыракомлі «Доля» (у артыкуле «Уладыслаў Сыракомля»), верш А. Гаруна «Януку Купале».

*Кастрычнік, 14.* На пасяджэнні Санкт-Пецярбургскага камітэта па справах друку паводле даклада цэнзара Ф. Ц. Фёдарава разглядалася справа «Жалейкі». Прынялі пастанову накласці на яе арышт, а аўтара і таго, хто надрукаваў, прыцягнуць да судовай адказнасці. У гэты ж дзень паведамленні пра арышт «Жалейкі» былі накіраваны пракурору Санкт-Пецярбургскай судовай палаты і пецярбургскаму граданачальніку. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 60.*

*Кастрычнік, 19.* Напісаны верш «Падымайся, уставай!..». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Кастрычнік, 23.* У «Нашай ніве» (№ 28) пад крыптанімам К. нататка «М. Гарадок...». *ПЗТ, т. 8, с. 11, 363.*

*Кастрычнік, 28—31.* У палітыка-эканамічнай і літаратурнай газеце «Рада» (Кіеў) артыкул Д. Дарашэнкі «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» (№ 246, 247, 249). Высока ацэнена ранняя творчасць Янкі Купалы, яго зборнік «Жалейка». У № 249 31 кастрычніка змешчаны верш паэта «А хто там ідзе?» па-беларуску.

*Восень.* У рэдакцыі «Нашай нівы» Стары Улас пазнаёміў Я. Купалу з Уладзіславай Францаўнай Станкевіч — будучай жонкай. *ЭД, с. 575.*

*Лістапад, 1.* Пераклаў верш М. Канапніцкай «Збудзіўся лес, азваўся лес» («Zaszumiał las, zaszumiał las»). Упершыню — Зб. тв., 1932, т. VI.

*Лістапад, 4.* Член Санкт-Пецярбургскага камітэта па справах друку граф Галавін накіраваў пракурору Санкт-Пецярбургскай судовай палаты адносіну, у якой даказваў, што некаторыя вершы Я. Купалы ў «Жалейцы» (змест вершаў «Песня вольнага чалавека» і «Ах, ці доўга...» прызнаны «в особенности преступным») заклікаюць да дзеянняў «явно бунтовщических», паведамляў, што камітэт па справах друку пастанавіў: «1) привлечь к законной ответственности, по силе пп. 1 и 3 ст. 129 Угол. улож. изд. 1903 г., виновных в напечатании брошюры «Жалейка» и 2) наложить на нее арест на основании ст. 3 отд. IV Временных правил для неповременной печати 26 апреля 1906 г.» і прасіў «возбудить судебное преследование против автора брошюры Янки Купалы..., а равно и против других лиц, могущих оказаться виновными по тому же делу». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 62.*

*Лістапад, 5.* Санкт-Пецярбургскі камітэт па справах друку адносінай № 2591 паведамляў Часоваму камітэту па спра-

вах друку ў Вільню, што за надрукаванне «Жалейкі» Я. Купалы, «Смыка беларускага» і «Дудкі беларускай» Ф. Багушэвіча ўзбуджаны судовыя справы, а кнігі арыштаваны і што «экземпляр брошюры «Жалейка» Янки Купалы» при сем возвращается». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 63.*

*Лістапад, 7.* У «Нашай ніве» (№ 23) верш «Ужо днее» — першая публікацыя паэта з паметаю «Вільня».

*Лістапад, 10.* Пасля адпаведных захадаў аўтара і яго знаёмых Санкт-Пецярбургская судовая палата арышт з «Жалейкі» зняла. *Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць, с. 177.*

*Лістапад, 11.* Віленскі часовы камітэт па справах друку ў адносіне № 422 (падпісаў А. Кемерлінг) паведамляў віленскаму павятоваму іспраўніку, што сярод іншых выданняў забаронена кніжка Я. Купалы «Жалейка».

*Лістапад, 20.* У «Нашай ніве» (№ 24) верш з цыкла «З песень беззямельнага» («Як спыніўся я за хатай»), прысвечаны Вл. Ив. С-о (У. І. Самойлу).

*Лістапад, 25.* Скончана справа Санкт-Пецярбургскага камітэта па справах друку супраць «Жалейкі».

*Снежань, 1.* Я. Купала перабіраецца на другую кватэру і прапісваецца ў доме № 46 па той самай Віленскай вуліцы.

*Снежань, 4.* У «Нашай ніве» (№ 25) верш «Зіма» («Белы стрэхі, бела поле»).

*Снежань, 7.* Напісаны верш «Дунулі сіверы». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1919, № 22.

*Снежань, 11.* Газета «Минское эхо» (№ 155) паведаміла пра арышт «Жалейкі» і што арышт з яе зняты. *«ЛіМ», 1940, 8 снеж.*

*Снежань, 16.* Падпісаў У. І. Самойлу сваю фатаграфію. *ЭД, с. 547; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 361.*

*Снежань, 17.* Напісаны верш «Крыжы». Упершыню — «Гусляр». У артыкуле «Пра беларускую школу» газета «Минское эхо» (№ 160) пісала: «Появились талантливые поэты: Бурачок, Лучына, Купала и другие».

*Снежань, 18.* «Наша ніва» (№ 26) апублікавала паэму «У Піліпаўку».

*Снежань, 20.* Падпісаў сваё фота А. М. Бычкоўскаму. *ЭД, с. 99; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 334.*

*Снежань, 31.* Завяршыў паэму «За што?». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 3, 15 студз.

*На працягу года.* Перакладзены ўрывак з «Конрада Валенрода» («З Мальборскай вежы») А. Міцкевіча. Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6. Напісаў вершы «Аб мужыц-

кай долі» («Ходзяць гутаркі па свеце»), «Араты», «Беларушчына», «Грымну я, грымну па струнах бунтарных», «Думка» («Эй, мой братка, эй, мой родны»), «Дэпутату NN», «З надзеяй гаротнай», «Замчышча», «Любіць ён работу», «Навагоднія жаданні», «Нібы казка», «Падымайся, ўставай», «Перад вісельняй», «Праступнік», «Развейся, туман...», «Роднае слова» («Магутнае слова, ты, роднае слова»), «Стужа зближаецца», «Ўсё саюзы...», «Фэлькава вяселле» і інш.

У Кіеве выйшла брашура Д. Дарашэнкі «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне», у якой ён ацэньваў паэзію Я. Купалы: «Гэта смелы прызыў да лепшага жыцця, да здабыцця яго. Купала не стыдаецца сказаць усёй сумнай праўды пра жыццё — нядолю роднага народа; малюнкі ў творах гэтага песняра яскравыя, ясныя; форма лёгкая, вольная... Паэзія Янкі Купалы — гэта голас забітага, скрыўджанага беларускага народа аб сваім адраджэнні, аб змаганні за волю, за лепшае жыццё... І з вераю ў свой край кліча пясняр маладое беларускае грамадзянства будзіць заснуўшых і скрыўджаных, кліча будаваць айчыну, набліжаць панаванне праўды і шчасця...»

## 1909

*Студзень, 1.* У «Нашай ніве» (№ 1) верш «Навагоднія жаданні».

*Студзень, 3.* У пісьме А. Уласаву ў Вільню са Львова, віншуючы з Новым годам і з чацвёртым годам выдання «Нашай нівы», І. Свянціцкі пісаў: «Я прошу вас передать душевный дружеский привет и певцам народной доли — Януку Купале и Якубу Коласу, что песнями своими над горем народным плачут и свету о нем вещают и народ от сна пробуждают. Дай господь дождаться им счастливого часа, когда их песня отзовется веселым эхом по всей земле белорусской и кликнет возрожденный народ в ряды тружеников общечеловеческой культуры». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 69.*

*Студзень, 9.* У «Нашай ніве» (№ 2) верш Ц. Гартнага «Бяздольны», прысвечаны Я. Купалу.

*Студзень, 12.* Напісаны верш «Маладая Беларусь» («Гэй, ты, гэй, Беларусь, маладая старонка»). Упершыню — «Полымя», 1929, № 3.

*Студзень, 16.* Напісаны верш «У шынку». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 23, 4 чэрв. У газеце «Čas» А. Чэрны змясціў артыкул «З Беларусі» (заканчэнне 20 студзеня),

дзе разглядае вершы Я. Купалы «Ворагам Беларушчыны», «Ужо днее» (пераклад на чэшскую мову А. Чэрнага), называе паэта адным з «беларускіх будзіцеляў, якія стаяць на вышыні грамадскіх ідэй сучаснасці». *«Полымя», 1982, № 7, с. 123.*

*Студзень, 22.* Напісаны верш «А як мы з хаткі выходзім...». Упершыню — «Гусляр». У «Нашай ніве» артыкул Д. Дарашэнкі «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» (пераклад Я. Журбы), у якім разглядаецца і творчасць Янкі Купалы.

*Студзень, 29.* Ліст у рэдакцыю газеты «Новая Русь» з нагоды публікацыі ў «Альманахе-календаре для всех на 1910 год» вершаў Купалы ў перакладзе С. Ан-скага (дата пад тэкстам, відаць, памылковая). *ПЗТ, т. 8, с. 11—12, 363.*

*Студзень, 30.* Напісаны верш «Зімовая ноч». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Люты, 3.* Напісаны верш «Зваяваным». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 8, 20 лют. пад загалоўкам «Вучыцелям людскім».

*Люты, 5.* Напісаны верш «Вёска». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Люты, 8.* Напісаны вершы «Не ўздыхай». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 24, 11 чэрв; «Прыяцелі». Упершыню — «Полымя», 1966, № 10.

*Люты, 10.* У 2-м паліцэйскім участку г. Вільні прапісаны ў доме № 20, кв. 12 па Віленскай вуліцы.

*Люты, 21.* Напісаны верш «На прадвесні». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 9, 27 лют. пад загалоўкам «Думкі хлебароба на прадвесні».

*Люты, 25.* Напісаны верш «Памяці Т. Шаўчэнкі» («Сягоння на Украіне вялікае свята»). Упершыню — «Гусляр».

*Люты, 26.* Напісаны верш «Памяці Шаўчэнкі» («Ад гасцінца да гасцінца»). Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 11, 12 сак.

*Зіма 1909.* Сустракаўся з Людасам Гірай, чытаў яму свае вершы. З артыкула Л. Гіры «З беларускай літаратуры» (газ. «Вілціс», 1910, 1 верас.): «Яшчэ летась зімою давялося мне гаварыць з Я. Купалам... Тады ён меў ужо нямала новых вершаў, якія чытаў мне з рукапісаў. Гэта былі сапраўдныя перлы паэзіі».

*Сакавік, 1.* Напісаны верш «За чужую елку». Упершыню — зборнік «Гусляр».

*Сакавік, 5.* У газеце «Рада» (Кіеў, № 52) вершы Я. Купалы «Я бачыў» і «А хто там ідзе?» (пераклаў М. Шапавал).

*Сакавік, пачатак.* В. Ю. Ластоўскі ўспамінаў: «Асабіста ж я пазнаў Янку Купалу толькі ў першых датах сакавіка месяца 1909 года, калі прыехаў з Рыгі на сталую працу ў Вільню, куды быў запрошаны А. Уласавым на сакратара рэдакцыі «Наша ніва», якая тады памяшчалася на Віленскай вуліцы, д. № 20, у часова пуставаўшым магазыновым памяшканні, з уходам з тратуару. Прыехаў я ў Вільню вечарам і таго ж дня адведаў Рэдакцыю, дзе пазнаёміўся з А. Уласавым, Іванам і Антонам Луцкевічамі і Альгердам Бульбай. З размоў даведаўся, што стала ў Рэдакцыі працуюць яшчэ Антон Лявіцкі і Янка Купала, але іх не было дома.

Рэдакцыйнае памяшканне дзялілася на дзве палавіны: ад вуліцы, у быўшым магазыне, была кантора Рэдакцыі; ад падворку ж пакой, у тры вакны, з прысёнкам — кватэра Уласава, і ў ім зачатак будучага беларускага Музею, які збіраў Іван Луцкевіч. У прывулічным памяшканні, акром рэдакцыйнай канторы, быў яшчэ начлежны лёкум для трох асоб: А. Лявіцкага, за дашчаной перагародкай справа, Я. Купалы і рабочага Нагурскага — за шафай, збітай з негабляваных дошчак.

На другі дзень пайшоў я ў Рэдакцыю рана і застаў усіх кватарантаў канторы ў поўным камплекце і даволі кіслых настраеннях, якія былі вынікам дрэнных кватэрных варункаў. Кантора была ў запушчаным стане і на першы погляд рабіла ўражанне складу макулатуры, якая, у постаці ўсякіх газет, была звалена каля сцен і старшылася на паліцах спамянёнай дашчаной шафы. Наганялі нуду даўно не аднаўляныя і спрадвеку не апыляныя сцены. Паветра было прасычана кіслай вільгаццю, дымам ад жалезнай печкі, на якой пякліся прамочаныя наскрозь учора звечара чыесь камашы, і тут жа, у скавародцы, сквірчэлі скваркі, якія з вялікім адданнем асцярожна мяшаў пальцам чалавек з рыжаватай бародкай, у расхрыстанай кашулі і ў апорках на босую нагу, а другі, малады, паспешна апрануўся ў камізэльку над свайго роду мадэявым, расцяганым ложкам, якое, ад уходу, рабіла ўражанне свежа сканаўшага на сцюдзёнай тундры вярблюда.

Незнаёмы над скваркамі быў А. Лявіцкі; незнаёмы пры ложку назваў сябе Янка Купала. Я сказаў, што прыехаў сюды на сталую працу. Лявіцкі асцярожна адставіў на падлогу скавародку і здзіўлена выпрастаўся; Купала, які, да гэтага часу, скончыў свой туалет, схапіў свой капялюш і палку і, прабурчэўшы нешта, кшталтам: «Сам чорт тутака не ўбудзе, калі так далей будзе», выскачыў за дзверы. Пры гэткіх акалічнасцях завязалася маё першае знаёмства з Янкам Купалам.

У тыя часы Янка Купала меў сталую працу ў бібліятэцы-пажычальні Даніловіча, а ў «Нашай ніве» меў дапаможную працу; за бібліятэкарства атрымліваў 25 руб., а за перагляд і падгатоўку вершаў у «Нашу ніву» меў спамянутае вышэй мейсца ў канторы для свайго раскладнога ложка і, дадаткова, 5 руб. пэнсіі. Паспешны выхад яго з Рэдакцыі, у першы дзень нашага знаёмства, і тлумачыўся яго жаданнем прыйсці на службу ў бібліятэку без спазнення.

Я прыехаў у Вільню не адзін, а з жонкай. Да часу, пакуль знойдзем сабе кватэру, спыніліся мы ў нашых знаёмых. Пэнсіі мне назначыла Рэдакцыя 30 руб.— з гэтай сумы выдатак на кватэру не павінен быў перавышаць 8 руб. Па некалькіднеўным шуканні кватэру знайшлі мы за 6 руб. у месяц. Кватэра гэта была на Аляксандраўскім Бульвары ў доме № 18. Калі гаспадар будаваў свой дом, ён, па-гаспадарску, злева ў канцы дома, пабудаваў маленькі будыначак з аднаспаднай стрэшкай для патрэб усіх сваіх кватарантаў, але, як чалавек практычны, змеркаваў пасля, што будыначак агульнай патрэбы можна збіць і з дошчак, а мураваны пакойчык, уставіўшы акно, абярнуць на кватэру з асобным уходам. Як падумаў, так і зрабіў. Атрымалася кватэрка з аднаго пакоіка 4×8 арш. і сенцаў 1½×4 аршыны. Так удачна, на першы пачатак, абаснаваўшыся ў Вільні, рашылі мы з жонкай справіць наваселле. У дадатку, акурат к гэтаму часу, прыехала ў Вільню сястра маёй жонкі, вядомая літоўская пісьменніца Лаздзіну Пяледа (Lozdynu Peleda). Дзеля таго ж, што ў Рэдакцыі «Нашай нівы», паміж яе тагачаснымі супрацоўнікамі, існаваў распадзел, то з рэдакцыйнага персаналу можна было разлічваць на прынятце запросін на ўбогае наваселле толькі ад асоб, якія засялялі ўглы ў Канторы. Словам, за навасельным сталом, аздобленым кіпучым, як вулкан, самаварам з адпаведнымі да яго, стасоўна стану, прыдаткамі мяснога і мучнога характару, аказаліся Лявіцкі і Янка Купала.

За вечар гэты, запраўднай першай знаёмасці, перагаворана было многа, бо і чарка гарэлкі падагравала і без таго гарачыя галовы.

Янка Купала, тады працуючы ў бібліятэцы, многа чытаў, асабліва навейшых тагачасных расійскіх і польскіх паэтаў. За сталом жа сядзелі ўсё пісьменнікі: Пяледа, якая вызначалася даволі вялікай пладавітасцю, яе сястра, а мая жонка, Марыя з Іваноўскіх, каторай адна повесць, напісаная папольску, была адзначана на конкурсе «Biesiady Literackiej», Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), Янка Купала і я, найменшы між

сільнымі пяром,— бо акром некалькіх, даволі няскладных, пісьменніцкіх сваіх спроб і хаатычных імкненняў не меў яшчэ тады за сабой нічога.

Разважалі за сталом аб паэтах і пісьменніках, аб іх тыпах і творах. Мая некаторая начытанасць, як быўшага бібліятэкара прыватнай студэнцкай бібліятэкі ў Ленінградзе, і прыродная эрудыцыя давалі магчымасць не толькі жыва весці дыскусію, але ў некаторых выпадках кіраваць ёю. Зрэшты, я ў той час захватваўся навуковай літаратурай і не прызнаваў ніякіх раманаў і повесцей, за выключэннем вершаваных, і то апошнія толькі таму, што тады пагалоўна ўсе беларускія пісьменнікі пісалі толькі вершы. Не прызнаваць вершаў нельга было, бо, лагічна разважаючы, трэба было бы выступаць і супраць беларускай пісьменнасці, а гэтага апошняга я дапусціць не мог.

Янка Купала хваліў Блока. Асаблівай паклонніцай Славацкага была мая жонка, хоць, у істоце, яе ў тыя часы больш захватываў Метэрлінк з яго амаль надпрыроднай чоўнасцю і пераноснямі. З гэтай прычыны значную часць вечара заняло зраўніванне творчасці Метэрлінка з творчасцю Славацкага, выражанай асабліва ў паэме «Król Duch». (Лявіцкі быў супраць усякіх «мадэрністаў», і з ім салідарызавалася Пяледа. Купала меў з сабой нейкі зборнік расійскіх паэтаў і прачытаў з іх пару вершаў. Тады я дастаў польскага паэта Стафа «Mister Twardowski» і вершы Аляксея Талстога і заняў гасцей чытаннем адрыўкаў з гэтых паэтаў.

Пасля гэтага вечара Я. Купала бываў частым у нас госцем, асабліва ў дні адпачынку, якія, час ад часу, праводзілі разам то дома, то па-за домам — у гарадскіх садах.

Гэтак набліжылася вясна, а за ёй і лета. У творчасці Янкі Купалы пачаў намячацца паварот. Верш «Забытая скрыпка» быў беспасярэднім выразам гэтага павароту, услед за якім паявіўся другі, такога ж характару, верш «На высокай гарэ» (верш Я. Купалы «Песня званара», прысвечаны В. і М. Ластоўскім.— *Я. С.*)». *Шляхам гадоў, 1993, с. 152—155.*

*Сакавік, 10.* Напісаны верш «Два мужыкі і глушэц». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 12, 19 сак. з прысвячэннем: «Афяруецца розным «апекуном» Беларушчыны».

*Сакавік, 17.* Напісаны верш «Растапіліcь гурбы» (4-я частка цыкла «З песень беззямельнага»). Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 17.

*Сакавік, 23.* Напісаны верш «Вялікдзень». Упершыню — «Наша ніва», № 13—14, 26 сак.

*Сакавік, 27.* Напісаны верш «Паводка». Упершыню — «Наша ніва», № 15, 9 крас.

*Красавік, 14.* Напісаны верш «Песняру-беларусу». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 25, 18 чэрв.

*Красавік, 15.* У газеце «Свобода» (Нью-Йорк, на ўкраінскай мове), верш Я. Купалы «Памяці Шаўчэнкі» («Ад гасцінца да гасцінца») — першы раз беларуская мова паявілася ў найстарэйшай украінскай газеце ЗША.

*Красавік, 22.* Напісаны верш «Да дзяўчынкі». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 20, 14 мая.

*Красавік, 23.* Напісаны верш «З песень аб вясне» («І зелень, і кветкі, і песні»). Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 12, 24 сак.; раздзел 6 «Ой, скажы ты, беззямельнік» з цыкла «З песень беззямельніка». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Красавік, 30.* Напісаны верш «Песня-байка». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 21, 21 мая.

*Май, 1.* Напісаны верш «Лякарства». Упершыню — «Беларусь», 1920, 17 студз.

*Май, 4.* Напісаны верш «Лямант пана Кавалюка». Упершыню — «Полымя», 1966, № 10.

*Май, 20.* У зборніку «Письмо з «Просвіти» (Львоў) надрукаваны артыкул І. Крып'якевіча «Беларусы», у якім ён піша: «З маладзейшых пісьменнікаў найбольш вылучаецца Янук Купала... Творы Купалы — гэта гарачы заклік у абарону ўсіх прыгнечаных, кліч да барацьбы за лепшую долю беларускага народа». (Выйшаў асобным адбіткам у «Просвітніх листках», № 30, 1909.) У артыкуле ўпершыню ва ўкраінскай літаратуры змешчаны пераклад вершаў Я. Купалы «А хто там ідзе?» і «Памяці Шаўчэнкі» на ўкраінскую мову (пераклаў М. Шапавал).

*Май, 30.* Якуб Колас упершыню згадвае Я. Купалу ў пісьме да А. Г. Зотавай-Рамановіч. *Колас, т. 13, с. 13.*

*Чэрвень, 11.* «Наша ніва» (№ 24) паведамляла: «Пецярбург. У студэнцкай сталовай было беларускае ігрышча-вечарынка. Хлопцы-студэнты чыталі па-нашаму вершы з «Дудкі» і «Жалейкі», а паненка К. спявала па нотах Грачанінава «Песню над калыскай» і іншыя песні».

*Чэрвень, 16.* Напісаны верш «Заклятая кветка». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 26, 15 чэрв.

*Чэрвень, 17.* Напісаны верш «Забытая скрыпка». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 30, 23 ліп.

*Чэрвень, да 26.* Прыехаў да маці ў Бараўцы.

*Чэрвень, 26.* У Бараўцах напісаны верш «Явар». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 40, 1 кастр.

*Ліпень, 8.* Часопіс Віленскай чарнасоценнай суполкі (таварыства) «Селянін» («Крестьянин») выступаў супроць «Нашай нівы». Янка Купала ў вершах «Два мужыкі і глушэц», «Апекунам», «Лямант пана Кавалюка» і іншых высмейваў дзейнасць віленскіх чарнасоценцаў і рэдактара часопіса С. А. Кавалюка. *ЭД, с. 304.*

*Ліпень, 9.* Напісаны верш «Жальцеся, грайкія струны». Упершыню — «Гусляр».

*Ліпень, 11.* Напісаны верш «Маладым на вяселлі» («Не дубок пры ніўцы ў гаі»). Упершыню — «Полымя», 1929, № 3.

*Ліпень, 22.* Напісаны верш «Дзяўчынка і вянок». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Ліпень, 23.* У «Нашай ніве» карэспандэнцыя Я. Купалы «Астрашыцкі Гарадок» (подпіс І. Л.).

*Ліпень, 28.* Напісаны вершы «Зажынкі». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 31—32, 6 жн.; «Ігнат і п'яўкі». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 33, 13 жн.

*Ліпень, 31.* Напісаны верш «Апекунам». Упершыню — «Спадчына». Пераклаў верш Я. Каспровіча «У свет» («W świat»). Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Ліпень.* З успамінаў В. Ю. Ластоўскага: «У ліпені месяцы ў Рэдакцыю «Нашай нівы» прыбыў С. Палуян. Да энтузіястычнай і без таго атмасферы, якая ў тыя часы панавала ў «Нашай Ніве», упаў кіпучы метэор. Тэмпература атмасферы, а разам з гэтым і тэмпераменты паасобных працаўнікоў адразу падняліся. Пачулася нейкая напружанасць. Горстка беларусаў, прапаведнікаў адраджэння, сабраная каля «Нашай Нівы», акружаная з усіх старон варожнай атмасферай, раптам уявіла сабе, што знаходзіцца на полі бітвы. Што напіраючая з усіх старон лавіна варожасці можа змыць іх, што, каб устаяць, патрэбны нейкі надлюдскі высілак, нейкі чын, нейкае дзеянне так яркае, каб, як мігавіца, асляпіла супраціўны абоз і ўстрымала яго. Такі дзіў, усім было ясна, мог адбыцца толькі ў дзядзіне духовасці, толькі ў тэй горстачцы, якая трымала штандар або гарнулася пад яго. Дзеля гэтага ўчытваліся ў кожную фразу, створаную паміж намі і надасланую нам поштай. Услухаліся чоўка і пільна ў тэмп каждай карэспандэнцыі, кожнага верша, напісанага па-беларуску. Стаўлялі самі сабе магчыма большыя вымогі. У выніку двох-трох месячнага такога напружання мы самі ўзраслі, а перш за ўсё ўзрос Янка Купала. Мы гэта чулі і разумелі.

Гэты цыкл завяршыў верш Я. Купалы «Снег», які, саўсім беспадстаўна, аўтар падпісаў «паводле Пржыбышэўскага». *Шляхам гадоў, 1993, с 155—156.*

*Жнівень, 18.* Напісаны верш «Вісельнік». Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 37, 10 верас. пад назваю «Зоркі не ўбачыш, і мгла непрыхільная», які адлюстраваў ідэйны разлад Я. Купалы з выдаўцамі «Нашай нівы».

*Жнівень, 31.* У часопісе «Przegląd Krajowy» (Кіеў) пачатак артыкула Е. Янкоўскага «Песняры маладой Беларусі».

*Верасень, 16.* З артыкула Е. Янкоўскага: «Побач з Коласам творыць і развіваецца другі паэт сучаснай Белай Русі — Янка Купала. Валодаючы арыгінальным і яркім талентам, ён хутка вызваляецца з-пад уплыву тых сфер, якія яго абудзілі да творчасці. Што можа быць цікавым, улічваючы стыхійную непасрэднасць нашага асяроддзя, перанасычанага і перамучанага хваравітасцю, а таксама экзатычным мастацтвам вялікага горада, у жыцці і паэзіі Янкі Купалы? Яго постаць, жыццё, асяроддзе і паэзія — гэта звяно аднаго непарыўнага ланцуга. Мы маем перад сабой сапраўды чалавека з народа, які не так даўно касіў і баранаваў на бацькоўскім загоне... з жыццёвай патрэбы... Светлавалосы хлапчук павінен быў прайсці суровую грамадзянскую школу і перажыць палітычнае пекла, якое мала гарманіравала з яго лагодным і ясным характарам, і знайсці, патрапіць на сваю народную песню... Нібы паказваючы негрунтоўнасць меркаванняў пра штучнае адраджэнне беларускай культуры, вырас паэтычны талент Купалы. Арганічнасць яго з'яўлення бясспрэчная... Аснову яго паэзіі складаюць вершы з незвычайным адчуваннем прыроды краю і людзей. Купала не проста наглядае, як Колас. Апісанняў яго муза не ведае, затое ў своеасаблівай самабытнай рытміцы, у складзе верша гэтага песняра праглядваецца штосьці незвычайнае... ён... умее... мімаходзь стварыць верш майстэрскі, поўны арыгінальнага тэмпераменту, дасканалы стылёва. У ім задума спявае, размах натуральны, пераліваецца ў ім сіла, радасць існавання і захапленне сваёй сялянскай долі... Калі Купала не цураецца мяккага лірызму, апявае каханне, патрыятычныя парыванні і кліча народ да абуджэння, дык Колас заўзята замыкаецца ў грамадскіх настроях. Ідэаліст у дадзеным выпадку процiпастаўляецца рэалісту, крылаты арганаўт — вязню ўласнага болю. Бо калі песня Купалы шырока ідзе ў сонечны свет шукаць залатое руно эстэтычных каштоўнасцей, зашыўшы на грудзях жменю роднай зямлі, муза Коласа застаецца ў сценах паўсядзённай рэчаіснасці...

Не будзе, трэба думаць, фальшывым прароцтвам сцвярджэнне, што маладая беларуская паэзія зойме пачэснае месца ў шэрагу братніх славянскіх літаратур».

*Верасень, 21.* Напісаны верш «Палац». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Верасень, 23.* Напісаны верш «Даўгажданая». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Верасень, 25.* Напісаны вершы «Курганы». Упершыню — «Гусляр»; «Чорны Бог». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Верасень, 26.* Зрабіў пераклад верша А. Кальцова «Путь» («Гасцінец»). Упершыню — «Полымя», 1929, № 3; верша М. Канапніцкай «Родны дом» («Pieśń o domu»). Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Кастрычнік, 8.* У «Нашай ніве» (№ 41) верш «Як я полем іду...» (без загалоўка).

*Кастрычнік, да 15.* Па рэкамендацыі Б. Даніловіча паехаў на работу ўпраўляючым маёнтка Бенін Навагрудскага пав.

*Кастрычнік, 15.* У Беніне напісаны верш «Памаліся». Упершыню — «Гусляр».

*Кастрычнік, 17.* У Беніне напісаў верш «З кірмашу». Упершыню — «Гусляр».

*Кастрычнік, 20.* У Беніне напісаў верш «Прад світаннем». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Кастрычнік, 22.* «Наша ніва» (№ 43) паведаміла, што друкуюцца «Першы беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1910 год» і асобным выданнем «А хто там ідзе?» з музыкай Л. Рагоўскага.

*Кастрычнік, 23.* Напісаў верш «Ноч за ночкай». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 37, 9 верас.

*Кастрычнік, 29.* У «Нашай ніве» (№ 44) верш «Адцвітанне».

*Лістапад, 6.* Прапісаны ў 6-м участку г. Вільні — д. № 17 па Замкавай вуліцы.

*Лістапад, 8.* Напісаны верш «Прыяцелі». Упершыню — «Полымя», 1966, № 10. *Александровіч С. Кнігі і людзі. Мн., 1976. С. 82.*

*Лістапад, 10.* У рэдакцыі «Нашай нівы», дзе сабраліся Я. Купала, Ядвігін Ш., В. Ластоўскі, І. Луцкевіч, С. Палуян, А. Бурбіс, Л. Рагоўскі, А. Уласаў (яго рукой напісана віншаванне) і іншыя падпісалі сумеснае віншавальнае пісьмо М. Федароўскаму — збіральніку беларускага фальклору, аўтару шматтомнай працы «Люд беларускі» — з нагоды 3-гадовага юбілею газеты. *Саламевіч Я. Міхал Федароўскі. Мн., 1972. С. 50—51.*

*Лістапад, 12.* У «Нашай ніве» (№ 46) верш «З мінуўшых дзён».

*Лістапад, 21.* Напісаў верш «Паліліся мае слёзы». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Напісаў ліст Б. І. Эпімах-Шыпілу. «...Я хацеў бы запытацца Вашай ласкі, што добрага чутно аб маёй справе? Я ў Вільні доўга не магу трымацца, а так шчыра хацелася б не загінуць і пажыць дзе-небудзь у культурным мейсцы, каб сябе загартаваць і адшліфаваць на службу беларушчыне і беларускаму грамадзянству... Мне надта хацелася б убіцца ў Пецярбурзе ў якую-колечы бібліятэку; так гэта заняцце неяк страшна люблю! Калі б што-небудзь падвярнулася, то тэлеграфуйце мне — я кажнай секунды магу да Вас з'явіцца. Калі нічога зноснага не прыдумаеце, то тыкі папраўдзе са мной кепска будзе».

*Лістапад, 27.* У газеце «Новая Русь» (№ 292) артыкул Я. Хлябцэвіча «Жалейка» Янки Купалы» пад псеўданімам Евгеньев.

*Лістапад, 29.* Падпісаў сваё фота 1908 г. С. Е. Палуяну. *Ватацы Н. Максім Багдановіч. Паказальнік твораў, аўтографаў і крытычнай літаратуры. Мн.,1977. С. 114; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 355.*

В. Ю. Ластоўскі ўспамінаў: «Было гэта позна восенню. Выпаў першы глыбокі белы снег, мяккі, пушысты і цёплы. Мы, як і Палуян, сядзелі ў мяне дома. Было ўжо па 12-й гадзіне вечара. С. Палуян і Я. Купала, як мы тады казалі, «выбіраліся ўжо ў вырай» — меліся выязджаць з Вільні. Выязджаць, шукаючы залатога руна асветы, каб вярнуцца з часам волатамі ў дзядзіне творчасці. С. Палуян і я непакоіліся, што Я. Купала меў некаторую склоннасць да «шклянога бога». У гэты момант увайшоў Я. Купала, румяны, паводле ўсіх азнак, пад знакам Вакха. Пачалося тварыскае казанне. Я. Купала сеў у куце за сталом і маўчаў. На ніякія нашы закіды не адказваў, толькі нешта крэмзаў на пакомканай паперцы алоўкам. Калі мы вычарпалі ўсе свае аргументы і прымоўклі, Я. Купала сказаў: «А цяпер паслухайце, хлопцы». І прачытаў свой верш «Снег». Цяпер, паражаныя хараством верша, мы змоўклі — усе нашы аргументы былі разбіты. Аказалася, што Я. Купала быў таго вечара ў тэатры, у якімігралі Пржыбышэўскага «Снег». Мастацтва і прырода ўтварылі настрой, рэшта дапоўніў творчы геній аўтара». *Шляхам гадоў, 1993, с. 156.*

*Снежань, 2.* З ліста У. І. Самойлы Б. І. Эпімах-Шыпілу: «Теперь же хочу обратиться к Вам письменно все по поводу

нашего бедного Янука. Кажется, он собирается в Питер и думает заехать к Вам, воспользовавшись Вашим давнишним приглашением. Конечно, просить Вас принять в нем участие нечего. Вы были крестным отцом его творений, его литературным опекуном, таким же Вы останетесь для него и лично. Мне он очень дорог как единственный и недостаточно оцененный поэт современной Белоруссии. Только Вы его и цените правильно. И мне просто страшно за него в Питере. Ивановский его берет, кажется, пока в Суполку, предполагая устроить ему какую-либо работу для заработка постоянного. Цель его приезда — учиться. Между нами говоря, Купала как истинный поэт ленив и больше верит во вдохновение, чем в труд. Эту веру надо в нем оздоровить — как раз настолько, чтобы не убить вдохновения. И я думаю, что пребывание у Вас, хотя и временное, окажет на него именно это благодетельное влияние. В Вильне как раз этого условия — не убий, не угашай духа, любви — не было, и часто у них с редакцией было не совсем ладно и складно. Он, кажется, поленивался, его недооценивали. Помогите ему Вашим прекрасным, испытанным трудом, но сохранившим всю свежесть юношеской чистоты и веры в человека сердцем. В Ваше влияние я глубоко верю. Любовь женщины — любовь слепая, распыляющая душу, творит чудеса, но эта любовь лишь будит «чудо», сияющее в поэте; любовь мужского духа, зрячая, просвещенная, собирает душу поэта чистейшим чувством дружбы и благодарности, делает из него истинного рыцаря духа без страха и упрека — героя не на час, а на всю жизнь. Такое чувство нужно разбудить и воспитать в Купале, — без него нет поэта. И объект этого чувства, субъект этой миссии — Вы. Купала Вас полюбит, помогите ему. Боюсь я за него очень». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 53—54.*

*Снежань, 3.* «Наша ніва» (№ 49) апублікавала верш «Снег» з падзагалоўкам «Па Пшыбышэўскім».

*Снежань, 4.* Пераехаў у Пецярбург. Пасяліўся на кватэры Б. І. Эпімах-Шыпілы. Паступае на агульнаадукацыйныя курсы А. С. Чарняева.

*Снежань, да 17.* У Вільні, у выдавецтве «Нашай нівы», выйшаў «Першы беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1910 год». У ім змешчаны верш Я. Купалы «Песня званара», вершы Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі, А. Паўловіча, Ядвігіна Ш., Ц. Гартнага, творы Р. Зямкевіча, П. Простага і інш. Дадаткам да календара выдадзена песня на словы Я. Купалы «А хто там ідзе?» (музыка Л. Рагоўскага). *«Наша ніва», 17 снеж.*

*Снежань.* Напісаны верш «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з Новым 1910 годам». Упершыню — «Гусляр».

*На працягу года.* Пераклады твораў Я. Купалы апублікаваны ў украінскім друку: у «Літературно-науковому віснику» (т. 37, кн. 4) — «А ты, браце, спі» і «Вольха»; у 30-м выпуску «Просвітних листків», які з'яўляецца асобным выданнем нарыса І. Крып'якевіча «Беларусы»,— «А хто там ідзе?» і «Памяці Шаўчэнкі» («Ад гасцінца да гасцінца»).

У 1909 г. напісаны вершы «Было гэта», «Брату», «Ісцінна чорнае трыо», «Калатуха», «Песня жнеяў», «Тут і там», «Шуман», «Я і воля мая», «Я не плачу над братняй магілай»; няскончаны твор «Уступ да паэмы». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3 пад загалоўкам «Адрывак».

## 1910

*Люты, 11.* У артыкуле «Беларуская літаратура ў 1909 годзе» («Наша ніва», № 7) С. Ясеновіч (С. Палуян) пісаў: «З старых пісьменнікаў асаблівае месца ў тым годзе займае Я. Купала. Ад гэтага песняра Беларусь можа чакаць многа, калі ён толькі будзе з увагаю глядзець за сваім паэтычным развіццём. Талент яго ўжо паказаў нам сябе, ды на жаль, багата ёсць у яго вершаў неабдуманых, неаброблёных. Спатыкаюцца часта і перапевы колькі разоў аднага і таго ж, бадай тымі самымі словамі. Усё ж такі ў палавіне таго года можна прыкмеціць паварот у яго паэзіі. Новыя творы ўжо акуратна абдуманыя, тэм розных многа, форма лёгкая, усюды артыстычна апрацаваная. Калі бачым дзе якія няхваты, дык відаць і ўнутраную сур'ёзную работу, і праўдзівае разуменне задач літаратуры. Яшчэ не многа было гэтых новых вершаў, але ўжо можна сказаць, што перад Купалам вялікая будучыня, калі толькі ён не сыдзе з выбранага гасцінца».

*Люты, 12.* У клубе чыгуначнікаў пры вуліцы Херсонскай у Вільні адбылася першая беларуская вечарынка. Хорам кіраваў кампазітар Л. Рагоўскі. Выканалі «А хто там ідзе?» на яго музыку.

*Люты.* У Пецярбургу пазнаёміўся з Цёткай (А. С. Пашкевіч) асабіста. *ЭД, с. 641.*

*Красавік, 9.* У 3-м участку Нарвскай часці Пецярбурга Я. Купала прапісаны як практыкант Казённага віннага завода № 3. (Пакуль не высветлена.)

*Красавік, 26.* Напісаны верш «Песня сонцу». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 27, 1(14) ліп. Гэта першы твор, напісаны Я. Купалам у Пецярбургу.

*Красавік, 28.* Напісаны верш «Мой пагляд і мэта». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Май, 6.* Напісаны верш «Явар і каліна». Упершыню — «Беларускі каляндар «Нашае нівы» на 1911 год», Вільня, 1910.

*Май, 17.* З'явіўся ў 1-м участку Васільеўскай часці Пецярбурга з д. № 1 па 6-й лініі. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 49.*

Напісаны верш «Брату ў чужыне». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 32, 5 (18) жн.

*Май, 20.* Напісаны верш «Мой дом». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 25, 17 (30) чэрв. Гэта першая публікацыя твораў Я. Купалы, напісаных у Пецярбургу, у «Нашай ніве». Подпіс — Янка Купала, а не Янук Купала, як было дасюль.

*Май, 23.* Закончыў паэму «Курган». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 25, 21 чэрв. з прысвячэннем «Памяці С. Палуяна». Факсіміле першых 7 строф чарнавога аўтографа ў часопісе «Чырвоная Беларусь», 1932, № 18. Поўны аўтограф у Лонданскай бібліятэцы і музеі імя Ф. Скарыны. Апублікаваны: «The Journal of Byelorussian Studies». Vol. V, № 2, year XVIII. London, 1982, p. 51—57. *ЭД, с. 326—327.*

*Чэрвень, 4.* Напісаны верш «Мая дзяўчынка». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 28, 8 ліп.

*Чэрвень, 5.* Напісаны верш «На Купалле». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 26, 24 чэрв. Гэта першы варыянт маналога Старца з паэмы «Сон на кургане».

*Чэрвень, 11.* У 2-м участку Васільеўскай часці Пецярбурга прапісаны ў д. № 45 па 6-й лініі.

*Чэрвень, 20—21.* Разам з Б. І. Эпімах-Шыпілам і А. А. Грыневічам пабываў у Фінляндыі. Наведалі вадаспад Іматра на р. Вуокса. Тут напісаў верш «Над Іматрай». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 30, 22 ліп., артыкул «З Фінляндыі». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 29, 15 ліп., № 30, 22 ліп.

*Чэрвень, 24.* Напісаны вершы «Паляўнічы і пара галубкоў». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 37, 13 верас.; «Жніво» («Наспелая постаць шчаслівых пасеваў»). Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 29, 15 ліп.

У «Нашай ніве» (№ 26) верш А. Ф. Паўловіча «Ноч на Івана Купалу», прысвечаны Я. Купалу.

*Чэрвень, 25.* Падараваў Л. С. Сеўруку асобнае выданне «Адвечнай песні». *ЭД, с. 556—557; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 363.*

*Чэрвень, 29.* Скончыў пераклад уступу да паэмы А. Міцкевіча «Конрад Валенрод» («Сто лет мінала крыжацкай навале»). Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Чэрвень.* Беларускі настаўнік Андрэй Фёдаравіч Посах, з якім Я. Купала пазнаёміўся, як працаваў на бровары ў Яхімоўшчыне, у час замежнай экскурсіі наведаў на востраве Капры ў Італіі Максіма Горкага і расказаў яму пра Я. Купалу. З успамінаў А. Ф. Посаха: «Аляксей Максімавіч выявіў вялікую цікавасць да ўсяго новага, што адбывалася ў Расіі, цікавіўся літаратурай, мастацтвам. Ён расказаў, што з розных куткоў Расіі пачынаючыя пісьменнікі дасылаюць яму для водгукаў свае творы, прычым Аляксей Максімавіч з гонарам гаварыў, што большасць аўтараў — людзі з «нізоў»: рабочыя, сяляне, сельскія настаўнікі. Я расказваў Горкаму пра беларускага паэта Янку Купалу. Па просьбе Аляксея Максімавіча я прачытаў на памяць вершы Купалы «А хто там ідзе?» і «Мужык». Горкі быў у захапленні ад прастаты паэзіі Купалы, ад любві, з якой аўтар гаворыць аб мужыку. Прасіў успомніць і прачытаць іншыя яго вершы. Я абяцаў пасля прыезду дадому выслаць першы зборнік Купалы «Жалейку». Прыехаўшы ў Расію, я паслаў Аляксею Максімавічу абяцаную «Жалейку» і зборнік вершаў Якуба Коласа «Песні-жальбы».

*Чэрвень.* Напісаны верш «Ён і яна». Упершыню — «Шляхам гадоў».

*Ліпень, 8.* Газета «Наша ніва» (№ 28) у аб'яве з паметаю «Толькі што выйшлі» паведаміла пра асобную кніжку «Адвечнай песні» Я. Купалы.

*Ліпень, 9.* Напісаны артыкул «Ці маем мы права выракацца роднай мовы» (подпіс — І. Л.). Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 15, 17 крас. Артыкул з'явіўся рэакцыяй паэта на выпады газет «Виленский вестник», «Минское слово», «Новая Русь», «Dzień» супраць «Нашай нівы», беларускага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху, беларускай мовы і літаратуры.

*Ліпень, 10.* Напісаны верш «Грабар». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Ліпень, 15.* У «Нашай ніве» (№ 29) вершы «Жніво» («Наспелая постаць шчаслівых пасеваў»), «Над Іматрай», ч. І дарожнага нарыса «З Фінляндыі» (подпіс — Я. К.); заканчэнне ў № 30, 22 ліп. (подпіс — Я. К-а), памета: Іматра —

Пецярбург. У нарысе паэт выказаў свае ўражанні пра паездку, назіранні над прыродай краіны, жыццём фінскага народа.

*Ліпень, 17.* Напісаны верш «Я ад вас далёка». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 33, 12 жн.

*Ліпень, 20 — жнівень, 8.* Напісана паэма «Сон на кургане» — 1793 паэтычныя радкі. Упершыню — «Маладая Беларусь», 1912, сер. 1, сш. 1 з прысвячэннем «Памяці свайго бацькі і брата». Асобнае выданне выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» зрабіла ў 1913 г. (на тытульным лісце — Пецярбург, 1912), відаць, з набору ў «Маладой Беларусі».

*Ліпень, 20.* Я. Купала пачаў 1-ы абраз паэмы «Сон на кургане».

*Ліпень, 22.* Скончыў 1-і абраз «Сну на кургане».

*Ліпень, 26.* Скончыў 2-і абраз «Сну на кургане».

*Ліпень, 28.* Скончыў 3-і абраз «Сну на кургане». Напісаў верш «Воўк». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 34, 19 жн.

*Жнівень, 8.* Напісаны верш «Ноч за ночкай». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 37, 9 верас.

*Жнівень, 17.* Напісаны вершы «Сэрца спытай...». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 52, 23 снеж.; «Гэй, капайце, далакопы...». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 4, 27 студз. з падзагалоўкам «Белорусской жизни».

*Жнівень, 19.* Напісаны верш «Мая думка». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 36, 2 верас. з падзагалоўкам «Ахвярую Канстанцыі Буйло».

*Верасень, 1.* Літоўская газета «Вілціс» змясціла артыкул Людаса Гіры «З беларускай літаратуры», у якім аўтар пісаў: «Купала — гэта яркае свяціла на беларускім Парнасе, гэта сапраўды таленавіты пясняр. Так, як ён, не пісаў і не піша ў беларусаў ніхто больш. Яго вершы, яркія і звонкія, нагадваюць нам Майроніса. Лірык ён незвычайна далікатны і глыбокі. Сапраўдны дэмакрат. Гэта пясняр нядолі простых людзей... Чулая душа Купалы ўмее раскрыць усю глыбіню чалавечай псіхалогіі. Асабліва сялянскай псіхалогіі. І ў гэтым змястоўнасць яго вершаў. І своеасаблівасць. Змястоўнасць і своеасаблівасць, якія не кідаюцца ў вочы, але якія нагадваюць жыццё селяніна (як беларускага, так і літоўскага), каторае толькі на першы погляд аднастайнае. Паэзія гэта падобна на сусвет, угледжаны вачыма нашых людзей, які, паводле літоўскай прымаўкі, больш стракаты, чым дзяцел. Магутны ўздым адраджэння народа, які вырваўся з грудзей, прагных свабоды і святла, як пярун, як той адвечны боль, што доўга прыгнятаў

літоўскі і беларускі народы, гучыць у яго вершы-гімне беларускага народа (Л. Гіра тут прыводзіць верш Я. Купалы «А хто там ідзе?» у сваім перакладзе.— *Я. С.*). Сваёй цвёрдасцю і прастатой гэта крэда вякамі крыўджанага, а цяпер абуджанага народа з'яўляецца сапраўднай жамчужынай сусветнай паэзіі, адным з найпрыгажэйшых гімнаў адраджэння».

*Верасень, 12.* Друкарня Пянткоўскага зрабіла тыраж (2500 экз. на звычайнай і 100 экз. на вяленевай паперы) «Адвечнай песні» Я. Купалы. *Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць, с. 185.*

*Верасень, 13.* З Неапаля (востраў Капры) выслана пісьмо М. Горкага ў «Нашу ніву» з просьбаю даслаць сярод іншага і «песню Я. Купалы «А хто там ідзе?» — с нотами». *ЦБАН Літвы, ф. 21, адз. зах. 321.*

*Верасень, 16.* У «Нашай ніве» (№ 38) рэцэнзія Вл. С. (У. І. Самойлы) на «Адвечную песню» Я. Купалы і адказ А. Бульбы польскаму крытыку З. Пяткевічу, які ў артыкуле «Адвечная песня» Купалы» (газ. «Prawda», № 39) закрэсліваў паэму Я. Купалы і беларускую літаратуру наогул. З рэцэнзіі У. І. Самойлы: «Паэзія Купалы — адзін з найцаннейшых скарбаў, якія нясе з сабой нацыянальнае адраджэнне беларусаў. У ёй ярчэй, глыбей і паўней адбіваецца ўвесь змест, хараство, разгон і веліч гэтага мо найважнейшага ў гісторыі нашага краю здарэння. Янка Купала — душа й язык прабудзіўшагася да новага жыцця народа, і ў гэтым усё значэнне яго паэзіі як нацыянальнае, так і агульналюдскае. Жывая энергія, яснае і праўдзівае пазнанне свайго «я» і ўсяго, што ёсць навокал гэтага «я»,— вось дзве найважнейшыя рэчы, з каторых складаецца паэзія Купалы, дзякуючы каторым яна мае нейкае асобнае, сваё, нацыянальнае хараство... Яго паэзія — гэта паэзія праўды, паэзія праўдзівага — без усялякіх прыкрас — жыцця беларуса-хлебароба... Праўдай, верай у будучыню, бодрасцю, але і нейкім жалем разам з глыбокім самапазнаннем вее ад усіх твораў Янкі Купалы. Новая кніжка нашага маладога песняра — «Адвечная песня» яшчэ раз пацвярджае ўсё тое, што мы аб ім тутака сказалі... Паэма Купалы прымушае нас моцна задумацца... Жыць так, як дагэтуль, у поўнай залежнасці ад прыроды і ад сляпой сілы прыпадку, ужо няма змогі: трэба жывой, свядомай энергіяй чалавека зваяваць «голад і холад» мужычага жыцця, трэба новай працай палажыць канец панаванню прыпадку, панаванню «царыцы-бяды», каторая папраўдзе скрозь запанавала па нашых вёсках, заўладала старым, «адвечным» жыццём... Мужык ужо стаў *чалавекам*,

катораму «ўсясільнай рукою тварэння даны правы істнення»... Гэты голас Жыцця павінен кіраваць думкамі беларуса-мужыка, клікаць яго рвацца «к радасці, славе, багаццю», «к сонцу жыцця», не паддаючыся сляпой і прападковай Долі».

*Верасень, 17.* Пісьмо М. Горкага з Неапаля прыйшло ў Вільню, у рэдакцыю «Нашай нівы».

*Верасень, 21.* У газеце «Минский голос» верш Я. Купалы «Я не паэта» ў перакладзе на рускую мову Homo.

*Верасень, 24.* У 3-м участку Пецярбургскай часці Я. Купала прапісаны ў доме № 15 па Малой Дваранскай. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 49.*

*Верасень, 25—26.* У Полацку, дзе адбыліся беларускія вечары — выступленні трупы І. Буйніцкага, чыталіся разам з вершамі Я. Коласа, М. Багдановіча, Я. Лучыны, А. Паўловіча і вершы Я. Купалы «Чаго б я хацеў», «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні», «Песенька для некаторых маладых людзей».

*Верасень, 27.* Напісаны верш «Памяці Мар'і Канапніцкай». Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 41, 7 кастр.

*Верасень, 30.* У «Нашай ніве» (№ 40) некралог М. Канапніцкай, верш паэтэсы «Пара» ў перакладзе Я. Купалы, а таксама верш Я. Купалы «Дудар» з паметай «Аўтару «Беларускай Гісторыі» Власту».

*Верасень.* Настаўнік А. Ф. Посах паслаў М. Горкаму на востраў Капры «Жалейку» Я. Купалы. *«Полымя», 1947, № 6, с. 77.*

*Кастрычнік, 8.* З пісьма А. Грыневіча: «Huślar» у мяне позніцца больш чым на 2¹/₂ нядзелі дзеля таго, што хацеў вокладку з рысункам. Зрабіў два рысункі і абодва забракаваў: каб не страціць больш часу, пусціў так, без рысунка і агледзеўся, як бачу, будзець дужа добра». *Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць, с. 185.*

*Кастрычнік, 10.* Падараваў Л. С. Сеўруку зборнік «Гусляр». *ЭД, с. 557; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 363.*

У «Нашай ніве» (№ 43) абвестка: друкуецца і хутка выйдзе «Беларускі каляндар «Нашае нівы» на 1911 год». У ім верш Я. Купалы «Явар і каліна».

*Кастрычнік, 13.* Друкарня Пянткоўскага зрабіла тыраж зборніка «Гусляр» (250 экз. на звычайнай паперы і 100 экз. на вяленевай). Пазней паэт успамінаў, што Б. І. Эпімах-Шыпіла, «баючыся, каб гэты зборнік не прынёс яму столькі клопату, колькі «Жалейка», выкінуў усё тое, што магло не спадабацца цэнзуры, і на ўсякі выпадак надрукаваў зборнік адной лацінкай, каб лягчэй было абысці цэнзара». *«Полымя», 1947, № 6, с. 72.*

*Кастрычнік, 19.* Ліст у «Нашу ніву». *ПЗТ, т. 8, с. 19—20, 364—365.*

*Кастрычнік, 21.* У «Нашай ніве» (№ 43) рэцэнзія А. Бульбы на зборнік Я. Купалы «Гусляр». З рэцэнзіі: «Пануе ў творах Янкі Купалы фантазія, адмыкае ў ім вялікае багацтво форм, напаўняе яго думы, і ліецца песня гусляра. Багацтво настраенняў прабіваецца ў кожным яго творы. У кароткім вершы маем колькі абразоў, гарманійна зліваючыхся ў адзін, каторы малюе пуцяводную думку. Ці кінецца Купала ў даўнейшы мыт, ці загляне ў даўны курган, што віднеецца на нашай бацькаўшчыне, ці ўдарыць у сумную заімглёную цяперышыну,— з усяго дабудзе тон родны, дабудзе той асобны беларускі матыў. Думае наш пясняр аб «ціхіх мальбішчах айчызны» і ім нясе «сваю ношу». І верыць, што пакуль думка а праўдзе «ня ўздзене плесні-сівізны», «моц сваю свету пакажам» і шмат зробім, станем як паўнапраўны народ, аж «здзіўляцца старцы і дзеці, што значыць вельмі хацеці»!.. Вельмі кахае пясняр нашы горы, даліны, рэчкі, курганы: у іх ён складае свае найвялікшыя думкі, яны служаць яму тэмай творчасці. Хоць і сумная наша цяпершчына, хоць народ наш ідзе абмацкам, не знаючы, хто ён і якое пекнае назначэнне яго ў паходзе чалавецтва,— Купала за наш народ кажа: «Шлях залаты працярэбім, Зорна ўзнясёмся ў высоты, Вышай няпраўды, няславы, Вышай пакутных балотаў». ...Веру, што далейшай самабытнай творчай працай Янка Купала займе ў нас адно з першых мейсц і заслужыць на добры спамін; любоў нашага песняра да роднай старонкі — гэта агонь жыцця, пры каторым начынае цьмы крылы папалаць і нас за народ жывы палічаць. З шчырага сэрца скажу толькі адно: «Працуй і сей, Я. Купала — будзе ўсход, узыйдуць зёрны, сеяныя шчодрай і шчырай рукой!»

*Кастрычнік, 28.* У пісьме ў «Нашу ніву» са станіцы Вялікакняжацкай тэхнік А. К. Аляхновіч прасіў разам з «Песнямі-жальбамі» Я. Коласа выслаць «Гусляра» і «Адвечную песню» Я. Купалы. *Песні беларускай валадар. Мн., 1981. С. 149 (далей будзе: Песні беларускай валадар.— Я. С.).*

*Кастрычнік, 29.* У часопісе «Dziennik Kijowski» (№ 286) першы пераклад на польскую мову верша Я. Купалы «Памяці Мар'і Канапніцкай» (пераклаў Е. К.).

*Кастрычнік, 30.* Друкарня Пянткоўскага выставіла А. Грыневічу рахунак за выданне «Адвечнай песні» і «Гусляра» Я. Купалы — 379 руб. 26 кап.

*Лістапад, 5.* У «Нашай ніве» (№ 44—45) верш «Мой край».

*Лістапад, 7.* Азнаёміўшыся са зборнікам «Жалейка» і «Песні-жальбы», прысланымі ў верасні на востраў Капры настаўнікам А. Посахам, М. Горкі пісаў М. Кацюбінскаму: «В Белоруссии есть два поэта: Якуб Колас и Янка Купала — очень интересные ребята! Так примитивно-просто пишут, так ласково, грустно, искренно. Нашим бы немножко сих качеств!

О, господи! Вот бы хорошо-то было!

В книжку мою вложен листок — песня и ноты (гэта было асобнае выданне верша «А хто там ідзе?» з музыкай Л. Рагоўскага.— *Я. С.*), нечто вроде белорусского гимна, должно быть».

Меня эта вещь взволновала». *Коцюбінський М. Твори. Київ, 1949. Т. 3. С. 206.*

*Лістапад, 11.* У «Нашай ніве» (№ 46) верш «Сельскія могілкі», артыкулы З. Пяткевіча «З лістоў да рэдакцыі» і А. Бульбы «Адказ пану З. Пяткевічу». З артыкула З. Пяткевіча: «А. Бульба саўсім перакруціў мае мыслі і мае словы і кажа, што я ўлез у скуру паступовага дэмократы, і што я не знаю ні беларусаў, ні іх літаратуры, ні душы народу. На гэта я вам скажу, што яшчэ А. Бульба не ўмеў чытаць і пісаць, можа быў маленькім хлопцам, калі я ўжо напісаў расправу а беларусах, сабраў дзвесце песней і мабыць добра я знаў гэты народ і добра з нім зжыўся, калі мне дзяўчата і хлопцы дыктавалі песні, а старыя людзі і знахары адкрылі ўсе замаўляння. Багата лет я пражыў між беларускім народам. Радзіўся я там і вырас, гуляў з беларускімі дзецьмі ў полі, у лесе і ў хаце, еў з імі з адной місы. Прыглядаўся я добра іх цяжкай долі, бачыў не раз іх слёзы і горкае жыццё, а гэтую цяжкую долю я апісаў у повесьці «Dla szczęścia» («Для шчасця»), каторай, пэўне, не чытаў А. Бульба! Адсылаю я яго да Энцыклапедыі, там найдзе ўсё, аб чым я пісаў... Калі я сказаў, што няма яшчэ беларускай літаратуры, то значыць, што няма ей мінуўшчыны, але я веру ў будучыну жывога народу. Беларуская літаратура яшчэ творыцца, расце з гэтага народу.

Ротам Бульбы гаворыць злосць і гнеў, калі ён называе мае погляды зваротнаю хваляю поглядаў праўдзіва-расейскіх з праўдзіва-польскімі. Няхай А. Бульбе скажа яго сумленне, ці гэта ўсё праўда; ці можна так смела брызнуць чалавеку балотам у вочы. Няхай ён прыпомніць нядаўнюю мінуўшчыну, калі я быў рэдактарам «Wileńskiej Gazety» (1906 г.) і якая была праграма гэтай газэты ў справе беларускага народу. Няхай прыпомніць, а будзе яму сорам».

З артыкула-адказу А. Бульбы: «Я сам па сабе ніякай злосці, ніякага гневу проці Пана Пяткевіча не маю. Я вельмі цаню і шаную яго працу, як польскага паступовага журналіста і літаратара, і калі ён выступае ў польскіх справах добра знаючы жыццё польскага народу ад найдаўнейшых часоў да цяперашніх, то між намі споркі не будзе. Але калі той жа самы Пан Зянон Пяткевіч бярэцца асвячаць беларускія справы, ад каторых ён *цяпер* вельмі далёк, як гэта відаць з яго крытыкі «Адвечнай песні» і вышэй надрукаванага ліста, то я з ім не згаджаюся, пацвярджаю свае думкі аб ім, выказаныя ўжо ў «Нашай Ніве». Гэта не значыць, што я яму «брызгаю ў вочы балотам»; гэта значыць: «Калі не дуж, не бярыся за гуж!»

Веру, што Пан Пяткевіч, будучы дзецюком, гутарыў і гуляў з нашай вясковай моладдзю, прыслухіваўся да нашых песень, казак і прыказак і знаў жыццё беларусаў *таго часу*. Але ад таго часу да цяперашніх дзён багата вады ўплыло. Жыццё жывога народу не магло стаяць на мейсцы: маючы багатую *мінуўшчыну*, яно пры новых абставінах прыймала новыя формы і зрабіла тое, што думкі і перажыванні мужыка-земляроба Пан Пяткевіч прыймае за «robiony smutek i płacz inteligienta w skórze pastuszka», за якога лічыць Янку Купалу. Пан Пяткевіч не можа сабе гэтага прадставіць, што *мужык* дарастае да *чалавека-грамадзяніна*, і, відаць, дзеля гэтага лічыць усю цяперашнюю беларускую літаратуру штучнай, даводзячы адначасна, быццам народ, каторы нічога не творыць і не тварыў, можа *быць жывым і мець будучыну* (?!).

Аб паступовых поглядах Пана Пяткевіча я знаў і знаю; вось чаму я і пытаўся, чаму ён пачаў гутарыць аб беларусах у тым самым тоне, якога ўжываюць усялякія «істінные» людзі, каторыя — развіваючы далей свае думкі — даводзяць, быццам беларусаў ніколі нават не было і няма. Вельмі цешуся, што Пан Пяткевіч нічога супольнага з іх поглядамі на беларускую справу не мае.

Пан Пяткевіч, адказваючы мне, затрымаўся на адным: ён выказаў, што ён не вораг беларусаў. Я аб гэта спрачацца не думаў і не думаю: я хацеў паказаць, што Пан Пяткевіч *цяперашняга* беларускага руху не знае і што дзеля гэтага ён вельмі абмыліўся, асвячаючы гэты рух перад польскім паступовым грамадзянствам не так, як ён ёсць. Гэтую абмылку Пана Пяткевіча я прыняў за «тэндэнцыйнасць» і кінуў падазрэнне, што ён «улез у скуру паступовага дэмакраты». Пасля яго адказу я бачу, што гэта была толькі незнаёмасць цяпершчыны беларусаў, а не «тэндэнцыйнасць».

*Лістапад, 21.* М. Горкі пісаў рускаму паэту і перакладчыку, аўтару цыкла вершаў «Беларусь» А. С. Чарамнову: «Белоруссия» пойдет в 34 сборнике (Маецца на ўвазе цыкл вершаў А. Чарамнова, які рыхтаваўся да друку ў 34-м нумары зборніка «Знание», што рыхтаваў М. Горкі.— *Я. С.*).

Кстати спрошу Вас: знаете Вы белорусских поэтов Якуба Коласа и Янко Купала? Я недавно познакомился с ними — нравятся! Просто, задушевно и, видимо, поистине — народно.

У Купалы есть небольшая поэмка «Адвечная песня» — вот бы перевести ее на великорусский язык!»

*Лістапад, 23.* Адбыўся судовы працэс над выдаўцамі кніжак Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская» і «Смык беларускі», што выйшлі ў выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца». З успамінаў Я. Хлябцэвіча: «Янка Купала быў жывым сведкам судовага працэсу над творамі Ф. Багушэвіча. У лістападзе 1910 г. у сувязі з прыцягненнем выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» да судовай адказнасці за выданне твораў Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская» і «Смык беларускі», Янка Купала паведаміў мне, што яму даводзілася супакойваць Б. І. Эпімах-Шыпілу, на кватэры якога знаходзіліся гэтыя выданні. Па словах Янкі Купалы, Б. І. Эпімах-Шыпіла ў чаканні рэпрэсій захварэў, ляжаў хворы ў ложку і вельмі непакоіўся, чакаючы «няпрошаных гасцей» і прадбачачы высылку «ў Сібір». Калі ж настаў суд 23 лістапада 1910 года ў Пецярбургскай Судовай Палаце, Янка Купала прысутнічаў на гэтым судзе сярод публікі на хорах, побач з аўтарам гэтых радкоў». *«Беларусь», 1947, № 9, с. 31.*

*Лістапад, 25.* Выйшаў юбілейны нумар «Нашай нівы» (№ 48), прысвечаны 25-годдзю з дня смерці В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Тут верш Я. Купалы «Памяці Вінцука Марцінкевіча», артыкулы Ядвігіна Ш., А. Бульбы, Р. Зямкевіча і інш.

*Снежань, 8.* Газета «Kurjer Warszawski» (№ 339) змясціла артыкул Ч. Янкоўскага «Беларуская паэма» пра «Адвечную песню» Я. Купалы, у якой аўтар сцвярджаў, што паэма «прымітыўная і апранута ў прасцяцкія рамантычныя формы», мае «неглыбокую філасофію», уяўляе толькі «плач».

*Снежань, 11.* Л. А. Сівіцкая (будучая Зоська Верас) з Гродна ў пісьме ў «Нашу ніву» просіць даслаць разам з іншымі кнігамі зборнік Я. Купалы «Гусляр». *Песні беларускайваладар, с. 149.*

*Снежань, 15.* Карэспандэнт з маёнтка Любань каля Вілейкі просіць «Нашу ніву» выслаць зборнік «Гусляр». *Песні беларускай валадар, с. 149.*

*Снежань, 16.* У «Нашай ніве» (№ 51) упершыню верш «Роднае слова» («Пад навалай крыўдаў, многія сталецці») з падзагалоўкам: «Рэдакцыі, супрацоўнікам, чытачам і прыхільнікам «Нашай нівы» (10/XI 1906 — 10/XI 1910 г.).

*Снежань, 23.* У «Нашай ніве» (№ 52) верш «Сэрца спытай».

*На працягу года.* Напісаны вершы «Беларус», «Ён і яна», «Запушчаны палац», «Каб я меў загончык нівы», «Лясная царэўна», «Мікіта і валы», «Не спадзейся...», «Па дарозе», «Па межах родных і разорах», «Памяці Вінцука Марцінкевіча», «Памяці С. Палуяна», «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу», «Саха і валы» і інш.

## 1911

*Студзень, 6.* У «Нашай ніве» (№1) верш «Ваўкалак».

*Студзень, 7.* Падпісаў У. Г. Караленку зборнік «Жалейка». *ЭД, с. 285.*

*Студзень, 13.* У 2-м участку Васільеўскай часці Пецярбурга прапісаны ў д. № 45 па 4-й лініі.

*Студзень, 20, 27.* У «Нашай ніве» (№ 3—5) артыкул М. Багдановіча «Глыбы і слаі». У ім аўтар пісаў: «Як і ў 1909 гаду, найбольш увагі звяртае на сябе *Я. Купала*; звяртае не толькі велічынёй сваёй здольнасці, але гібкасцю яе, здатнасцю да ўсестаронняга развіцця. Гэта бадай адзіны наш пісьменнік, каторы ідзе ўперад, вядзе нейкую ўнутраную справу і, зрабіўшы ці мала, не супыняецца аж да гэтага часу. Каб даць паняцце аб усёй моцы жыццёвых сокаў яго таленту, мы на мінуту вернемся аж да першых крокаў яго пісьменніцкай працы.

Пачаў ён з шурпатых вершаў, амаль не зусім зліваўшыхся з тагачасным слоем беларускай паэзіі; напісаныя пад Бурачка, залішне расцягненыя, слаба апрацаваныя з боку формы і мовы, яны ўвесь час перапявалі некалькі адных і тых жа тэм. Але не кволасць таленту, а толькі як бы нейкая нядбаласць выглядае зусюль: бо чым, апрыч нядбаласці, можна вытлумачыць з'яўленне хоць бы такіх слоў, як «Спалі вас, песні, дым (?) чырвоны (?)» («Жалейка», стр. 134), *«Гарыста яна»* (Беларусь) (стр. 102), *«Барабаніў плуг»* (стр. 104) і т. д. І ўсё ж такі ці можна за гэта Купалу вельмі вінаваціць? Захоплены абразом прападаючай Беларусі і лічачы, што пясняр перш за ўсё павінен быць грамадзянінам, ён усю ўвагу звяртаў на тое, *што* казаў, не цікавячыся зусім, у якія формы і *як* выліваліся

яго думкі. І што б там ні было, а ўсё ж такі ён будзіў гэтымі вершамі душы чытачоў, дый не толькі таму, што ліліся яны з шчырага сэрца і ў роднай мове: не, і тады ўжо ў яго творах відаць было незвычайны паэтычны талент. Не раз і не два прабівалася там яркая і моцная думка, пара-другая поўных пачуцця і зычных вершаў, хаця яны, праўду кажучы, зараз жа і знікалі, быццам і з'яўляліся толькі для таго, каб лепш кідалася ў вочы агульная слабасць вершаў.

Тое ж самае, здаецца, прыйшлося б сказаць і аб «Адвечнай песні» — паэме, выданай у апошнім гаду, але напісанай яшчэ ў 1908 г. Гэтая пацерка з невялічкіх гутарак-вершаў зусім збіваецца на «Жалейку»: змест іх той жа самы, форма, праўда, гладзей, але не вельмі, — і ўсё ж такі яны пакідаюць глыбейшы след у душы чытача; увесь сакрэт гэтага ляжыць у цэльнасці іх, бо размешчаны яны павэдлуг аднэй і тэй жа думкі і ўвесь час дапаўняюць, падтрымываюць адзін аднаго. Усё жыццё мужыка праходзіць перад нашымі вачыма, і няма там ніводнага моманту, каб не ліліся слёзы, і няма ніводнага пуці да лепшай долі, няма нічога лепшага за смерць... Бязвыхаднасць, безнадзейнасць — вось што чуваць ва ўсёй паэме, што цяжкім камянём кладзецца на душу чытача пасля кожнай праявы. Некалькі іншым тонам напісана толькі «вяселле»,— бадай ці не найлепшая частка паэмы. Калі што яму і шкодзіць, дык мо толькі такія словы, як «кадрыля», «парад» і т. п., а ўсё другое — і бойкі рытм, і рыфмы на сярэдзіне строк, і нават нейкая грубаватасць вельмі жывой мовы — усё на сваіх месцах, усё надта добра падабрана да зместу. Што датыкаецца да найслабейшага боку паэмы, дык — на наш погляд — гэта грубы сімвалізм, прыпамінаючы дзе-якія кепскія месцы з твораў расійскага пісьменніка Л. Андрэева.

Але на «Адвечнай песні» Купала не затрымаўся. Так, у палове 1909 г. яго талент, дасюль глуха клакатаўшы пад шэрай карой «Жалейкі», прабіўся на волю і паказаў, якую ён таіць красу і моц, бліснуўшы такімі вершамі, як «Жніво» («Н<аша> н<іва>» № 29), «Ноч за ночкай ідзе» (Н. н. № 37), «Адгукніся, душа» («Гусляр», стр. 10), «А як мы з хаткі выходзім» («Гусляр», стр. 14), «Зазімак» («Гусляр», стр. 52), «Памяці С. Палуяна» («Гусляр», стр. 55) і др. Праўда, вершаў цалікам добрых з боку формы ў Купалы і цяпер яшчэ няшмат, да таго ж і змест іх не адзначаецца асаблівай глыбінёй і надзвычайнасцю, складаючыся з старых грамадзянскіх і горкаўскіх матываў ды з водгукаў так званага мадэрнізму; але ўсё ж ткі талент Купалы ўзрастае, пашырае круг сваіх тэм і

ўжо не галосіць (ці — лепей — не толькі галосіць), а ўжо паявае смеласцю, жыццёвай сілай і пагардай. Гэтая пераменa зместу адбілася і на форме вершаў Купалы, асабліва на іх важнейшым, усё ажыўляючым нерве — моцна забіўшым рытме. Буйны, шпаркі, ён падмывае, захоплюе чытача, гіпнатызуе яго, не дае апамятавацца, затрымацца і нясе яго ўсё далей і далей. Бадай што ўва ўсіх леташніх вершах Купалы б'ецца ён з вялікай сілай і гуртуе вакол сябе ўсё іншае ў іх. Каб здаволіць яго разгон, канцы строк аж звіняць, з'яўляюцца рыфмы і пасярэдзіне верша, нават словы да яго падбіраюцца зычныя, моцныя; а калі ў мове сталеццямі гнуўшагася беларускага народа не хватае іх, дык Купала ўжывае новыя, выкаваныя ім самім, ні ў жаднага нашага паэты няма такога багатага славара, як у Купалы. Мала таго: нават і дзе-які слабыя бакі яго вершаў маюць прычынай усё тую ж буйнасць моцнага рытму. Захоплены ім, Купала не ацэнівае акуратнасці сваіх слоў, кідаецца да першых папаўшыхся і нярэдка прыносіць сэнс верша ў ахвяру яго зычнасці. Лепшы прыклад таму — даволі харошы верш «За годам год» («Гусляр», стр. 21), збудаваны на адназычнасці, на паўтарэнні адных і тых жа рыфмаў і слоў, чым ён вельмі прыпамінае барматанне якогась цёмнага загавору (глядзі так жа верш «Гусляр» — стр. 5 і др.)».

*Студзень.* У часопісе «Вестник Европы» (№ 1) прафесар А. Л. Пагодзін у артыкуле «Беларускія паэты» раскрыў некаторыя заканамернасці развіцця беларускай літаратуры канца 19-га — пачатку 20 ст. Цытаваў у арыгінале і перакладзе на рускую мову вершы Я. Купалы «Там», «Я мужык-беларус...», «А хто там ідзе?», падкрэсліваў «народны струмень» у мове паэта, «усведамленне сацыяльнай няпраўды» ў зборніку «Жалейка», веру аўтара ў будучыню Беларусі, дасканаласць вершаў Я. Купалы.

*Люты, 15.* Быў на вечарынцы ў зале «Пальма» ў Пецярбургу з удзелам Ігната Буйніцкага, дзе з ім пазнаёміўся.

*Люты, 17.* Напісаны верш «Ігнату Буйніцкаму». Упершыню — у артыкуле «Беларуская вечарынка ў Пецярбургу» («Наша ніва», 1911, № 8, 24 лют.).

*Люты, 27.* З Я. Хлябцэвічам быў у Акадэміі навук на вечары памяці Т. Шаўчэнкі.

*Люты.* У часопісе «Современный мир» (№ 2, с. 208) М. Горкі ў артыкуле «О писателях-самоучках» высока ацаніў навейшую беларускую літаратуру: «Я обращаю внимание скептиков на молодую литературу белорусов — самого забитого

народа в России, — на работу людей, сгруппировавшихся вокруг газеты «Наша Нива». Позволю себе привести песню, изданную недавно «Нашей Нивой», слова написаны белорусским поэтом Янком Купалой (далей ідзе верш «А хто там ідзе?» у перакладзе М. Горкага.— *Я. С.*). Чтобы уяснить себе глубокий смысл этой песни, — которая, может быть, на время станет народным гимном белорусов,— читателю следовало бы посмотреть «Нашу Ниву» — она много интересного скажет ему». У заўвазе: «Прошу Янка Купалу извинить мне дурной перевод его красноречивой и суровой песни».

*Сакавік, 10.* У «Нашай ніве» (№ 9—10) верш «Рэчка».

*Сакавік, 27.* Падпісаў кампазітару Л. Рагоўскаму свой зборнік «Гусляр». *«Slavia Orientalis», 1976. R. XXV, № 1, s. 51—54; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 358.*

*Красавік, 19.* Лявон Гмырак звярнуўся ў «Нашу ніву» з пісьмом: «Я як народнік з поглядаў і староннік тэорыі, што «искусство должно существовать для жизни», вельмі рад таму, што большаю часцю наша пісьменнасць носіць народніцка-грамадзянскі характар. Найлепей мне падабаюцца «Песні-жальбы» (Якуба Коласа), «Жалейка», «Адвечная песня» (Янкі Купалы). Не знаю, можа мяне асляпляе беларускі патрыятызм, я іх раўняю з творамі Някрасава і Шаўчэнкі, кажучы, што жыццё нашага люду, яго цярпенні, горасці і псіхалогію Купала і Колас абрысавалі так, як лепей абрысаваць не можна. Эстэтычная вартасць іх твораў... вельмі высокая». *Песні беларускай валадар, с. 146.*

*Красавік, да 21.* У Вільні (выдавецтва «Палачанін») выйшла паэма Т. Шаўчэнкі «Кацярына». Пераклаў з украінскай мовы Х. Чарнышэвіч. Рэдагаваў Я. Купала. Рэцэнзію змясцілі «Дніпрові хвилі» (1911, № 23—24), якую напісаў М. Ж. (Дз. Дарашэнка).

*Май, 12.* У «Нашай ніве» (№ 18—19) верш «Сад».

*Май, 25.* У віленскай газеце «Nowe życie» (№ 34) апублікаваны артыкул Рубера (С. Руднянскага) «З сялянскіх грудзей. Пра сучасную беларускую паэзію», у якім аўтар пісаў пра творчыя сувязі Я. Купалы з польскай літаратурай, з гавэндамі У. Сыракомлі.

*Май, 26.* У «Нашай ніве» (№ 20—21) упершыню верш «Сёмуха». Напісаны ў Вільні, куды паэт заязджаў перад прыездам да маці ў Акопы.

*Май, 30—31.* У Капылі беларускія вечарынкі, наладжаныя мясцовымі беларусамі з дапамогаю І. Буйніцкага. Дэкламаваліся вершы Я. Купалы «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні...»,

«Гоніш мяне, панічок», «Кепска» («Кепска, братцы, жыць нам стала»), «Мой край». *Наша ніва, 11 чэрв.*

*Чэрвень, 1.* У віленскай газеце «Nowe życie» заканчэнне артыкула «З сялянскіх грудзей. Пра сучасную беларускую паэзію» Рубера (С. Руднянскага).

*Чэрвень, 2.* Напісаны верш «Гэй, наперад!». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 24, 14 чэрв.

*Чэрвень, 3.* Напісаны верш «Як у лесе зацвіталі...». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 24, 16 чэрв.

*Чэрвень, 4.* Напісаны вершы «З недацветаў». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 45, 10 лістап.; «З думак мімаходам». Упершыню — Зб. тв. 1932, т. VI.

*Чэрвень, 8.* Напісаны вершы «Хохлік» і «За касой». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Чэрвень, 9.* У «Нашай ніве» (№ 23) верш «Дуб» («Распусціўшы сучча»).

*Чэрвень, 12.* Напісаны вершы «Вярба» і «З табою». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Чэрвень, 13.* Напісаны верш «За чаркай». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Чэрвень, 15.* Напісаны вершы «У купальскую ноч». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 25—26, 1 ліп.; «Песня мая». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Чэрвень, 16.* Напісаны вершы «Не праспі». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 49, 8 снеж.; «Грайце, песні». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Чэрвень, 21.* Напісаны верш «Жняя». Упершыню — «Шляхам жыцця». Верш прысвечаны М. Шышко — сваячцы Ядвігіна Ш.

*Чэрвень, 25.* Напісаны верш «З летніх малюнкаў». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 28—29, 21 ліп.

*Чэрвень.* У пражскім часопісе «Slovanský Přehled» (1911, № 6, с. 411) першы пераклад на чэшскую мову верша «А хто там ідзе?» (перакладчык Адольф Чэрны).

*Лета.* З А. Грыневічам запісваюць у Акопах ад сястры Леакадзіі і ў наваколлі беларускія народныя песні.

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН РБ (аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў) захоўваецца архіў А. Грыневіча. Сярод матэрыялаў ёсць фальклорныя запісы з уласнаручнымі паметкамі і заўвагамі Я. Купалы, якія былі ўлічаны пры падрыхтоўцы да друку зборніка А. Грыневіча «Беларускія песні з нотамі» (1912, т. 2). *«ЛіМ», 1980, 31 кастр. Публікацыя Я. Кісялёвай.*

*Ліпень, 4.* Напісаны верш «Як у повесці». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Ліпень, 5.* Напісаны верш «Мінуты шчасця». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Ліпень, 10.* Напісаны верш «Чатыры крыжы». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 37—38, 22 верас.

*Ліпень, 12.* Напісаны вершы «Дзе?..». Упершыню — «Шляхам жыцця»; «Блізкім і далёкім». Упершыню — «Спадчына».

*Ліпень, 13.* Напісаны верш «За свабоду сваю...». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Ліпень, 14.* Напісаны вершы «Каб я князем быў...». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 1, 5 студз.; «Вячэрняя малітва» і «Заручыны». Упершыню — абодва «Шляхам жыцця».

*Ліпень, 15.* Напісаны верш «Зоркі». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Ліпень, 17.* Напісаны вершы «Я казак — не казак...», «Днём і ночкай працаваў ён», «На ўсе рукі», «Эпіграма на самога сябе». Упершыню — усе «Спадчына»; «Дзве таполі», «Як спытаюцца нас». Упершыню — абодва «Шляхам жыцця».

*Ліпень, да 24.* Ліст у кантору «Нашай нівы», у якім прасіў выслаць у Акопы газету «рускімі і польскімі літарамі» і свае зборнікі «Жалейка», «Гусляр» і «Адвечная песня» «па аднаму экземпляру». Датуецца па рэгістрацыйным запісе: «Исп. 24/VII-1911 г. № 27».

*Ліпень, 28.* Напісаны верш «Ты прыйдзі...». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 39, 29 верас.

*Ліпень, 30.* Напісаны вершы «Над ракою ў спакою». Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 31—32, 11 жн.; «Спека». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Ліпень.* У пражскім часопісе «Slovanský Přehled» (№ 10, с. 410, ліпень 1911 г.) А. Чэрны пісаў: «Найбольш характэрнай, найбольш сталай і найбольш абяцаючай з'явай маладой паэзіі беларускай ёсць без спрэчкі Янка Купала. Гэта з'ява тым цікавейшая, што з'яўляецца як бы сімвалам беларускага адраджэння: беларускі адраджэнцкі рух апіраецца на народ, ім прасякнуты, на ім грунтуецца і для яго працуе, а галоўны паэт гэтага руху выйшаў з народу і належыць народу і сваім жыццём і сваімі творамі. Ён вырас пад убогай сельскай страхой, а не адарваўся і не адцураўся свайго народу... Паводле А. Навіны, «набыў выхаванне — як рабочы ў дворным бровары». Значыць — паэт-самавук. Гэтым тлумачыцца своеасаблівасць яго вершаў, жыццёвасць і ядранасць яго мовы, пры-

роднасць яго вобразаў, спеўнасць яго формы, якая нагадвае часта народныя песні... Прытым гэта не проста пераймальнік народнае песні, але і самабытны талент, які шукае сваіх шляхоў, імкнецца ў даль і ў высь і мае для гэтага даволі сілы, волі і вытрываласці... Форма яго вершаў дасканаліцца, мова крышталізуецца і развіваецца. Відаць, што мае ў сабе патрэбны фонд для ўзбагачэння і тварэння мастацкае мовы. Выдаў дагэтуль тры кнігі паэзіі: «Жалейка» (1908 г.), «Адвечная песня» і «Гусляр». З усіх вынікае найперш сацыяльны характар яго паэзіі... Ён агаляе сацыяльнае і нацыянальнае гора беларускага народа, але не спыняецца толькі на выяўленні смутнай праўды. Купала не застаецца, — толькі выняткам «Адвечнае песні»,— песімістам, які аддаецца роспачы і безнадзейнай рэзыгнацыі. Ён пясняр жыцця, што шукае шляхоў з цёмных глыбінь і багнаў да святла і паветра...

У трэцяй, найлепшай дагэтуль кнізе Купалы, у зборніку «Гусляр» побач з гэтымі пахмурнымі дысанансамі гучаць тоны самаўпэўненасці і жыццёвасці, якія ўрэшце і пераважаюць... Не спыняецца ён на канстатацыі сацыяльнага і нацыянальнага зла. Загараецца гневам і гукае: «Ганьба вам, што маладым сілам загамоўваеце шляхі да жыцця!»

*Жнівень, 2.* Чэшскі пісьменнік і філолаг-славіст А. Чэрны даслаў у «Нашу ніву» свой артыкул «Беларускія пісьменнікі і літаратурныя імкненні ў 1909—10 гадах», прасіў перадаць яго Я. Купалу і Я. Коласу, каб яны прыслалі свае фатаграфіі, дзяліўся планамі даследавання беларускай літаратуры і інш. *ЭД, с. 659.*

*Жнівень, 4.* Мікалай Чахоўскі з Рыгі заказвае ў «Нашай ніве» «Гусляра» Я. Купалы і «Дудку беларускую» Ф. Багушэвіча. *Песні беларускай валадар, с. 150.*

*Жнівень, 9.* Іосіф Катовіч просіць «Нашу ніву» выслаць «Гусляра». *Песні беларускай валадар, с. 150.*

*Жнівень, 11.* У «Нашай ніве» (№ 31—32) артыкул Я. Купалы «З гуты «Залессе» (подпіс Ня-Гутнік).

*Жнівень, 29.* У двары Дольцы Барысаўскага пав. Мінскай губ. на вечарыне Эдвард Сушчынскі дэкламаваў вершы Янкі Купалы. *«Наша ніва», 22 верас.*

*Верасень, 1.* У «Нашай ніве» (№ 36) верш «Летняя раса».

*Верасень, 2.* У 2-м участку Васільеўскай часці Пецярбурга прапісаны ў д. № 45 па 4-й лініі.

*Верасень, 22.* Напісаны верш «Ваякі». Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6. Чарнавы аўтограф мае два загалоўкі: «Падарожныя» і «Спрэчка».

*Кастрычнік, 25.* Ліст Л. М. Клейнбарту. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 229.*

*Лістапад, 21.* Студэнты-беларусы Варшаўскага універсітэта наладзілі вечар. Свае вершы чытаў Г. Леўчык. Сярод іншых на вечары дэкламаваліся і вершы Я. Купалы «Чаго нам трэба», «Чаго б я хацеў», «Змачу пёрка».

У Вільні адбылося беларускае ігрышча, на якім спявалі «А хто там ідзе?». *«Наша ніва», № 47—48, 1 снеж.*

*Лістапад, 30.* У газеце «Речь» (Санкт-Пецярбург) зварот «К русскому обществу», напісаны У. Караленкам з нагоды забойства ў Кіеве хлопчыка Юшчынскага. У рытуальным забойстве абвінавачвалі М. Бэйліса, якога суд апраўдаў. Зварот падпісаў і Я. Купала. *ПЗТ, т. 8, с. 283—286, 428.*

*Лістапад.* Рубер (С. Руднянскі) у часопісе «Nowe życie» (№ 11) піша, што «на гарызонце беларускай паэзіі «заблішчалі такія шчырыя таленты, як Янка Купала і Якуб Колас — кроў з крыві, косць з косці прадстаўнікі народа... Абодва — Купала і Колас — неяк дапаўняюць адзін другога: Купала ў роздуме, вельмі ўважлівы да формы, большы мастак, шырэй аглядае далягляды, імкнецца развіваць творчыя праблемы, заўсёды ў пошуках...»

*Снежань, 15.* Рэдакцыя газеты «Наша ніва» звярнулася да сваіх чытачоў і падпісчыкаў з просьбай выказаць меркаванне: «ці друкаваць газэту далей толькі рускімі, ці толькі лацінскімі літарамі». Я. Купала даслаў ліст у рэдакцыю, дзе абгрунтаваў свой погляд на гэту праблему. Але ліст дагэтуль не знойдзены. У публікацыі І. М-скага «Гутаркі з чытачамі» прыводзяцца, відаць, вытрымкі з ліста. *«Наша ніва», 1912, № 5, 2 лют.*

*На працягу года.* Напісаны вершы «Слугам алтарным». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2; «Хрыстос васкрос!..». Упершыню — «Шляхам жыцця».

## 1912

*Студзень, 3.* Восіп Жвіровіч (Новы Мюльграбен Ліфляндскай губ.) просіць «Нашу ніву» даслаць кнігі Я. Купалы. *Песні беларускай валадар, с. 149.*

*Студзень, 9.* У в. Барані Віленскай губ. на ёлачнай забаве чыталі вершы Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, А. Паўловіча і інш. *«Наша ніва», № 3, 9 студз.*

*Студзень, 14.* Напісаны верш «Ў вечным боры». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Студзень, 15.* Напісаны верш «Ты, зялёная дубрава...». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 18, 3 мая.

*Студзень, 17.* Напісаны верш «Чараўнік». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Студзень, 19.* Напісаны верш «На рынку». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 4, 26 студз.

*Люты, 2.* У «Нашай ніве» [№ 5, аглядны артыкул М—скага І. (І. Манькоўскага)] урыўкі з ліста Я. Купалы ў газету, у якім ён выказаўся за адзін шрыфт у беларускіх выданнях — кірыліцу. З ліста: «Ёсць адзін вялікі Беларускі край, адзін мнагамільённы беларускі народ; адна ў гэтага народу беларуская мова, і ўсяго гэтага свая ж кніжка не мае права дзяліць на дзве палавіны — на каталікоў і праваслаўных, як тое рабіла дагэтуль рэлігія, і чаму можа дапамагаць друкаванае роднае слова двума шрыфтамі... Шрыфт рускі не пераіначыць (як некаторыя думаюць) нацыянальнай беларускай душы, як не пераіначыла яе кольківяковае ўладарства прадстаўнікоў іншых культур. Беларус астанецца беларусам, як асталіся балгары — балгарамі, сербы — сербамі і ўкраінцы — украінцамі, хаця і друкуюць свае кніжкі так званай «гражданкай»... Культуру не шрыфт творыць, а ідэі, якія сеюцца ў народзе друкаваным словам; і не шрыфт загароджвае дарогу беларусам да ўсясветнай культуры, а тыя роднае зямлі сыны, каторыя ўтапілі і топяць свае беларускія душы толькі ў хвалях Віслы або Волгі... Беларусам патрэбны беларусы, а не палітычныя гешэфтмахеры, каторыя пры першым-лепшым падмурку з захаду ці з усходу хіляюцца да Варшавы або да Масквы... Такім парадкам, абдумаўшы ўсё, як мне сумленне дыктавала, і прымаючы пад увагу, што ў нашым краю бадай кожны граматны знае рускія літары, а не лацінскія — я і прылучаюся да прыхільнікаў аднаго шрыфту ў беларускім друкаваным слове і падаю свой голас за тыя літары, якімі суджана было друкавацца першай беларускай свецкай кніжцы — Статуту Літоўскаму».

*Люты, 10.* Напісаны верш «Папросту». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Люты, 12.* Напісаны верш «Бледныя буднія дні». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 14, 5 крас.

*Люты, 26.* Напісаны верш «У чужой старане». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Люты, 27.* Напісаў ліст Л. М. Клейнбарту, якому выслаў і карэктурны адбітак артыкула А. Навіны (А. Луцкевіча), звярнуў увагу на артыкул гэтага самага аўтара ў часопісе «Запросы жизни» (№ 6, 10. 2. 1912 г. ).

*Сакавік, 5.* Напісаны вершы «Вясна за вясною...» і «Прыстаў я жыць...». Упершыню — абодва «Шляхам жыцця».

*Сакавік, 6.* Напісаны вершы «Русалка». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 28, 9 жн.; «Хмарка і маладзік». Упершыню — «Шляхам жыцця»; «Злажыўшы рукі...». Упершыню — «Полымя», 1929, № 2. Напісана 3-я частка цыкла «Аб мужыцкай долі» — «Сагнуўшы плечы ў крук». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Сакавік, да 8.* У Вільні выйшаў зборнік «Z okolic Dźwiny». У ім вершы Я. Купалы «З песень аб сваёй старонцы» і «А хто там ідзе?» (пераклаў на польскую мову m. w. s. — Мар'ян Шадурскі).

*Сакавік, 8.* Напісаны верш «Па захадзе». Упершыню — «Шляхам жыцця».

На выхад зборніка «Z okolic Dźwiny» адгукнулася «Наша ніва». *ЭД, с. 222.*

*Сакавік, 9.* Напісаны верш «Грай жа, музыка...». Упершыню — «Шляхам жыцця».

*Сакавік, 10.* Напісаны верш «Выйдзі...». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 19—20, 10 мая.

*Сакавік, 22.* У «Нашай ніве» (№ 12—13) 2-я частка верша «На жалейцы» (з паметаю: Акопы). 1-я частка ўпершыню ў зборніку «Шляхам жыцця».

*Сакавік.* У часопісе «Świat słowiański» (1912, № 87, сак.) В. Р. Вегняровіч апублікаваў артыкул «Маладая Беларусь», у якім вызначаны вытокі паэзіі Я. Купалы, падкрэслена яе сувязь з жыццём грамадства, вера паэта ў народныя сілы.

*Май. 17.* Пісаў паэму «Гарыслава» (не закончана).

*Чэрвень, 3.* У Акопах скончана першая п'еса Я. Купалы камедыя «Паўлінка». Упершыню — асобнае выданне ў Пецярбургу (выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца»).

*Чэрвень, 4.* Чытаў «Паўлінку» Ядвігіну Ш. у Карпілаўцы. Атрымаў хвалебную падтрымку.

*Чэрвень, 5.* Напісаў пісьмо Б. І. Эпімах-Шыпілу.

*Чэрвень, да 7.* У Пецярбургу кірыліцай і лацінкай выйшаў альманах «Маладая Беларусь» (серыя 1, сшытак 1), дзе апублікавана паэма Я. Купалы «Сон на кургане», апавяданні Цёткі, вершы А. Паўловіча і інш.

*Чэрвень, 24.* На Купаллі ў Вільні. *ЭД, с. 553.*

*Чэрвень, 28.* У «Нашай ніве» (№ 26) нарыс «Святкаванне Купалы ў Вільні».

*Першае паўгоддзе.* У «Известиях общества славянской культуры» (т. 1, кн. 1) артыкул М. А. Янчука «Несколько слов

о новейшей белорусской литературе», у якім аналізуе творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі і інш.

*Ліпень, 6—7.* У прыватнай газеце «Витебский вестник» апублікавана ананімная рэцэнзія на зборнік «Z okolic Dźwiny». Рэцэнзент у ёй назваў Я. Купалу «польска-беларускім паэтам», аўтарам «псеўданародных вершаў», спрабаваў даказваць, што нядолі, пра якую піша паэт, у сапраўднасці няма.

*Ліпень, 26.* З Акопаў напісаў пісьмо Б. І. Эпімах-Шыпілу, у якім паведамляў, што «ў суботу (г. зн. 28-га.— *Я. С.* )» едзе да Я. Коласа.

*Ліпень, 28.* У Смольні каля Мікалаеўшчыны ўпершыню сустрэўся з Якубам Коласам. Я. Колас пісаў Л. М. Клейнбарту: «Это имя впервые услыхал я, вернее, увидел в мою бытность в редакции «Нашей нивы» весною 1907 года, когда стали появляться его стихи. Я имел тогда очень близкое отношение к чисто литературному отделу в газете и прочитывал Купалины стихи в рукописи. Оригинальность, свежесть и талантливость их автора сразу обращали на себя внимание. В тесном кругу незначительной числом белорусской интеллигенции того времени имя Купалы повторялось очень часто как имя даровитого поэта, от которого ожидалось очень много. Поэзия Купалы растет, развивается и на страницах «Нашей нивы» занимает первое место. Выходит его первый сборник «Жалейка». Мне по почте переслали рецензию на этот сборник. Рецензия была написана по-русски. Я переводил ее на белорусский язык. Это было летом 1908 г. или 1907 г. Жил я тогда в Николаевщине.

Личное мое знакомство с Янкой Купалой произошло летом 1912 года. Весною этого года я жил у своего товарища учителя в Белоручье — 25 верст от Минска. В этой школе, как передавал мне товарищ, учитель этой школы, когда-то учился Янка Купала. Так это было или не так (я у Купалы не проверял), но этот факт говорит уже за то, насколько стал известен Купала и его поэзия уже в то время. Наша первая встреча состоялась в Николаевщине в августе месяце 1912 года. Купала специально приехал повидаться со мною. И тогда и впоследствии Купала рассказывал о своем путешествии пешком со станции Столбцы в Николаевщину, где он был впервые. Верст восемь пройти нужно было лесом. Радзивилловские леса очень велики, и свежему человеку в них легко потерять дорогу. Зная, что Николаевщина стоит на Немане, Купала руководствовался тем соображением, что в сторону Немана должно быть больше влажности в воздухе, каковую он и ощущал, и благополуч-

но дошел до места назначения, несмотря на ночную пору и незнакомство с местностью. Тогда Купала был цветущим красивым юнаком с мягкими, немного насмешливыми глазами. В тоне его разговора все время сквозил добродушный юмор. На меня он произвел прекрасное впечатление, и я полюбил его искреннею товарищескою любовью. Свое знакомство ознаменовали мы очень солидною выпивкою. Я старался не уступать Купале на этом поприще, но все же он оказался крепче меня. После выпивки пошли спать в гумно на горох. Назавтра Купала проснулся как ни в чем не бывало, а у меня трещала голова и была рвота. Но на другой день я подтянулся. В местечке Свержень мы зашли до знакомого ксендза, человека, сочувствующего белорусскому возрождению, и доброго выпиваки. Он очень радушно принял нас и угостил на славу. Ксендз отстал от нас и свалился, а мы выпили все его водки и вина и пошли в другое место, где опустошили также все запасы выпивки. Купала направился на станцию Столбцы, и на прощание мы и здесь выпили графин водки и, как говорится, остались «и не лысыми». Все время живем мы очень дружно, хоть переписки между нами и не было, если не считать очень немногих писем, которыми обменялись мы за всю жизнь. Купала небольшой охотник до переписки. Я, как опороченный человек в глазах начальства, также старался избегать ее. Кроме того, наше время слабо способствовало правильным сообщениям по почте. Второй раз встречались мы в 1913 г. в Вильно, когда Купала жил в редакции «Нашай нівы». Во время войны мы потеряли из виду друг друга, и до 1921 года я с ним не встречался». *Колас, т. 13, с. 86—87.*

*Ліпень, 29.* Я. Колас праводзіў Я. Купалу ў мяст. Свержань, дзе зайшлі да ксяндза А. С. Астрамовіча (Андрэя Зязюлі), а пасля на станцыю ў Стоўбцы.

*Жнівень, 1.* Напісаны верш «Мая малітва» («Ва ўсяку мінуту, ва ўсякай патрэбе...»). Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 38, 20 верас. з паметай: Карукі (відаць, па дарозе ад Я. Коласа; Койданаўская вол. Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл.).

*Канец лета.* Пабываў у Я. Журбы ў в. Купніна (Чашніцк р-н). *«ЛіМ», 1982, 25 чэрв.*

*Жнівень, 30.* Карэспандэнт В. Явар у «Нашай ніве» (№ 38) паведамляе, што каля гуты Залессе Вілейскага пав. у фальварку Ірынава чуў, як хлопчык чытаў на памяць сярод іншых верш Я. Купалы «Явар і каліна».

*Верасень, 7.* У 2-м участку Васільеўскай часці Пецярбурга прапісаны ў д. № 45 па 4-й лініі.

*Верасень, 15.* У складзе групы беларускай і польскай інтэлігенцыі наведаў Барэйкаўшчыну каля Вільні ў сувязі з 50-годдзем з дня смерці У. Сыракомлі. *ЭД, с. 581.*

*Верасень, паміж 16 і 21.* Сустракаўся ў Пецярбургу з доктарам А. П. Ярэмічам, які даў сродкі на выданне зборніка «Шляхам жыцця».

*Верасень, 21.* Напісаў пісьмо Л. М. Клейнбарту. Паведаміў пра сустрэчу з А. П. Ярэмічам і рашэнне выдаць яго вершы асобнай кніжкай.

*Верасень, да 25.* У Адэсе выйшаў зборнік «Вінок Т. Шевченкові із віршів українських, галицьких, російських, білоруських і польських поетів», у якім змешчаны вершы Я. Купалы «Памяці Т. Шаўчэнкі» і «Памяці Шаўчэнкі» («Ад гасцінца да гасцінца»). *«Дніпрові хвилі», №17.*

*Кастрычнік, 18.* Напісаны вершы «Пад крыжам». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 43—44, 2 лістап. з падзагалоўкам «Казкі Бацькаўшчыны»; «Чужым». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 45, 9 лістап.

*Кастрычнік, 20.* Закончыў паэму «На дзяды». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 48, 29 лістап.

*Кастрычнік, 25.* Напісаны верш «З кутка жаданняў». Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 7, 15 лют.

*Лістапад, 1.* Напісаны вершы «Я люблю», «На вялікім свеце...», «Для зямлі прадзедаў маіх...». Упершыню — усе ў зборніку «Шляхам жыцця».

*Лістапад, 2.* Гальяш Ворах пісаў у рэдакцыю «Нашай нівы»: «Вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа думаю чытаць ад акцыі беларусаў на свяце дзесяцігадовай працы для Расіі «Вестника знания» (Станция Чорная Весь Паўночна-заходняй чыгункі)». *Песні беларускай валадар, с. 149—150.*

*Лістапад, 5.* Звярнуўся ў Драматычную цэнзуру пры Галоўным упраўленні па справах друку і падаў камедыю «Паўлінка», якая 23 лістапада была дазволена да пастаноўкі на сцэне. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 76.*

*Лістапад, 12.* «Его выс[окоро]дию В. И. Кривошу.

Цензор драматических сочинений при Главном управлении по делам печати, по приказанию г. начальника этого управления препровождая при сем в трех экземплярах пьесу на белорусском наречии под названием «Паўлінка», просит его высокородие Владимира Ивановича рассмотреть означенную пьесу и, с возвращением приложений, доставить в

названное управление свое заключение об указанной пьесе с кратким изложением ее содержания». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 77.*

*Лістапад, 20.* Водгук У. Крываша на «Паўлінку»: «На белорусском наречии «Паўлінка», сцэны із шляхоцкаго жыцця ў 2 актах. Янка Купала.

Дочь зажиточного крестьянина Крыницкого Паулинка влюблена в учителя Сароку, который ей платит взаимностью. Так как Крыницкий и слышать не хочет о возможности брака его дочери с учителем, то влюбленная пара решается обвенчаться тайно, причем жених украдет невесту ночью через окно. Крыницкий выбрал себе в зятья молодого парня из соседней деревни Быкоуского, лгуна и хвастуна, который выдает себя за барича и с пренебрежением относится ко всему крестьянскому.

В ночь, назначенную для бегства, у Крыницкого гости, и Быкоуский засиделся дольше остальных и ушел последним. Паулинка наскоро собирает свои пожитки, вяжет их в узел и выбрасывает в окно, где должен ее ждать Сарока, но где оказался случайно возвратившийся Быкоуский, который и подбирает узлы. Его ловят соседи, как вора, и тащат в избу Крыницкого в то время, когда сама Паулинка вылезает в окно. Хозяева избы, уже спавшие, выходят из «боковки» на шум и с позором выгоняют из дома Быкоуского. В это время Паулинка узнает, что ее возлюбленный Сарока не пришел за ней потому, что был днем арестован.

Пьеса не содержит ничего нецензурного и может быть разрешена к представлению». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 77.*

*Лістапад, 21.* «Паўлінка» дазволена да пастаноўкі.

*Лістапад, 26.* Напісаны вершы «Калі пачнуць...». Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 11, 15 сак.; «Годзе!..». Упершыню — «Беларусь», 1919, № 27, 20 лістап.

*Снежань, 7.* Напісаны верш «Прарок». Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 51—52, 21 снеж.

*Снежань, 24.* Напісаны вершы «Цару неба й зямлі». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 6, 11 студз.; «Новы год» («Са звонам пут, са свістам пугаў...»). Упершыню — «Спадчына».

*На працягу года.* Напісаны верш «Лірнік вясковы». Упершыню — «Litwa i Ruś» (Вільня), 1912, т. 3, кн. 2. У Пецярбургу выйшла паэма «Сон на кургане» (на вокладцы — 1913 г. ). У Вільні выйшаў «Зборнік «Нашае нівы» (№ 2), у якім паэма «Курган».

*Студзень, 4—8.* Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Студзень, 14.* Прадставіў у Драматычную цэнзуру пры Галоўным упраўленні па справах друку драму «Блуднікі» Мікулы Грымота (Л. Родзевіча), якую паставіць не дазволілі. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 78.*

*Студзень, 15—19.* Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Студзень, 18.* Віленская «Вечерняя газета» паведаміла пра падрыхтоўку да пастаноўкі Беларускім музычна-драматычным гуртком «новай п'есы вядомага беларускага паэта Янкі Купалы «Паўлінка».

*Студзень, 27.* У Вільні (зала клуба «Сокал») Беларускі музычна-драматычны гурток пад кіраўніцтвам Б. Даніловіча ўпершыню паставіў камедыю Я. Купалы «Паўлінка». Ролю Паўлінкі першай выканала С. Маркевіч.

*Студзень, 30.* У газеце «Viltis» надрукаваны артыкул «У беларусаў», у якім гаворыцца і пра пастаноўку «Паўлінкі» ў Вільні.

*Студзень, 31.* У «Вечерней газете» (Вільня) апублікавана рэцэнзія на пастаноўку «Паўлінкі».

*Люты, 1.* «Наша ніва» пра першую пастаноўку «Паўлінкі» ў Вільні: «Вечарынка 27 студзеня была незвычайная: ставілі на сцэне першы раз «Паўлінку», сцэнічны абразок у двух актах Янкі Купалы. Перад публікай праходзілі тыпы дробнай, засцянковай шляхты, каторых аўтар патрапіў жыва выразіць выказаўшы гэтым вялікую знаёмасць жыцця беларускага сялянства; чуваць было, што гэта не робленыя, а жывыя тыпы нашай вёскі.

І сцэна перанесла гарадскую публіку ў глухі закутак, чым навеяла мілы настрой.

Што да артыстаў, каторыя ігралі на сцэне, то трэба сказаць, што некаторыя з іх выказалі праўдзівы сцэнічны талент, але саўсім добра сыграць некаторым перашкаджала тое, што не ўмелі сваіх ролей. Відаць гэта было з лішне доўгіх паўз і таго, як гаманіў суфлёр. Дрэнна і тое, што са сцэны калечылі беларускую мову, асабліва ў жаноцкіх ролях. Гэта, што праўда, старая хвароба артыстаў Б[еларускага] м[узычна]-д[раматычнага] кружка, але вялікі час з яе пачаць лячыцца.

Дэкламацыя зрабіла глыбокае ўражанне на слухачоў, а найбольш абразкі Пётра Простага і «Прарок» Янкі Купалы, самі па сабе сільна напісаныя.

Хор, відаць, сур'ёзна працуе над беларускай песняй, бо ад прапяяных на вечарынцы 4 песень мала што большага можна жадаць, у чым заслуга дырыгента хорам.

На вечарынку гэту сумысна прыехаў здалёку і аўтар яе Янка Купала. Аўтара публіка выклікала на сцэну і, абдзяляючы густымі воплясками, падалі яму памятку — падарак ад віленскіх беларусаў — залаты гадзіннік з надпісам: «Аўтару «Паўлінкі» віленскія беларусы, 27 студзеня 1913 г. ». Артыстцы, каторая іграла ролю Паўлінкі, п. Маркевічанцы, аўтар падаў на сцэну букет з жывых кветак.

У зале ў часе гульні панаваў дзіўны настрой: вось здавалася, што гэта адна згодная сямейка сабралася на нейкае мілае свята, гэтак усім было вясёла і міла».

*Люты, да 9.* Выйшла з друку асобнае выданне «Паўлінкі» (Пецярбург, выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца»).

Напісаны верш «Снілася дзяўчыне». Упершыню — Зб. тв., 1961, т. 3. Прысвечаны П. В. Мядзёлцы, выканаўцы ролі Паўлінкі ў аднайменнай камедыі. Напісаны ў сувязі з пастаноўкай п'есы 9 лютага 1913 г. у Пецярбургу. *ПЗТ, т. 3, с. 311.*

*Люты, 9.* У Пецярбургу пастаўлена «Паўлінка». Музыку да пастаноўкі напісаў літоўскі кампазітар С. Шымкус. Хор сярод іншых выконваў «А хто там ідзе?». Дэкламаваліся вершы Я. Купалы «Град», «Адгукніся, душа...».

*Люты, 11.* Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Люты, 14.* Падпісаў «Паўлінку» В. Ю. Ластоўскаму. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 349.*

*Люты, 16.* Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Люты, 20.* Напісаны верш «У бяссонную ноч». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 1 (57), 1 студз.

У «Нашай ніве» (№ 1) рэцэнзія А. Гурло на пастаноўку «Паўлінкі» ў Пецярбургу.

*Люты, 22.* Паштоўка Л. М. Клейнбарту з Пецярбурга.

*Люты, 23.* П. В. Мядзёлка падпісала Я. Купалу лацінкаю свой фотаздымак: «Даражэнькаму Янцы Купале на шчырую памятку. 23/II-13. Піцер». *«Роднае слова», 2003, № 3, с. 101.*

*Люты, 27.* Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Сакавік, 1—2.* Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Сакавік, 2.* Напісаў паштоўку В. Ю. Ластоўскаму, у якой просіць даслаць бібліяграфію рэцэнзій на яго кнігі для Венгерава, Бракгаўза і «Крытыка-бібліяграфічнага слоўніка».

*Сакавік, 4*. Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Сакавік, 6*. Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Сакавік, 13—15*. Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Сакавік, 19*. Чытаў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

*Сакавік, 31*. Напісаў паштоўку А. І. Луцкевічу з просьбай паскорыць напісанне артыкула для «Маладой Беларусі».

*Красавік, да 6*. Выйшаў зборнік вершаў «Шляхам жыцця».

*Красавік, 6*. Падпісаў зборнік «Шляхам жыцця» Яну Обсту. Напісаў пісьмо А. І. Луцкевічу, у якім паведамляў, што выслаў яму для рэцэнзіі свой зборнік «Шляхам жыцця». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 234, 355.*

*Красавік, 14*. Падпісаў свой зборнік «Шляхам жыцця» Л. С. Сеўруку. *ЭД, с. 557; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 363.*

*Красавік, 18*. Напісаў ліст А. М. Уласаву, у якім абураецца, што «Наша ніва» замоўчвае зборнік «Шляхам жыцця».

*Красавік, 22*. Падпісаў Санкт-Пецярбургскаму універсітэту зборнік «Шляхам жыцця» і кніжку «Паўлінка». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 331.*

*Красавік, 25*. Чытаў карэктуру «Маладой Беларусі» (1913, сш. 3).

*Красавік, 26*. У «Нашай ніве» рэцэнзія а—н—а (А. І. Луцкевіча) на зборнік «Шляхам жыцця». З рэцэнзіі: «Кніжка цешыць душу кожнага шчырага беларуса. Гэта ўжо сур'ёзны здабытак беларускай літаратуры. У аб'ёмістым зборніку (260 стр. вялікага фармату) лепей, як у асобных творах, выяўляецца творчая сіла і талент Купалы, і мы можам смела казаць, што пясняр Маладой Беларусі займець пачэснае месца ў гісторыі беларускага адраджэння.

«Шляхам жыцця» — гэта назва дужа добра падыходзіць да кніжкі. У пекных, зычных, шчыра і з размахам напісаных вершах адбіваецца жыццё нашага народу, шэрай беларускай вёскі, захованай недзе між лясоў і балот. Многа гора, многа бед, крыўды. Многа смутку і жалю, што так цяжка, так дрэнна жывецца народу, каторы нічым не заслужыў на гэткую долю. Але ўжо нейкая новая сіла пачала разварачываць той стары лад, пры каторым дыхаць нельга. Хваля чыстага, свежага паветра пракацілася па ўсёй старане. Народ будзіцца ад сну. Пачынаецца новае жыццё. І вось у вершах Купалы ўсё часцей і часцей — поруч з сумнымі настраеннямі — звініць нотка бойкая, жывая; відаць, што сіла кіпіць і рвецца да дзела, да вялікай працы народнай. Чуваць радасць жыцця — радасць, каторая абдымае душу здаровага, сільнага чалавека. Даючы

сумныя абразы гора і нядолі народнай, кніжка Купалы родзіць веру, што будзе лепей, што папраўдзе блізка ўжо часіна адраджэння забытых і забітых беларусаў. І самі сабой успамінаюцца тыя моцныя, быццам з граніту выкаваныя словы Купалы:

К свабодзе, роўнасці і знанню
Мы працярэбім сабе след,
І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоння плача дзед!

«Шляхам жыцця» ідзе Купала, але ў кніжцы яго відаць, што той шлях цягнецца далёка-далёка ў будучыну, і пясняр прарочым словам прымушае верыць, што, ідучы сваёй дарогай, мы дойдзем урэшце да лепшай долі».

*Красавік.* Выслаў зборнік «Шляхам жыцця» ў рэдакцыю штодзённай польскай газеты «Kuryer Krajowy» (Вільня). *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 95.*

*Май, 23.* Напісаны вершы «Братка і Сястрыца». Упершыню — «Рунь», 1920, № 9—10 пад назваю «Брат і сястра»; «Усюды лета». Упершыню — «Спадчына».

*Чэрвень, 2.* Напісаў з Акопаў ліст Б. І. Эпімах-Шыпілу, у якім паведаміў, што перачытвае беларускія этнаграфічныя зборнікі.

*Чэрвень, 3.* З'явіўся да прыстава 1-й часці г. Мінска з гасцініцы «Адэса». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 49.*

*Чэрвень, 21.* Напісаны вершы «Не шукай...». Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 26—27, 5 ліп.; «З вясной». Упершыню — «Лучынка», 1914, № 4.

*Чэрвень, 24.* У Акопах завершана паэма «Бандароўна». Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 29, 19 ліп.

*Чэрвень, 29.* Падараваў зборнік «Шляхам жыцця» П. А. Бычкоўскаму: *ЭД, с. 99; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 334.*

*Ліпень, 2.* У Акопах закончыў паэму «Магіла льва». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 36, 37, 19 і 20 лют.

Напісаны верш «Песня» («Ах, адкуль жа гэта вестка...»). Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 5, 31 студз.

*Ліпень, 3.* Напісаны верш «Будзь смелым!..». Упершыню — «Беларусь», 1919, № 53, 25 снеж.

*Ліпень, 4.* Напісаны вершы «Навука». Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 28, 12 ліп.; «Летам». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 27, 10 ліп.

*Ліпень, 6.* Напісаны вершы «З вячэрніх дум». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 14, 3 крас.; «Тутэйшы». Упершыню — «Спадчына».

*Ліпень, 17.* З Акопаў напісаў паштоўку ў рэдакцыю «Нашай нівы», у якой паведаміў, што ў вершы «Навука» (№ 28

газеты) шостая страфа зверху надрукавана з памылкаю. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 237.*

*Ліпень, 24.* У Акопах закончыў паэму «Яна і Я». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 76, 77, 9 і 10 крас. Падзагаловак «У цянётах жыцця».

*Ліпень, 26.* У «Нашай ніве» (№ 30) надрукаваны верш «Жар не згас» і артыкул «Чаму плача песня наша» (подпіс «Адзін з «Парнаснікаў») як адказ на артыкул Ю. Верашчакі (В. Ю. Ластоўскага) «Сплачвайце доўг» («Наша ніва», 1913, № 26—27, 5 ліп.).

*Ліпень, 31.* У Акопах закончыў вадэвіль «Прымакі». Упершыню — «Рунь», 1920, № 5—6, 7—8.

Дэпартамент паліцыі з Пецярбурга распарадзіўся сачыць за Я. Купалам. *Александровіч С. Пуцявіны роднага слова, с. 213—214.*

*Жнівень, 15.* У Радашковічах адбыўся беларускі вечар. Членамі Мінскага драматычнага гуртка была пастаўлена камедыя «Паўлінка» (рэжысёр Ф. П. Ждановіч). З Акопаў прыязджаў аўтар. Яго выклікалі на сцэну.

*Жнівень.* Пасля пастаноўкі «Паўлінкі» ў Радашковічах Я. Купала з сястрою Леакадзіяй ездзілі ў Няшоту да бабулі Катажыны.

*Верасень, пачатак.* У Вільні Беларускім музычна-драматычным гуртком ставілася «Паўлінка». *ПЗТ, т. 7, с. 383.*

*Верасень, 4.* У Акопах закончыў драму «Раскіданае гняздо». Упершыню — асобнай кніжкаю ў Вільні, 1919.

*Верасень, 5.* У «Нашай ніве» артыкул Міколы Явара пра пастаноўку «Паўлінкі» ў Радашковічах.

*Верасень, 7.* Начальнік Віленскага жандармскага ўпраўлення ў сакрэтнай адносіне адказвае ў Пецярбург на адносіну ад 31 ліпеня. *Александровіч С. Пуцявіны роднага слова, с. 214.*

*Верасень, 19.* У «Нашай ніве» (№ 38) артыкул «Як яны ваююць» пад псеўданімам Стары Мінчук. *ПЗТ, т. 8, с. 29—31, 367.*

*Верасень, 28.* У «Нашай ніве» (№ 39) апублікаваны верш «Брату-беларусу».

*Кастрычнік, 7.* З Акопаў прыехаў у Вільню. *«Беларусь», 1961, № 3, с. 21.*

*Кастрычнік, 8.* У 4-м паліцэйскім участку г. Вільні адзначаны з дома № 5 па Казанскай (Каштанавай) вуліцы.

*Кастрычнік, 17.* У «Нашай ніве» (№ 42) верш «Песня» («Каб была я перапёлкай»), верш К. Буйло «Звон», прысвечаны Я. Купалу.

*Кастрычнік, 18.* Напісаны эпіграмы «У кавярні водзіць рэй і лад», «Варшаўскіх брукаў марны франт». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. *ЭД, с. 675; ПЗТ, т. 3, с. 320.*

*Кастрычнік, 19.* Напісаны верш «Хаўруснікам» (подпіс «Цімох Каруза»). Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Рукапіс у бібліятэцы і музеі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

*Кастрычнік, 21.* Напісаны верш «"Чын", герб і лапаць». Упершыню — «Спадчына».

*Кастрычнік, 24.* У «Нашай ніве» (№ 43) артыкул «Чым чорт не шуціць», верш «Янка і свабода».

*Кастрычнік, 31.* У «Нашай ніве» (№ 44) вершы «Асеннім вечарам» і «Расійскія чыгункі».

Прафесару медыцынскай акадэміі ў Беластоку Вітальду Славінскаму падараваў зборнік «Шляхам жыцця». *ЭД, с. 562; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 363—364.*

*Лістапад, 4.* Ліст Б. А. Тарашкевічу.

*Лістапад, 6.* Напісаны верш «А ты, сіраціна...». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1920, № 5, 29 лют.

*Лістапад, 7.* У «Нашай ніве» (№ 45) верш «Ястраб, лісіца й певень».

*Лістапад, 8.* На сходзе гуртка навуковага пазнання Беларусі пры Пецярбургскім універсітэце Я. Хлябцэвіч прачытаў даклад пра творчасць Я. Купалы і Я. Коласа. *«Наша ніва», 1914, 4 студз.*

*Лістапад, 21.* У «Нашай ніве» (№ 47) верш Я. Купалы «Кажух і вата».

*Лістапад, 23.* Падпісаў А. А. Карынфскаму «Адвечную песню», «Сон на кургане», «Гусляр», «Шляхам жыцця». *ЭД, с. 289; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 347.*

*Снежань, 1.* Упісаў у альбом М. І. Карынфскай верш «А ты, сіраціна, жыві».

*Снежань, 2.* На тытуле зборніка «Шляхам жыцця» пакінуў аўтограф А. Гагалінскаму. *«Нёман», 1977, № 8, с. 161; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 335.*

А. А. Карынфскі пераклаў на рускую мову вершы Я. Купалы «Гарэлка», «Каб я князем быў», «Песня сонцу».

*Снежань, 4.* А. Карынфскі пераклаў на рускую мову верш Я. Купалы «Мой дом».

*Снежань, 12.* У «Нашай ніве» (№ 50) верш «Дэпутаты і грамадзяне» і артыкул «Агляд кніг» (подпіс — І. Л. ).

*Снежань, 14.* Член савета старшынь Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні А. Л. Бурбіс звярнуўся ў Часовы камітэт па справах друку ў Вільні з просьбаю выдаць яму даведку, якую трэба прадставіць віленскаму губернатару,

ці зборнікі Я. Купалы «Жалейка» і «Шляхам жыцця» «по содержанию своему допущены к обращению». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 68.*

Паслаў тэлеграму А. А. Карынфскаму, у якой віншуе яго з імянінамі.

*Снежань, 16.* А. Л. Бурбісу выдадзена даведка, што зборнікі Я. Купалы «Жалейка» і «Шляхам жыцця» «в числе запрещенных не значатся». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 68—69.*

*Снежань, 21.* У «Нашай ніве» (№ 51—52) верш «Пчолы і трутні» (подпіс — К-а), «Шарада № 1» (подпіс — К-а).

*Снежань, 30.* Падаў у Драматычную цэнзуру пры Галоўным упраўленні па справах друку 11 драматычных твораў на беларускай мове з просьбаю дазволіць іх да пастаноўкі і паведаміць пра гэта ў афіцыйным органе «Правительственном вестнике». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 78—79; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 494.*

*Снежань, 31.* У сувязі з тым, што А. М. Уласаў падаў заяву губернатару Вяроўкіну, што саступае правы і абавязкі рэдактара «Нашай нівы» І. Д. Луцэвічу, губернатар звярнуўся да віленскага паліцмайстара з просьбай «представить мне сведения о том, обладает ли Луцевич общею гражданскою правоспособностью, не состоит ли под судом или следствием и, в утвердительном случае, за что именно, не подвергался ли несостоятельности, а также сколько ему лет». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 81.*

*Снежань.* Напісаны верш «На новы (1914) год». Упершыню — «Беларускі каляндар на 1914 год», Вільня, 1913.

У часопісе «Трезвая жизнь» (№ 12) апублікаваны ў перакладзе на рускую мову А. Карынфскага верш «Гарэлка».

*На працягу года.* Напісаў вершы «Селянін і конь». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 1, 4 студз.; «"Чын", герб і лапаць». Упершыню — зборнік «Спадчына», 1922; «Цемната і слата». Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6; драматычную паэму «На папасе». Упершыню — «Шляхам жыцця».

Пераклаў баладу А. Міцкевіча «Пані Твардоўская». Упершыню — «Шляхам жыцця».

## 1914

*Студзень, 3.* Л. Гмырак у лісце ў «Нашу ніву» перадае паклон Я. Купалу, З. Бядулю, М. Гарэцкаму, артыкул Я. Купалы «Агляд кніг» характарызуе як напісаны ў манеры а la Багдановіч. *Песні беларускай валадар, с. 146; ЭД, с. 159.*

*Студзень, 5.* А. Карынфскі пераклаў на рускую мову вершы Я. Купалы «Як у лесе зацвіталі», «Перад ночкай». *Народны паэт Беларусі, с. 157.*

*Студзень, 6.* А. Карынфскі пераклаў на рускую мову вершы Я. Купалы «Над магіламі», «Явар і каліна», «Мая думка», «Не шукай...» і інш. *Народны паэт Беларусі, с. 157—158.*

*Студзень, 7.* Прыставу 7-га ўчастка г. Вільні Крыніцкаму няправільна даручана выкананне распараджэння губернатара Вяроўкіна даць звесткі пра Я. Купалу. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 81.*

*Студзень, 8.* Распараджэнне губернатара Вяроўкіна даць звесткі пра Я. Купалу перадаручана прыставу 4-га ўчастка г. Вільні. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 81.*

*Студзень, 17.* У «Нашай ніве» (№ 3) сатырычны верш «Груган і салавей» з цыкла «У мутным віры» (подпіс — К-а), «Шарада № 2» (подпіс — К-а).

*Студзень, 20.* Паліцэйскі прыстаў 4-га ўчастка г. Вільні Грудзінскі ў сваім рапарце пісаў пра Я. Купалу: «М. В. Д. Пристав 4-го участка г. Вильны. № 539. Января 20-го дня 1914 г.

В Виленское городское полицейское управление

Рапорт

Представляя при сем поручение от 7-го сего января за № 162, доношу городскому полицейскому управлению, что мещанин гор. Минска Иван Домиников Луцевич 31 года, холост, католического вероисповедания, служит письмоводителем в редакции журнала «Наша ніва», образования домашнего, имущества и капиталов не имеет, проживает в д. № 5 по Каштановой ул. с 1 октября 1913 г. по прибытии из фольварка Окопы Вилейского уезда. Прописан значится по паспорту Минской мещанской управы 1907 г. за № 572. За время проживания ни в чем предосудительном не замечался и сведений о судимости нет, несостоятельности не подвергался и общей гражданской правоспособности не лишен. Пристав Грудзинский». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 81—82.*

*Студзень, 23.* Напісаны вершы «Моладзі». Упершыню — «Лучынка», 1914, № 2; «На полі тае». Упершыню — «Спадчына»; «Страшны вір». Упершыню — «Лучынка», 1914, № 3.

*Студзень, 27.* Напісаны вершы «Па шляху». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 9, 27 лют.; «Б'юць на трывогу званы...». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 16, 25 крас.

*Студзень, 31.* У «Нашай ніве» (№ 5) сатырычны верш «Асёл і яго цень» з цыкла «У мутным віры» (подпіс — К-а).

*Люты, 5*. А. Карынфскі пераклаў на рускую мову верш «Хмары і думы».

*Люты, 7*. Напісаў ліст Г. Леўчыку. *«Беларусь», 1973, № 2, с. 28; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 237.*

*Люты, 13*. У «Нашай ніве» (№ 7) сатырычны верш з цыкла «У мутным віры» «Свінапас і стрынатка» (подпіс — К-а).

*Люты, 14*. Музычна-драматычны гурток у Вільні паставіў «Паўлінку». *«Biełarus», 1914, № 8.*

*Люты, 21*. Напісаў ліст К. Лейку. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 238.*

Л. Гмырак у артыкуле «Тарас Шаўчэнка» пісаў: «Шаўчэнкавага «Кабзара», кнігу, даўно ўжо стаўшую каранам украінства, кожны свядомы беларус павінен прачытаць; трэба, каб вялікі ўкраінскі паэт папраўдзе стаў і нам бацькам мілым,— як гэтага жадае ў сваім вершы Янка Купала». *Гмырак Л. Творы. Мн., 1992. С. 96 (далей будзе: Гмырак.— Я. С.).*

*Люты, 22*. Напісаны верш «Адступнік». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 18, 8 мая.

У Вільні выдаў К. С. Душэўскаму даручэнне на атрыманне з Пецярбургскай драматычнай цэнзуры беларускіх драматычных твораў, пададзеных Я. Купалам туды 30. 12. 1913 г. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 79—80.*

*Люты, 24*. Выслаў А. Карынфскаму ліст, у якім просіць часопісы з перакладамі сваіх вершаў. Упершыню — «Нёман», 1961, № 1.

*Люты, 28*. Напісаны верш «Праявы». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 10, 7 сак.

Губернатар Вяроўкін паведамляў інспектару друкарняў і кніжнага гандлю ў г. Вільні: «М. В. Д. Виленский губернатор. По канцелярии. Стол 2. № 5814. 28 февраля 1914 г. г. Вильна.

Г. инспектору типографий и т. п. заведений,
а также книжной торговли в г. Вильне

Одновременно с сим мною выдано проживающему в г. Минске сыну коллежского советника Александру Никитичу Власову свидетельство за № 5813 на право издания им в г. Вильне под личною его ответственностью еженедельного культурно-просветительного и общественно-политического журнала на белорусском наречии под названием «Наша ніва» по следующей программе: 1) действия и распоряжения правительства; 2) политический обзор за неделю; 3) деревенская и городская жизнь; 4) народное просвещение; 5) фельетоны; 6) новейшие литературные произведения на белорусском наречии; 7) со всех сторон; 8) из Белоруссии и Литвы; 9) смесь; 10) корреспонденции; 11) из-за границы; 12) сельское хозяйство; 13) статьи

научно-популярные и статьи по истории и географии; 14) новые книги; 15) почтовый ящик; 16) юридический и справочный отдел; 17) иллюстрации; 18) известия из последних телеграмм; 19) объявления и 20) приложения в пределах программы. Ответственным редактором названного журнала будет проживающий в гор. Вильне мещанин Иван Доминикович Луцевич. Подписная плата на журнал с доставкой и пересылкой 3 рубля в год; цена отдельного номера 5 коп. Издание будет печататься в типографии Мартина Кухты в гор. Вильне.

О чем имею честь уведомить ваше высокородие для сведения.

Губернатор *Веревкин*
Правитель канцелярии *Новицкий*
Помощник правителя *Антонов*».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 82—83.*

*Сакавік, 4.* У лісце да Б. А. Тарашкевіча пытаецца пра падрыхтоўку беларускай граматыкі. *БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 226; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 239.*

*Сакавік, 7.* Стаў падпісваць «Нашу ніву» як рэдактар.

У «Нашай ніве» (№ 10) «Шарада № 3» (подпіс — К-а).

*Сакавік, 16.* Ліст А. А. Карынфскаму, у якім хваліць яго пераклады сваіх вершаў. Упершыню — Зб. тв., 1976, т. 7, с. 461—462 (у арыгінале).

*Сакавік, 22.* Напісаны верш «Валачобнікі». Упершыню — «Велікодная пісанка». Вільня, 1914.

*Сакавік, 28.* Напісаў паштоўку М. С. Грушэўскаму — украінскаму гісторыку і грамадска-палітычнаму дзеячу. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 550.*

*Сакавік.* У Вільні на літаратурным вечары рускі паэт К. Д. Бальмонт сустрэўся з Я. Купалам, З. Бядулем і інш. *«Беларусь», 1946, № 11—12, с. 48.*

*Красавік, 3.* У «Нашай ніве» (№ 14) «Шарада № 4» (подпіс — К-а).

*Красавік, 6.* Паштоўка А. А. Карынфскаму з Вільні, у якой віншуе яго і яго жонку з Вялікаднем.

*Красавік, 8.* А. А. Карынфскі пераклаў на рускую мову вершы «Песня» («Па зімовай, па дарожцы»), «Да сваіх думак», «Як тут весела спяваці?».

*Красавік, 15.* Напісаў ліст А. А. Карынфскаму, у якім паведамляе, што высылае яму вершы з «Гусляра». Упершыню — Народны паэт Беларусі, 1962, с. 160—161 (у перакладзе на беларускую мову); Зб. тв., т. 7, 1976, с. 462—463 (у арыгінале).

*Красавік, 17.* Напісаны верш «Запела вясна сваю песню». Упершыню — «Лучынка», 1914, № 5.

*Красавік, 22.* Віцэ-губернатар А. А. Падзьяканаў паведамляў віленскаму інспектару друкарняў і кніжнага гандлю ў г. Вільні: «М. В. Д. Виленский губернатор. По канцелярии. Стол 2. № 11365. 22 апреля 1914 г. г. Вильна.

Г. инспектору типографий и т. п. заведений,
а также книжной торговли в гор. Вильне

Издатель выходящего в гор. Вильне еженедельного культурно-просветительного и общественно-политического журнала на белорусском языке под названием «Наша ніва» сын коллежского советника Александр Никитич Власов подал мне заявление о том, что права ответственного издателя названного журнала он передал редактору этого журнала мещанину Ивану Доминиковичу Луцевичу.

Сообщая об изложенном в дополнение к отношению от 28 февраля с. г. за № 5814, имею честь уведомить ваше высокородие, что мною одновременно с сим выдано Луцевичу новое свидетельство № 11362.

И. д. губернатора вице-губернатор *А. Ф. Подьяконов*
Правитель канцелярии *Новицкий*
Помощник правителя *Антонов*».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 84.*

*Май, 1.* У «Нашай ніве» (№ 17) «Шарада № 5» (подпіс — Л.).

*Май, 2.* Студэнт медыцынскага факультэта Варшаўскага універсітэта Аркадзь Табэрка (родам з в. Астроўна Магілёўскай губ.) ехаў на радзіму, па дарозе спыніўся ў Вільні, адкуль пісаў Л. А. Сівіцкай (пазней Зосьцы Верас) у Варшаву (яна была там на курсах): «Быў у Вільні, заходзіў да кнігарні, аддаў Ваш ліст. Бачыўся з Я. Купалай... Пан Луцэвіч нават даў мне на памятку з аўтографам сваім «Шляхам жыцця»». *Песні беларускай валадар, с. 146—147.*

*Май, да 8.* У Вільні выйшаў лацінкаю зборнік «Апавяданні і легенды вершам». У ім вершы Я. Купалы «Роднае слова», «Шчасце».

*Май, 10.* Прыехаў у Пецярбург на пахаванне У. Эпімах-Шыпілы. Напісаны верш «Светлай памяці Уладзіслава Эпімах-Шыпілы». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 19, 16 мая. Прачытаў верш над магілай У. Эпімах-Шыпілы. Да 1961 г. у выданні твораў Я. Купалы не ўключаўся. *«Полымя», 1967, № 7, с. 225.*

*Май, 15.* З'явіўся ў 7-ы ўчастак г. Вільні з д. № 29 на Віленскай вул.

*Май, 16.* З № 19 «Нашай нівы» падпісвае газету як рэдактар-выдавец.

У «Нашай ніве» (№ 19) артыкул «Уладзіслаў, сын Ігната Эпімах-Шыпілы» (подпіс — К-а). *ПЗТ, т. 8, с. 38, 370.*

*Май, 22.* У «Нашай ніве» (№ 20) «Шарада № 6» без подпісу. *Рагойша В. Напісана рукой Купалы. Мн., 1981. С. 31.*

*Чэрвень, 6.* У «Нашай ніве» (№ 21—22) артыкул «А ўсё ж такі мы жывём!..» (подпіс — І. Л.).

*Чэрвень, 10.* Напісаны верш «Сярод раз'юшаных сатрапаў». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 12, 10 чэрв.

У газеце «Северо-западная жизнь» артыкул Л. Саланевіча супраць Я. Купалы — рэдактара «Нашай нівы».

*Чэрвень, 15.* Газета «Виленский вестник» (№ 129) выступіла супраць Я. Купалы як публіцыста і рэдактара «Нашай нівы».

*Чэрвень, 17.* Газета «Северо-западная жизнь» змясціла артыкул супраць Я. Купалы.

*Чэрвень, 20.* У «Нашай ніве» (№ 24) артыкул «За «А ўсё ж такі мы жывём!..» (подпіс — І. Л. ).

*Ліпень, 20.* Пачалася 1-я імперыялістычная вайна.

*Ліпень.* Напісаны артыкул «Вера і нацыянальнасць». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 27, 10 ліп. як перадавы артыкул (подпіс — І. Л. ).

*Жнівень, 18.* Падараваў В. Я. Брусаву свае кнігі «Шляхам жыцця», «Сон на кургане», «Адвечная песня». *ЭД, с. 95; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 332.*

В. Я. Брусаў пераклаў на рускую мову вершы «Як у лесе зацвіталі...», «На Купалле».

В. Я. Брусаў падпісаў Я. Купалу свой пераклад верша «Як у лесе зацвіталі...» («По лесам как расцветали...»): «Ивану Доминиковичу Луцевичу на память о встрече, с благодарностью за посещение. В. Б.». Пад перакладам дата: «Вильна, 18 августа 1914. Валерий Брюсов». *«ЛіМ», 1977, 8 ліп.*

*Жнівень, 19.* У Вільні В. Я. Брусаў пераклаў на рускую мову вершы «Адцвітанне» і «У ночным царстве».

*Жнівень, 22.* «Вечерняя газета» (№ 691, Вільня) змясціла брусаўскія пераклады вершаў «На Купалле» і «Як у лесе зацвіталі...».

*Жнівень, 25.* «Вечерняя газета» (№ 694) змясціла брусаўскія пераклады вершаў «Адцвітанне» і «У ночным царстве».

*Верасень, 4.* У «Нашай ніве» (№ 35) артыкул «Хай рунь красуе» (подпіс — Я. К-а) — адзін з першых водгукаў Я. Купалы-рэдактара на падзеі імперыялістычнай вайны.

*Верасень, 18.* У «Нашай ніве» (№ 37) надрукаваны без подпісу артыкул «Нашы пісьменнікі і грамадскія працаўнікі на вайне». Ёсць меркаванне, што аўтар яго Я. Купала. *Сона даль У. Апошні з нашаніўцаў. — «ЛіМ», 1978, 29 верас.; ПЗТ, т. 8, с. 358.*

*Верасень, 25.* У «Нашай ніве» (№ 38) артыкул «Вайна і самапомач».

*Верасень, 26.* У «Нашай ніве» (№ 39) вершы «Варожбы» і «Перад бурай» з цыкла «Песні вайны».

*Верасень, 28.* Напісаў ліст Б. І. Эпімах-Шыпілу, у якім просіць выслаць яму грошай у сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам.

*Кастрычнік, да 9.* Напісаны артыкул «Вайна і налогі». Упершыню — «Наша ніва», 1914, 9 кастр. (подпіс — І. Л. ) як перадавы артыкул. *ПЗТ, т. 8, с. 48—49, 372.*

*Кастрычнік, 9.* У «Нашай ніве» (№ 40) верш «Склік».

Па заказу Я. Купалы Я. Драздовіч зрабіў мастацкае афармленне кнігі К. Буйло «Курганная кветка». *ЭД, с. 202.*

*Кастрычнік, 23.* У «Нашай ніве» (№ 42) верш «Разлука», артыкул «Чвэрць года вайны» (подпіс — К-а).

*Лістапад, 1.* Напісаны раздзел «Засталіся нівы, сёлы» з цыкла «Песні вайны». Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 44, 6 ліст.

У «Нашай ніве» (№ 40) артыкул «Вайна і налогі» (подпіс — І. Л.). *ПЗТ, т. 8, с. 48—49, 372.*

*Лістапад, 20.* У «Нашай ніве» (№ 46) пераклад Я. Купалы верша М. Канапніцкай «Як кароль у паход выходзіў» («A jak poszedł król na wojnę»).

*Снежань, 8.* Выйшаў зборнік «Дзень штукарства» з цыклам вершаў Я. Купалы «Песні вайны» (без 6-й часткі).

*Снежань, 13.* Напісаны вершы «Ўспомні!». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 3, 23 студз.; «Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея». Упершыню — «Наша ніва», 1915, 7 жн. Прысвечаны Ул. Станкевічанцы, будучай жонцы.

*Снежань, 14.* Тэлеграма А. А. Карынфскаму: віншаванне з імянінамі.

*Снежань, 18.* Напісаны вершы «1914-ы», «Пабоішча» з цыкла «Песні вайны». Упершыню абодва — «Наша ніва», № 51—52, 25 снеж.

*Снежань, 30.* З'явіўся ў 7-ы ўчастак г. Вільні з дома № 29 на Віленскай вул.

*На працягу года.* Напісаў вершы «Груганы», «Крыўда» («З'ядае крыўда нас ад векаў»), «Сваякі», «Я мецъ ад кагосьці...».

I. Свянціцкі ў кнізе «Асновы адраджэння беларускага пісьменства» (1914): «Купала найвіднейшы і найбольш пладавіты беларускі паэт, мае многа агульнага з жыццём украінскага генія. Шаўчэнку ён дужа высока цэніць і любіць, зачытваецца творамі Міцкевіча і Пушкіна. Як паэт ён — і лірык, і эпік, і сатырык. Яго творчасць цікавая ўвогуле тым, што наглядна адлюстроўвае развіццё беларускай самасвядомасці, якая ўсё шырэй і глыбей ідзе ў народныя масы».

## 1915

*Студзень, 3.* Напісаны вершы «Маё цярпенне». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 2, 16 студз.; «Быў гэта сон...». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 5, 6 лют.; «Не судзіла доля». Упершыню — «Наша ніва», 1915, 2 ліп. Вершы — пачатак цыкла пра непадзеленае каханне. Адлюстравалі перажыванні паэта ў сувязі з адмоваю П. В. Мядзёлкі стаць яго жонкай.

*Студзень, 9.* У канторскай кнізе «Нашай нівы» занатоўвае звесткі пра падпіску на газету. *Александровіч С. Кнігі і людзі, с. 90.*

*Студзень, 16.* Пракурору Віленскай судовай палаты: «М. В. Д. Временный комитет по делам печати в Вильне. 16 января 1915 г. № 28. г. Вильна.

Г. прокурору Виленской судебной палаты

Виленский вр[еменный] комитет по делам печати согласно ст. 1213[12] Устава уголовного судопроизводства имеет честь сообщить вашему превосходительству, что на основании ст. 1213[10] того же Устава журнальным постановлением комитета от сего числа наложен арест на № 2 от 16-го сего января еженедельной газеты на белорусском языке п[од] н[азванием] «Наша ніва» за статью под заголовком «Думкі», так как комитетом усмотрены в ней признаки преступлени[я], предусмотренного п. 3 ст. 1034[4] Улож[ения] о нак[азаниях].

Мотивированное сообщение по настоящему делу будет доставлено дополнительно.

Председательствующий *Чердацкий*
За секретаря *Ив. Андреев*».

Нумар газеты канфіскаваны. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 98—99.*

*Студзень, 19.* Пракурору Віленскай судовай палаты паслана выпіска з журнала паседжання і газета «Наша ніва» (№ 2) з артыкулам «Думкі» А. Язмена. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 99—100.*

*Студзень, 20.* Напісаны вершы «Таварыш мой». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 4, 31 студз.; «На суд». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 12—13, 2 крас.; «Таей даўгажданай». Упершыню — «Полымя», 1929, № 3.

*Студзень, 23.* Пракурор Віленскай судовай палаты пракурору Віленскага акруговага суда: «М. Ю. Прокурор Виленской судебной палаты. Января 23 дня 1915 г. № 59. г. Вильна.

Г. прокурору Виленского окружного суда.

Препровождаю при сем на распоряжение вашего высокородия отношение Временного комитета по делам печати в г. Вильне от 19 января 1915 г. за № 42 вместе с № 2 газеты на белорусском языке под названием «Наша ніва» и копией постановления Комитета по делам печати от 16 января сего года и о последующем прошу мне донести.

За прокурора судебной палаты *Кегель*

За секретаря *Перетятков».*

*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 101—102.*

*Студзень,* 25. У Вільні пастаўлены «Залёты» В. І. Дуніна-Марцінкевіча. *ЭД, с. 239.*

*Студзень, 28.* Пракурор Віленскага акруговага суда накіраваў у акруговы суд «Нашу ніву» (№ 2) і адносіну Часовага камітэта па справах друку ў г. Вільні на зацвярджэнне арышту. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 102.*

*Люты, 2.* Прашэнне ў Віленскі акруговы суд адносна арышту газеты «Наша ніва» (№ 2). *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 102—105; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 494.*

*Люты, 3.* Віленскі акруговы суд арышт № 2 «Нашай нівы» зацвердзіў. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 105.*

*Люты, 4.* Напісаны вершы «Вечар». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 7, 21 лют.; «Ўвесь да дна...». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 75, 7 крас.

*Люты, 6.* У «Нашай ніве» (№ 5) рэцэнзія на пастаноўку п'есы В. І. Дуніна-Марцінкевіча «Залёты» Беларускім музычна-драматычным гуртком у Вільні (подпіс — К-а).

*Люты, 10.* Пракурор Віленскага акруговага суда пракурору Віленскай судовай палаты: «Его превосходительству господину прокурору Виленской судебной палаты

Прокурора Виленского окружного суда

Представление

Вследствие предписания от 23 января сего года за № 59 доношу вашему превосходительству, что мною вместе с сим за № [1839] предложено судебному следователю 7-го уч[астка] гор. Вильны приступить к производству предварительного следствия по обвинению редактора издающейся в гор. Вильне на белорусском языке газеты под названием «Наша ніва» в преступлении, предусм[отренном] 3 п. 1034[4] ст. Улож[ения] о наказ[аниях].

К изложенному докладываю, что определением Виленского окружного суда от 3-го сего февраля утвержден арест, наложенный Временным комитетом по делам печати в гор. Вильне на № 2 указанной выше газеты.

Об изложенном ввиду циркуляра от 18 марта 1908 г. за № 2776 в Первый департамент Министерства юстиции по 1-му уголовному отделению не сообщается.

[10] февраля 1915 г.

№ [1842]». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 106.*

*Люты, 12.* Выконваючы абавязкі судовага следчага В. Бацюня прыняў справу «Нашай нівы» (№ 2) да разгляду. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 107.*

*Люты, 15.* Напісаны вершы «На вуліцы». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 8, 27 лют.; «Нашто?». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1920, № 6, 11 сак.; «Сярод магіл». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 10, 14 сак.

*Люты, 17.* Часовы камітэт па справах друку ў Вільні сакрэтна накіроўвае судоваму следчаму 7-га ўчастка г. Вільні звесткі пра распаўсюджанне газеты «Наша ніва» (№ 2). *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 108.*

*Люты, 18.* Я. Купала дасылае прыставу 7-га ўчастка г. Вільні звесткі пра распаўсюджанне № 2 «Нашай нівы». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 108—109.*

*Сакавік, 1.* Напісаны верш «Ідзе вясна». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 74, 4 крас.

*Сакавік, 19.* Я. Купала запісвае ў канторскай кнізе «Нашай нівы» звесткі пра плату за друкаванне газеты. *Александровіч С. Кнігі і людзі, с. 90.*

*Сакавік, 20.* З пратакола допыту Я. Купалы:

[...] «Я состою редактором-издателем виленской газеты «Наша ніва», издающейся на белорусском яз[ыке]. Газета «Наша ніва» печатается в типографии Кухты по Татарской ул. в количестве около 1500 экземпляров. Газета всегда рассылалась и рассылается подписчикам только по почте, как мест-

ным, так и иногородным подписчикам. Газета рассылается бандеролью. № 2 газеты от 16 января с. г. тоже отпечатан в вышеуказанном количестве, и все экземпляры сданы на почту, за исключением 15 экземпляров, отосланных в цензурный комитет. В киосках этот № не продавался. Об аресте этого № я узнал на другой или на третий день и в следующем № 3 от 23 или 24 января я опубликовал о конфискации № 2 газеты. Сколько №№ было задержано на почте, я не знаю, так как мне не сообщали. Все экземпляры арестованного № 2 газеты были сданы на почту одновременно. Прочитано.

*Ив. Луцевич*

И. д. судебного следователя *В. Батюня».*

*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 109—110; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 510—511.*

*Сакавік, 30.* Выконваючы абавязкі судовага следчага В. Бацюня падрыхтаваў пастанову ў Віленскі акруговы суд на спыненне справы наконт «Нашай нівы» (№ 2):

«Постановление

1915 года марта 30 дня. Судебный следователь 7-го уч[астка] г. Вильны, рассмотрев настоящее дело, нашел: В Виленский вр[еменный] комитет по делам печати поступил на просмотр № 2 от 16 января с. г. газеты «Наша ніва» на белорусском наречии, в котором помещена статья «Думкі» за подписью «А. Язьмен». В этой статье два раненых солдата, находящихся на излечении в госпитале, в беседе между собою высказывают мысль о том, что вряд ли им дадут пособие, т[ак] к[ак] есть раненые без ног и без рук и тем, и тем, бог знает, дадут ли. Так было и в японскую войну — кто был поумнее, тот исходатайствовал, а многие калеки остались без гроша и пропадают, как собаки, в сырых и холодных углах. Лучше бы дали земли вместо какого-то пособия и бесплатные школы, чтобы их дети могли бесплатно учиться как в сельской школе, так и в высших, если у кого окажутся способности к наукам, а если нет, то в ремесленной школе, и чтобы после того мог занять хорошую должность, а не уезжать куда-то в Америку. В настоящее время если кто из мужиков окончит высшее учебное заведение, то ему не так легко добиться хорошего места, так как для этого необходимо просить знакомых важных сановников. Сын же любого разночинца, или чиновника, или офицера, каким бы ни был, нигде не пропадет — дадут место, хоть бы по три года сидел в каждом классе. Продолжая рассуждения о бесплатных школах, выведенные в статье персонажи — раненые — касаются

налогов и указывают, что за школы придется платить им же, так как ни чиновник, ни офицер налогов не платит, да и вообще в России те, которые получают тысячи, не платят налогов вообще, не то, что за границей: кто больше получает, тот больше и платит. Может быть, и в России настанет время, когда тот, кто получает 10 руб., будет платить 1 руб., а кто 20 руб., то уже должен платить не 2 р., а 2 р. 50 к. В заключение собеседники говорят: Если бы у нас были такие порядки, как за границей, не пропадали бы мы так.

Усматривая в означенной статье сообщение заведомо ложных сведений о деятельности правительственных учреждений, возбуждающих к ним враждебное отношение крестьянских масс и нижних воинских чинов, Комитет по делам печати постановил возбудить против редактора газеты «Наша ніва» мещанина Ивана Доминиковича Луцевича уголовное преследование по 3 п. 1034[4] ст. Ул[ожения] о нак[азаниях], наложив на № 2 этой газеты арест.

Редактор газеты «Наша ніва» Луцевич в своем прошении от 2 февраля на имя Виленского окружного суда указывает, что в инкриминируемой статье «Думки» не заключается состава преступления, т[ак] к[ак] в ней положительно не сообщается заведомо ложных сведений о деятельности какого бы то ни было правительственного установления или должностного лица, а тем более о деятельности какой-либо воинской части, и что № 2 газеты «Наша ніва» был беспрепятственно пропущен предварительной военной цензурой. Указание в статье на трудности, связанные с возможностью получения пособия в случае утраты трудоспособности во время войны, само по себе не содержит никакого суждения о деятельности правительства или об отсутствии забот со стороны властей. В то же время в указании на трудность получения хорошего места для человека, не имеющего протекции и связей, нет ни одного намека на то, что ненормальный порядок занятия должностей (если где-либо в единичных случаях он и имел место) является следствием распоряжения, исходящего от правительства. О том, что налоговая система требует коренных реформ, неоднократно обсуждалось в законодательных учреждениях, и в Государственной думе раздавались голоса за реформы в этом отношении, причем как одна из наилучших систем предлагалось подоходное обложение.

На предварительном следствии путем справок выяснено, что № 2 от 16 января с. г. газеты «Наша ніва» отпечатан в количестве 1500 экземпляров, которые все сданы на почту

под бандеролью для рассылки подписчикам, за исключением 15 экземпляров, отосланных в Комитет по делам печати. По сообщению заведывающего Виленской центральной почтовой конторой, означенный № газеты вследствие наложенного на него Комитетом по делам печати ареста задержан в конторе в количестве 580 бандеролей, и был ли он разослан и в каком количестве экземпляров подписчикам до поступления сообщения комитета по делам печати о наложении ареста, установить невозможно.

Ввиду изложенного, находя событие преступления, предусмотренного 3 п. 1034[4] ст. Улож[ения] о нак[азаниях], недоказанным, судебный следователь на основании 277 ст. У[става] у[головного] с[удопроизводства] постановил: представить дело чрез прокурорский надзор в Виленский окружный суд на прекращение.

И. д. судебного следователя *В. Батюня*».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 110—112.*

*Красавік, 3.* У «Вечерней газете» (Вільня) апублікаваны артыкул «Бо-вич'а» (Л. Гмырака) «М. Горькій о белоруссах», дзе прыводзіцца высокая ацэнка творчасці Я. Купалы ў кнізе М. Горкага «О писателях-самоучках» (Пг., 1915) і яго пераклад на рускую мову верша «А хто там ідзе?» *Гмырак, с. 216—219, 237.*

*Красавік, 9.* Запісвае ў канторскай кнізе «Нашай нівы», што рэдакцыя заплаціла за паперу на «Стражніка» С. Бірылы. *Александровіч С. Кнігі і людзі, с. 91.*

*Красавік, 14.* Таварыш пракурора Даніловіч па 4-м участку г. Вільні дакладвае пракурору Віленскага акруговага суда пра спыненне справы па «Нашай ніве» (№ 2) з-за адсутнасці складу злачынства. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 112.*

*Красавік, 21.* Запісвае ў канторскую кнігу «Нашай нівы», што рэдакцыя заплаціла за вокладку на «Стражніка» С. Бірылы. *Александровіч С. Кнігі і людзі, с. 91.*

*Красавік, 24.* У «Нашай ніве» (№ 16) вершы «Бацькаўшчына» і «Чаму?» пад агульным загалоўкам «Санеты».

*Чэрвень, 6.* Робіць запіс у канторскай кнізе «Нашай нівы». Усе запісы да канца выхаду газеты (7 жніўня) вядзе ён.

*Чэрвень, 7.* Напісаны верш «Вясна 1915-я». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 23, 12 чэрв.

З. Бядуля пакінуў работу ў рэдакцыі «Нашай нівы». *Александровіч С. Кнігі і людзі, с. 90.*

*Чэрвень, 19.* У «Нашай ніве» (№ 24) апублікаваны верш «Мусіць, трэба было», прысвечаны У. Станкевічанцы, будучай жонцы.

*Ліпень, 4.* Напісаў ліст Я. Драздовічу ў Дзісну. *Аддзел рукапісаў, Ф Б Нац. АН Беларусі, ф. 2, воп. 1, спр. 45, арк. 3; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 243.*

*Ліпень, 7.* Напісаны верш «А яна...». Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 28, 17 ліп.

*Ліпень, 13.* Напісаны вершы «Пахаванне». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1920, № 7; «Ночцы». Упершыню — «Спадчына».

*Ліпень, 18.* У пашпарце Я. Купалы зроблена адзнака пра яго прыезд у Вільню. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 49.*

*Жнівень, 7.* Выйшаў у свет апошні, 31-ы нумар «Нашай нівы» пад рэдакцыяй Я. Купалы.

*Жнівень, 8.* Едзе ў Акопы да маці. У канторскай кнізе «Нашай нівы» запісаў: «8 жніўня. Купале на дарогу 5 р.». *Александровіч С. Кнігі і людзі, с. 91; Песні беларускай валадар, с. 5.*

*Верасень, 5.* З Акопаў паехаў у Маскву. *Такі ён быў, с. 42.*

*Верасень, 12.* У Арле жыў у С. К. Жывапісцава. Напісаў вершы «Плача восень». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1919, № 17, 13 кастр. (у аўтографе загаловак «З асенніх напеваў»); «Арліныя крыллі». Упершыню — «Беларусь», 1963, № 3. Верш прысвечаны Т. С. Жывапісцавай (1896—1942), дачцэ С. К. Жывапісцава.

*Верасень, 23.* Прапісаны ў 2-м участку Прэсненскай часці г. Масквы ў д. № 27 Калініна на Цішынскай плошчы. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 49.*

*Верасень, 28.* Пасылае ліст Б. І. Эпімах-Шыпілу ў Пецярбург, у якім паведамляе, што наведвае заняткі ва універсітэце Шаняўскага.

## 1916

*Студзень, 23.* У Маскве ажаніўся з Уладзіславай Францаўнай Станкевіч. Вянчаліся ў Петра-Паўлаўскім касцёле. *Ліст Л. М. Клейнбарту, 23. 11. 1927 г.*

*Студзень, канец.* Прызваны ў армію. Служыць у Мінску старшым рабочым дарожна-будаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін. Атрадам кіраваў брат Уладзіславы Францаўны В. Ф. Станкевіч. *Ліст Л. М. Клейнбарту, 23. 11. 1927 г.*

*Студзень, 30.* У пашпарце Я. Купалы начальнікам XVI дарожнага атрада зроблена памета: старшы рабочы. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 49.*

*Люты, 15.* У Вільні пачынае выходзіць газета «Гоман».

*Красавік, 2.* У лісце з Пецярбурга ў Мінск да Л. А. Сівіцкай студэнт выпускнога курса Пецярбургскага універсітэта Б. А. Тарашкевіч пытаецца: «Што робіць Купала? Мы доўга не ведалі, дзе ён дзеўся» і просіць: «Падганіце Купалу, каб ён хутчэй адпісаў на маё пісьмо». *Песні беларускай валадар, с. 147.*

*Лета.* Разам з атрадам пераведзены ў Полацк. Тут сустракаецца з С. К. Жывапісцавым. *Ліст Л. М. Клейнбарту, 23. 11. 1927 г.; ЭД, с. 219.*

*Ліпень, 26.* У Віленскім акруговым судзе спынена справа Я. Купалы: «1916 года июля 26 дня по указу его императорского величества Виленский окружный суд, в распорядительном заседании по уголовному отделению, в следующем составе:

Председательств[ующий] *У. Ф. Пальцев,*
Члены суда: *Б. Ф. Ватаци, Н. Г. Гораин,*

при и. д. п[омощника] секретаря К. М. Крыжановском и в присутствии тов[арища] прокурора П. Н. Страдомского выслушал: 1) доклад члена суда У. Ф. Пальцева по делу, переданному при предложении прокурора Виленского окружного суда от 29 июня 1916 г. за № 1274, о редакторе белорусской газеты «Наша ніва» Иване Доминикове Луцевиче, обв[иняемом] по 1034[4] ст. Улож[ения] о наказ[аниях]; 2) постановление судебного следователя 7-го участка г. Вильны о прекращении следствия по сему делу на основании 277 ст. Уст[ава] угол[овного] судоп[роизводства] и 3) заключение тов[арища] прокурора Виленского окружного суда, нашел, что настоящее дело подлежит прекращению за отсутствием состава преступления.

Сообразив обстоятельства означенного дела с вышеозначенными основаниями, окружный суд определяет: 1) Следствие по настоящему делу дальнейшим производством прекратить на основании 277 ст. Уст[ава] угол[овного] суд[опроизводства], о чем вывесить объявление. 2) Судебные по делу издержки, если окажутся, принять на счет казны. 3) Вещественные по делу доказательства: № 2 «Нашай нівы» за 1915 г. оставить при деле. 4) Настоящее определение по вступлении в законную силу вместе с подлинным производством передать прокурору окружного суда.

Председательств[ующий] *Пальцев*
Члены суда: *Б. Ватаци, Н. Гораин*
И. д. п[омощника] секретаря *Крыжановский*

Объявление о прекращении следствия вывешено 27/VII 1916 г.». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 113—114.*

*Верасень, 23.* «Министерство юстиции. Виленский окружный суд. По 1-му Уголовн[ому] отдел[ению]. Сентяб[ря] 23 дня 1916 г. № 101280. г. Липецк.

Господину прокурору Виленского окружного суда.

Окружный суд препровождает при сем на распоряжение ваше определение суда, состоявшееся 26 июля 1916 г., вместе с подлинным производством по делу о редакторе белорус[ской] газеты «Наша ніва» И. Д. Луцевиче, обв[иняемом] по 1034[4] ст. Улож[ения] о наказ[аниях].

Вещ[ественные] доказательства при деле.

Член суда *Пальцев*
Секретарь *Орлов»*.
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 114.*

*Верасень, 26.* З Полацка напісаў ліст Б. І. Эпімах-Шыпілу. *«Нёман», 1977, № 8, с. 162; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 244—245.*

*Лістапад, 3.* Адольф Зянюк, студэнт юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, піша Л. А. Сівіцкай (будучай Зосьцы Верас) у Мінск: «У нас вайна адчуваецца на кожным кроку. Вязуць часта раненых. Штодзень збіраюць грошы на вуліцах, штодзень канцэрты «с благотворительной целью». Так што ў гэтым годзе беларускай вечарыны, думаю, не ўдасца зрабіць. Труднасць ёсць і ў тым, што паставіць няма чаго. Старыя рэчы ўжо ставілі, а новыя не друкаваны. А ёсць шмат. Янка Купала напісаў «Раскіданае гняздо». Найлепшая рэч з яго твораў, можна ставіць хоць бы ў Імператарскім тэатры». *Песні беларускай валадар, с. 147.*

## 1917

*Люты, 17.* У зале Работніцкага клуба ў Вільні пастаўлена «Паўлінка». *«Гоман», 1917, 23 лют.*

*Люты, 21.* У «Газеце X арміі» («Zeitung der X Armee», № 215) змешчана рэцэнзія на Віленскую пастаноўку «Паўлінкі» (аўтар — В. Егер).

*Люты, 23.* У газеце «Гоман» рэцэнзія на Віленскую пастаноўку «Паўлінкі».

*Красавік, 23.* Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі ў Мінскім гарадскім тэатры (цяпер Нацыянальны тэатр імя Я. Купалы) пастаўлены «Паўлінка» і спектакль «Рысь» паводле Э. Ажэшкі. *ЭД, с. 473; Дыла Я. Творы. Мн., 1981. С. 316 (далей будзе: Дыла.— Я. С.); ПЗТ, т. 7, с. 383.*

*Май, 7.* Трупа Першага таварыства беларускай драмы і камедыі выехала ў Слуцк і Асіповічы, дзе паставіла «Паўлінку» і дала разнастайны беларускі дывертысмент. *Дыла, с. 317.*

*Май, 23.* Трупа Першага таварыства беларускай драмы і камедыі наведала Бабруйск, дзе паказала «Паўлінку» і іншыя беларускія п'есы, даўшы некалькі спектакляў з дывертысментам. *Дыла, с. 317.*

*Чэрвень, 7—11.* Трупа Першага таварыства беларускай драмы і камедыі знаходзілася ў Магілёве, дзе паказала «Паўлінку» Я. Купалы, «Сягонняшнія і даўнейшыя» К. Буйло, і іншыя спектаклі, пасля якіх былі дэкламацыі, песні, беларускія народныя танцы. *Дыла, с. 317—318.*

*Лета.* Гасцяваў у фальварку Б. І. Эпімах-Шыпілы, прыязджаючы туды з Полацка.

*Чэрвень, 29.* Для настаўнікаў і вучняў у Жлобіне трупа Першага таварыства беларускай драмы і камедыі паказала «Паўлінку». *Дыла, с. 318.*

*Ліпень, 10.* Трупа Першага таварыства беларускай драмы і камедыі паказала ў Мінску (гарадскі тэатр) па аўтарскім рукапісе драму Я. Купалы «Раскіданае гняздо». Рэжысёр Ф. Ждановіч. Маці — В. Тарасік, Лявон Зяблік — А. Крыніца, Сымон — Ф. Ждановіч, Старац — Р. Жакоўскі, Зоська — А. Ліпнічанка. *«Вольная Беларусь», 1917, 10 ліп.; Дыла, с. 319; Ярош, с. 153; ЭД, с. 526; ПЗТ, т. 7, с. 389.*

*Ліпень, 26.* У газеце «Вольная Беларусь» П. К. (П. Г. Каравайчык) апублікаваў рэцэнзію на пастаноўку «Раскіданага гнязда». *ЭД, с. 307.*

*Ліпень.* У армейскай газеце «Украïнськiй голос» (Рыга) верш «Поле роднае» ў перакладзе С. У. Піліпенкі.

*Жнівень, 1.* У Радашковічах трупа Першага таварыства беларускай драмы і камедыі паставіла «Паўлінку». *Дыла, с. 318.*

*Жнівень, 31.* У Оршы артысты Першага таварыства беларускай драмы і камедыі паставілі «Паўлінку». Паўлінку іграла А. Ліпнічанка. *Дыла, с. 318.*

*Верасень, 2.* У Оршы, дзе паказваліся беларускія п'есы, з дэкламацыяй выступіла Л. Тарасік — чытала «Чатыры крыжы» Я. Купалы і «Сірацінку» Цёткі. *Дыла, с. 318.*

*Кастрычнік, 18.* Удзельнікам І з'езда салдацкіх дэпутатаў армій Заходняга фронту (праходзіў у гарадскім тэатры) была паказана «Паўлінка» з П. Мядзёлкай у галоўнай ролі. *Белорусский экватор. Путевая книга в шести тетрадях. Мн., 1981. С. 114.*

*Восень.* У Полацку сустракаўся з П. В. Мядзёлкай. Аддаў ёй на захаванне аўтографы некаторых сваіх вершаў, у т. л. «Смейся!..», «Цару неба й зямлі». *ЭД, с. 413.*

З Полацка пераехаў у Смаленск.

*Снежань, 3.* Газета «Белорусская рада» (Мінск) змясціла тэкст песні «А хто там ідзе?» з падзагалоўкам: «Беларускі гімн. Словы Я. Купалы, муз. Л. М. Рагоўскага».

*Снежань, 10.* У клубе Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску трупа Першага таварыства беларускай драмы і камедыі паставіла «Паўлінку». *Дыла, с. 320.*

*Снежань, 16 ці 17.* Я. Купала прыязджаў у Мінск. Заходзіў на з'езд беларускіх партый. *Лойка А. Выбраныя творы ў двух тамах. Мн., 1992. Т. 1. С. 151 (далей будзе: Лойка.— Я. С.).*

*На працягу года.* У № 12—17 часопіса «Витебский край» змешчаны артыкул М-о (М. В. Мялешка) «Забытый край. Очерки Белоруссии», у якім аўтар сярод найбольш прыкметных з'яў беларускай літаратуры назваў зборнікі паэзіі Я. Купалы «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця».

## 1918

*Студзень, 14.* У клубе Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску пастаўлена «Паўлінка». Паўлінка — В. Зароская, яе бацька — А. Крыніца, Якім — У. Фальскі, удзельнічалі таксама В. Тарасік, М. Шут, Янка Беларус (І. Ждановіч). *Дыла, с. 320.*

*Люты, 18.* Войскі кайзераўскай Германіі пачалі наступленне і акупацыю цэнтральнай і усходняй Беларусі; савецкія воінскія часці пакінулі Мінск.

*Люты, 20.* У Мінск уступілі войскі корпуса І. Р. Доўбар-Мусніцкага.

*Люты, 22.* Германскія войскі ўвайшлі ў Мінск.

*Сакавік, 16.* У Смаленску Я. Купала падарыў сваё фота М. І. Гарэцкаму. З успамінаў Г. І. Гарэцкага: «[...] У 1918 навучальным годзе, калі ў занятках адбыўся часовы перапынак (не было хлеба і дроў), мне давялося працаваць у Смаленску, у якасці стэнаграфіста Савета народнай гаспадаркі выканкама Заходняй вобласці (Облискомзап). Жыў я разам з братам Максімам, які супрацоўнічаў тады ў рэдакцыі газеты «Звезда».

У 1918 годзе ў Смаленску жыў і Янка Купала з маладою жонкай Уладзіславай Францаўнай; жылі яны на Малой Багаслоўскай вуліцы, у прыдалінннай частцы горада, у аднапавярхо-

вым доме. Купала досыць часта запрашаў Максіма ў госці, брат і мяне браў з сабою. Хоць і цяжка жылося ў той час, але Уладзіслава Францаўна заўсёды была выключна гасціннай і жыццярадаснай.

Сустрэўшыся з Янкам Купалам, я зусім разгубіўся, засаромеўся, не мог вымавіць ані слова. Толькі ўважліва слухаў, са здзіўленнем наглядаў, маўчаў. Аднак надзвычайная прастата, добразычлівасць і ўвага Янкі Купалы, ласка Уладзіславы Францаўны надавалі мне крыху смеласці і раўнавагі.

Янка Купала і брат разглядалі кнігі па гісторыі Смаленска і Мсціслава, па этнаграфіі Беларусі і Смаленшчыны, па нумізматыцы. Купала паказваў сваю досыць багатую нумізматычную калекцыю, частку якой, разам з дзвюма кнігамі па нумізматыцы, ён падараваў нам.

Купала і брат гаварылі пра беларускую літаратуру, этнаграфію, гісторыю, пра беларускія слоўнікі І. І. Насовіча і У. М. Дабравольскага, які жыў тады ў Смаленску. Самаадданая дзейнасць Насовіча і Дабравольскага па складанні беларускіх слоўнікаў вельмі падабалася Купалу і брату. Бытавая неўпарадкаванасць і страшэнная беднасць славутых беларускіх словазнаўцаў не спынілі іх актыўнай творчай працы да канца жыцця; гэта выклікала вялікую пашану да іх з боку Купалы і Максіма.

Асабліва цікавіўся Янка Купала ў Смаленску «Словам аб палку Ігаравым». Мусіць, менавіта гэта жывіла зацікаўленасць Янкі Купалы «Смаленскім абласным слоўнікам» У. М. Дабравольскага, бо ў гэтым слоўніку трапляліся словы, якімі карыстаўся і стваральнік «Слова». Можа, таму захапіўся Купала і нумізматыкай, бо старадаўнія грошы вызначалі гандлёвыя і культурныя шляхі праз беларускія землі. Наведванне многіх вёсак Смаленшчыны і Магілёўшчыны (на стыку з Браншчынай) у час працы ў харчова-нарыхтоўчай арганізацыі спрыяла Купалу ў пазнанні моўнай стыхіі, у якой жыў аўтар «Слова». Шукаючы на Смаленскім рынку старадаўнія манеты, Купала знаходзіў і залатыя словы з паэтычнай песні пра Ігара. Ужо праз год (у 1919 г.) Купала перакладзе «Слова» на беларускую мову.

Мне пашчасціла пабачыць Янку Купалу ў гістарычным 1918 годзе ў Смаленску, дзе ўжо вялася адказная падрыхтоўчая праца па абвяшчэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Вобраз Янкі Купалы, вобраз нацыянальнага паэта-рэвалюцыянера, які склаўся ў мяне пасля «Жалейкі» і «А хто там ідзе?», ускладніўся ў маім успрыманні».

*Гарэцкі Г. Выбранае. Мн., 2002. С. 188—189; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 336.*

*Красавік, 2.* У «Беларускай хатцы» (Мінск) трупа Першага таварыства беларускай драмы і камедыі паставіла «Паўлінку». Паўлінка — П. Мядзёлка, Якім — Ф. Ждановіч, Адольф Быкоўскі — У. Фальскі. *Дыла, с. 321; ЭД, с. 474; ПЗТ, т. 7, с. 383.*

*Красавік, 10—14.* У Смаленску сустракаўся з А. Чарвяковым, які спыніўся ў кватэры Я. Купалы на Малой Багаслоўскай, 5. *«ЛіМ», 1984, 14 снеж.; «Рабочий путь» (Смаленск), 1985, 13 мая.*

*Май, 7.* У «Беларускай хатцы» (Мінск) Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі пастаўлена «Раскіданае гняздо». Сымон — Ф. Ждановіч, Зоська — П. Мядзёлка, маці — В. Тарасік, Данілка — Пралеска. *Дыла, с. 323.*

*Май, 8.* У «Беларускай хатцы» (Мінск) пастаўлена «Паўлінка». *Дыла, с. 323.*

*Ліпень, 1.* Загадчыку пададдзела хлебафураж Аддзела забеспячэння Заходняй вобласці ў Смаленску падаў заяву з просьбаю прыняць яго на службу. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 117.*

*Ліпень, 10.* Ф. Турук напісаў І. Белавусаву: «На Ваше письмо могу ответить следующее: из белорусских народных поэтов большого внимания заслуживает Янка Купала». *Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 39.*

*Ліпень, 21.* Атрымаў пасведчанне агента аддзела забеспячэння Заходняй вобласці. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 117—118.*

*Ліпень, 23.* Дакумент на выдачу Я. Купалу камандзіровачных: «Части хлебофураж. 23 июля 1918 [г.]. [№] 2288. Смоленск.

В финансовый подотдел.

Прошу выдать агенту Ивану Доминиковичу Луцевичу, командированному в гор. Курск и Курскую губернию, аванс в размере пятисот рублей (500 руб.).

Заведывающий Отделом снабжения Западной области
Заведывающий Подотделом хлебофураж
Заведывающий Чай-сахар-сольным отделением».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 118.*

*Ліпень, 29.* Вярнуўся хворы ў Смаленск і злёг у ложак. *«Нёман», 1982, № 1, с. 101.*

У Смаленск прыехаў Ф. Турук. Бачыўся з Я. Купалам. *«Журнал отдела образованія Западной области», 1918, № 7—8, с. 47, 56.*

*Ліпень, 30.* Даведка доктара Лягейкі: «Сим удостоверяю, что Иван Доминикович Луцевич болен с 29/VII тяжелой формой дизентерии и должен лежать в постели.

*Легейко*

30. VII-18». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 119.*

*Жнівень, 6.* Заява Я. Купалы: «В Отдел снабжения Западной области — заведывающему Подотделом хлебофураж

Агента Ивана Доминиковича Луцевича

Заявление

23-го июля с. г. я был командирован Отделом снабжения Зап[адной] обл. в Курск и Курскую губ. за сахаром и др[угими] прод[уктами]. Пробыв в командировке несколько дней, я в дороге сильно заболел и, возвратясь домой 29 июля, слег в постель. Болезнь моя оказалась дизентерией в сильной форме. Лечит меня доктор Легейко, отзыв которого прилагаю.

Ввиду вышеизложенного отчет с командировки будет мною представлен при первой возможности, как только встану с постели и смогу вступить в исполнение своих служебных обязанностей. Заявление это не могло быть мною своевременно подано ввиду самого тяжелого периода моей болезни.

*Ив. Луцевич».*

Смоленск

Июля 6 дня [трэба — августа] 1918 г.». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 118—119; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 499.*

*Жнівень, 9.* М. А. Янчук напісаў верш «Янкові Купалі». *Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 44—45.*

*Жнівень, 11.* Напісаў у рэдакцыю газеты «Дзянніца» пісьмо з просьбаю даслаць нумары 9, 10, 13, якіх не аказалася ў яго камплекце.

*Жнівень, 15.* «Хлеб[о]фур[ажный] п[од]отдел. 15 августа [1918 г.] № 3112.

В Организационный подотдел

Сообщаю, что в Хлебофуражный подотдел принят на службу агентом Иван Луцевич с 21 июля 1918 г.

Заведывающий Хлеб[о]фур[ажным] подотделом
Завед[ывающий] Общим отд[елением]».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 119.*

*Жнівень, сярэдзіна.* Пабываў у Мінску, дзе глядзеў у «Беларускай хатцы» «Раскіданае гняздо», пастаўленае Ф. Ждановічам. *Дыла, с. 326.*

*Жнівень, 24.* З ліста Ф. Турука І. Белавусаву: «В Смоленске я был, Ян. Купалу видел, биографию его привез и несколько книжечек творчества Ян. Купалы». *ЦГАЛИ (Масква), ф. 66, воп. 1, спр. 987, арк. 3.*

*Жнівень, 25.* У «Общем деле» (Масква) артыкул І. Белавусава «Несколько слов о таланте Купалы».

*Жнівень, 31.* Як агент аддзела забеспячэння Заходняй вобласці камандзіраваны ў г. Рослаўль і Клімавічы «для сдачи 500 порожних мешков Кренгаузу». *«Нёман», 1982, № 1, с. 101.*

«Части хлебофураж. 31 августа 1918 [г. ]. № 3654/7898.

Заведывающему Отделом снабжения Зап[адной] обл.

Прошу вашего распоряжения о выдаче аванса в размере трехсот (300) рублей агенту Луцевичу, командируемому в гор. Рославль.

Заведывающий Подотделом хлебофураж
Заведывающий Общим отделением».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 119—120.*

*Верасень, 4.* У «Беларускім шляху» паведамлялася, што «Паўлінка» пастаўлена ў мяст. Дукора Ігуменскага пав.

*Верасень, 9.* Вярнуўся ў Смаленск з камандзіроўкі ў Клімавічы. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 120.*

*Верасень, 10.* «№ 147. Подотд[ел] товарообмена. 10 сентября [191]8 [г.].

Заведывающему Отделом снабжения.

Прошу выдать аванс агенту Ивану Доминиковичу Луцевичу 500 рублей.

Заведывающий Товарнообменнозакупочным подотделом (под[писал:] *Якубов*)».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 120.*

*Верасень, 16.* Напісаў І. Белавусаву ліст, даў згоду на пераклад ім сваіх твораў на рускую мову, паведаміў, што перадаў праз Ф. Турука свае кніжкі.

*Верасень, 21.* Камандзіраваны ў Курскую губ. (Курск, Дзмітрыеў).

*Кастрычнік, 6.* Паслаў І. Белавусаву ліст з аўтабіяграфіяй.

*Кастрычнік, 12.* Апошні дзень камандзіроўкі ў Курскую губ. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 120.*

*Кастрычнік, 13.* У часопісе «Чырвоны шлях» (№ 5—6, Петраград) надрукаваны партрэт Я. Купалы з подпісам: «Найбольш вядомы (известнейший) сучасны беларускі паэт».

*Кастрычнік, 15.* У фінансавым аддзеле Заходняй вобласці атрымалі даведку: «№ 12347. 15 октября 1918 г. В Финансовый отдел. Справка. Означенный здесь Иван Луцевич находился в командировке в Курск[ой] губ. (Курск, Димитриев) с 21 сентября по 12 октября с. г.

Секретарь
Делопроизв[одитель]».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 120.*

Атрымаў пасведчанне ад дамкома Мала-Багаслоўскай вуліцы:

«Р.С.Ф.С.Р.
д. д. №№ 1 и 5 по
Мало-Богословской ул.
г. Смоленск
«15» октября 1918 г.
№ 7

Удостоверение

Домовой комитет д. д. №№ 1 и 5 по Мало-Богословской ул. Сим удостоверяет, что предъявитель сего есть действительно гражданин Иван Доминикович Луцевич, 36-ти лет от роду, проживающий в г. Смоленске, по Мало-Богословской ул., д. № 5.

Дано сие удостоверение на предмет предъявления при поступлении в Смоленское отделение Московского Археологического института.

за Предс. домов. к-та: член к-та *М. Бушман*
Секретарь *В. Луцевич*».

*ЦГИА (Масква), ф. 376, воп. 1, спр. 2320, арк. 2.*

*Кастрычнік, 29.* Напісаны вершы «Для Бацькаўшчыны». Упершыню — «Грамадзянін», 1919, № 8, 10 лют.; «У дарозе». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1919, № 17, 13 кастр.; «Песня» («Як крыніца, льецца, рвецца»). Упершыню — «Беларусь», 1920, № 78, 15 крас.; «Свайму народу». Упершыню — «Грамадзянін», 1919, № 7, 7 лют.; «На сход!». Упершыню — «Звон», 1919, № 14, 24 верас.

*Кастрычнік, 30.* Напісаны вершы «На прызбе». Упершыню — «Беларусь», 1919, № 28, 21 лістап.; «Час!». Упершыню — «Звон», 1919, № 13, 22 верас.

*Кастрычнік, 31.* Напісаны верш «У вырай» («Зашумела нудна восень»). Упершыню — «Звон», 1919, № 21, 10 кастр.

*Лістапад, 7.* Напісаны вершы «Наша гаспадарка». Упершыню — «Звон», 1919, № 26, 18 кастр.; «Пчолы». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 74, 4 крас.

*Лістапад, 8.* Напісаны вершы «Сон» («Заглянь, сынок, у соннік»). Упершыню — «Беларускае жыццё», 1920, № 5, 29 лют.; «Званы». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 33, 15 лют.

*Лістапад, 9.* Напісаны вершы «У хорамах». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 6, 11 студз.; «Млечны Шлях». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1920, № 4, 16 лют.

*Лістапад, 10.* Напісаны верш «Удосвітак». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1920, № 6, 11 сак.

*Лістапад, 12.* М. І. Гарэцкі падаў у Смаленскую архіўную камісію заяву з просьбай выдаць яму і І. Д. Луцэвічу дазвол на права карыстацца кнігамі бібліятэкі Архіўнай камісіі. *ЭД, с. 565.*

*Лістапад, 13.* Напісаны верш «Забытая карчма» («Павыбіты вокны, сарвана страха»). Упершыню — «Беларусь», 1919, № 24, 16 лістап.

*Лістапад, 14.* Напісаны вершы «Буслы». Упершыню — «Беларусь», 1919, № 11, 1 лістап.; «Буралом». Упершыню — «Беларусь», 1919, № 40, 7 снеж.

*Лістапад, 19.* У Оршы напісаны верш «Спадчына». Упершыню — зборнік «Спадчына», 1922.

*Лістапад, 20.* Напісаны вершы «Сявец». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1919, № 6, 6 кастр.; «Першы снег». Упершыню — «Беларусь», 1919, № 18, 9 лістап.

*Лістапад, 21.* Напісаны верш «Рунь». Упершыню — «Беларусь», 1919, № 10, 31 кастр.

*Лістапад, 30.* У часопісе «Чырвоны шлях» (№ 7—8, Петраград) апублікавана нізка вершаў Я. Купалы «Забраны край»: «З дня ў дзень...», «З думак жабрака», «Крыўда» («З'ядае крыўда нас ад векаў»), «Матцы», «Як цені».

*Снежань, 10.* Германскія акупацыйныя войскі пакінулі Мінск. *Ілюстраваная хроніка, ч. 1, с. 218.*

*Снежань, 27.* Напісаны верш «Паязджане». Упершыню — «Спадчына».

*Снежань, 29.* М. А. Янчук напісаў І. А. Белавусаву ліст, у якім прасіў даць для будучага часопіса «Белорусская жизнь» пераклады з беларускіх паэтаў. *Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 41.*

*Снежань.* Я. Купала наведаў Маскву, пакінуў Ф. Ф. Туруку рукапіс зборніка вершаў «Спадчына». *ЭД, с. 381.*

*На працягу года.* У Маскве выдадзены зборнік твораў беларускіх паэтаў і празаікаў «Зажынкі». У ім вершы Я. Купалы «З песняў аб няволі», «Мая вера», «Паўлюк» («Сагнуўшы плечы ў крук»), «У вечным бары». Тут апублікавана і лекцыя З. Жылуновіча (Ц. Гартнага) «Беларуская літаратура», прачытаная ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве летам 1918 г., у якой ён называе Я. Купалу «карыфеем», «Беларускім Шаўчэнкам і Міцкевічам», цалкам прыводзіць вершы паэта «З песень аб сваёй старонцы», «Песня сонцу», «Адцвітанне».

У часопісе «Нямецкі агляд» («Deutsche Rundschau», Bd. 176. H. 12, s. 273—296) Ф. Куршман змясціў этнаграфічны артыкул «Беларусы. Славянская сялянская нацыя, якая

абуджаецца», у якім характарызуе Я. Купалу як аднаго з самых значных і найбольш вядомых беларускіх паэтаў.

У Вільні выйшла кніжка А. Луцкевіча «Нашы песняры», дзе ён разглядае творчасць Я. Купалы.

## 1919

*Студзень, 5.* Па дарозе з Масквы ў Мінск Я. Купалу і У. Ф. Луцэвіч наведалі ў Смаленску З. Жылуновіч і Я. Дыла, паведамілі пра стварэнне БССР. *Такі ён быў, с. 70—72.*

*Студзень, 7.* У Горках на вечары выконваліся песні на словы Я. Купалы, музыка Л. Дубровы (Ляднеўскага). *«Дзянніца», 1919, № 2, 16 студз.*

*Студзень, 9.* На пасяджэнні калегіі камісарыята забеспячэння ў Заходняй вобласці заслухана пытанне пра камандзіроўку супрацоўнікаў камісарыята ў Мінск для арганізацыі Камісарыята харчавання Беларускай рэспублікі. Сярод іншых супрацоўнікаў вырашана перавесці ў Мінск і Я. Купалу. *«Нёман», 1982, № 1, с. 104; Дзярж. архіў Смаленскай вобл., ф. 12, воп. 1, 1919 г., спр. 4, арк. 14.*

*Студзень, 14.* Загадам № 4 Камісарыята забеспячэння Заходняй камуны І. Д. Луцэвіч (Я. Купала) выключаны са спісаў супрацоўнікаў губхарчкома. *«Нёман», 1982, № 1, с. 104; Дзярж. архіў Смаленскай вобл., ф. 12, воп. 1, 1919 г., спр. 4, арк. 25—25 адв.*

*Студзень, 21.* Я. Купала пераехаў з Смаленска ў Мінск. Пасяліўся на Юр'еўскай вул. у д. № 35, кв. 6 (пасля яна называлася Камуністычнай, цяпер яе няма; была прыкладна там, дзе вул. Янкі Купалы, 21, Дом Палітасветы). *Шарахоўскі Я. Пясняр народных дум: Нарыс жыцця і дзейнасці Янкі Купалы. Савецкі перыяд. Мн., 1976. С. 5 (далей будзе: Шарахоўскі, 1976.— Я. С.).*

*Люты, 7.* У газеце «Грамадзянін» (Вільня; рубрыка «З Менскага жыцця») паведамлялася: «Там арганізавалася цяпер «Беларуская літаратурна-навуковае таварыства», у якім актыўную чыннасць прымаюць паэт-грамадзянін Янка Купала і Максім Гарэцкі, каторыя раней праз увесь час акупацыі былі ў Смаленшчыне».

*Люты, 9.* У віленскім Беларускім клубе адбыўся спектакль пад кіраўніцтвам Бароўскага. Сенюць чытаў вершы Я. Купалы, асабліва спадабаўся гледачам верш «Сваякам па гутарцы». *«Грамадзянін», 1919, № 9, 15 лют.*

*Люты, 11.* Напісаў прашэнне загадчыку пададдзела Пазашкольнай асветы Менскага Саўдэпа з просьбаю прадаставіць яму пасаду загадчыка бібліятэкі пры Беларускім народным доме. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 500.*

*Люты, 24.* Надзея Спяранская пісала І. І. і А. І. Луцкевічам: «С Янкой Купалой я виделась сперва в Москве, потом в Полоцке. Несомненно, он уже вернулся домой? Передайте ему мой привет». *БДАМЛіМ, ф. 3, спр. 43, арк. 220—221.*

*Люты.* У адной кватэры з Я. Купалам у Мінску на Юр'еўскай вуліцы жыў М. І. Гарэцкі.

*Сакавік, 2.* М. Янчук пісаў І. Белавусаву пра зборнік Я. Купалы на рускай мове. *Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 42—43.*

*Сакавік, 5.* Пераклаў вершы М. Канапніцкай «Доля наша» («A pod jaką ty zorżeńką»). Упершыню — «Беларусь», 1920, 29 чэрв.; верш Ю. Крашэўскага «До *** пад назваю «Ці ты знаеш старонку?». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 140, 1 ліп.

*Сакавік, 18.* М. А. Янчук пісаў І. А. Белавусаву: «Ёсць надзея, што ўсё ж невялікія выданні, накшталт Вашага Купалы, можна будзе хоць зрэдку выпускаць, а пра часопіс ужо і думаць няма чаго. Так што Вы ўсё-такі падрыхтуйце Купалу да друку ў тым выглядзе, як Вы хацелі». *Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 46.*

*Сакавік, 28.* І. А. Белавусаў выслаў Я. Купалу ліст. *Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі. Вып. III. Мн., 1960. С. 169.*

*Красавік, 5.* Напісаў ліст І. А. Белавусаву з Мінска, паслаў яму пераклады сваіх вершаў, зробленыя В. Я. Брусавым. *Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі. Вып. III. Мн., 1960. С. 169—170.*

*Красавік, 13.* У лісце Б. І. Эпімах-Шыпілу пісаў: «Служу ў Камісарыяце асветы бібліятэкарам пры Беларускім народным доме. Літаратурна-выдавецкі аддзел узяў у друк маё «Раскіданае гняздо» (ужо друкуецца ў Вільні). Цяпер вяду з Камісарыятам перагаворы аб выданні поўнага збору маіх твораў. Том не друкаваных у аддзельных кніжках маю ўжо падабраны».

*Красавік, 21.* Польскія войскі занялі Вільню. *Ілюстраваная храналогія, ч. 2, с. 10.*

М. А. Янчук пісаў І. А. Белавусаву:

«Дарагі Іван Аляксеевіч!

1) Перачытваючы яшчэ раз пераклады Купалы, я ўбачыў, што верш «Тучи и думы» перакладзены двойчы. Нічога гэта?

2) У брусаўскім «На Купалье» я б рэкамендаваў зрабіць дзве перастаноўкі: *у 1-м куплеце*, замест:

На Купалье, на святое,
*Мать, рви* зелье роковое,—

сказаць: «Рви, мать», мілагучней і неяк больш натуральна. У апошнім куплеце, замест:

Будем *мы* под кровом хаты,
*Мать*, счастливы и богаты,—

я б аддаў перавагу:

Будем, *мать*, под кровом хаты
*Мы* счастливы и богаты.

У яго ж у вершы «Отцветание» для мяне незразумелы пачатак апошняга куплета:

Сила мощная скует,
Устраняя взор в огне.

3) У Нячаева мне вельмі не падабаецца тое, што ў 1-м вершы «Я не поэт» ён праз усе куплеты правёў скажэнне псеўданіма паэта: Купалá замест Купáла. Гэта можа прымусіць рускага чытача думаць, што так менавіта і трэба вымаўляць гэта імя. У арыгінале яно рыфмуецца са словам: *мала, нядбала, хвала...*

Ці нельга як-небудзь ліквідаваць гэту недарэчнасць, што пры чытанні рэжа вуха і вока?

У яго ж у вершы «Одинокий» у перадапошнім куплеце, у радках «Кому ( ) утешить беднягу приветить...» прапушчана нейкае аднаскладовае слова *(же? бы?)* і дзесьці трэба паставіць коску.

У яго ж у вершы «Паныч и Маруся» неабходна гэтыя словы пісаць: Панич и Марыся, як яны гучаць у беларусаў, бо няма падстаў прыпісваць беларускай літаратуры ўкраінскія формы. І для самога аўтара было б дзіўным бачыць такую пералiцоўку.

У гэтым жа вершы ў перадапошнім куплеце, відаць, апіска:

А его Марыся,
*Друга вспоминая,*
Плачет неутешно,
Друга вспоминая.

У падкрэсленым радку павінна быць штосьці іншае («Любка удалая?», гл. арыгінал, «Жалейка», с. 26).

У яго ж беспадстаўна зменена назва верша «Из осенних *песен»*, а трэба *«напевов»*, як у арыгінале. Гэтым, здаецца, грашаць і іншыя, і варта было б праверыць і ўзнавіць загалоўкі арыгінала.

У яго ж у вершы «На работе у пана» ў 3-м купл. ужыта слова *спорынья* ў значэнні *подспорье.* Наўрад ці дапушчальна гэта.
Чакаю дадаткаў Ашукіна, каб здаць усё Туруку.

Ваш *М. Янчук.*

Ці не згадаеце ў канцы біяграфіі, што ў апошні час Купала спрабуе пераходзіць на драму?» *Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 47—49.*

*Красавік, 25.* Напісаў ліст І. А. Белавусаву пра А. А. Карынфскага. *ЭД, с. 289.*

*Красавік, 28.* У Вільні пачала выходзіць газета «Беларуская думка» (выдавалася да 27. 7. 1919 г. ), у якой друкаваліся творы Я. Купалы.

*Май, 4.* Напісаў ліст І. А. Белавусаву, у якім просіць пазычыць кнігу А. Афанасьева «Поэтические мировоззрения славян на природу».

*Май, 28.* Ф. Ф. Турук піша І. А. Белавусаву: «У аўторак мне давялося зайсці ў друкарню «Культура». На вялікі жаль, нічога добрага з гэтай друкарняй уладзіць нельга. Абяцаюць выканаць узяты заказ (надрукаваць кніжку Я. Купалы «Избранные стихотворения».— *Я. С.*) толькі к канцу жніўня, ды і тое пры ўмове водпуску электрычнай энергіі, падача якой зараз спынена. Я. Л. Дыла ўсяляк дапамагае мне ў пошуках друкарні. Ён вядзе перагаворы з цэлым шэрагам асоб, вынікі якіх я пастараюся паведаміць Вам асабіста». *Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 55.*

*Май, 31.* У газеце «Беларуская думка» (№ 15) 31 мая змешчаны верш Я. Купалы «Світае».

*Май.* У Вільні выйшла «Раскіданае гняздо».

*Вясна.* Пасля пастаноўкі «Паўлінкі» ў Седлішчы праехаў праз в. Гародзькі на ст. Валожын. Ездзіў з жонкаю ў Вішнева. *Інф. Г. А. Каханоўскага.*

*Чэрвень, 5.* У Вільні выйшаў № 1 газеты «Biełaruskaje życcio». У ім надрукаваны верш Я. Купалы «Што за плач такі здаецца» [«Праявы»], партрэт песняра і нататка пра яго жыццё, а таксама рэцэнзія A—viča (Ф. Аляхновіча) на «Раскіданае гняздо».

У газеце паведамлялася: «У часе вайны Купала напісаў шмат новых твораў. Частку сваіх рукапісаў ён прыслаў у Вільню, тут меліся друкаваць яго нязнаныя вершы. З прыходам польскага войска ў б. Камісарыят Асветы ўжо не пусцілі беларусаў, каб забраць рукапісы. Пасля доўгіх старанняў удалося атрымаць частку прыгатоўленага да друку матэрыялу. Другая частка, у тым ліку зборнік рукапісных вершаў Купалы — прапала».

*Чэрвень, 7.* У газеце «Беларуская думка» (№ 18) змешчаны вершы «Калі часам табе сэрца ные, баліць» і «Сын і маці» («Мамка, мамка! Што так плачаш?»).

*Чэрвень, 9.* У гарадской канцэртнай зале Вільні пастаўлена драма «Раскіданае гняздо» для дэлегатаў з'езда Віленшчыны і Гродзеншчыны (рэжысёр Ф. П. Ждановіч). *«Беларуская думка», 1919, № 19, 9 чэрв.*

*Ліпень, 10.* Газета «Biełaruskaje życcio» (№ 4) апублікавала легенду «Як у казцы» (подпіс — К-а).

*Ліпень, 12.* У лісце з Мінска Ф. Ф. Туруку паведамляў, што Л. І. Леўшчанка збіраецца арганізаваць у Кіеве выданне беларускіх кніг (выйшаў толькі альманах «Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства» — *Я. С.*).

*Ліпень, 27.* Ліст Ф. Ф. Туруку. *«Полымя», 1962, № 4, с. 155; Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 50.*

*Жнівень, 8.* Польскія войскі захапілі Мінск. *Ілюстраваная храналогія, ч. 2, с. 11.*

*Жнівень, 10.* У Акопах напісаны верш «Лясное возера». Упершыню — «Радавая рунь» (дадатак да газеты «Савецкая Беларусь»), 1924, № 2, 18 мая.

*Жнівень, 15.* У газеце «Biełaruskaje życcio» (№ 10) верш «Жніво» («Годзе, жытцо маё, годзе, наспелае») за подпісам К. Каһапіес (тлумачэнне рэдакцыі ў нумары за 13 кастрычніка).

*Жнівень, каля 20.* Прыехаў у Калісберг да сястры Леакадзіі і швагра Юльяна Феліксавіча Раманоўскіх. *ЭД, с. 521.*

*Жнівень, 21.* У Калісбергу напісаў верш «З павяўшай славы...». Упершыню — «Звон», 1919, № 10, 15 верас.

*Жнівень, 22.* У Гайдукоўцы (10 км ад Акопаў) напісаў верш «Беларускія сыны». Упершыню — «Звон», 1919, № 9, 12 верас. (10 верасня ў «Звоне» (№ 8) апублікаваны без 4-х радкоў).

*Жнівень, 23.* У Акопах напісаў верш «Над калыскай» («Калыхала маці сына»). Упершыню — «Звон», 1919, № 24, 14 кастр.; у Гайдукоўцы — «Груган» («Кожнай вясны, як выходжу»). Упершыню — «Беларусь», 1919, № 32, 27 лістап.

*Жнівень, 24.* У Акопах напісаў вершы «Восень» («Села над пушчаю Восень»). Упершыню — «Звон», 1919, № 12, 19 верас.; «Ваяк». Упершыню — «Беларускае жыццё», 1919, № 18, 21 кастр.; «Князь». Упершыню — «Рунь», 1920, № 7—8.

*Жнівень, пасля 24.* Выехаў у Калісберг да сястры Леакадзіі.

*Жнівень, 25.* У Мінску выйшаў 1-ы нумар газеты «Звон», дзе друкаваліся вершы Я. Купалы.

*Жнівень, 28.* У Калісбергу напісаў вершы «На нашым...». Упершыню — «Творы. 1918—1928»; «Паўстань...». Упершыню — «Звон», 1919, № 11, 17 верас.

*Жнівень, 29.* У Калісбергу напісаны верш «Мая навука». Упершыню — «Звон», 1919, № 18, 3 кастр.

*Верасень, каля 1.* Вярнуўся ў Мінск. Пасяліўся на вул. Кашаровай, д. № 10, кв. 6 (непадалёк ад цяперашняга гістарычнага факультэта БДУ, вул. Чырвонаармейская, 6). *Шарахоўскі, 1976, с. 10.*

*Верасень, 6.* Склаў спіс кніг бібліятэкі пры «Беларускай хатцы». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 522.*

*Верасень, 13.* Разам з С. Рак-Міхайлоўскім, М. Чаротам, А. Грыневічам, С. Якабіні падпісаў пратакол аб перадачы Беларускага Народнага дома ў Мінску («Беларускай хаткі») Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 511.*

*Верасень, 14.* У Віленскай газеце «Biełaruskaje žyccio» (№ 13, с. 3) верш «Родныя песні» і на с. 8 у рубрыцы «Адказы ад Рэдакцыі»: «Я. Купале. Рукапісы просім прысылаць праз пошту, а не праз пасланцоў, а то можа здарыцца ізноў гэтакае самае непаразуменне, якое ўжо было з адным з Вашых вершаў. 10. IX. Мы выслалі вам пісульку, у якой перапрашаем за тое, што здарылася».

Мінскае Таварыства Працаўнікоў Беларускага Мастацтва распачало сваю дзейнасць, паставіўшы ў «Беларускай хатцы» «Паўлінку». *БелСЭ, т. 10, с. 193.*

*Верасень, 15.* Распіска аб прыняцці грошай ад М. Кудзелькі для «Беларускай хаткі» і яе бібліятэкі. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 526.*

*Верасень, 18.* Распіска аб атрыманні ад Беларускага Нацыянальнага Камітэта зарплаты як загадчыка бібліятэкі пры Беларускім народным доме. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 527.*

*Верасень, 19.* Драматычны гурток Грамады беларускай моладзі ў Гродне паставіў «Паўлінку». У ролі Паўлінкі — П. В. Мядзёлка. *«Наш край», 1929, № 3, с. 18—20.*

*Верасень, 28.* У газеце «Крупіса» (№ 5, Вільня) верш «Беларушчына».

*Верасень, 29.* У газеце «Biełaruskaje žyccio» (№ 15, Вільня) верш «Крыўда («Цягалася крыўда па свеце»).

*Верасень.* М. А. Янчук і Ф. Ф. Турук вычыталі і выправілі карэктуру кнігі Я. Купалы «Избранные произведения в переводах русских поэтов». *Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 56.*

*Кастрычнік, 4.* Напісаў у Мінску Я. Ф. Карскаму аўтабіяграфію. Упершыню — Карский Е. Ф. Белорусы. Пг., 1922. Вып. 3. Т. 3. С. 229—230.

Захавалася аўтабіяграфія, тэкст якой істотна не адрозніваецца ад аўтабіяграфіі, пасланай Я. Ф. Карскаму. Друкавалася ў зб. «Любімы паэт беларускага народа». Мн., 1960, с. 7 і бібліяграфічным паказальніку «Янка Купала» (Да 100-годдзя з дня нараджэння). Мн., 1984.

*Кастрычнік, 6.* У газеце «Biełaruskaje życcio» (№ 16, Вільня) вершы «Дзве долі» і «Сявец».

*Кастрычнік, 10.* Напісаны верш «Жыды!..». Упершыню — «Беларусь», 1919, № 16 (43), 7 лістап.

*Кастрычнік, 13.* У газеце «Biełaruskaje życcio» (№ 17, Вільня) вершы «У дарозе» і «Плача восень».

*Кастрычнік, 14.* Напісаны верш «Паэта і цэнзар». Упершыню — «Звон», 1919, № 25, 17 кастр.

*Кастрычнік, 16.* Драматычны гурток Грамады беларускай моладзі ў Гродне паставіў «Паўлінку». У ролі Паўлінкі П. В. Мядзёлка. *«Наш край», 1929, № 3, с. 18—20.*

*Кастрычнік, 17.* У газеце «Звон» (№ 25) артыкул «Уваскрашэнне польскага універсітэта ў Вільні» (подпіс — К-а).

*Кастрычнік, 18.* У газеце «Звон» (№ 26) артыкул «Акупанты на шэсць месяцаў». *Янка Купала — публіцыст. Мн., 1998. С. 213—214.*

*Кастрычнік, 19.* У газеце «Звон» (№ 27) артыкул «Адбудова Беларусі» (подпіс — К-а).

*Кастрычнік, 20.* Падаў заяву ў Беларускі Нацыянальны Камітэт з просьбай выплаціць яму і С. Якабіні зарплату. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 497.*

*Кастрычнік, 21.* У газеце «Biełaruskaje życcio» (№ 18, Вільня) апублікаваны верш Я. Купалы «Ваяк».

У Мінску выйшаў першы нумар газеты «Беларусь», дзе друкаваліся творы Я. Купалы.

*Кастрычнік, 22.* У газеце «Беларусь» (№ 2) артыкул «Больш самачыннасці» (подпіс — К-а).

*Кастрычнік, 24.* У газеце «Беларусь» (№ 4) артыкул «Зямельная спекуляцыя» (подпіс — К-а).

*Кастрычнік, 25.* У газеце «Беларусь» (№ 5) артыкул «Менск, 25-га кастрычніка» (без подпісу). *Янка Купала — публіцыст, с. 215—216.*

*Кастрычнік, 26.* У газеце «Беларусь» (№ 6) артыкул «Беларускае войска» (подпіс — К-а).

*Кастрычнік, 30.* У газеце «Беларусь» (№ 9) артыкулы «Беларускі сцяг уваскрос!» (подпіс — К-а), «Будуецца беларускае гаспадарства» (без подпісу). *ПЗТ, т. 8, с. 64—66, 377.*

Скончыў у Мінску празаічны пераклад «Слова пра паход Ігаравы». Упершыню — «Беларусь», 1919, № 7—9, 11 лістап. пад загалоўкам «Аповесць аб паходзе Ягоравым, Ягора Святаслаўлева, унука Алегава» і «З пісьма акадэміка Карскага к аўтару перакладу», у якім даецца высокая ацэнка перакладу. У заўвазе «Ад перакладчыка» пісаў 11 лістапада: «Шчыра дзякуючы п. праф. Карскаму за яго добрыя рады і папраўкі ў маім перакладзе, пастараюся прыняць гэта ўсё пад увагу, як будзе друкавацца асобнае выданне гэтага твору».

*Кастрычнік, 31.* У газеце «Беларусь» (№ 10) артыкул «Дэмакратычная камедыя» (без подпісу).

*Лістапад, 5.* У газеце «Беларусь» (№ 14) артыкул «Забабон» (подпіс — К-а).

*Лістапад, 6.* Разам з Я. Лёсікам, М. Краўцовым, З. Бядулем звярнуўся да Старшыні Рады Народных Міністраў БНР з просьбай выдаць субсідыю газеце «Беларусь». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 523.*

*Лістапад, 15.* У газеце «Беларусь» (№ 23) артыкул «Моладзь ідзе!» (подпіс — К-а).

*Лістапад, 20.* У газеце «Беларусь» (№ 27) артыкул «Торжышча» (подпіс К-а).

*Лістапад, 22.* У газеце «Беларусь» (№ 29) артыкул «Настаўніцкая вечарынка» (подпіс — N ). *ПЗТ, т. 8, с. 72, 379.*

*Лістапад, 27.* У газеце «Беларусь» (№ 32) артыкул «Антанта» (подпіс — К-а).

*Лістапад, 28.* У газеце «Беларусь» (№ 33) артыкул «Незалежнасць» (подпіс — К-а), артыкул З. Бядулі «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы».

*Лістапад, да 29.* Рахунак газеты «Беларусь» за апублікаваныя ў ёй творы. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 530.*

*Лістапад, 29.* У газеце «Беларусь» (№ 34) артыкул «Незалежная дзяржава і яе народы» (подпіс — К-а).

*Снежань, 9.* Распіска аб атрыманні зарплаты за работу ў бібліятэцы. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 527.*

*Снежань, 11.* У пашпарце Я. Купалы запіс: «Zameldowany w I cyrkułu policji m. Mińska przy ulicy Koszarowej, d. № 10, m. № 5. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 49.*

У газеце «Беларусь» (№ 42) артыкул «За цэласць Бацькаўшчыны» (без подпісу). *Янка Купала — публіцыст, с. 219—220.*

*Снежань, 30.* Напісаны верш «Новы год» («Пад звоны зброі, путаў звоны»). Упершыню — «Беларусь», 1920, № 1, 1 студз.

*На працягу года.* У Берліне выйшла на нямецкай мове кніга «Беларусь», у якой змешчаны вершы Я. Купалы «А хто

там ідзе?» і «Роднае слова» («Пад навалай крыўдаў многія сталецці») у перакладзе Р. Абіхта («Weißruthenien» von W. Jäger. Berlin, 1919, s. 136—140).

У Мінску з Я. Купалам пазнаёміўся У. А. Жылка. *ЭД, с. 220.*

## 1920

*Студзень, 3.* У газеце «Беларусь» (№ 2) 1-я частка артыкула «Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год» (подпіс — К-а), 2-я частка ў «Беларусі» (№ 8) за 14 студзеня.

*Студзень, 4.* У газеце «Беларусь» рэцэнзія на п'есу Ф. Аляхновіча «Страхі жыцця». *ПЗТ, т. 8, с. 89—90, 383—384.*

*Студзень, 5.* Напісаў у Беларускі Нацыянальны Камітэт заяву з просьбай даць дакумент Ю. Раманоўскаму на пропуск у Вільню і назад. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 502.*

*Студзень, 9.* Ноччу з 9-га на 10-е захварэў на перытаніт. *Содаль У. Пуцявінамі сейбіта. Мн., 1982. С. 27.*

*Студзень, 10.* Зроблена аперацыя. *«Беларусь», 1920, 17 студз.*

*Студзень, 16.* У газеце «Беларусь» першы бюлетэнь пра хваробу паэта — «Хворасць Янкі Купалы». *Лойка, с. 247.*

*Студзень, 21.* У газеце «Беларусь» апублікаваны верш «Куды ты рвешся?..».

*Люты, 1.* У Смаленску выйшаў 1-ы нумар газеты «Савецкая Беларусь» (з 15. 8. 1920 да 21.3.1933 г. у Мінску). *Ілюстраваная храналогія, ч. 2, с. 13.*

*Люты, 23.* Рахунак газеце «Беларусь» за апублікаваныя ў ёй творы. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 535—536.*

*Люты, 24.* У газеце «Беларусь» (№ 40) апублікаваны вершы «Дуб» («Калыханы ветрамі») і «Бяспутнасць».

*Сакавік, 8.* Газета «Беларусь» паведамляла: «Хворасць Янкі Купалы. Як кажуць дактары, хворы астаецца ў шпіталі апошні тыдзень».

*Сакавік, 10.* «Р.С.Ф.С.Р. Политическое управление Революционного Военного Совета Республики. Просветительный отдел. Отделение библ[иотечное]. 10 марта 1920 г. № 32125. Москва, Сретенский бульвар, д. 6. Телеф. 4-56-37.

В Белорусский подотдел

Отдела просвещения национальных меньшинств

Библиотечное отделение Просветительного отдела ПУР просит отпустить 3000 экземпляров выпущенного Белорус-

ским подотделом издания «Избранные произведения Янки Купалы» в переводе Ив. Белоусова и русских писателей.

Зам. Начальника Просветит[ельного] отдела
Начальник Библиот[ечного] отделения *Евг. Хлебцевич*
Начальник Общего отделения».

Рэзалюцыі і паметкі: 1) Отпустить 1000 экз., о чем сообщить в ПУР. Зав. Б[елорусским] п[од]отд[елом] Ф. Турук. 18/IV-20 г. 2) Исполнено 19/IV. Исх[одящий №] 863». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 122.*

*Сакавік, 20.* Вярнуўся з бальніцы дадому. Напісаў ліст у газету «Беларусь». *Лойка, с. 151.*

*Сакавік, 23.* У газеце «Беларусь» апублікаваны «Ліст у рэдакцыю» Я. Купалы з падзякаю медперсаналу бальніцы за добры догляд.

*Сакавік, 24.* Напярэдадні 2-й гадавіны абвяшчэння БНР напісаны верш «25.III.1918 — 25.III.1920. Гадаўшчына-памінкі». Упершыню — «Творы 1918—1928».

*Сакавік, 27.* «[№] 584/27. 27. III. [1920 г. ].

В типографию № 4 (Ермаковская ул., № 3).

Белорусский п[од]отдел Отдела просвещения национальных меньшинств просит типографию выдать подателю сего 5000 экземпляров книги «Янка Купала».

Секретарь Белорусского п[од]отдела *Н. Капцевич*».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 121—122.*

*Сакавік, 28.* У Беларускім доме ў Мінску лекцыя У. М. Ігнатоўскага «Малодшыя песняры Беларусі» — пра Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ц. Гартнага. *«Беларусь», 1920, 31 сак.*

*Сакавік, 29.* Напісаў верш «А ў бары, бары...» з цыкла «На вайсковыя матывы (Песні на ваяцкі лад)». Упершыню — «Рунь», 1920, № 1, 2 мая; ліст Я. Ф. Карскаму з просьбаю даслаць кнігі Е. Барсава і Ф. Я. Корша пра «Слова аб паходзе Ігаравым».

*Сакавік, канец.* Выйшла кніга Я. Купалы на рускай мове, складзеная І. А. Белавусавым. *Рагойша В. Напісана рукой Купалы, с. 56.*

*Красавік, 7.* Напісаны верш «Пяць сенатараў». Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1933, № 2—3. Да твора Я. Купала зрабіў заўвагу: «Верш напісаны ў часы існавання «Беларускай Рады», калі там адбыўся раскол і ў выніку арганізавалася так званая «Найвышэйшая Рада» (правае крыло). Пяцёрка, якая ўвайшла ў склад «Найвышэйшай Рады», называла сябе «сенатарамі», гэтым жа імем называлі іх у гістарычным сэнсе і іншыя».

*Красавік, 9.* Зрабіў пераклад верша К. Уейскага «Хаўтурны марш» («Marsz pogrzebowy»). Упершыню — зборнік «Наша ніва» (Вільня), 1920, кн. 1.

*Красавік, 19.* «[№] 863/27. 19. IV. [1920 г. ].

В Библиотечное отделение

Просветительного отдела ПУР.

На отношение от 10 марта с. г. за № [3]2125 Белорусский п[од]отдел Отдела просвещения национальных меньшинств уведомляет, что вместе с сим сделано распоряжение об отпуске отделению 1000 экземпляров издания «Избранные произведения Янки Купалы» в переводе Ив. Белоусова и русских писателей.

Заведующий Белорусским п[од]отделом

Секретарь

[№] 864/27. 19. IV. [1920 г. ].

На склад литературы Отдела просвещения национальных меньшинств Н. К. П. (2-й Дом Советов, Театральный проезд, № 2).

Белорусский п[од]отдел Отдела просвещения национальных меньшинств Н. К. П. просит доставленные вам 5000 экз. книг «Янка Купала. Избранные стихотворения» распределить следующим образом:

1000 экз. — московским магазинам для розничной продажи и распределения по библиотекам учреждений.

200 экз. — Белорусскому п[од]отделу [Отдела] просвещения национальных меньшинств Н. К. П.

1000 экз. — Библиотечному отд[елению] Просветит[ельного] отдела ПУР Реввоенсовета.

2000 экз. — губнаробразам Смоленской, Витебской и Могилевской губ[ерний] для распределения по губерниям.

1000 экз. оставить на складе впредь до особого распределения Белорусского п[од]отдела.

Литературу распределить на общих основаниях.

Заведующий Белорусским п[од]отделом

Секретарь».

*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 122—123.*

Падаў заяву ў Беларускі Нацыянальны Камітэт з просьбай выплаціць грошы пераплётчыку Барану за пераплёт кніг для бібліятэкі пры «Беларускай хатцы». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 502.*

Ф. Аляхновіч перадаў рэдагаванне газеты «Беларускае жыццё» Янку Купалу. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 503.*

*Красавік, 22.* Падаў заяву ў Беларускі Нацыянальны Камітэт на аванс для выдання «Беларускага жыцця» і атрымаў яго. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 503, 528.*

Даў распіску Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту, што атрымаў ганарар за артыкулы ў газеце «Беларусь». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 527.*

Рахунак газеты «Беларусь» за апублікаваныя ў ёй творы (люты—красавік 1920 г. ). *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 536.*

*Красавік, 25.* Пачатак савецка-польскай вайны (цягнулася да 12. 10. 1920 г. ). *Ілюстраваная хроніка, ч. 2, с. 13.*

*Красавік.* Напісаны вершы з цыкла «На вайсковыя матывы (Песні на ваяцкі лад)»: «Будзь здаровы бацька, маці...». Упершыню — «Рунь», 1920, № 4, 23 мая (першыя пяць строф); № 5—6, 6 чэрв. (поўнасцю). Пад назваю верша ў № 4: «На мелодыю: «У печы палю, бульбу жару...», у № 5—6: «Праз недагляд карэктара ў № 4 «Руні» гэтая песня выдрукавана не ўся»; «Едзе Янка ў поле...». Упершыню — «Рунь», 1920, № 4, 23 мая. Пад назвай верша: «Едзе мужык з поля, валы падганяе»; «Гэй, у лесе, пры даліне...». Упершыню — «Рунь», 1920, № 4, 23 мая.

*Май, 2.* У часопісе «Рунь» (№ 1) апублікаваны вершы «Дзе ты, хмелю, зімаваў?» з цыкла 1919 г. «На вайсковыя матывы (Песні на ваяцкі лад)» і «А ў бары, бары...», «У вырай!» («Гэй, вольныя птахі, саколія дзеці...»), артыкул «Лёс Беларусі». *ПЗТ, т. 8, с. 359—360.*

*Май, 3.* Напісаў ліст А. І. Луцкевічу. Паведаміў, што пасылае фатаграфіі, растлумачыў, як з іх рабіць клішэ. *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Вільня—Н'ю-Ёрк—Мінск—Прага, 1998, кн. 1, с. 74; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 256.*

Склалі з С. Плаўнікам (З. Бядулем) ведамасць на зарплату супрацоўнікам «Руні». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 530.*

*Май, 6.* Распіска Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту, што атрымаў зарплату за студзень 1920 г. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 528.*

*Май, 9.* У часопісе «Рунь» (№ 2) верш «Габруся ў жаўнерку ўзялі...».

Падаў заяву ў Беларускі Нацыянальны Камітэт на аванс для закупкі паперы на тыднёвік «Рунь». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 504.*

*Май, 12.* На рахунку Я. Драздовіча сведчыць, што малюнкі, якія пералічаны, надрукаваны ў «Беларускім жыцці» і «Руні». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 524.*

*Май, 13.* Распіска пра атрыманне ганарару ад Школьнай рады за камедыю «Паўлінка» ў «Зборніку сцэнічных твораў». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 528—529.*

*Май, 16.* У часопісе «Рунь» (№ 3) вершы «Ой, вяду бяду...» і «Гэй, паехаў сын Даніла...».

*Май, 18.* Звесткі пра часопіс «Рунь». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 524.*

З С. Плаўнікам (З. Бядулем) склалі ведамасць на зарплату супрацоўнікам «Руні». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 531.*

Авансавы рахунак Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту на выдаткі па выданні тыднёвіка «Рунь». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 537—538.*

*Май, 23.* У часопісе «Рунь» (№ 4) артыкул «Справа беларускага нацыянальнага гімна» (подпіс — К-а).

*Май, 30.* Напісаны верш «На біблейныя матывы». Упершыню — «Беларусь», 1920, № 129, 18 чэрв.

Рахунак за творы ў «Руні». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 538—539.*

*Чэрвень, 2.* Паштоўка А. І. Луцкевічу. *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі, кн. 2, с. 773; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 256.*

*Чэрвень, 6.* У часопісе «Рунь» (№ 5—6) пачатак вадэвіля «Прымакі».

*Чэрвень, 10.* Рахунак Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту за кватэру пад рэдакцыю «Руні». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 539.*

*Чэрвень, 14.* Як рэдактар тыднёвіка «Рунь» падаў заяву ў Беларускі Нацыянальны Камітэт на аванс, каб купіць паперы на вокладку выдання. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 504.*

*Чэрвень, 15.* Распіска Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту, што за чэрвень — ліпень 1920 г. грошы за кватэру для «Руні» атрымаў. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 539.*

*Чэрвень, 18.* У газеце «Беларусь» (№ 129) артыкул «Думка за думкай» (подпіс — К-а).

Склаў ведамасць на зарплату супрацоўнікам «Руні». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 532.*

*Чэрвень, 20.* У часопісе «Рунь» (№ 7—8) — заканчэнне вадэвіля «Прымакі», у газеце «Беларусь» (№ 131) артыкул «Хараство нашага краю» (подпіс — Я. К. ).

У газеце «Кгупіса» (Вільня) артыкул «15-я гадаўшчына творчасці Янкі Купалы», перадрукаваны з газеты «Незалежная думка» (1920). З артыкула: «Вершы Я. Купалы з'яўляюцца ў перакладах на рускай, польскай, украінскай, чэшскай, нямецкай і інш. мовах. Пяснярская слава Я. Купалы ўсё расцець. На Беларусі цяпер няма такога чалавека, які не ведаў бы Янкі Купалы. Дык мы ў гэтым вялікім часе жадаім, каб ліра нашага слаўнага песняра Я. Купалы яшчэ байчэй і пякней іграла на славу Беларусі, каб яе голас не моўк ніколі, каб сам пясняр дачакаўся відзець тое, аб чым пяе, чаго Беларусі жадае».

*Чэрвень, 22.* Падаў заяву ў Беларускі Нацыянальны Камітэт на аванс для выдання тыднёвіка «Рунь». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 504—505.*

Авансавы рахунак Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту, што грошы на выданне «Руні» атрымаў. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 540—541.*

*Чэрвень, 24.* У Мінску ў зале былога юбілейнага дома (цяпер Дом мастацтва, праспект Ф. Скарыны, 26) урачысты сход з нагоды 15-й гадавіны літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Сабралася каля сотні чалавек з беларускіх грамадскіх арганізацый, пісьменнікаў, палітычных дзеячаў і інш. З прамовай выступіў юбіляр. *«Утро Белоруссии» (Мінск), 1920, № 24; Карский Е. Ф. Белорусы, 1922, т. 3, в. 3, с. 188.*

*Чэрвень, 26.* У газеце «Беларусь» (№ 136) прамова на 15-гадовым юбілеі яго літаратурнай дзейнасці і карэспандэнцыя Я. К-ча (Я. Лёсіка) «15-гадовы юбілей Янкі Купалы».

*Чэрвень, 27.* У газеце «Минский курьер» (№ 301) артыкул «Юбилей Янки Купалы».

*Чэрвень, 28.* У Беларускага Нацыянальнага Камітэта просіць аванс на выданне «Руні». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 504.*

*Чэрвень, 30.* У газеце «Беларусь» (№ 139) верш «Дрэмле Юрка».

*Ліпень, 4.* У газеце «Беларусь» (№ 143) верш «Не ўсе дома».

Выйшаў апошні нумар штотыднёвіка «Рунь».

*Ліпень, 9.* Распіска аб атрыманні авансу на выданне «Руні». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 529.*

*Ліпень, 11.* Часцямі 27-й і 17-й стралковых дывізій 16-й арміі вызвалены Мінск. *Ілюстраваная храналогія, ч. 2, с. 13.*

*Ліпень, 22.* Я. Купала пачаў працаваць рэдактарам беларускіх выданняў літаратурна-выдавецкага пададдзела аддзела народнай асветы Мінскай губ. ВРК. *ЭД, с. 431.*

*Ліпень, 26.* У пашпарце Я. Купалу зроблена адзнака: «Явлен в III част[и] гор. Минска 26/VII 1920 г. Паспортист». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 49.*

*Жнівень, 10.* У Мінску пачала дзейнасць трупа У. Галубка. *Ілюстраваная храналогія, ч. 2, с. 15.*

*Жнівень, 12.* Ліст Ф. Ф. Туруку.

*Жнівень, 13.* Зноў напісаў ліст Ф. Ф. Туруку, у якім просіць яго выслаць некалькі экземпляраў толькі што выдадзенай сваёй кнігі на рускай мове.

*Верасень, 1.* У Мінску пачаў выходзіць часопіс «Вольны сцяг» (выдаваўся да 1 студзеня 1922 г. ), у якім Я. Купала быў фактычным рэдактарам, друкаваў у ім свае творы і пераклады.

*Верасень, 14.* У Мінску адкрыты БДТ-1 (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы).

*Верасень, 17.* У БДТ-1 пастаўлена камедыя «Паўлінка». *«Звязда», 16 верас.; ЭД, с. 464.*

*Верасень.* Я. Купала прызначаны намеснікам загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела Народнага камісарыята асветы Беларускай ССР (НКА БССР). *ЭД, с. 431.*

*Кастрычнік, 4.* Разам з З. Бядулем, рэдактарам часопіса «Зоркі», просіць Беларускі аддзел Наркамасветы прыняць меры да Дзяржвыда, які затрымлівае выданне часопіса. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 505.*

*Лістапад, 1.* «Сац[ыялістычная] Савецк[ая] Рэспубліка Беларусі. Камісарыят асветы. Аддзел літ[аратурна]-выд[авецкі]. 1 лістапад[а] 1920 г. № 8. м. Мінск, Скобелеўск[ая] вул., д[ом] б[ылы] архірэйскі.

У Агульны аддзел

К 1 лістапада ў Літаратурна-выдавецкім аддзеле лічацца на службе гэтакія асобы:

1) Некрашэвіч Сцяпан, кіраўнік аддзела,
2) Луцэвіч Янка, рэдак[тар] журн[ала] «Вольны сцяг»,
3) Ладутка Ларыса, дзелавод,
4) Стэльніцкая Ганна, карэктар,
5) Краўцэвічанка Вера, [карэктар],
6) Дашкевіч Леў, кіраўнік графічн[ай] секцыі,
7) Байкоў Мікола, сакр[атар] журна[ла] «Школа і культура»,
8) Драздовіч Язэп, ілюстратар,
9) Раманоўскі Мікола, загадчык Беларуск[ага] кн[іжнага склада],
10) Гучок Марыя, кур'ер.

Кіраўнік Літар[атурна]-выд[авецкага] аддзела
*С. Некрашэвіч*
Дзелавод *Л. Ладутка».*
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 124.*

*Лістапад, 30.* На заяве Н. Панамаровай хадайнічае залічыць яе справаводам Літаратурна-выдавецкага аддзела Наркамপ্রоса Беларусі. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 524.*

*Снежань, 1.* Разам з намеснікам камісара асветы М. Фрумкінай падпісвае пасведчанне Н. Панамаровай як справаводу Літаратурна-выдавецкага аддзела Наркампроса Беларусі. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 525.*

*На працягу года.* Напісаў верш «У вырай» («Гэй, вольныя птахі, саколія дзеці!»). Упершыню — «Рунь», 1920, № 1.

На кватэры мастака Дз. М. Полазава ў Мінску пазнаёміўся з гісторыкам М. П. Шкляевым. У 1941—1942 гг. сустракаліся ў Казані, Пячышчах.

*Студзень, 2.* На сцэне 1-й Віленскай Беларускай гімназіі пастаўлена «Паўлінка». *«Наша думка», 1921, № 1, 7 студз.*

*Студзень, пачатак.* Працаваў наменнікам загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела Наркамасветы БССР. Калі ў Наркамасветы арганізаваўся Акадэмцэнтр, увайшоў у склад членаў Навуковай камісіі па складанні і апрацоўцы навуковай тэрміналогіі. *Ярош, с. 222.*

Гурток моладзі в. Лысая Гара Юзафоўскага сельсавета Мінскага р-на каля Акопаў паставіў «Паўлінку». *ЭД, с. 364.*

*Студзень, 14.* «С.С.Р.Б. Народный комиссариат просвещения Белоруссии. Отд[ел] общий. 14/I 1921 г. № 361. г. Минск.

Удостоверение

Настоящим Компросбел удостоверяет, что предъявитель сего т. Луцевич Иван Доминикович состоит на службе в отделе литерат[урно]-издательск[ом] в должности секретаря журнала «Вольны сцяг».

За народного комиссара Компросбела *И. Кореневский*
Заведыв[ающий] отделом *С. Некрашевич*
За секретаря *В. Пылило*».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 125.*

*Студзень, 15.* Выйшаў 1-ы нумар газеты «Белорусская деревня» (з сакавіка 1924 г. «Беларуская вёска»). *Ілюстраваная храналогія, ч. 2, с. 18.*

*Студзень, 23.* На сходзе работнікаў асветы і культуры БССР прынята прапанова пра стварэнне навуковага цэнтра культурнай работы ў Беларусі — Інстытута беларускай культуры. Абрана камісія па арганізацыі Інбелкульта, у склад якой увайшоў і Я. Купала. *«Сав. Беларусь», 1921, 25 студз.; Шарахоўскі, 1976, с. 13; Ярош, с. 223.*

*Студзень, 25.* «Савецкая Беларусь» паведамляла: Я. Купала ўвайшоў у камісію па распрацоўцы планаў Інбелкульта.

«Протокол № 3 заседания коллегии Госиздательства Белоруссии, состоявшегося 25 января 1921 г.

Присутствовали: тт. Ашмарин, Жилунович, Эйдельман, Колчин и зам. Белроста тов. Левинсон.

Председательствовал тов. Ашмарин,
Секретарь тов. Эйдельман.

Порядок дня:

[...] 11) Об издании избранных сочинений Янки Купалы на бел[орусском] языке [...]

[Слушали:] По п. 11.

[Постановили:] Поручить тов. Жилуновичу войти в переговоры с поэтом Янка Купала (Луцевичем) о представлении им Государственному издательству его избранных сочинений на белорусском языке и под редакц[ией и] с предисловием тов. Жилуновича издать в самом срочном порядке в изящной форме, на хорошей бумаге и в художественной обложке в количестве 10 000 экз. [...]

Председатель

Секретарь

С подлинным верно: Управд[елами] *Гольдберг»*.

*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 125.*

*Студзень, 27.* «Беларускія выданні.

У апошнім часе ў Беларускім аддзеле Наркампроса і ў Дзяржаўным беларускім выдавецтве (Госіздат) удзяляецца вялікая ўвага пытанню аб выданні журналаў і кніг на беларускай мове. На пасяджэнні рэдакцыйнай калегіі Госіздата 25 студзеня пастаноўлена далей выдаваць журнал «Вольны сцяг». Гэтаксама ўхвалены выпуск дзіцячага журнала на беларускай мове «Зоркі». Самай цікавай з'яўляецца пастанова аб выданні выбраных твораў вядомага беларускага паэта Янкі Купалы, які карыстаецца славай беларускага Пушкіна. Зборнік выйдзе з прадмовай т. Жылуновіча.

Пры Белроста арганізаваны Беларускі пададдзел пад агульным кіраўніцтвам т. Жылуновіча». *«Сав. Беларусь», 1921, № 20, 27 студз.*

*Люты, 2.* Дзяржаўнае выдавецтва РСФСР перайменавана ў Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. *БелЭн, т. 3, с. 65.*

*Люты, да 4.* «Наркомпросу

Прошу об утверждении в занимаемых должностях следующих членов Научной комиссии Научно-литературного отдела:

[...] 2) Ивана Луцевича в должности заведующего Литературно-художественною секциею [...]

Заведующий Научно-литературного отд[ела]

*С. Некрашевич*

Делопроизводитель *Н. Пономарева»*.

Рэзалюцыя: Утв[ердить]. 4. II. М. Фр[умкина]».

*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 126.*

*Люты, 20.* Абраны Старшынёй літаратурна-мастацкай секцыі Навукова-тэрміналагічнай камісіі Народнага камісарыята асветы Беларускай ССР. *ЭД, с. 431.*

*Люты, 25.* Выйшаў № 1 дзіцячага часопіса «Зоркі» (выходзіў да чэрвеня 1922 г.; рэдактар З. Бядуля), дзе друкаваліся і творы Я. Купалы.

*Сакавік, 6.* Напісаны верш «Бай». Упершыню — «Зоркі», 1921, № 2, 15 мая.

*Сакавік, 18.* Падпісаны Рыжскі мірны дагавор. Да Польшчы адыходзілі Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна. *Ілюстраваная храналогія, ч. 2, с. 18.*

*Сакавік, 21.* У Мінску выйшаў першы нумар газеты «Чырвоная змена».

*Сакавік, 22.* У Вільні выйшаў першы нумар газеты «Беларускі звон» (рэдактар-выдавец Ф. Аляхновіч; выходзіла да 24. 2. 1923 г. ), які змяшчаў вершы Я. Купалы і матэрыялы пра яго. *Ілюстраваная храналогія, ч. 2, с. 19.*

*Сакавік, 27.* У Глуску Бабруйскага пав. адбылася нарада работніц, пасля якой была пастаўлена «Паўлінка», прачытана лекцыя пра Я. Купалу, дэкламаваліся ўрыўкі з яго твораў. *«Сав. Беларусь», 10 крас.*

*Красавік, 1.* Стаў рэдактарам часопіса «Вольны сцяг» да 1.1.1922 г. *ЭД, с. 431.*

*Красавік, 9.* На Бярэзінскім прадмесці Бабруйска драматычны гуртток настаўніцкіх курсаў паставіў «Паўлінку». *«Сав. Беларусь», 13 крас.*

БДТ паказаў «Паўлінку». *«Сав. Беларусь», 13 крас.*

*Красавік, да 12.* Бабруйскія школьнікі Коля Карковіч, Міша Астроўскі, Кузьма Стрыгун, Стэфа Шчыгельская сустрэліся з Я. Купалам у аддзеле народнай асветы (хацелі прысвоіць імя паэта школе, таму прыехалі да яго па дазвол). Я. Купала запрасіў школьнікаў дадому. Прысутнічаў на сустрэчы З. Бядуля, які жыў у другой палавіне дома I з'езда РСДРП. Засталіся ў Мінску. Паэт паказваў ім горад, падпісаў па кніжцы. Зберaглася фатаграфія з гэтай сустрэчы. *«Сав. Беларусь», 12 крас.; «Звезда», 12 крас.; «ЛіМ», 1974, 9 жн.; ЭД, с. 499—500.*

*Красавік, 12.* «Звезда» паведаміла пра пастаноўку «Паўлінкі» ў Глуску.

*Красавік, 14.* У БДТ паказана «Раскіданае гняздо». *«Звезда», 16 крас.; ЭД, с. 526; ПЗТ, т. 7, с. 389.*

*Красавік, 16.* «Звезда» пісала пра спектакль «Раскіданае гняздо».

*Красавік, 17.* У віленскай газеце «Беларускі звон» (№ 4) змешчана рэцэнзія «а» (Ф. Аляхновіча) на зборнік «Янка Купала. Избранные произведения в переводах русских поэтов» (М.).

*Красавік, 23.* «Савецкая Беларусь» (№ 89) паведаміла: «Вядомым беларускім пісьменнікам Янкаю Купалам пераложан на беларускую мову «Інтэрнацыянал». Пакуль пераклад-

чык яго не друкуе, бо хоча зверыць з французскім арыгіналам». «У блізкай будучыні маецца быць пастаўлена ў Дзяржаўным тэатры беларускаю трупаю сімвалічная п'еса Янкі Купалы «Адвечная песня». Пастаноўка будзе т. Ждановіча. Хутчэйшай пастаноўцы моцна перашкаджае няйменне адзення і дэкарацыяў, якія гатуюцца знарок». (У газеце замест «Адвечная песня» памылкова надрукавана «Курганная кветка». У № 90 газеты за 24 красавіка даецца папраўка.— *Я. С.*).

*Красавік, 27.* П. В. Ільючонак М. І. Марозу, паўнамоцнаму прадстаўніку ўрада БССР пры ўрадзе РСФСР:

«Тав. Мароз!

Калі ласка, зрабіце ўвагу і дастаньце на французскай мове «Інтэрнацыянал» наш. Ён дужа патрэбен, бо Купала зрабіў пераклад на беларускую мову, але пакуль не будзе подлініка, то ў свет выпушчаны не будзе. А «Інтэрнацыянал» нам дазарэзу патрэбен, бо хоры пяюць расейскі або карыстаюцца дужа брыдкім перакладам [...].

27. IV-21 г. *Ільючонак».*

*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 127.*

*Красавік, 29.* Напісаны верш «Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі...». Упершыню — «Зоркі», 1922, № 2—3. Прысвячэнне: «У альбом п. Люсі Полазавай».

*Май, 15.* У Мінск прыехаў Якуб Колас, пасяліўся на вул. Старажоўскай, д. 1, кв. 3 (цяпер вул. Захарава, 10). Я. Купала наведваў тут свайго сябра да 1927 г. *Мушынскі М. Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1982. С. 144 (далей будзе: Мушынскі.— Я. С.).*

«Савецкая Беларусь» паведамляла: «Вучні Бабруйскай беларускай школы другое ступені звярнуліся ў дзяржаўнае выдавецтва Беларусі з просьбай надрукаваць партрэт Янкі Купалы. На пасяджэнні калегіі выдавецтва было пастаноўлена выдаць партрэт Янкі Купалы ў ліку дзесяці тысяч».

*Май.* У Маскве спраўлялі 25-гадовы юбілей творчай дзейнасці Я. Я. Нячаева. Сярод гасцей (П. Сакулін, А. Серафімовіч, В. Кірылаў, М. Герасімаў, С. Абрадовіч) быў і Я. Купала. Зняліся групай у садзе. *Белоусов И. А. Литературная Москва. М., 1929.*

*Чэрвень, 2.* Напісаны верш «Сын і маці» («Мамка, мамка, нам сягоння»). Упершыню — «Зоркі», 1921, № 3, 15 жн.

*Чэрвень, 9.* Напісаны верш «На шырокім, на далёкім...». Упершыню — Зб. тв., 1974, т. 4.

У с. Мураваны Двор Гайна-Слабадской вол. пастаўлена «Паўлінка». *«Сав. Беларусь», 17 чэрв.*

*Чэрвень, 11.* Газета «Савецкая Беларусь» паведаміла, што ў Глуску Бабруйскага пав. пастаўлены «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо».

*Чэрвень, 17.* Як загадчык літаратурна-мастацкай секцыі літаратурна-навуковага аддзела Наркамасветы БССР і член беларускай навукова-тэрміналагічнай камісіі атрымаў пасведчанне: « № 3744. 17/VI-21 г.

Удостоверение

Дано сие зав. Лит[ературно]-худ[ожественной] секцией и чл[ену] Белорусской научно-терминологич[еской] комиссии тов. И. Д. Луцевичу в том, что он командируется в хут. Окопы Радошковской вол. для собирания в районе волостей Радошковской, Гайно-Слободской и Белоручской Минской губ. этнографич[еского] материала, относящегося к белорусскому народному творчеству, как то: записывание песен, сказок и т. п., а также отыскивание и приобретение редких книг и рукописей.

Все власти гражданские и военные благоволят оказывать т. Луцевичу свое содействие при исполнении им возложенных Наркомпросом служебных обязанностей.

Комиссар просв[ещения]
Зам. завед[ующего] Лит[ературно]-научн[ым] отделом
Секретарь».
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 128—129;*
*ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 525.*

*Ліпень, 3.* «Савецкая Беларусь» паведамляла, што ў Слуцку на сустрэчы Я. Коласа вечар пачаўся песняй «А хто там ідзе?» на словы Я. Купалы.

*Ліпень, 8.* «У Сацбес.

Гэтым Наркамасветы просіць выдаць адны новыя боты вядомаму беларускаму пісьменніку Янку Купалу (Івану Луцэвічу). Пры гэтым Наркамасветы дадае, што Купала ў ботах вельмі нуждаецца.

Зам. Наркамасветы
Зав. Бел[арускім] аддзелам
Сакратар». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 129.*

«Савецкая Беларусь» паведаміла, што на святкаванні Купалля Ц. Гартны расказаў пра значэнне свята. Я. Сушынскі, Т. Бандарчык і іншыя дэкламавалі вершы Я. Купалы.

*Ліпень, 15.* У «Савецкай Беларусі» артыкул Я. Кліча (З. Х. Жылуновіча) «Беларуская літаратура як папярэдніца пралетарскай», у якім гаворыцца і пра Я. Купалу.

*Ліпень, 18.* У «Савецкай Беларусі» «Інтэрнацыянал» у перакладзе на беларускую мову Я. Купалы (без подпісу).

*Ліпень, 23.* У спісе супрацоўнікаў Акадэмічнага цэнтра Наркамасветы БССР на атрыманне пайкоў за ліпень 1921 г.— Я. Купала. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 130.*

*Ліпень, 29.* У Мінскім тэатры «Пралетарыят» ставілася «Паўлінка». *«Сав. Беларусь», 2 жн.*

*Ліпень, 30.* У Дзяржаўным тэатры ўрачыста адкрыта «Хата беларускага мастацтва». Выступаў хор, дэкламаваліся вершы Я. Купалы «Я ад вас далёка», «Гэй, наперад!». *«Сав. Беларусь», 3 жн.*

*Жнівень, 9.* У Акопах напісаны верш «На смерць Сцяпана Булата». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1921, № 173, 14 жн.

*Верасень, 5.* У Акопах скончыў вершаваны пераклад «Слова пра паход Ігаравы». Упершыню — «Вольны сцяг», 1921, № 5(7), 6(8).

*Верасень, 8.* Напісаны верш «А зязюлька кукавала...». Упершыню — «Зоркі», 1921, № 4, 1 лістап.

*Верасень, 14.* У Вільні выйшаў 1-ы нумар газеты «Беларускія ведамасці» (рэдактар М. І. Гарэцкі; выходзіла да студзеня 1922 г. ), у якой публікаваліся творы Я. Купалы. *Ілюстраваная храналогія, ч. 2, с. 20.*

*Верасень, 20.* З ліста У. Ф. Луцэвіч да М. І. Мароза: «Купала шлець вам шчырае прывітанне». *ЭД, с. 380.*

*Верасень.* Ва ўкраінскім часопісе «Воля» (Вена) А. Ярэмчанка змясціў «Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры», у якім пры характарыстыцы творчасці Я. Купалы выкарыстоўвае артыкул М. Багдановіча «Беларускае адраджэнне». *Дзень паэзіі. Мн., 1972. С. 86.*

*Кастрычнік, 1.* Прызначаны старшынёй Літаратурнай камісіі і мастацкай секцыі Акадэмцэнтра Народнага камісарыята асветы Беларускай ССР. *ЭД, с. 431.*

Напісаны верш «Голад». Упершыню — «Безназоўнае».

*Кастрычнік, 4.* Разам з З. Бядулем, рэдактарам часопіса «Зоркі», накіроўваюць у Наркамасветы пісьмо аб прыняцці мер да Дзяржвыда, які затрымліваў матэрыял № 4 часопіса. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 505.*

*Кастрычнік, 6.* Выйшаў спецыяльны выпуск газеты «Беларусь — Паволжу», прысвечаны дапамозе галадаючым. У ім вершы Я. Купалы, Я. Коласа, Ясакара (З. Бядулі) і інш. *«Звезда», 6 кастр.*

*Лістапад, 6.* У Мінскім Беларускім рабочым клубе на літаратурна-музычна-вакальным вечары прачытаў верш «На смерць Сцяпана Булата». *ЭД, с. 397.*

*Лістапад, 14.* Калектыўная заява беларускіх літаратараў (і Я. Купалы) у Камісарыят унутраных спраў ССРБ з просьбай зацвердзіць літаратурнае таварыства «Вір». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 542.*

*Снежань, 1.* У «Вольным сцягу» (№ 5) пераклад першага раздзела («У Аркадыі») драмы Е. Жулаўскага «Эрас і Псіха», а таксама вершаваны пераклад «Слова пра паход Ігаравы». У часопісе «Зоркі» (№ 5) пераклад з польскай мовы верша Ю. Крашэўскага «Дзед і баба».

*Снежань, 16.* Дэлегаты III Усебеларускага з'езда Саветаў спявалі «Інтэрнацыянал» у перакладзе Я. Купалы.

*Снежань, 25.* У часопісе «Вольны сцяг» (№ 6) пераклад 2-га раздзела («Змярканне багоў») драмы Е. Жулаўскага «Эрас і Псіха», а таксама заканчэнне вершаванага перакладу «Слова пра паход Ігаравы».

*Снежань.* Напісаны верш «З Новым годам!». Упершыню — «Вольны сцяг», 1922, № 1, 1 студз.

*На працягу года.* Напісаў верш «Песня і казка». Упершыню — «Зоркі», 1921, № 1.

Пераклаў з польскай мовы верш Л. Ягалкоўскай-Кашуцкай «Пажарнікі».

У Вільні выйшла кніжка А. І. Луцкевіча «Пуцяводныя ідэі беларускай літаратуры», дзе аўтар разглядае творчасць Я. Купалы.

На 1-й выстаўцы мінскіх мастакоў Дз. М. Полазаў дэманстраваў партрэты Я. Купалы і Я. Коласа. *ЭД, с. 488.*

Б. Жыранік у сваёй кнізе «Нарыс беларускай літаратуры» (Варшава, 1921) разглядаў творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Я. Купалы, Цёткі, Я. Коласа, Ц. Гартнага, А. Паўловіча, К. Каганца, Зм. Бядулі, М. Багдановіча і інш. Ён пісаў: «Янка Купала пачаў сваю творчасць смелай рэвалюцыйнай песняй, б'ючы дубінаю па струхлелым будынку царызму, над якім перамога здавалася такой блізкай і такой пэўнай... Купала закранае ўсё новыя і новыя струны; паэзія яго робіцца вельмі разнастайнай, штораз гучаць у ёй новыя мелодыі, штораз з'яўляюцца новыя думкі. Здаецца, што ўвесь боль і ўсю радасць, якой так мала, на жаль, у беларускай рэчаіснасці, усю веру і спадзяванні беларускага сэрца выражае паэт у сваіх шматлікіх песнях. І ўсе яны прасякнуты жывым подыхам айчыннай прыроды — шумам каласоў на ніве, зяленівам палёў і лугоў, гоманам бароў».

*Студзень, 1.* У часопісе «Вольны сцяг» (№ 1) пераклад раздзела «Пад крыжам» драмы Е. Жулаўскага «Эрас і Псіха», прысвечаныя Я. Купалу абразкі Жалейкі (псеўданім не раскрыты).

*Студзень, 5.* Напісаў ліст Я. Ф. Карскаму, у якім паведамляе, што пасылае часопіс «Вольны сцяг» (№ 5 і 6) з сваім перакладам «Слова аб паходзе Ігаравым», просіць даць ацэнку перакладу.

*Студзень, 10.* На пасяджэнні камісіі пры Акадэмцэнтры з пытаннем па ушанаванні памяці У. Г. Караленкі. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 132.*

*Студзень, 14.* Закончыў артыкул «Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 год». Упершыню — «Полымя», 1923, № 2 (студзень).

*Студзень, 15.* У Мінску напісаны прыпеўкі «Не плюй у карытца». *ДзЛМЯнК, ф. 1, воп. 1, спр. 222а, арк. 1—2.*

*Студзень, да 16.* Выйшаў зборнік «Спадчына».

*Студзень, 16.* Падпісаў «Спадчыну» Тамары Здановіч. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 343.*

Я. Ф. Карскі высока ацаніў пераклад «Слова пра паход Ігаравы»:

«Многоуважаемый Иван Доминикович!

Ваш стихотворный перевод «Сл[ова] о п[олку] И[гореве]» вышел прекрасным: везде видно понимание старого текста и заметно художественное чутье, не говоря уже о легком стихе, соответствующем содержанию картины. В Вашей обработке белорусский язык оказался на высоте. Мне кажется только, что напрасно Вы избегаете нерифмованных стихов. Если бы Вы их не боялись, не пришлось бы обращаться ко многим ассонансам (созвучиям), которые рифм не составляют. Но это пустяк.

Для примечаний в отдельном издании для Вас достаточно одного Е. В. Барсова: нет ли его в университетской библиотеке? Имейте в виду, что книга Барсова — оттиск из Чтений в Моск[овском] общ[естве] истории и древн[остей] российских, печатались в 80-х годах XIX ст. Если бы представилась оказия, я прислал бы Вам для пользования экземпляр нашей академической библиотеки. По почте этого сделать нельзя: книга в переплете, с укупоркой будет очень дорого стоить, да и может пропасть. Собственного экземпляра не имею.

Ваш перевод я дал для просмотра и специалисту по «Сл[ову] о п[олку] И[гореве]» академику В. Н. Перетцу; он тоже согласен со мной относительно его достоинства.

Желаю Вам всего наилучшего!

Преданный Вам Е. Карский». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 133—134.*

*Студзень, 19.* Падараваў А. Дз. Бурсікавай (дачцэ мастака Дз. М. Полазава) кнігу В. М. Вараноўскага «Отечественная война 1812 г. в пределах Смоленской губернии» (СПб., 1912). *ЭД, с. 97.*

*Студзень, 20.* Ліст Акадэмцэнтра Наркамасветы БССР начальніку Мінскай электрастанцыі: «Тав. Луцэвіч (Янка Купала) і тав. Плаўнік (З. Бядуля) з'яўляюцца пастаяннымі супрацоўнікамі Акадэмічнага цэнтра: першы ў якасці члена калегіі, члена тэрміналагічнай камісіі і рэдактара часопіса «Вольны сцяг», другі ў якасці члена камісіі і рэдактара часопіса «Зоркі». Абодва ўказаныя супрацоўнікі па абавязку сваёй службы вымушаны як літаратары абавязкова працаваць вечарамі. З прычыны вышэйсказанага Акадэмічны цэнтр просіць тав. загадчыка электрычнай станцыі аказаць сваё садзейнічанне, каб электрычная энергія па магчымасці падавалася акуратна ў кватэру названых таварышаў па Захараўскай [Захар'еўскай] вуліцы, дом № 135, кватэра № 1». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 136.*

*Студзень, 24.* Напісаны верш «Перад будучыняй» (першапачатковая назва «Разважанне».) Рукапіс у ДзЛМЯнК, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 220-а, арк. 1—2. Упершыню — «Адраджэнне», 1922, № 1 (тыраж канфіскаваны).

*Студзень, 30.* Створаны Інстытут беларускай культуры, у арганізацыі якога прымаў дзейсны ўдзел. У яго ўвайшлі Я. Купала, Я. Колас, Я. Карскі і інш.

*Люты, 11.* Абраны правадзейным членам Інбелкульта. *ЭД, с. 431.*

*Люты, да 15.* У Берліне на ўкраінскай мове выйшаў зборнік «Білорусь», дзе змешчаны вершы Я. Купалы (пераклаў А. Ярэмчанка).

*Люты.* У «Зорках» (№ 1) пераклад Я. Купалы з польскай мовы верша «Каваль» невядомага аўтара.

*Сакавік, 19.* У актавай зале БДУ урачыстае пасяджэнне з нагоды 40-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы. Адкрыў рэктар У. Пічэта, які сказаў, што «Купала для беларускай літаратуры тое ж, што Шаўчэнка — для ўкраінскай, і Міцкевіч — для польскай». Даклады пра жыццё і творчасць юбіляра зрабілі М. Піятуховіч, А. Вазнясенскі і С. Кацэнбоген. Студэнт М. Зарніца прачытаў свой верш «Вялікаму песняру Бацькаўшчыны». Я. Купала прачытаў верш «Перад будучыняй». *«Сав. Беларусь», 24 сак.; Славяне в эпоху феодализма. М., 1978. С. 70; «ЛіМ», 1986, 28 лют.; ЭД, с. 485.*

*Красавік, 4.* У мінскім Беларускім рабочым клубе літаратурны вечар, прысвечаны Я. Купалу. Даклады У. Ігнатоўскага, М. Піятуховіча і інш. Была пастаўлена 2-я частка драмы «Раскіданае гняздо», чыталі вершы Я. Купалы, выступіў хор. *«Сав. Беларусь», 5 крас.*

У журы конкурса на лепшую п'есу. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 134—135; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 513.*

*Красавік, 5.* Падпісаў сваё фота Лідзіі Іванаўне Рытар — будучай жонцы М. А. Грамыкі. *ЭД, с. 167; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 360.*

*Красавік, 19.* «Савецкая Беларусь» паведаміла, што 19 красавіка ў Беларускім рабочым клубе ў Мінску пастаўлена інсцэніроўка «Поры года» паводле паэмы Я. Купалы «Адвечная песня». *«Сав. Беларусь», 22 крас.*

*Красавік.* «Удостоверение на предмет льготного пользования электрическим освещением

Дано сие Академическим центром Наркомпросбела председателю Научно-литературной колегии А[кадемического] ц[ентра] и члену Института белорусской культуры Луцевичу Ивану Доминиковичу, проживающему по Захарьевской улице в доме № 135, кв. 1, пользующемуся электрическим освещением по абонентной книжке за № 2377, выданной Минской городской водопроводно-электрической станцией, в том, что ему разрешено по льготному тарифу пользоваться 3 (тремя) электрическими лампочками по 25 свечей каждая.

Зампредакадцентра

Управдел». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 135.*

*Май, 3.* Падпісаў М. А. Грамыку сваё фота. *ЭД, с. 167; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 339.*

*Май, 15.* Напісаны верш «Кароль». Упершыню — «Зоркі», 1922, № 4 (чэрв.).

*Чэрвень, 15.* Вучні Віленскай беларускай гімназіі паставілі абразок «На папасе». *ПЗТ, т. 7, с. 376.*

*Чэрвень, 25.* Вучні Віленскай беларускай гімназіі на выпускным вечары паставілі абразок «На папасе». *«Бел. звон», 4 ліп.*

*Чэрвень.* У часопісе «Маладое жыццё» (Вільня) артыкул М. Каплан «Сацыяльны элемент у творах Янкі Купалы».

*Ліпень, 4.* Падпісаў В. Л. Дылу зборнік «Спадчына». *БДАМЛіМ, ф. 53, воп. 1, адз. зах. 260; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 341.*

Віленская газета «Беларускі звон» (№ 14) у рубрыцы «Беларускае жыццё» паведаміла: «Беларуская драматычная майстроўня пры Беларускім камітэце помачы ахвярам вайны

падгатовіла для прадстаўлення п'есу Я. Купалы «Раскіданае гняздо».

*Ліпень, 9.* У мінскім тэатры «Беларуская зорка» пастаўлены «Прымакі». *«Сав. Беларусь», 16 ліп.; ПЗТ, т. 7, с. 385.*

*Ліпень, 11.* У Наркамаце асветы ўзяў камандзіроўку ў Акопы для збору там фальклору. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 525.*

*Ліпень, 15.* У Дзвінску (Латвія) на вечары ўдзельнікаў настаўніцкіх курсаў беларускіх школ пастаўлена «Раскіданае гняздо». *«Бел. звон» (Вільня), 21 ліп.*

*Жнівень, 31.* У Акопах закончыў п'есу «Тутэйшыя». Упершыню — «Полымя», 1924, № 2, 3.

*Верасень, 2.* Самадзейнасць дзіцячага дома № 3 г. Мінска паставіла інсцэніроўку «Адвечнай песні» для настаўнікаў — слухачоў беларускіх курсаў. *«Сав. Беларусь», 5 верас.*

*Верасень, 3.* У «Савецкай Беларусі» артыкул Р. К. Шукевіча-Траццякова «На распуцці», дзе негатыўна ацэньваецца савецкая творчасць Я. Купалы і высока дарэвалюцыйная.

*Верасень, 5.* «Савецкая Беларусь» паведамляла, што ў в. Нізы Стаўбунскай вол. на Гомельшчыне пастаўлена «Паўлінка». *«Сав. Беларусь», 5 верас.; ЭД, с. 549.*

*Верасень, 15.* Віленская газета «Беларускі звон» (№ 19) паведамляла: «5 верасня распачалася праца ў Беларускай драматычнай майстроўні... Дзеля выканання першай мэты... прыняты пакуль што да пастаноўкі гэткія п'есы... Янкі Купалы «На папасе», «На куццю», «Адвечная песня».

*Верасень, 20.* Напісаў ліст Б. І. Эпімах-Шыпілу. З ліста: «На дабітку ўсяго ў 1920 г., у студзені я захварэў страшнай хваробай: гнойнае запаленне сляпой кішкі (па-вучонаму перытаніт). Праляжаў у бальніцы, змагаючыся з смерцю, тры месяцы і выйшаў з пакрыўленай губой і з надломаным зусім здароўем. Папраўдзе, пабываў на тым свеце. Толькі дзякуючы добрай апецы, асабліва ксяндзу рэктару б. Мінскай духоўнай семінарыі Абрантовічу, я не пайшоў да Абрагама на піва. У пачатку 1921 года перахварэў на плеўрыт, сёлета нядаўна — на нейкую жаўтуху. Адным словам, жылося апошнія гады і жывецца не вельмі радасна».

*Верасень.* Вучні Радашковіцкай беларускай гімназіі паставілі «На папасе». *ПЗТ, т. 7, с. 376.*

*Кастрычнік, 11.* У віленскай газеце «Беларускі звон» (№ 25) надрукавана страфа з верша «Ворагам Беларушчыны»:

Цяпер і вы загаласілі,
З апекай вышлі як з зямлі,
А што ж дагэтуль вы рабілі?
А дзе ж дагэтуль вы былі?

Страфа надрукавана ў час выбараў у сейм і сенат 1922 г., калі ўлады Польшчы агітавалі беларусаў прыняць удзел у выбарах.

*Кастрычнік, 18.* У віленскай газеце «Беларускі звон» (№ 27) паведамлялася: «Драматычная секцыя беларускай гімназіі ў Дзвінску рыхтуецца паставіць сваімі сіламі «Паўлінку» Я. Купалы».

*Кастрычнік.* Быў на вяселлі Л. І. і М. А. Грамыкаў у Мінску.

*Лістапад, 6.* На літаратурна-музычна-вакальным вечары ў беларускім рабочым клубе прачытаў верш «На смерць Сцяпана Булата». Я. Колас прачытаў урыўкі з «Новай зямлі». *«Сав. Беларусь», 10 лістап.*

*Лістапад, 29.* Падпісвае з С. Некрашэвічам ліст Інбелкульта ва Упраўленне вышэйшых навучальных устаноў Наркамасветы БССР з просьбай увесці ў праграмах Інстытута сельскай гаспадаркі выкладанне беларускай мовы і геаграфіі Беларусі. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 526.*

*Лістапад—снежань.* Удзельнічаў у стварэнні часопіса «Полымя».

*Снежань, 3.* У Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі пад кіраўніцтвам П. В. Мядзёлкі пастаўлена «Паўлінка» (ролю Паўлінкі выконвала Н. А. Мікалаева-Комісар). Вучні чыталі вершы паэта, спявалі песню на яго словы «Не загаснуць зоркі ў небе». Было пастаўлена таксама балетнае прадстаўленне «Сон у купальскую ноч». *«Маладосць», 1982, № 7, с. 173.*

*Снежань, 7.* Напісаны верш «Ад мінскіх дзяцей». Упершыню — «Творы 1918—1928». Падзагаловак: «На прывітанне IV Усебеларускага з'езда Саветаў (адбыўся 14—18. 12. 1922 г. у Мінску).

*На працягу года.* Напісаў верш «Пазвалі вас...». Упершыню — зборнік «Безназоўнае», 1925.

## 1923

*Студзень, 5.* Я. Колас піша Марыі Дзмітраўне: «На Новый год я заходил к Купале. Купала был у меня». *Колас, т. 13, с. 33.*

*Студзень, 7.* У в. Лысая Гара Бяларуцкай вол. Мінскага пав. гуртком «Прабуджэнне» пастаўлена «Паўлінка». *«Сав. Беларусь», 13 студз.; ЭД, с. 364.*

*Студзень, 14.* Закончыў артыкул «Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 год». Упершыню — «Полымя», 1923, № 1.

*Студзень, 16.* Загадам № 9 Наркамасветы БССР Я. Купала зацверджаны з 1 лютага Старшынёй Гуманітарнай секцыі. Старшыня Інбелкульта С. М. Некрашэвіч, член Я. Колас. *З жыццяпісу Якуба Коласа / Укл. Г. В. Кісялёў. Мн., 1982. С. 274; ЭД, с. 397.*

*Люты, 14.* Народны камісарыят асветы накіраваў ліст у ЦВК Беларусі пра мэтазгоднасць закупкі бібліятэкі Я. Купалы Дзяржаўнай бібліятэкай Беларусі. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 141—142.*

*Люты, 18.* У в. Мачулішчы Мінскага пав. пастаўлена «Паўлінка». *«Сав. Беларусь», 1 сак.*

*Люты, 25.* Трупа пад кіраўніцтвам У. Галубка паставіла ў клубе чыгуначнікаў Мінска «Паўлінку». *«Сав. Беларусь», 1 сак.; ПЗТ, т. 7, с. 383.*

*Люты, 26.* Прыняў удзел у вечары-дыспуце «Полымя». *«Сав. Беларусь», 1 сак.*

*Люты.* У «Полымі» (№ 2) артыкул Ц. Гартнага «Беларускі Парнас у новай вопратцы», у якім аўтар піша і пра Я. Купалу.

*Сакавік.* У італьянскім часопісе «L Europa Orientale» (№ 3) змешчаны пераклад на італьянскую мову верша «А хто там ідзе?» (перакладчык не пазначаны).

*Красавік, 22.* Віленская газета «Новае жыццё» (№ 7) паведаміла, што ў Беларускай кнігарні (Завальная, 7) прадаюцца выдадзеныя партрэты вялікага фармату беларускіх пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў. «У хуткім часе будуць надрукаваны партрэты Я. Купалы, Як. Коласа і Б. Тарашкевіча».

*Красавік, 27.* Віленская газета «Новае жыццё» (№ 8) інфармавала чытача, што выдавецтва Б. Клецкіна друкуе зборнік «Шляхам жыцця».

*Красавік, 29.* Вучні Люцынскай (Латвія) Беларускай гімназіі паставілі «Паўлінку». *«Новае жыццё» (Вільня), 11 мая; ПЗТ, т. 7, с. 383.*

*Май, 22.* Драмгурток мяст. Бяларучы Мінскага пав. паставіў вадэвіль «Прымакі». *«Сав. Беларусь», 1 чэрв.*

*Май, 27.* У Петраградзе беларуская студэнцкая асацыяцыя наладзіла канцэрт. Чыталі вершы Я. Купалы. *«Сав. Беларусь», 5 чэрв.*

*Чэрвень, 17.* Вучні беларускай Радашковіцкай гімназіі паставілі абразок «На папасе». *«Наша новае жыццё» (аднадзёнка), Вільня, 6 ліп.*

*Лета.* У рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь» сустрэліся Я. Купала, А. Бабарэка, журналіст А. Матусевіч. *Успаміны пра Янку Купалу. Мн., 1982. С. 205.*

*Ліпень, 1.* У Каневе прысутнічаў на адкрыцці помніка Т. Шаўчэнку. *Песні беларускай валадар, с. 68.*

*Ліпень, 16.* Слухачы настаўніцкіх курсаў у Барысаве паставілі вадэвіль «Прымакі». *«Сав. Беларусь», 20 ліп.; ПЗТ, т. 7, с. 385.*

*Ліпень, 24.* У «Савецкай Беларусі» А. Шлюбскі ў артыкуле «Матэрыялы з гісторыі беларускага друку» пісаў пра работу Я. Купалы ў газеце «Наша ніва».

*Ліпень.* У часопісе «Червоний шлях» (№ 6—7) П. Бузук у рэцэнзіі на 3 том «Беларусаў» Я. Ф. Карскага адзначыў яркую сацыяльную накіраванасць творчасці Я. Купалы.

*Жнівень, 11.* У Бабруйскім цэнтраклубе канцэрт, на якім чыталіся вершы «Гэй, наперад», «Аратаму», «Забытая карчма». *«Сав. Беларусь», 24 жн.*

*Жнівень, 16.* Віленская аднадзёнка «Падняты сцяг» паведаміла, што выдавецтва Б. А. Клецкіна выпусціла 2-е, папраўленае выданне зборніка паэзіі «Шляхам жыцця», які прадаецца ў Беларускай кнігарні (Завальная, 7). Аднадзёнка змясціла рэцэнзію Н. М. на гэта выданне.

*Жнівень.* «Полымя» (№ 7—8) паведаміла, што Галоўпалітпрасвет НКА Беларусі выпусціў дыяпазітывы Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі.

*Верасень, да 28.* Разам з членамі Інбелкульта наведаў Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскве, на якой былі прадстаўлены і экспанаты з Беларусі. Знаёміўся з літаратурнай і музычнай грамадскасцю сталіцы. Тут праз К. Буйло пазнаёміўся з М. М. Ганчарыкам, з кампазітарамі М. І. Аладавым, Я. В. Прохаравым. *«Сав. Беларусь», 28 верас.*

*Верасень, 30.* «Савецкая Беларусь» паведамляла, што будзе пастаўлена п'еса «Тутэйшыя».

*Кастрычнік, да 11.* У «Маладняку» (№ 1) надрукавана 1-я частка верша «Арлянятам».

*Кастрычнік, 14.* У мяст. Іказнь Дзісенскага пав. пастаўлена «Паўлінка». *«Змаганне» (Вільня), 18 лістап.*

*Кастрычнік — лістапад.* Знаходзіўся на лячэнні ў санаторыі «Гаспра» ў Крыму. У Гаспры выступаў на літаратурных вечарах. *«Сав. Беларусь», 23 кастр.; «Полымя», № 7—8, с. 133.*

*Лістапад, 7.* У Мінскай школе № 29 пастаўлены абразок з «Адвечнай песні». *«Сав. Беларусь», 10 лістап.*

*Лістапад, 16.* У Гаспры напісаў верш «Крым». Упершыню — «Радавая рунь» (дадатак да газ. «Савецкая Беларусь»), 1924, № 1, 13 крас. (2 першыя раздзелы; цалкам — «Творы 1918—1928»). Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях памылкова датаваўся 16. IX. 1923 г.

*Лістапад, 18.* У мяст. Краснаполле Чэрыкаўскага (Калінінскага) пав. у Нардоме пастаўлена «Паўлінка». *Мрый. А. Творы. Мн., 1992. С. 129.*

*Лістапад, 21.* Вярнуўся ў Мінск з Крыма. Часопіс «Полымя» пісаў: «У лістападзе месяцы (21) вярнуўся з Крыма Янка Купала, які ездзіў туды на лячэнне. У Гаспры, дзе Янка Купала жыў, адбыліся змешаныя вечарынкі, на якіх паэт чытаў свае вершы і зрабіў вялікае ўражанне на расійцаў. Янка Купала прыступіў да перагляду сваіх зборнікаў «Жалейка» і «Huslar», якія ён думае выпусціць другім выданнем». *«Полымя», 1923, № 7—8, с. 133.*

Напісаны верш «Цішку Гартнаму». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1923, № 286, 14 снеж.

*Лістапад, 28.* Створана літаратурнае аб'яднанне «Маладняк» (у лістападзе 1928 г. рэарганізавана ў БелАПП), з якім Я. Купала меў цесныя сувязі.

*Снежань, да 6.* У БДУ пасяджэнне навуковага таварыства, прысвечанага Я. Коласу. На ім прысутнічаў Я. Купала. *«Сав. Беларусь», 6 снеж.*

*Снежань, 12.* Літаратурная грамадскасць Беларусі адзначыла 50-годдзе з дня нараджэння В. Брусава. Я. Купала разам з Я. Коласам, Ц. Гартным, З. Бядулем, М. Чаротам і М. Гарэцкім паслалі юбіляру прывітальную тэлеграму.

На агульным сходзе ў Інбелкульце В. Брусаў абраны ганаровым членам Інбелкульта. *ЭД, с. 95.*

*Снежань, 14.* На вечары, прысвечаным 15-годдзю літаратурнай і грамадскай дзейнасці Ц. Гартнага, прачытаў верш «Цішку Гартнаму». *«Сав. Беларусь», 16 снеж.; «Полымя», № 7—8, с. 129—130.*

*Снежань, 18.* На вечары ў БДТ-1, арганізаваным ЦК ЛКСМ Беларусі ў гонар часопіса «Маладняк», М. Чарот зрабіў даклад пра дзейнасць «Маладняка», М. Гарэцкі — агляд часопіса «Маладняк». Я. Купала прачытаў упершыню верш «Арлянятам». *«Сав. Беларусь», 20 снеж.; Ярош, с. 229; ЭД, с. 63.*

*Снежань.* У Мінску адкрыты Вышэйшыя курсы беларусазнаўства (дзейнічалі да ліпеня 1927 г. ).

*На працягу года.* Пераклаў з украінскай мовы паэму В. А. Палішчука «Ленін». Упершыню — «Полымя», 1924, № 1.

У Вільні мастак Я. Горыд перавёў на камень для друку літаграфскім спосабам партрэт Я. Купалы, выкананы алоўкам Н. Сасноўскай. Размножаны ў друкарні Ласкова, партрэт атрымаў вялікае пашырэнне ў Заходняй Беларусі. *ЭД, с. 162.*

Мастак Я. М. Кругер напісаў з натуры партрэт Я. Купалы. *ЭД, с. 305.*

Кампазітар М. Аладаў напісаў першы беларускі раманс «З буйных ліп і бяроз лісты валяцца» (другая назва — «Лісты валяцца») на верш Я. Купалы «З гальных ліп і бяроз» з цыкла «З асенніх напеваў» («Кончыцца лета гарачае»). *ЭД, с. 313—314.*

## 1924

*Студзень, 2.* Завяршыў 8-ы раздзел паэмы «Безназоўнае». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1924, № 3, 5 студз.

*Студзень, 16.* Беларуская драматычная майстроўня ў Вільні паставіла «На папасе».

*Студзень, 20.* У газеце «Голас беларуса» (Вільня) водгук на спектакль «На папасе».

*Люты, 10.* У в. Вялікая Ухалода Глівінскай вол. культурна-асветны гурток Я. Коласа паказаў «Прымакоў». *«Сав. Беларусь», 20 лют.; ПЗТ, т. 7, с. 385.*

*Люты, 11.* У «Савецкай Беларусі» — «Вам» (2-я частка верша «Арлянятам»).

*Сакавік, 1.* У мяст. Парычы (Бабруйшчына) спектаклем «Паўлінка» адкрыта Хата беларускай культуры і мастацтва. *«Сав. Беларусь», 10 сак.*

*Сакавік, 3.* Першае ўзбуйненне БССР. Да БССР адыходзілі Аршанскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Лепельскі, Полацкі, Сенненскі і Суражскі пав. Віцебскай губ.; Быхаўскі, Клімавіцкі, Магілёўскі, Рагачоўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі пав.; Даманавіцкая, Дзярновіцкая, Дудзіцкая (са ст. Калінкавічы), Карпавіцкая, Крукавіцкая (Савіцкая), Мухаедаўская, Нараўлянская вол., часткі Аўцюкоўскай, Юравіцкай, Якімаваслабодскай вал. Гомельскай губ.; Горацкі пав., Казіміраваслабодская, Старасельская, Шамаўская вол., часткі Аслянскай, Бохацкай і Соенскай вал. Мсціслаўскага пав. з г. Мсціслаў. Тэрыторыя Беларусі павялічылася больш чым у 2 разы. Насельніцтва дасягнула 4, 2 млн. чалавек. *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 2000. Т. 6. Кн. 1 (далей будзе: ЭГБ.— Я. С.).*

*Сакавік, 10.* Па запрашэнні Яна Райніса гурткоўцы Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі паставілі «Паўлінку» ў Латышскім Нацыянальным тэатры ў Рызе. *«Голас беларуса» (Рыга), 25 сак.; ПЗТ, т. 7, с. 383.*

*Сакавік, 11.* Закончыў 6-ы і 7-ы раздзелы паэмы «Безназоўнае». Упершыню — «Сав. Беларусь», 1924, № 59, 12 сак.

«Савецкая Беларусь» паведамляла, што ў Рагачоўскім педтэхнікуме пастаўлена «Паўлінка».

*Сакавік, 13—16.* Прымаў удзел у рабоце VI Надзвычайнага Усебеларускага з'езда Саветаў з правам дарадчага голасу. *Любімы паэт беларускага народа, с. 251; БелСЭ, т. 11, с. 350; НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 274. Т. 2, арк. 542; інф. В. У. Скалабана.*

*Сакавік, 25.* У газеце «Голас беларуса» (Вільня) фрагменты з паэмы «Безназоўнае» пад назваю «Як бы хто набаяў».

*Красавік.* У «Полымі» [№ 1 (9)] пераклад паэмы ўкраінскага пісьменніка В. Палішчука «Ленін».

*Чэрвень.* З групай беларускіх пісьменнікаў наведаў Магілёў. *«Полымя», 1982, № 8, с. 211; ЭД, с. 370.*

*Кастрычнік, 6.* Напісаны верш «Дзве сястры». Упершыню — «Беларуская работніца і сялянка», 1924, № 1.

*Кастрычнік, 26.* У Крычаве пастаўлена «Паўлінка». *«Сав. Беларусь», 12 лістап.*

*Лістапад, 4.* У «Савецкай Беларусі» нататка «Думкі і пажаданні ў звязку з прадстаячым дакладам на 3-й сесіі ЦВК Беларусі».

*Лістапад, 12.* Напісаны верш «Наш летапісец». Упершыню — «Полымя», 1924, № 4 з прысвячэннем У. М. Ігнатоўскаму.

*Снежань, 2.* Піянеры звяна імя Я. Купалы з мяст. Крычаў паслалі ў рэдакцыю часопіса «Беларускі піянер» ліст да паэта (апублікаваны ў № 1 часопіса), у якім прасілі прыслаць біяграфію і хоць бы адну кніжку твораў.

*Снежань, 28.* У в. Верцялішкі Гродзенскай вол. пастаўлена «Паўлінка». *«Бел. доля» (Вільня), 1925, 16 студз.*

*Снежань, 30.* На вечары памяці В. Дуніна-Марцінкевіча ў Празе Л. Заяц чытаў вершы Я. Купалы. *«Бел. доля» (Вільня), 1925, 6 лют.*

*На працягу года.* Напісаны вершы «...О так! Я — пралетар!..». Упершыню — «Безназоўнае» (1925); «Для насценнай газеты БДзВ». Упершыню — «Творы. 1918—1928» (1930). Зрабіў пераклады з рускай паэзіі «Сейбіт» (аўтар невядомы), з польскай — «Павук і муха», «Лета цёплае мінае» (аўтар невядомы). Упершыню — Зб. тв., 1932, т. VI.

Склаў і здаў у выдавецтва зборнік паэзіі «Безназоўнае» (выйшаў у 1925 г.).

Падрыхтаваў 1-ы том 6-томнага Збору твораў (выйшаў у 1925 г. ).

З. Азгур жыў на кватэры Я. Купалы ў Мінску, працаваў над скульптурным партрэтам паэта. *ЭД, с. 32.*

Выйшаў з друку зборнік вершаў «Чырвоны дудар (Беларускі дэкламатар)», складзены Я. Купалам, Ц. Гартным і інш.

*Люты.* Выйшаў зборнік паэзіі «Безназоўнае».

*Сакавік, 21—23.* Удзельнічаў у рабоце 1-га пленума Цэнтральнага бюро ўсебеларускага аб'яднання «Маладняк». *«Сав. Беларусь», 22 сак.; «Полымя», № 3, с. 167.*

*Красавік, 25.* Атрымаў пасведчанне пра выбранне яго I Мінскім акруговым з'ездам Саветаў дэлегатам на VII Усебеларускі з'езд Саветаў. Фотакопія: Янка Купала. Жыццё і творчасць. Альбом. Мн., 1959. С. 93.

*Красавік.* У артыкуле «Музыка ў творах беларускіх паэтаў... Янка Купала» («Полымя», 1925, № 4) Ю. М. Дрэйзін сцвярджаў: «... Паэзія Я. Купалы да такой ступені прасякнута пачуццём музыкі, адчуваннем яе моцы, што песня ў яго зліваецца з думкаю. У песні ён вырашае свае думкі, настроі, жаданні. Песня для нашага паэта — жывая істота, з якою можна весці гутарку, якая разам з песняром плача або цешыцца, аб якой можна пець песні».

У «Полымі» (№ 4) артыкул М. Піятуховіча «Асноўныя этапы ў развіцці лірыкі Янкі Купалы».

*Май, 1.* У госці да Ц. Гартнага прыйшлі Я. Купала, Я. Колас, А. Чарвякоў з жонкамі. *Успаміны пра Цішку Гартнага. Мн., 1984. С. 39.*

*Май, 25.* Падпісаў сваё фота У. Дубоўку. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 340.*

*Май, 27.* У клубе «Чырвоны прафінтэрн» на пляцы Волі адбыўся вечар маладнякоўцаў, прысвечаны Я. Купалу. Удзельнічалі прадстаўнікі ўсіх арганізацый і ўстаноў г. Мінска. Даклад пра жыццё і творчасць паэта зрабіў У. Дубоўка. Былі зачытаны прывітанні ад арганізацый і ўстаноў г. Мінска, пісьменнікаў. Паэты прадэкламавалі вершы, прысвечаныя Я. Купалу. Юбіляр чытаў свае творы. *«Сав. Беларусь», 29 мая.*

*Май, да 28.* Напісаны верш «Шляхам гадоў». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1925, № 117, 28 мая з прысвячэннем: «Ад шчырага сэрца пасвячаю ўсім, хто добрым словам успомніў мяне ў дзень юбілею».

Выйшаў юбілейны зборнік «Маладняк — Янку Купалу». У ім прывітанне Цэнтральнага Бюро «Маладняка», артыкулы У. Дубоўкі і А. Бабарэкі, выбраныя вершы Я. Купалы, прысвечаныя паэту вершы А. Александровіча, У. Дубоўкі, А. Якімовіча. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 152.*

*Май, 28.* У Інбелкульце (секцыя беларускай мовы і літаратуры) урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Даклады: М. Піятуховіч — «Асноўныя этапы ў развіцці лірыкі Я. Купалы», М. Гарэцкі —

«Янка Купала як ідэолаг беларускага адраджэння», Маркаў — «Сялянскія матывы ў паэзіі Янкі Купалы». Я. Колас агучыў «Ноч, калі папараць цвіце», у якой алегарычна адлюстраваны ўсе этапы паэтычнай дзейнасці Я. Купалы. Юбіляр прачытаў верш «Шляхам гадоў». *«Звезда», 30 мая; «Сав. Беларусь», 1 чэрв.*

Рабочыя мінскага завода «Камунар» (цяпер завод імя Кірава) узнагародзілі паэта граматай «Ганаровы металіст». *Янка Купала, 1952, с. 69.*

*Май, 29.* «Народны камісарыят асветы БССР разаслаў усім сваім падначаленым установам абежнік наступнага зместу:

28 мая бягучага года мінула дваццаць год, як Янка Купала распачаў сваю літаратурную дзейнасць, змясціўшы ў мінскай расейскай газеце за 15 мая (па старому стылю) 1905 г. свой верш «Мужык».

За гэтыя дваццаць год Купала развінуўся ў выдатнага нацыянальнага паэта, волата беларускага прыгожага пісьменства, які праз увесь час сваёй літаратурнай працы будзіў сялянскія гушчы ад цяжкага сну прымусу і заклікаў да сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення.

НКАБ уважае за патрэбнае адзначыць памянёную юбілейную дату ў кожнай культурна-асветнай установе, каб як мага шырэй азнаёміць моладзь і працоўныя гушчы з вялікім беларускім песняром і яго творчасцю.

Маючы на ўвазе вышэйнапісанае, НКАБ прапануе наладзіць у школьных і навучальных установах вечарыны, прысвечаныя творчасці Купалы, па такой прыблізна схеме: даклад аб жыцці і творчасці паэта, чытанне яго твораў, канцэртны аддзел.

Адначасна НКАБ робіць захады аб надрукаванні партрэтаў Купалы, якія будуць разасланы на гэтых днях.

Аб адбыўшыхся ўрачыстасцях з прычыны юбілею маеце дакладна паведаміць НКАБ.

Дзень святкавання абіраюць самі культурна-асветныя ўстановы паміж 1 і 15 чэрвеня г. г.

Нам. Наркамасветы *Баліцкі*
Кіраўнік спраў *Красінскі*».
*«Сав. Беларусь», 1 чэрв.;*
*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 146.*

*Чэрвень, 1.* Я. Купалу вітае Бабруйская філія «Маладняка».

*Чэрвень, 4.* У Доме Рабасветы Віцебска вечар, на якім Я. Купала чытаў свае вершы. *«Заря Запада», 7 чэрв.*

*Чэрвень, 6.* У Бабруйску вечар, прысвечаны 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Паставілі 1-ы акт «Тутэйшых». *«Сав. Беларусь», 11 чэрв.*

*Чэрвень, 6—7.* Пабываў у Горы-Горках.

«Янка Купала ў Горы-Горках.

Дні 6 і 7 чэрвеня былі святам для Горацкіх школ.

6 чэрвеня прыехалі ў Горы-Горкі Янка Купала, старшыня Аршанскага акруговага выканаўчага камітэта т. Амбражунас, сакратар акруговага камітэта партыі т. Стасевіч і дэкан Аршанскага рабфаку т. Акулік.

Перш-наперш госці з'явіліся на ўрачысты сход, прысвечаны выпуску студэнтаў Горацкага рабфаку. Горача-прыхільна спаткаў сход пачэсных гасцей.

Пасля ўрачыстай часткі госці прысутнічалі на сямейным вечары рабфакаўцаў, Янка Купала чытаў свае вершы.

7 чэрвеня амаль не цэлы дзень госці знаёміліся з дасягненнямі інстытута; аглядалі батанічны сад — гулялі па старому парку разам з рабфакаўцамі, прымалі ўдзел у іх гульнях, бегатні. З трудом удалося гасцям вырвацца з рук рабфакаўцаў. Сюды ў парк вітаць Янку Купалу з'явілася канферэнцыя настаўніцтва Горацкага раёну, якая адбывалася ў гэтыя дні. Зараз жа прыйшлі вучні Горацкіх сямігодак — беларускай і яўрэйскай. Дзяўчынкі ў нацыянальных беларускіх вопратках паднеслі Янку Купалу два прыгожых букеты руж і румянку (эмблема творчасці Янкі Купалы). Хутка з'явіліся піянеры з чырвоным сцягам. Усе размясціліся на ўзгорку каля гары «Парнас» сярод зялёных дубоў і ліп.

Прывітальныя прамовы, беларускія народныя спевы, дэкламацыя вершаў чаргаваліся з нейкім дзіўным натхненнем.

Увечары 7 чэрвеня адбылося ў прысутнасці гасцей аб'яднанае пасяджэнне навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі і секцыі навуковых працаўнікоў сельскагаспадарчага інстытуту. Госці знаёміліся з працаю Навуковага таварыства і выказалі свае думкі адносна гэтай працы. Т. т. Луцэвіч (Янка Купала), Амбражунас, Стасевіч і Акулік залічаны ганаровымі сябрамі таварыства. *Алеся».*

*«Сав. Беларусь», 17 чэрв.*

*Чэрвень, 7.* «Савецкая Беларусь» змясціла вітанне Я. Купалу з Сойму Варшавы: «Янка Купала. Інбелкульт. Мінск. Шчыра вітаем слаўнага песняра Беларусі [з] дваццатымі ўгодкамі літаратурнай працы. Няхай красуе муза твая пры тварэнні культуры на карысць працоўных масаў беларускага народу! Варшава. Сойм». Тэлеграму падпісалі Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Валошын, П. Мятла, А. Уласаў і іншыя члены Беларускага пасольскага клуба (усяго 10 подпісаў).

У «Звезде» верш А. Звонака «Песняру Беларусі мужычай», прысвечаны Я. Купалу.

*Чэрвень, 9.* Гомельскі педтэхнікум у тэатры імя Я. М. Свярдлова правёў вечар, прысвечаны Я. Купалу. *«Сав. Беларусь», 23 чэрв.*

*Чэрвень, 10.* Янку Купалу СНК нададзена ганаровае званне народнага паэта Беларусі. Адначасова СНК БССР пастанавіў вызваліць паэта ад пасад, якія ён займаў, каб стварыць яму лепшыя ўмовы для творчай працы і прызначыць Я. Купалу пажыццёвую пенсію.

*Чэрвень, 11.* «Савецкая Беларусь» паведамляла, што Я. Купала быў у Віцебску з А. Александровічам.

*Чэрвень, 14.* У газеце «Кгупіса» (№ 26, Вільня) артыкул «У 20-я ўгодкі паэтыцкай творчасці».

*Чэрвень, 15.* У Клімавічах агульны сход вучняў і настаўнікаў гарадскіх школ, прысвечаны 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Выступіў А. Александровіч. Чыталі вершы Я. Купалы. *«Сав. Беларусь», 19 чэрв.*

*Чэрвень, 23.* У БДТ-1 Мінска агульнагарадскі вечар, прысвечаны 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Даклад Я. Пушчы. Зачытана пастанова СНК БССР аб прысваенні Я. Купалу звання народнага паэта Беларусі. Юбіляр прачытаў верш «Шляхам гадоў». *«Сав. Беларусь», 25 чэрв.; «ЛіМ», 1966, 25 лістап.*

Замест прамовы на ўрачыстым вечары ў БДТ-1 напісаў «Ліст у рэдакцыю». Апублікаваны ў «Савецкай Беларусі» 25 чэрвеня.

*Чэрвень, 25.* «Савецкая Беларусь» апублікавала прывітанне Я. Купалу ад СНК і ЦВК БССР.

*Чэрвень, 26.* «Заря Запада» (Віцебск) паведаміла, што ў Лужаснянскай сельскагаспадарчай школе на вечары, прысвечаным 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы, пастаўлена «Паўлінка».

*Ліпень, 14.* Падаў у Інбелкульт заяву на адпачынак з 15 ліпеня да 1 верасня. На пасяджэнні тэрміналагічнай камісіі прысутнічалі Я. Купала, Я. Колас, Я. Лёсік. Пастанавілі прыпыніць работу камісіі (большасць яе членаў была ў адпачынку) да 1 верасня. *«ЛіМ», 2002, 5 крас.; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 506.*

*Ліпень, 15.* Прэзідыум Інбелкульта адпачынак Я. Купалы адклаў да 25 ліпеня і рэкамендаваў падрыхтаваць да друку за гэты час канцылярскую тэрміналогію. *«ЛіМ», 2002, 5 крас.*

Я. Купала перайшоў на пенсію, прызначаную яму як народнаму паэту БССР СНК. Пакінуў работу ў Беларускім Дзяржаўным выдавецтве. *«Полымя», 1925, № 5, с. 214.*

*Ліпень, 17—19.* У «Савецкай Беларусі» паэма М. Чарота «Карчма», прысвечаная Я. Купалу.

*Ліпень. Я.* Купала, К. Чорны, М. Чарот, А. Гурло, А. Дудар, У. Дубоўка, К. Крапіва, П. Трус удзельнічалі ў літаратурным вечары, прысвечаным наладжванню культурнага шэфства над гуртком ваенкомаў Мінскага беларускага палка. *«Сав. Беларусь», 2 жн.*

*Жнівень, 19.* Быў ганаровым госцем на вяселлі жыхара засценка Рубеж (цяпер Лагойскі р-н). *ЭД, с. 184.*

*Жнівень.* Разам з К. Чорным удзельнічаў у літаратурным вечары, прысвечаным наладжванню культурнага шэфства над гуртком ваенкораў Мінскага Беларускага палка. *ЭД, с. 655.*

*Верасень, 19.* «Савецкая Беларусь»: «Паездка беларускіх пісьменнікаў за граніцу. Дзеля азнаямлення з нямецкімі літаратурнымі коламі выехаў у Нямеччыну Цішка Гартны. Пісьменнікі Янка Купала і Міхась Чарот маюць на днях выехаць у Нямеччыну і Чэхаславакію».

*Верасень, 29.* У «Савецкай Беларусі» з нагоды пабудовы самалёта імя КПБ звярнуўся да маладых пісьменнікаў.

*Кастрычнік, 1.* «Савецкая Беларусь» паведамляла: «Янка Купала і М. Чарот збіраюцца ў Нямеччыну і Чэхаславакію».

*Кастрычнік, пасля 1.* Выехаў у Берлін з М. Чаротам. Наведалі І. Бехера. Да іх далучыўся Ц. Гартны. Наведалі таксама Гамбург, аглядзелі выдатныя мясціны горада. Адтуль выехалі ў Чэхаславакію. У Празе адбыўся літаратурны вечар з удзелам Я. Купалы і М. Чарота. *«Сав. Беларусь», 1, 30 кастр.; «ЛіМ», 1957, 19 крас.; «Полымя», 1963, № 10, с. 144.*

*Кастрычнік, 22.* У «Савецкай Беларусі» рэцэнзія І. Барашкі на 1-ы том Збору твораў Я. Купалы ў 6 тамах.

*Кастрычнік, 27.* Праехаў праз Варшаву. Тут сустракаўся з Б. Тарашкевічам. Віленская газета «Жыццё беларуса» (№ 18) пісала: «27 кастрычніка праз Варшаву праехаў, варочаючыся з Нямеччыны і Чэхаславаччыны, наш вялікі нацыянальны паэт Янка Купала. На просьбу яго аб дазволе спыніцца ў межах Польшчы на пару дзён і наведацца да Вільні польская ўлада адказала адмоўна, даўшы толькі транзітную візу (на праезд без права супыніцца)».

*Кастрычнік, канец.* «Полымя» (№ 7) паведаміла: «У канцы кастрычніка вярнуліся з загранічнае камандзіроўкі пісьменнікі Я. Купала, Ц. Гартны і М. Чарот. За граніцаю яны пабывалі ў Нямеччыне і ў Чэхаславаччыне і праехалі ў Мінск праз Польшчу».

*Лістапад, 3.* І том свайго Збору твораў у 6 тамах падпісаў А. Саку. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 361.*

*Лістапад, 6.* Школьная рада III Мазырскай сямігодкі просіць у Народнага камісарыята асветы згоды на прысваенне школе імя Я. Купалы.

*Лістапад, 16.* Кіраўнік спраў Наркамасветы БССР М. Красінскі наклаў на пісьме Мазырскай школы рэзалюцыю: АкрАНА на заключэнне і прысылку дакладных вестак аб школе. Адпаведнае пісьмо Наркамасветы Мазырскаму АкрАНА за № 10764 было паслана 23 лістапада.

*Лістапад, да 17.* Здаў у друк II том Збору твораў. *«Звезда», 17 лістап.*

*Лістапад, 21.* Прэзідыум Інбелкульта вылучыў Я. Купалу, Ц. Гартнага і іншых для ўдзелу ў з'ездзе літаб'яднання «Маладняк», які адбыўся ў Мінску 25—29 лістапада. *«Сав. Беларусь», 26 лістап.*

*Лістапад, 22.* На педфаку БДУ вечар, прысвечаны 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Даклады пра творчасць паэта — прафесары М. Піятуховіч і А. Вазнясенскі. Прафесар П. Бузук, які нядаўна прыехаў на пастаянную работу ў БДУ з Адэсы, вітаў юбіляра на ўкраінскай мове. Я. Купала чытаў свае вершы. *«Сав. Беларусь», 24 лістап.*

*Лістапад, 25—27.* Прысутнічаў на 1-м з'ездзе «Маладняка». Збярогся фотаздымак (гл. ЭД, с. 376).

*Лістапад, 28—29.* Разам з Я. Коласам, Ц. Гартным, М. Доўнар-Запольскім прысутнічаў у Горках на адкрыцці Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі:

«Горкі святкавалі адчыненне Акадэміі. З Менску прыехалі: Нам. Ст. Саўнаркому тав. Карклін, і Валасевіч, Прышчэпаў, Чарнушэвіч, Левін, Запольскі, Красноўскі, Смоліч, Некрашэвіч, Друшчыц, Купала, Колас, тры прадстаўнікі Ціміразеўскай Акадэміі, прадстаўнік НКЗ РСФСР, прадстаўнікі прафэс. і парт. арганізацый, рабочыя, сяляне Горацкага раёну Калінінскае акругі і інш.». *«Сав. Беларусь», 1 снеж.*

*Снежань, 22.* Грамадскасць Прагі адзначыла 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. На вечары-канцэрце ў Акадэмічным доме, наладжаным пражскай філіяй «Маладняка», даклады У. Жылкі і М. Каўцэвіча пра творчасць Я. Купалы. З цёплымі словамі пра Я. Купалу выступіў З. Няедлы. Хор выконваў песні на словы паэта, беларускія народныя песні. Чыталіся вершы песняра. Юбіляру накіравана прывітальная тэлеграма. На вечар былі запрошаны прадстаўнікі беларускага, чэшскага, рускага, украінскага, балгарскага, літоўскага, грузінскага, малдаўскага студэнцтва, паэты і празаікі чэшскага літаратурнага згуртавання «Дзевет сіл», прад-

стаўнікі чэшскіх грамадскіх арганізацый. *«Сав. Беларусь», 1926, 19 студз.; Песні беларускай валадар, с. 49—50.*

*Снежань, 28.* Саюз студэнтаў-грамадзян БССР у ЧСР — Цэнтральнаму Бюро пралетарскага студэнцтва БССР — у Мінск:

«Паважаныя таварышы!

Вы нам выбачыце, што мы так доўга вам не пісалі. Прычын таму шмат, перад усім — недахват часу. Працы па бараду. [...]

Перш за ўсё ў 20-х чыслах верасня г. г. адбылася канферэнцыя савецкага студэнцтва ў Чэхіі. [...]

Другой, не менш важнай, падзеяй гэта быў прыезд у Прагу беларускіх песняроў Міхася Чарота і Янкі Купалы. Усе заварушыліся, асабліва ж беларуская антысавецкая эміграцыя. Адбыўся літаратурны вечар, уладжаны савецкай калоніяй, з участцем Чарота і Купалы. Уступ быў вольны. Прыйшла амаль уся беларуская эміграцыя ўсіх палітычных напрамкаў. Спадзявалася, што пачуе ад прыехаўшых з Мінска словы прымірэння. Але яна абманулася ў сваіх надзеях. Вуснамі Чарота і Купалы прамовіла работніцка-сялянская Беларусь, а не ідэолагі супольнага нацыянальнага фронту з эміграцыяю, як гэта яна спадзявалася. Пасля гэтага вечара эмігранты пачувалі сябе, як будта б іх выкупалі ў лядовай ванне. Савецкае студэнцтва, будучы маральна падтрымана песнярамі, з захапленнем пайшло далей па яшчэ раней намечанаму ім шляху. [...]

Пры Саюзе заложана ўжо з месяц таму назад група паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк», якая пакуль што складаецца з 4 сяброў. Цераз некалькі тыдняў у Празе выйдзе орган савецкага студэнцтва ў Чэхіі — журнал «Наш сцяг» на беларускай, расейскай і ўкраінскай мовах. Творамі і артыкуламі нашага «Маладняка» будзе запоўнена прыблізна каля $^1/_3$ журнала. Гэта першы выпадак, калі беларускае савецкае студэнцтва ў Зах[одняй] Еўропе выступіць у друку.

22 снежня г. г. «Маладняк» уладзіў урачыстую акадэміюканцэрт на аславу 20-гадовага юбілею літаратурна-мастацкай дзейнасці Янкі Купалы ў Акадэмічным доме ў Празе. Уступнае слова на канцэрце меў вядомы чэшскі літаратурны крытык праф. Dr Неедлы (камуніст) аб творчасці Я. Купалы. Заль быў перапоўнены прадстаўнікамі студэнцтва ўсіх народаў: чэшскага, беларускага, бесарабскага, украінскага, расейскага, літоўскага і інш., прадстаўнікамі савецкай калоніі, чэшскага грамадзянства і др. На канцэрце было выканана інтэрнацыянальным хорам некалькі беларускіх песняў, памастацку была праведзена дэкламацыя вершаў Купалы, асаб-

ліва калектыўная. Канцэрт прайшоў надзвычайна добра. Купалу была ад імя прысутных паслана прывітальная тэлеграма.

Вось у кароткіх словах тое, што наш Саюз змог зрабіць за час да 1926 г., і наогул усё тое цікавае больш-менш, што сталася ў Празе сярод беларусаў.

З нецярплівасцю чакаем ад вас адказу і інфармацыяў аб вашым жыцці.

Таварыскі прывет засылае вам:

За Саюз студэнтаў — грамадзян БССР у ЧСР

Старшыня прэзідыума *Міхась Каўцэвіч*».

*Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 161—162.*

*На працягу года.* Выйшаў асобнай кніжкай пераклад з нямецкай мовы верша Г. Хесэ «У тумане» пад назваю «У мгле. Беларускі раманс для аднаго голасу з акампанементам фартэпіяна. Музыка Я. Прохарава», з падзагалоўкам «Адзінота».

Мастак П. М. Гуткоўскі напісаў з натуры партрэт Я. Купалы, які экспанаваўся на 1-й Усебеларускай мастацкай выстаўцы.

Да вобраза Я. Купалы звярнуўся скульптар А. Бразер. Яго скульптурны партрэт паэта (незакончаны) стаў адным з самых жывых і дакладных.

## 1926

*Студзень, 1.* Пра Я. Купалу пісала газета «Arbeiter Illustrierte Zeitung» («Рабочая ілюстраваная газета», № 1, Берлін).

*Студзень, 23.* Пра Я. Купалу пісала газета «Prager presse» (№ 23).

*Студзень, 27.* Наркамасветы БССР накіраваў Я. Купалу пісьмо, у якім пытаўся, ці згодзен ён, каб яго іменем былі названы школы ў Мазыры і Полацку.

*Люты, 3.* «У Наркамасветы. Калі нічога Наркамасветы не мае проці наймення маім імем школы, я згаджаюся. Я. Купала. 3/II-26 г.». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 163; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 260.*

*Люты.* У берлінскім штотыднёвіку «Arbeiter Illustrierte Zeitung» змешчаны партрэты Я. Купалы, Ц. Гартнага, М. Чарота з подпісам: «Тры выдатныя прадстаўнікі Беларускай Савецкай Рэспублікі...» *ЭД, с. 444.*

*Сакавік, 12.* Падараваў скульптару З. Азгуру Збор твораў, т. 1 (1925) з аўтографам. *ЭД, с. 32; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 328.*

*Сакавік, 21.* У газеце «Беларуская вёска» (№ 27) у сувязі з 5-гадовым юбілеем газеты верш «Сей, вольны сейбіт!».

*Сакавік, 21—23.* З Я. Коласам у прэзідыуме Усебеларускага з'езда селькораў «Беларускай вёскі». *«Беларуская вёска», 23 сак.*

*Сакавік, 27.* Вучні Дзвінскай (Латвія) дзяржаўнай беларускай гімназіі на сваім вечары паказалі «Паўлінку». *ЭД, с. 190.*

*Сакавік.* У часопісе «Асвета» (№ 3) (артыкул «Школа і музыка») Ю. М. Дрэйзін пісаў пра музычнасць паэтычных твораў Я. Купалы.

*Красавік, 7.* Увайшоў у склад створанага ў Мінску Беларускага таварыства культурных сувязей з заграніцай. *«Сав. Беларусь», 13 крас.*

*Красавік, да 22.* Выйшаў з друку 2-і том Збору твораў. *«Звязда», 22 крас.*

*Красавік, 24.* «Беларускі народны тэатр (першы) у Рызе» паставіў «Паўлінку» (рэжысёр — артыст Латышскага нацыянальнага тэатра Я. Шабэрт. Паўлінка — Н. Мікалаева-Комісар, Пранцысь — М. Трубецкі, Альжбета — П. Раманоўская). *ЭД, с. 394.*

*Красавік, 23.* Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы выдавецкіх планаў на 1926—1927 гг.: «... 9. Предварительную разработку планов по отделам и языкам возложить: ... г) художественной — комиссии утверждается отделом печати в составе Жилуновича, Зарецкого, представитель «Молодняка», Купала, Громыка (созыв за т. Жилуновичем)».

*Красавік.* У «Полымі» (№ 3) пераклад паэмы рускай пісьменніцы М. Шкапскай «Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары» (подпіс — Л. І.).

У часопісе «Slovanský přehled» (Прага, год XVIII, № 3—4) апублікаваны ўпершыню перакладзеныя на чэшскую мову вершы Я. Купалы «Брату-беларусу», «Цару неба й зямлі», «Мая вера», «Не глядзі» (перакладчык Ю. Рубін — А. Чэрны), біяграфія паэта і яго партрэт. *«Полымя», № 5, с. 150; ЭД, с. 659.*

*Вясна.* У сябе на кватэры сустрэўся з прафесарам А. Вазнясенскім. *ЭД, с. 103.*

Здаў у друк 3-і том свайго Збору твораў. *«Полымя», 1926, № 4, с. 157.*

*Май, 10—13.* Са старшынёй СНК БССР Я. Адамовічам, народным камісарам асветы А. Баліцкім наведаў Полацк. Сустракаўся з жыхарамі горада, прадстаўнікамі Чырвонай Арміі, настаўнікамі і моладдзю. 11 мая ў гарадскім тэатры літаратурны вечар, прысвечаны паэту. *«Чырвоная Полаччына», 13 мая; Шарахоўскі, 1976, с. 32; ЭД, с. 488.*

*Май, 12.* Напісаў ліст у рэдакцыю газеты «Чырвоная Полаччына» з удзячнасцю за прыём (апублікаваны ў газеце 13 мая). *ПЗТ, т. 8, с. 106—107, 388.*

*Май, да 13.* У Полацку пастаўлены абразок «На папасе». *«Чырвоная Полаччына», 13 мая; ПЗТ, т. 7, с. 376.*

*Май, 16.* Падпісаў 2-і том свайго Збору твораў Я. Адамовічу і яго жонцы С. С. Шамардзіной. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 327.*

*Май, 26.* Заснавана літаб'яднанне «Узвышша».

*Май, 27.* Накіраваў у Наркамасветы БССР ліст: «У Наркамасветы. Шчыра дзякуючы за ўвагу, якую мне аказала полацкае настаўніцтва і вучнёўства, надаючы маё імя школе, я проці гэтага нічога не маю, калі Наркамасветы на гэта згодзен. Я. Купала. Мінск, 27/V-26 г.». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 166.*

*Май, 31.* Наркамасветы БССР прысвоіў імя Янкі Купалы вопытна-паказальнай школе пры Полацкім белпедтэхнікуме.

Імя паэта прысвоена Мазырскай сямігадовай працоўнай школе.

*Чэрвень, 2.* Газета «Prager presse» (№ 150) пісала пра Я. Купалу.

*Чэрвень, 5.* У Акопах напісаў верш «Акоў паломаных жандар». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1926, № 134, 16 чэрв. пад рубрыкай: «Ці мае беларускі народ сваю мову і культуру».

*Чэрвень, 24.* Напісаў верш «І што я ёй зрабіў такое?». Упершыню — «Беларуская вёска», 1926, № 68, 4 ліп.

*Чэрвень, 26.* Напісаў верш «Па Даўгінаўскім гасцінцы». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1926, № 146, 1 ліп. пад назваю «У дарозе».

*Лета.* Пабываў на хутары (Хатка над балотцам) у раёне Ждановіч, дзе адпачывала сям'я Я. Коласа. Фота ў музеі Я. Коласа. *Мушынскі, с. 174.*

*Чэрвень.* У часопісе «Беларускі піянер» (№ 6) апублікавана 1-я частка верша «Піянерскае» — «Будзь гатоў!».

*Ліпень, 3.* У Акопах напісаў верш «Аб дзяўчыне». Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 8.

*Ліпень, 5.* Напісаны верш «Гутарка аб кепскім гаспадару». Упершыню — «Беларуская вёска», 1926, № 72, 13 ліп.

*Ліпень, 25.* У газеце «Савецкая Беларусь» апублікаваны вершы Я. Купалы «Два светы», «Праз гультайства», «Дзе стаяў двор панскі...» з паметай: «Акопы, ліпень 1926 г.».

*Ліпень, 26.* Падпісаў рэжысёру М. А. Папову рэжысёрскі экземпляр п'есы «Тутэйшыя». *ЭД, с. 460; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 356.*

*Ліпень.* У часопісе «Беларускі піянер» (№ 7) апублікавана 2-я частка верша «Піянерскае» — «Заўсёды гатоў!». Напісаў верш «Гутарка аб кепскай гаспадыні». Упершыню — «Беларуская вёска», 1926, № 83, 8 жн.

*Чэрвень — ліпень.* У «Полымі» (№ 6) апублікаваны вершы «І прыйдзе», «За ўсё...», «Царскія дары», «На пагранiччы», «Улетку», «У лесе», «Вецер», «Маладая ачуняла», «Каб...», «Ёсць жа яшчэ...» з паметаю: «Акопы. Чэрвень — ліпень 1926 г.».

*Жнівень, 22 — верасень, 24.* Адпачываў у Есентуках разам з Я. Коласам. Сустракаўся з Я. Дылам, Ц. Гартным, А. Дударом. Наведаў домік М. Лермантава ў Пяцігорску. *«Полымя», 1957, № 10, с. 173; «Маладосць», 1959, № 11, с. 77—79; Колас, т. 13, с. 67—68.*

*Жнівень, 23.* Я. Колас жонцы: «Пачаў пісаць учора, аж прыходзіць Янка і кажа, каб я ішоў да док[тара] Аляксандрава. Купала меў да яго пісьмо ад аднаго мінскага прафесара». *Колас, т. 13, с. 60.*

*Жнівень, 24.* Я. Колас жонцы: «Цяпер 4 г. 25 м. На пляцоўцы трохі падзімае вецер. Янка (Купала.— *Я. С.*) таксама не спіць — яны (з жонкаю.— *Я. С.*) за дзвярамі,— курыць папяросу і пакашлівае. У нядзелю 22/VIII ездзілі ў Кісла-водск». *Колас, т. 13, с. 61.*

*Жнівень, 26.* Я. Колас Марыі Дзмітрыеўне: «А лечымся мы як? П'ём сякую-такую ваду, ходзім у ванны. Мне і Купале прыпісаны тыя ж самыя ванны, саляна-шчолачныя. Ужо два разы былі ў гэтых самых ваннах, учора і сёння. Пойдзем яшчэ і заўтра. Учора прыпісалі нам уколы мыш'яку і стрыхніну. Сёння зрабілі па аднаму ўколу. Уколем каго-небудзь і мы. Кормімся ў санаторыі. У санаторыі наша публіка дзеліцца на дзве часці: тая, што жыве ў санаторыі, і тая, што да яго прымацавана. Мы з Янкам уваходзім у другую часць. Першую часць называем мы буржуазіяй, а другую — пралетарыятам... Снедаем у $^1/_2$ 9, абедаем у $^1/_2$ трэцяга, у пяць гадзін чай, у 8 вячэра. Снеданне, полудзень, вячэра даецца з трох патраў. Хворыя дзеляцца па сталах. Нас залічылі на першы стол... Мы з Купалам гуляем, нічога не робім, і рабіць тут няма калі». *Колас, т. 13, с. 62—63.*

*Жнівень, 30.* Я. Колас жонцы: «Работы няма, а час праходзіць. Вольныя ж мінуты часта запаўняюцца шахматамі. Але Янка часцей абыграе мяне... 31.VIII. ...За гэты час два разы быў у Кіславодску. Апошні раз быў там у нядзелю 29/VIII. Але было хмурна, холадна. Паабедалі там, і я зараз жа павярнуў назад у сваё «Арлінае гняздо» і заваліўся там спаць. Купала і Купаліха асталіся даўжэй». *Колас, т. 13, с. 64—65.*

*Кастрычнік, 18.* Я. Коласу прысвоена ганаровае званне народнага паэта Беларусі.

*Кастрычнік, 31.* Разам з Я. Коласам прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні ў БДУ, прысвечаным 25-годдзю навуковай дзейнасці рэктара універсітэта У. І. Пічэты. *«Звязда», 2 лістап.*

*Кастрычнік.* Заснаваны часопіс «Чырвоны сейбіт» (выходзіў у Мінску да сярэдзіны 1928 г.), у якім друкаваліся творы Я. Купалы.

*Лістапад, 5.* Разам з К. Чорным чыталі свае творы на вечары беларускай літаратуры і музыкі ў кінатэатры «Культура» ў Мінску. *ЭД, с. 655.*

*Лістапад, 14—19.* Прымаў удзел у Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Сустракаўся з Я. Райнісам, М. Фасмерам, У. Пігулеўскім, Ю. Галомбакам, М. Біржышкам, П. Гарчынскім, Ю. Лазарэвічам, У. Жылкам, А. Цвікевічам, В. Ластоўскім, А. Сержпутоўскім, К. Езавітавым, К. Німчынавым і інш. Даклады С. Некрашэвіча, Я. Лёсіка, П. Бузука, П. Растаргуева, М. Піятуховіча, А. Вазнясенскага, М. Гарэцкага, Ю. Галомбака. З правам рашаючага голасу прынялі ўдзел 69 чалавек: члены Інбелкульта, выкладчыкі БДУ, Беларускага камуністычнага універсітэта, Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, прадстаўнікі літаратурных аб'яднанняў, спецыялісты з РСФСР, Украіны, з-за мяжы. *«Сав. Беларусь», 17 лістап.; Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 19—21.*

*Лістапад, 16.* У БДТ-1 пастаўлена п'еса «Тутэйшыя», якая адразу была забаронена. *ПЗТ, т. 7, с. 390—391.*

*Лістапад, 19.* Падарыў Я. Райнісу сваю фатаграфію. *Янка Купала. Жыццё і творчасць. Мн., 1972. С. 83; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 359.*

Ян Райніс зняўся з беларускімі пісьменнікамі Я. Купалам, З. Бядулем, К. Крапівой, А. Бабарэкам, К. Чорным, У. Дубоўкам, Я. Пушчам, П. Глебкам (гл. фота: ЭД, с. 520).

У «Заре Запада» артыкул З. Бядулі «Беларускі тэатр пра пастаноўкі «Паўлінкі» і «Раскіданага гнязда».

Абмеркаванне «Тутэйшых» на пашыраным пасяджэнні калегіі аддзела друку ЦК КП(б)Б. Аўтару рэкамендавана дапрацаваць п'есу.

*Лістапад, 21—22.* У Віцебску на адкрыцці БДТ-2 з сакратаром ЦВК БССР Дз. Чарнушэвічам, народнымі камісарамі БССР А. Баліцкім, Казюрай, І. Адамайцісам, намеснікам старшыні Інбелкульта Я. Каранеўскім, прафесарам А. Смолічам, навуковым сакратаром Інбелкульта А. Цвікевічам,

пісьменнікамі Ц. Гартным, М. Грамыкам, К. Чорным, А. Дударом, М. Зарэцкім, Я. Дылам, смаленскімі прафесарамі Яфімавым і Ганчаровым, А. Сержпутоўскім, Я. Райнісам, прафесарамі Е. Блесэ (Латвія), М. Біржышкам (Літва), В. Ластоўскім і Галавінскім (Коўна), К. Езавітавым і У. Пігулеўскім (Рыга), прафесарам Галаўчынскім (Ленінград), дацэнтам К. Німчынавым (Харкаў). Тэатр адкрыўся п'есамі У. Шэкспіра «Сон у летнюю ноч», І. Бэна «У мінулы час». *«Заря Запада», 21, 22 лістап.*

*Снежань, 6.* Другое ўзбуйненне Беларусі: далучаны Гомельскі і Рэчыцкі пав. Насельніцтва павялічылася на 649 тыс. чалавек і склала ўсяго каля 5 млн. чалавек. *ЭГБ, т. 6, кн. 1, с. 567.*

*Снежань, 17.* ЦК КП(б)Б прынята рэзалюцыя па «Тутэйшых». Аўтару рэкамендавана радыкальна перапрацаваць п'есу. *Платонаў Р. Лёсы. Мн., 1998. С. 19—23; ПЗТ, т. 7, с. 394.*

*Снежань, 26.* Прысутнічаў на прэм'еры першага беларускага мастацкага фільма «Лясная быль», пастаўленага па аповесці М. Чарота «Свінапас». Быў на прыёме з выпадку прэм'еры. Вёў гутарку з рэжысёрам Ю. Тарычам пра сумесную работу для кіно. *Красінскі А. В., Смаль В. І., Тарасевіч Г. П. Беларускае кіно. Кароткі нарыс. Мн., 1962. С. 197; «ЛіМ», 1972, 7 ліп.*

*Снежань, 28.* З дакладной запіскі І. Апанскага В. Р. Мянжынскаму: «А народный поэт — Янка КУПАЛА, по своей простоте, заявил приехавшим из-за границы на конференцию гостям, что:

...*«Мы живем в Советской Белоруссии потому, что нет другого места, куда бы можно было «притулиться». Пока Беларусь разорвана на несколько кусков — вольной Белоруссии нет... есть лишь — Советская»...*

и КУПАЛА не сомневается, что эта Беларусь вскоре будет несколько иной, ибо:

*«На вопрос КРАСКОВСКОГО, почему он, КУПАЛА, сейчас мало пишет, последний ответил: «Дурэнь ты, чыш можа пеяць салавей, кали яго пасодзяць у клетку, але будзе час, што гэты салавей ящчэ запяе».*

Так откровенно КУПАЛА еще не говорил. Таким языком он заговорил только теперь, чувствуя, очевидно, общий подъем национал-демократических настроений...»

Для характеристики этого товарища (А. Адамовіча, загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б.— *Я. С.*) следует упомянуть о его речи, произнесенной им на заседании Отдела Печати ЦК

при обсуждении вопроса о снятии с репертуара Белгостеатра явно контрреволюционной пьесы Янки Купалы «Тутэйшые». АДАМОВИЧ пытался было защищать эту пьесу, но когда ему это не удалось, он произнес истерическую речь следующего приблизительно содержания:

*«Пьеса КУПАЛЫ явилась в результате неправильной политики КПБ. Компартия Украины давно признала свои ошибки в национальном вопросе, теперь необходимо, чтобы то же самое сделала и Компартия Белоруссии. Янка КУПАЛА видел издевательства над белоруссами и как народный поэт не мог и не имел права молчать...» Скарыніч. Вып. 5. Мн., 2002. С. 141—142, 147—148.*

*На працягу года.* Напісаў верш «Піянерскае». Упершыню — «Беларускі піянер», 1926, № 6, 7.

У Мінску выйшлі 1-я і 2-я кнігі зборніка «Апавяданні вершам».

У Берліне — Лейпцыгу на нямецкай мове выйшаў 3-і том «Беларусаў» Я. Ф. Карскага пад назваю «Гісторыя беларускай вуснай народнай творчасці і літаратуры». У кнізе падрабязна расказана пра жыццёвы і творчы шлях Я. Купалы.

## 1927

*Студзень, 1.* Арыштаваны Ф. Аляхновіч.

*Студзень, 13.* Беларуская калонія ў Чэхіі святкавала 20-годдзе літаратурна-мастацкай творчасці Я. Коласа. Арганізатарам стаў пражскі «Маладняк». Даклад зрабіў З. Недлы. Прафесар раўняў творчасць Я. Коласа з творчасцю Я. Купалы, якога назваў народным трыбунам, арганізатарам. *«Сав. Беларусь», 30 студз.*

*Студзень, 27.* У сувязі з масавым тэрорам, рэпрэсіямі супраць Беларускай сялянска-работніцкай Грамады ў Заходняй Беларусі газета «Савецкая Беларусь» апублікавала зварот беларускіх дзеячаў навукі і пісьменнікаў да вучоных Захаду. Падпісалі Я. Купала, Я. Колас, М. Піятуховіч, І. Замоцін, А. Вазнясенскі, Я. Барычэўскі і інш. *«Сав. Беларусь», 27 студз.*

*Студзень, да 30.* Здаў у друк свой пераклад паэмы Е. Жулаўскага «Эрас і Псіха». *«Чырв. змена», 30 студз.*

*Люты, 6.* «Чырвоная змена» паведамляла: Я. Купала рыхтуе да друку паэму «Яна і я».

*Люты, 19.* Падпісаў прафесару І. Свянціцкаму зборнік «Спадчына» (1922) і 2-і том Збору твораў (1926). *«ЛіМ», 1977, 8 ліп.; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 362.*

*Сакавік, 14.* У будынку цяперашняга тэатра імя Я. Купалы прысутнічаў на Усебеларускім з'ездзе загадчыкаў хат-чытальняў. Прачытаў верш. *«Сав. Беларусь», 15 сак.*

*Сакавік, 19.* На ўстаноўчым сходзе Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай абраны ў склад праўлення, куды ўвайшлі Я. Колас, Ц. Гартны, М. Чарот. *«Полымя», № 2, с. 204; Шарахоўскі, 1976, с. 38.*

*Сакавік, 30.* Віленская газета «Наша праўда» (№ 1) паведаміла: «Выйшла з друку і прадаецца ў Кнігарні Беларускага выдавецкага таварыства, Вільня, Вострабрамская № 1 «Паўлінка» — сцэны з шляхоцкага жыцця ў 2-х актах Янкі Купалы. Цана 70 гр.».

*Сакавік, 31.* Пасля інтэрнацыянальнага вечара пралетарскай літаратуры ў Маскоўскім індустрыяльна-педагагічным інстытуце імя Карла Лібкнехта Б. І. Бендзік-Вераў пазнаёміў Назыма Хікмета з творчасцю Я. Купалы, чытаў яму верш «Арлянятам» у сваім перакладзе.

*Сакавік.* Упершыню выступіў у студыі радыёстанцыі Саўнаркома БССР у праграме, прысвечанай юбілейнаму нумару «Беларускай радыёгазеты». Гаварыў пра культурны росквіт Беларусі, беларускай літаратуры, прачытаў новыя вершы. *ЭД, с. 517.*

У Мінску выйшаў № 1 часопіса «Узвышша», які шмат пісаў пра Я. Купалу.

*Красавік, 5—12.* Удзельнічаў у рабоце VIII Усебеларускага з'езда Саветаў. З'езд зацвердзіў новую Канстытуцыю БССР і Дзяржаўны герб БССР. *«Звязда», 10 крас.; «Сав. Беларусь», 14 крас.*

*Красавік, 9.* Па ініцыятыве Віленскага гуртка Таварыства Беларускай Школы ў зале Віленскай Беларускай гімназіі пастаўлена «Паўлінка» (рэжысёр Замэцкі). *«Наша праўда», 22 крас.*

*Красавік, 12.* VIII Усебеларускі з'езд Саветаў абраў Я. Купалу кандыдатам у члены ЦВК. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 167; ЭД, с. 301.*

*Красавік, 24.* У Віцебскім гуртку ТБШ Вялецкім прачытаны рэферат «Янка Купала — ідэолаг адраджэння». *«Наша праўда» (Вільня), 25 мая.*

*Красавік.* У в. Вялікая Кракотка Слонімскага р-на створана бібліятэка, якой нададзена імя Янкі Купалы. *ЭД, с. 137.*

У «Полымі» (№ 4) уступ да паэмы У. Бранеўскага «Песня аб вайне грамадзянскай» у перакладзе Я. Купалы.

*Май, 8.* Берлінскі штотыднёвік «Arbeiter Illustrierte Zeitung» (№ 18) пісаў пра Я. Купалу.

*Май, 15.* У «Чырвонай краіне» (дадатку да газеты «Савецкая Беларусь») успаміны Я. Купалы пра газету.

*Май, 24.* Вучні Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі паказалі спектакль «На полацкім замчышчы» — інсцэніроўку В. Ф. Нікановіч-Сахаравай драматычнай паэмы Я. Купалы «Сон на кургане».

*Май, 25.* У школе мяст. Пустынь на Краслаўшчыне (Латвія) вучні Дзвінскай беларускай гімназіі паказалі «Паўлінку». *ЭД, с. 190.*

*Май, да 27.* Здаў у Беларускае дзяржаўнае выдавецтва 4-ы том свайго Збору твораў, у які ўвайшлі драматычныя паэмы. *«Чырв. змена», 27 мая; «Узвышша», № 2, с. 213.*

*Май, 29.* Часопіс «Чырвоны сейбіт» (№ 13) паведаміў: «Зараз Я. Купала працуе над перакладамі з украінскай паэзіі».

*Чэрвень, 7.* Падпісаў свой Збор твораў, т. 1 (1925) Язэпу Адамовічу. *ЭД, с. 28; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 327.*

*Чэрвень, 13.* Выпускнікі Віленскай Беларускай гімназіі на вечары паставілі «Паўлінку» і «На папасе». Хор пад кіраўніцтвам Р. Шырмы выканаў беларускія і ўкраінскія песні. Былі дэкламацыі вершаў і танцы. *«Бел. крыніца», 17 чэрв.; «Наша праўда», 18 чэрв.*

*Чэрвень, 26.* У вёсках Вялікая Кракотка, Чамяры, мястэчку Казлоўшчына Слонімскага пав. пастаўлена «Паўлінка». *«Наша праўда», 16 ліп., 6 жн.*

*Першае паўгоддзе.* Прыняты новы статут Інстытута беларускай культуры. Я. Купала зацверджаны правадзейным членам Інбелкульта. *«Полымя», 1927, № 8, с. 203.*

Увайшоў у арганізацыйную групу новага літаб'яднання «Полымя». *«Полымя», 1927, № 8, с. 199.*

*Ліпень, 12.* Востраўскі (Слонімскі пав., цяпер Зэльвенскі р-н) гурток ТБШ ставіў «Паўлінку» ў Дзярэчыне двойчы — днём і вечарам. *«Наша праўда», 24 верас.*

*Жнівень, 2.* Праехаў праз Варшаву, едучы з Мінска ў Карлсбад, дзе яго наведалі Ц. Гартны, М. Чарот, М. Зарэцкі.

*Жнівень, 6.* Віленская газета «Наша праўда» (№ 36) паведамляла чытачам:

«Праезд Янкі Купалы

У аўторак праз Варшаву праехаў, едучы з Мінска ў Карлсбад, наш найвялікшы пясняр Адраджэння — Янка Купала.

Янка Купала хворы на вантробу і паехаў у Карлсбад лячыцца.

На вялікі жаль, нашаму песняру не ўдалося заехаць у Вільню: ён атрымаў ад польскіх уладаў візу (дазвол) на праезд цераз Польшчу — без права затрымацца ў Польшчы». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 169—170.*

*Жнівень, 11.* Газета «Rude Pravo» ў артыкуле М. Š. (М. Шыманкі) «Беларускія літаратары ў Празе» пісала: «Янка Купала мае для беларусаў такое самае значэнне, як Тарас Шаўчэнка для ўкраінцаў, Міцкевіч — для палякаў, Пушкін — для рускіх».

*Жнівень, 12.* Паштоўка В. Ф. Станкевічу з Карлсбада, у якім запрашае Віктара прыязджаць з Уладкай у Карлсбад.

Віленская «Biełaruskaja Krynica» (№ 33) пісала: «Праезд Янкі Купалы праз Варшаву. У аўторак на мінулым тыдні найвялікшы наш пясняр Адраджэння Янка Купала, едучы з Менска ў Карлсбад (Чэхаславаччына) лячыцца (хворы на вантробу) праязджаў праз Варшаву. На жаль, польскія ўлады, даючы Купале візу (дазвол) на праезд, не дазволілі затрымлівацца ў Польшчы. Дзеля гэтага не мог Пясняр адведаць Вільні».

*Жнівень, 29.* Ліст В. Ф. Станкевічу з Карлавых Вараў, у якім кажа, што з 23. VIII ад Уладкі не мае ніякай весткі і не ведае, што ў яе з візамі. Тут сустракаўся з чэшскімі пісьменнікамі Ё. Горай і Я. Кратахвілам (гл. фота: ЭД, с. 160).

*Верасень, 2—3.* З ліста Я. Коласа да Марыі Дзмітрыеўны: «Купаліха злуецца на пагоду, на маркоту есентукскага жыцця. Часамі яна расказвае мне аб падзеях свайго жыцця, звязанага з Вільняю. [...] Нядаўна прынеслі нам тры тэлеграмы з Мінска — мне, Купалу і Жылуновічу. Піша Цвікевіч, каб к 10/IX прыслалі матэрыялы, успаміны аб «Нашай долі». *Колас, т. 13, с. 67.*

*Верасень, 5.* З ліста Я. Коласа да жонкі: «Я нікуды не хаджу і не езджу. Два разы, праўда, ездзіў у Кіславодск,— проста кампанія падбіла. Сёння таксама падбівалі паехаць у Пяцігорск... Купала з жонкаю, Цішка і Дыла паехалі, а я сяджу дома». *Колас, т. 13, с. 68.*

*Верасень, 17.* У мяст. Тургелі на Віленшчыне гурток ТБШ паставіў «Паўлінку». Дэкламаваліся вершы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і інш. *«Наша праўда», 24 верас.*

*Верасень.* З Ц. Гартным, М. Чаротам, М. Зарэцкім (гл. фота: ЭД, с. 498), якія наведалі яго ў Карлавых Варах, прыехаў у Прагу. Быў цёпла сустрэты навуковай і літаратурнай грамадскасцю. Захаваўся здымак са студэнтамі-беларусамі («Беларусь», 1965, № 6). *ЭД, с. 499.*

*Верасень, 30.* «Беларуская крыніца» (Вільня) паведамляла: «Менскія госці ў Празе. Дня 14-га верасня с. г. найвялікшы наш пясняр Янка Купала прыехаў з Карлавых Вараў (Карлсбаду) у Прагу. Разам з ім прыехалі ў Прагу пясняр Чарот і пісьменнікі Зарэцкі, Цішка Гартны. Паэтыцкае творства Янкі Купалы чэскім кругом знанае і добра ацэненае. У часе ягонае бытнасці ў Празе найвялікшыя чэскія штодзен-

нікі змясцілі фатаграфіі Я. Купалы з шырокімі прыпіскамі. На жаль, здарылася, што наш пясняр прыехаў у сталіцу Чэхаславакіі дзеля шукання надломленага здароўя. Худы, вечна задуманы і замкнуты ў сабе, толькі вочы вялікія і страшныя, замыкаючы ў сабе ўвесь боль учарашняе і сённяшняе Беларусі, даюць знаць аб жыцці творчае думкі. Здароўе і іншыя абставіны не дазволілі выступіць Купале з дакладам перад грамадзянствам. Вялікі штодзеннік пражскі «Narodni Osvobozeni» с. 260 у дапісе над фатаграфіяю выразна сцвярджае замкнутасць Янкі Купалы.

Апрача «Nar. Osvob.» фатаграфію змясціла таксама газэта «Lidove Listy».

Афіцыяльна з дакладам выступаў у Празе Жылуновіч (Цішка Гартны), які сваімі славамі ня хочачы нямала насмяшыў слухачоў. Двойчы ў Празе быў Чарот, быў праф. Пічэта, але ніхто з іх не пакінуў прыкрага ўражання, як гэта зрабіў Жылуновіч...»

*Кастрычнік, 5.* У смаленскай газеце «Юный товарищ» пераклад на рускую мову верша «Як у лесе зацвіталі» (перакладчык Б. І. Бендзік-Вераў).

У віленскай «Нашай працы» (№ 2) «Гутарка з Янкам Купалам». *ПЗТ, т. 8, с. 108—110, 389.*

*Кастрычнік, 7.* Я. Колас піша Л. М. Клейнбарту пра першую сустрэчу з Я. Купалам.

*Кастрычнік, 9.* «Савецкая Беларусь» (№ 230): «Вяртаючыся з Карльзбаду ў Менск, наш народны паэта Янка Купала меў у Варшаве гутарку з прадстаўніком беларускай калёніі ў Варшаве. Гутарка гэтая змешчана ў № 2 Віленскай «Нашай Працы». Бяром з яе некаторыя часткі.

Аб сваёй працы Я. Купала сказаў, што за апошнія часы ён даваў свае вершы ў «Полымя» і іншыя часопісы і газэты. «За вялікшыя рэчы,— сказаў Я. Купала,— я не браўся, бо быў заняты ўпарадкаваннем і пераглядам старых твораў, якія цяпер друкуюцца ў поўным сабранні іх. Пераклаў вось толькі прыгожую рэч з польскай мовы: гэта — адрывак з песні «O wojnie domowej» Бранеўскага.

Перагляд і апрацоўка ўсяго гэтага матар'ялу занялі вельмі многа часу і яшчэ зоймуць, а тут яшчэ і хвароба не дае працаваць!»— жаліўся Купала.

Аб творчасці іншых нашых паэтаў — паміж іншым аб згуртаваннях нашых паэтаў і літаратараў, аб якіх глухія весткі даходзілі ў Заходнюю Беларусь, Я. Купала сказаў: «Творчасць Беларуская багата расцвітае. Працуюць, не пакладаючы рук, старыя пісьменнікі, ды нарасла цэлая маса новых. Вось, апош-

нія першыя заварушыліся, каб з'арганізавацца. Ужо гадоў пяць назад заснавалася арганізацыя нашае літаратурнае моладзі пад назвай «Маладняк». Яна ахапіла цэлы край і сотні маладых паэтаў. Праз нейкі час з «Маладняка» выдзелілася група «Узвышша», да якое з старэйшых пісьменнікаў далучыўся Бядуля. Цяпер творыцца яшчэ адна група — «Пробліск».

Усе мы адчуваем патрэбу агульнае арганізацыі нашых пісьменнікаў,— ды ў гэтым кірунку робяцца ўжо некаторыя крокі. Праектуецца агульная федэрацыя Беларускіх пісьменнікаў, у якую павінны ўвайсці і ўсе існуючыя згуртаванні, і паасобныя пісьменнікі, якія йдуць асабняком.

У далейшым Я. Купала паінфармаваў, як стаяць у нас справы выдавецкія, якія ў Зах. Беларусі стаяць, як вядома, вельмі блага. Купала даў жменю характэрных цыфр, якія паказаліся зах. беларусам проста казачнымі.

Урэшце Я. Купала засведчыў, што на яго зрабіла вельмі добрае ўражанне наша моладзь, якая выэміґравала з Польшчы дзеля вышэйшай навукі. «Шмат выйдзе спаміж яе добрых беларускіх працаўнікоў на адраджэнскай ніве».

Гэтымі днямі Я. Купала прыяжджае ў Менск».

У пражскай газеце «Rude pravo» (№ 240) змешчаны артыкул Š. (М. Шыманкі) пра творчасць Я. Купалы і пераклад на чэшскую мову вершаў «А хто там ідзе?» і «Мая вера» (пераклады А. Чэрнага).

У Лаварышках Віленска-Трокскага пав. Віленскі Беларускі народны тэатр сыграў «Паўлінку». *«Бел. крыніца», 14 кастр.*

*Кастрычнік, 11.* «Савецкая Беларусь» паведаміла, што Я. Купала вярнуўся дамоў. У гэтым жа нумары газеты інтэрв'ю паэта пра паездку ў Чэхаславакію.

*Кастрычнік, 21.* У рубрыцы «З беларускага жыцця» газета «Беларуская крыніца» (Вільня, № 43) інфармавала: «Партрэт Я. Купалы — беларускага народнага паэты, выйшаў з літаграфіі, прадаецца ў беларускіх кнігарнях у Вільні. Цана без перасылкі 1 zł. Заказ прыймае кнігарня «Пагоня» (Вільня, Завальная, 7)».

*Кастрычнік, 28.* Падпісаў прафесару І. І. Замоціну Збор твораў, т. 3 (1927). *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 342.*

У рубрыцы «Заграніца аб нас» у газеце «Беларуская крыніца» (№ 44) змешчана рэцэнзія «f» «Стацця аб Я. Купале ў «Rude Pravo» — пра артыкул Š. у № 240 газеты.

У Паставах сыграна «Паўлінка».

*Кастрычнік, 29.* Закончыў паэму «З угодкавых настрояў». Упершыню — «Звязда» і «Савецкая Беларусь», 1927, 7 лістап.

*Кастрычнік.* У артыкуле Ё. Горы «Беларускія пісьменнікі ў Празе» («Кмен» — «Стрыжань», 1927, № 10) Я. Купала называецца гордасцю беларускай літаратуры, адным з яе найвялікшых песняроў, лірыкам, паэзію якога жывіць глеба роднага краю.

*Лістапад, 3.* У сувязі з прыняццем новага статута Інбелкульта СНК БССР зацвердзіў правадзейных членаў ІБК. Па класу прыгожага пісьменства (савет аддзела гуманітарных навук) зацверджаны Я. Купала, Я. Колас, У. Пічэта і інш. *«Сав. Беларусь», 20 лістап.*

*Лістапад, 8—10.* Віленскі Беларускі народны тэатр паставіў «Паўлінку» ў Старых Свянцянах. *«Бел. крыніца», 18 лістап.*

*Лістапад, 11—12.* Віленскі Беларускі народны тэатр паставіў «Паўлінку» ў Свянцянах. *«Бел. крыніца», 18 лістап.*

*Лістапад, 14—15.* Віленскі народны тэатр паставіў «Паўлінку» ў Лынтупах. *«Бел. крыніца», 18 лістап.*

*Лістапад, 16.* У «Савецкай Беларусі» артыкул «Нашы пісьменнікі ў Празе Чэшскай».

*Лістапад, 23.* Ліст Л. М. Клейнбарту, у якім Я. Купала паведамляе, што высылае «кавалак свае храналогіі».

*Снежань, 9.* У «Савецкай Беларусі» артыкул «Купала ў Карлсбадзе».

*Снежань, да 20.* Утворана літаратурнае аб'яднанне «Полымя». Я. Купала сярод яго заснавальнікаў. *«Полымя», 1927, № 8; Мушынскі, с. 180—181.*

*Снежань, 25.* У нататцы «Беларускія пісьменнікі ў Гомелі» «Палеская праўда» паведамляла: «Сёння прыязджаюць у Гомель беларускія паэты Я. Купала, М. Чарот, М. Зарэцкі, К. Крапіва, А. Дудар і інш.».

*Снежань, 28.* Разам з М. Грамыкам, З. Жылуновічам, М. Чаротам, М. Піятуховічам, А. Гурло, Я. Коласам, М. Зарэцкім, Я. Пятровічам, А. Александровічам падпісаў запіску ў народны камісарыят унутраных спраў БССР з просьбай зарэгістраваць літаб'яднанне «Полымя» (статут дасылаўся).

*На працягу года.* Выйшлі з друку: «Магіла льва» (вокладка А. Тычыны), падрыхтаваная ЦБ «Маладняка», 3-і том Збору твораў. У Вільні — «Паўлінка» (2-е выданне; выдаў І. В. Мятла), «Адвечная песня» (2-е выданне).

У «Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры (ад 1905 года)» (Вільня; склаў І. Дварчанін) змешчаны партрэт Я. Купалы, яго кароткая біяграфія і 33 вершы.

У манаграфіі «Паэтыка літаратурных жанраў» (Менск) Я. І. Барычэўскі аналізуе спецыфіку лірыкі Я. Купалы, яго дра-

матычную творчасць. У кнізе «Тэорыя санету» раскрыў ідэйна-мастацкія асаблівасці гэтага жанру ў паэзіі Я. Купалы.

У анталогіі «Сучасная еўрапейская лірыка. 1900—1923» (Вена, Лейпцыг; перакладчык і рэдактар Ё. Кальмэр) змешчаны пераклады на нямецкую мову вершаў Я. Купалы «Арамаму», «Ноч за ночкай...».

## 1928

*Студзень, 6—13.* Разам з Я. Коласам удзельнічае ў рабоце II сесіі ЦВК БССР VIII склікання. Сесія абмяркоўвала сістэму народнай асветы, бюджэт на 1927/1928 год, становішча і перспектывы развіцця народнай гаспадаркі БССР і іншыя пытанні.

*Студзень, 8.* Разам з Я. Коласам, Ц. Гартным, М. Зарэцкім, А. Дударом, А. Александровічам, А. Вольным на вечары беларускай літаратуры ў Аб'яднанай беларускай вайсковай школе. Прачытаў вершы «У дарозе», «Пагранічча». *«Сав. Беларусь», 10 студз.*

*Студзень, 15.* У Харкаве (літаратурны будынак В. Блакітнага) вечар, прысвечаны сучаснай беларускай літаратуры. Дакладчык С. Піліпенка аналізаваў творчасць Я. Купалы.

*Люты, пачатак.* На сямейным вечары ў М. Грамыкі. *ЭД, с. 204.*

*Люты, 10—14.* З членамі літаратурнага аб'яднання «Полымя» Ц. Гартным, М. Зарэцкім, М. Грамыкам, А. Дударом, А. Александровічам выязджаў у Горкі і Оршу на сустрэчы з чытачамі. У клубе (Горкі) чытаў вершы студэнтам. *«Сав. Беларусь», 10, 18, 19 лют.*

*Люты, 11.* У Горках выступалі перад настаўнікамі ў памяшканні гарадскога тэатра. *«Сав. Беларусь», 18, 19 лют.*

*Люты, 12.* Раніцай у Горках выступіў перад настаўнікамі. Вечарам у Оршы. У Горках наведаў П. Мядзёлку. *«Сав. Беларусь», 18, 19 лют.; «Полымя», 1982, № 8, с. 210—211.*

*Люты, 13.* На станцыі Орша ў клубе чыгуначнікаў. *«Сав. Беларусь», 19 лют.; ЭД, с. 148.*

*Люты, 14.* Раніцай у гарадскім тэатры Оршы перад чырвонаармейцамі. *«Сав. Беларусь», 19 лют.*

*Люты, 15.* Вярнуліся ў Мінск. *«Сав. Беларусь», 19 лют.*

*Люты, 18—19.* А. Дудар у артыкуле «Полымя» ў Аршаншчыне» («Савецкая Беларусь») расказаў пра паездку ў Горкі і Оршу.

*Люты, 26.* На сходзе навуковых работнікаў і пісьменнікаў БССР у Мінску абраны старшынёй Камітэта навуковых працаўнікоў і пісьменнікаў БССР па абароне Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Намеснікі — Я. Колас і С. Вальфсон. Прынята адозва «Да навуковых і культурных дзеячоў і працоўных усяго свету» з заклікам асудзіць тэрор урада Пілсудскага. *«Звязда», 2 сак.*

*Сакавік, 9—13.* У складзе дэлегацыі членаў літаб'яднання «Полымя» (Я. Колас, Ц. Гартны, М. Чарот, М. Зарэцкі) наведвае Харкаў і Кіеў. Прыехалі ў Харкаў 10 сакавіка. Выступалі на літаратурных вечарах, на радыё, наведалі тэатр «Березіль», дзе глядзелі «Гайдамакаў» Т. Шаўчэнкі, новую п'есу І. Дыяроўскага «Яблыневы палон»; у тэатры оперы слухалі на ўкраінскай мове оперу Ж. Бізэ «Кармэн»; у дзіцячым тэатры пазнаёміліся з прэм'ерай спектакля па раману М. Сервантэса «Дон Кіхот», глядзелі новы фільм А. Даўжэнкі «Звянігара». Дэлегацыя наведала музей Слабодскай Украіны імя Г. Скаварады. На вечары беларускай літаратуры зазняты на кінастужку.

Выданні «Всесвіт», «Культура і побут», «Радяньске село», «Комуніст», «Робітничий журнал», «Молодь України» і іншыя змясцілі фатаграфіі беларускіх пісьменнікаў і артыкулы пра іх.

У кнізе Дома пісьменніка члены дэлегацыі пакінулі запісы пра свае ўражанні. *«Плуг», № 5, с. 76—78; «Звязда», 17 сак.; «Полымя», № 2, с. 228.*

*Сакавік, 10.* У штотыднёвым дадатку да газеты «Вісті» — «Культура і побут» (Харкаў) у перакладзе Т. Масэнкі вершы «Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі» і «...О так! Я — пралетар!..», нататка пра знаходжанне Я. Купалы і іншых беларускіх пісьменнікаў у Харкаве ў сувязі з юбілеем Т. Шаўчэнкі.

*Сакавік, да 11.* Падпісаў тэлеграму з пратэстам пісьменнікаў і супрацоўнікаў таварыства культурнай сувязі з заграніцай Лейпцыгскаму суду, які 16 сакавіка меўся судзіць нямецкага пісьменніка І. Бехера за яго антываенны раман «Люізіт, або Адзіна справядлівая вайна». *«Сав. Беларусь», 11 сак.*

*Сакавік, 24.* У Рызе паказана «Паўлінка». *«Полымя», № 3, с. 244; ПЗТ, т. 7, с. 384.*

*Сакавік, да 29.* Абраны членам камісіі па рэформе беларускага правапісу і графікі. *«Звязда», 29 сак.*

*Сакавік, 30.* На бюро ЦК КП(б)Б зняцце «Тутэйшых» са сцэны прызнана правільным.

*Красавік, 3.* У «Савецкай Беларусі» артыкул Ц. Гартнага «Полымя» на Украіне».

*Красавік, пачатак.* Запрошаны на нараду «Якая п'еса патрэбна вёсцы?» *ЭД, с. 655.*

*Красавік, 19.* У «Савецкай Беларусі» працяг артыкула сакратара ЦК КП(б)Б В. Кнорына «Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытанні». З артыкула: «Сучасная беларуская літаратура пачалася з Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія прадстаўляюць першае, найбольш *гучнае*, найбольш *народнае*, найбольш *дэмакратычнае* слова беларускіх народных мас, з'яўленне якіх азначае выхад на гістарычную арэну буйнейшай творчай сілы — беларускага сялянства».

*Красавік, 22.* Блудзенскі гурток ТБШ (цяпер Бярозаўскі р-н Брэсцкай вобл.) паставіў «Паўлінку». *«Зара працы» (Вільня), 23 чэрв.*

*Май, 13.* Разам з Я. Коласам, М. Зарэцкім і іншымі сустракае на вакзале дэлегацыю ўкраінскіх пісьменнікаў (П. Тычына, П. Панч, У. Сасюра, С. Піліпенка, А. Паніў, І. Кулік, П. Усэнка, В. Палішчук і інш. ), якія прыехалі для азнаямлення з эканамічным і культурным развіццём БССР. *«Сав. Беларусь», 13 мая.*

*Май, да 17.* З Я. Коласам на вечары ўкраінскіх пісьменнікаў у клубе імя К. Маркса ў Мінску. *«Рабочий», 17 мая.*

*Май, 20.* Выступіў на вечары беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў у абарону Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. *«Сав. Беларусь», 22 мая.*

*Май, да 24.* Выйшаў з друку зборнік «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы». У ім артыкулы З. Жылуновіча «Янка Купала — пясняр вызвалення (Крытычна-біяграфічны нарыс)», М. Піятуховіча «Асноўныя этапы развіцця лірыкі Янкі Купалы», А. Вазнясенскага «Паэмы Янкі Купалы (Сюжэтная пабудова і стыль)» і інш. *«Сав. Беларусь», 24 мая.*

*Май, да 25.* Як старшыня Камітэта навуковых працаўнікоў і пісьменнікаў БССР па абароне Беларускай сялянска-работніцкай Грамады падпісвае зварот да працоўных і дзеячаў культуры свету ў сувязі з працэсам над гэтай арганізацыяй у Заходняй Беларусі. У звароце выказаны пратэст «супраць прысуду, пабудаванага на адной правакацыі» і патрабаванне вызваліць усіх абвінавачаных. *«Сав. Беларусь», 25 мая; ПЗТ, т. 8, с. 294—297.*

*Май, 29.* У «Звяздзе» артыкул А. Ф. Посаха «Як я пазнаёміў Горкага з Купалам».

*Май.* Зроблена фатаграфія з украінскімі і беларускімі пісьменнікамі каля хаты Я. Купалы ў Мінску на Кастрычніцкай, 36а. *«Робітничий журнал» (Харкаў), № 8.*

*Чэрвень, 1.* Старшынстваваў на пасяджэнні Камітэта па абароне Беларускай сялянска-работніцкай Грамады і тавары-

ства культурнай сувязі з заграніцай, якое адбылося ў зале Інбелкульта. Выступіў у спрэчках. *«Звязда», 3 чэрв.*

*Чэрвень, 17.* У Вільні «Вечар славянскай песні», дзе выконваліся песні, хоры, вакальныя ансамблі на словы Я. Купалы. *ЭД, с. 672.*

*Чэрвень, 24.* Шутоўскі гурток Ашмянскага пав. паставіў «Паўлінку». *«Бел. крыніца», 15 ліп.*

*Чэрвень, 27.* Інстытут беларускай культуры звяртаецца ў СНК Беларусі, каб Я. Купалу і Я. Коласу выплачвалі адпаведныя пенсіі. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 170.*

*Ліпень, 8.* «Савецкая Беларусь» змясціла даведку пра жыццё і дзейнасць Я. Купалы.

*Ліпень, 15.* Данюшаўскі гурток Вілейскага пав. паставіў «Паўлінку». *«Бел. крыніца», 29 ліп.*

*Верасень, 12—14.* Ездзіў з Я. Коласам, старшынёй ЦВК БССР А. Чарвяковым і іншымі членамі ЦВК на будаўніцтва Асінаўскай электрастанцыі. *ЭД, с. 48.*

*Верасень.* Знаходзіцца на лячэнні ў Кіславодску. *Ліст Л. М. Клейнбарту ад 21. IX. 1928 г.*

*Верасень, 21.* Напісаў аўтабіяграфію Л. М. Клейнбарту, які тады рыхтаваў манаграфію пра Я. Купалу (не выйшла ў сувязі з нападкамі вульгарных сацыёлагаў).

*Верасень, 22.* Падпісаў свой Збор твораў, т. 2 (1926) Я. Ф. Калітоўскаму. *ЭД, с. 278; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 345.*

*Верасень, 23.* Ліст Л. М. Клейнбарту з Кіславодска.

*Верасень, 25.* Падпісаў доктару А. П. Старасціну зборнік «Безназоўнае» (1925). *ЭД, с. 575; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 365.*

*Верасень, 27.* Збіраўся выехаць з Кіславодска. *Ліст Л. М. Клейнбарту ад 21. IX. 1928 г.*

*Кастрычнік, 13.* ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую Акадэмію навук. *Ілюстраваная хparty, ч. 2, с. 42.*

*Кастрычнік, 14.* У «Звяздзе» (№ 238) выступленні Я. Купалы, Я. Коласа, У. Пічэты і іншых грамадска-культурных дзеячаў у сувязі з рэарганізацыяй Інбелкульта ў Беларускую Акадэмію навук.

*Кастрычнік, 23.* Б. І. Эпімах-Шыпіла накіраваў Л. М. Клейнбарту ліст пра Я. Купалу. *ЭД, с. 676.*

*Кастрычнік.* У Гомелі ставіліся «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо». *ЭД, с. 160.*

З-за верша «Песенька для некаторых маладых людзей» уладамі Польшчы канфіскаваны часопіс «Маланка» (Вільня), 1928, № 10.

*Лістапад, 5.* Разам з Я. Коласам, З. Бядулем, М. Чаротам, Ц. Гартным, П. Трусам, А. Гурло, М. Хведаровічам, А. Александровічам, М. Грамыкам, А. Дударом удзельнічаў у літаратурна-музычным вечары, наладжаным шэфтаварыствам Працасветы ў мінскім Доме культуры. Чытаў свае вершы. *«Полымя», № 9, с. 224; «Маладняк», № 11, с. 111; ЭД, с. 176.*

*Лістапад, 25—28.* Разам з Я. Коласам, У. Ігнатоўскім, А. Чарвяковым, М. Галадзедам, А. Серафімовічам і іншымі на 2-м Усебеларускім з'ездзе «Маладняка». *«Сав. Беларусь», 27, 30 лістап.*

*Восень.* Пра вечар на кватэры ў А. Смоліча ўспамінаў акадэмік Г. І. Гарэцкі: «Гэта было восенню 1928 года, напярэдадні выбараў у Беларускую Акадэмію навук. На вечары прысутнічалі многія з арганізатараў Акадэміі. Памятаю, як ажыўлена размаўлялі на розныя тэмы Якуб Колас, Янка Купала, Уладзімір Пічэта, Сцяпан Некрашэвіч, Аркадзь Смоліч... Абстаноўка была вельмі натуральнай. Адчувалася, што сабраныя даўно добра ведаюць адзін аднаго...»

*Снежань, 1.* У Дзвінскай беларускай гімназіі пастаўлена «Раскіданае гняздо».

*Снежань, да 15.* Напісаны верш «Ці хто думаў...». Упершыню — літаратурны дадатак да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 20, 15 снеж. Верш прысвечаны Ц. Гартнаму. Прымеркаваны да 20-годдзя літаратурнай дзейнасці і выбрання яго акадэмікам АН БССР.

*Снежань, 17.* Напісаны верш «Летапіснае». Упершыню — «Чырвоная краіна» (дадатак да газеты «Савецкая Беларусь»), 1929, № 4, 1 студз. Верш напісаны ў сувязі з 10-годдзем БССР.

*Снежань, 18.* Я. Колас Л. М. Клейнбарту: «О Белгосиздате, наверное, писал Вам Дмитрий Федорович (Ц. Гартны.— *Я. С.*). Признаться, я не в курсе дела. Но думаю, что написанное Вами о белорусской литературе (первая Ваша книга скоро выходит) будет напечатана, по крайней мере о Купале. *Колас, т. 13, с. 91—92.*

*Снежань, 20.* У. Галубку (У. І. Голубу) першаму ў Беларусі прысвоена званне народнага артыста. *Ілюстраваная хваналогія, ч. 2, с. 43.*

*Снежань, 26.* Пастановай СНК зацверджаны правадзейным членам Беларускай Акадэміі навук. *«Звязда», 1929, 4 студз.; Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 171.*

*На працягу года.* Выйшлі з друку: 4-ы і 5-ы тамы Збору твораў і 1-ы том Збору твораў (выд. 2-е); пераклад апавядання ўкраінскага пісьменніка П. Панча «Зямля»; пераклад з

польскай мовы «Пажарнікі» Л. Ягалкоўскай-Кашуцкай; зборнік вершаў «Безназоўнае» (выд. 2-е).

Ф. Вольман у кнізе «Славеснасць славян» (Прага, 1928) пісаў, што Я. Купала з'яўляецца «самым выдатным сярод будзіцеляў... Ён найперш лірык свайго гаротнага народа, з адчаем, любоўю і надзеяй прыслухоўваецца да біцця мільёнаў сэрцаў, малюе беларускую прыроду («Жалейка» і інш.), задумваецца пра адносіны да народа сябе і сваіх песень і г. д. ...Мова Луцэвіча ўдала ўзвышае простанародную гаворку да літаратурнай мовы». *ЭД, с. 126.*

У брашуры «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі» (Львоў) — раздзел «Два сонцы беларускага пісьменства» — І. Свянціцкі аналізуе творчасць Я. Купалы і Я. Коласа. Я. Купалу параўноўвае з А. Кальцовым і Т. Шаўчэнкам, кажа, што яго вершы асабліва блізкія заходнім украінцам. Я. Купалу называе «найбольшым песняром Беларусі».

У зборніку на нямецкай мове «Беларуская культура» (Weißruthenische Kultur. Sammlungen von Autsätzen ans den gebiet der Weißrussischen Kultur. Heraus gegeben von der Weißrussischen gesselschaft für Kulturelle Verbindung mit dum Auslawd. Minsk, 1928. 90 s.) у раздзеле «Беларуская літаратура» расказваецца пра творчасць Я. Купалы.

У Дзвінску (Латвія) выйшла казачная феерыя В. Сахаравай «На Полацкім замчышчы» — інсцэніроўка паэмы Я. Купалы «Сон на кургане».

Скульптар З. Азгур стварыў гіпсавы бюст Я. Купалы для БДТ-1.

У Вільні асобным выданнем выйшла паэма «На Куццю».

Разам з Ц. Гартным дапамог М. Лужаніну выдаць зборнік вершаў «Крокі». *ЭД, с. 359.*

У зборніку «Дашкольны спеўнік» апублікаваны пераклад Я. Купалы з рускай мовы невядомага аўтара «Першамайская песня».

## 1929

*Студзень, 1.* Адкрыццё Беларускай Акадэміі навук.

*Студзень, 3.* Рэспубліканскія газеты паведамілі пра адкрыццё Беларускай Акадэміі навук і абранне Я. Купалы акадэмікам БелАН.

*Студзень, 11.* Напісаў з Мінска ліст Л. М. Клейнбарту. Паслаў яму часопіс «Чырвоная краіна».

*Студзень, 20.* «Савецкая Беларусь» паведаміла, што ў архіве Б. І. Эпімах-Шыпілы знайшлася частка рукапісаў вер-

шаў Я. Купалы (апублікаваны ў «Полымі», 1929, № 2, 3; 1930, № 5—6). У дарэвалюцыйны час яны не друкаваліся па цэнзурных меркаваннях («Слугам алтарным», «Перад вісельняй», «Перад бурай», «Для куска хлеба», «Не тужы», «На службе», «Я не для вас...», «З песень бедака», «Не кляніце мяне», «З бяды і нуды», «Мая малітва («Я буду маліцца і сэрцам, і думамі»)», «Маладая Беларусь(«Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка»)», «Калатуха», «Усё саюзы...», «Нібы казка», «Водклік з 29 кастрычніка 1905 г. у Мінску» і інш. Усяго 65 вершаў. Верш «Перад вісельняй» захаваўся як шапірографскі адбітак, які быў зроблены ў 1908 г. у рэдакцыі «Нашай нівы» і распаўсюджваўся сярод знаёмых Б. І. Эпімах-Шыпілы.

*Студзень, 30.* Пастановай СНК БССР Якубу Коласу і Янку Купалу з 1 лютага павялічана пенсія да сярэдняй стаўкі акадэмікаў Беларускай Акадэміі навук (270 руб.).

*Люты, 13.* Ліст Л. М. Клейнбарту.

*Люты, 21 — сакавік, 1.* З дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў (Я. Колас, Ц. Гартны, А. Гурло, Я. Нёманскі, М. Зарэцкі, В. Сташэўскі) у Ленінградзе. Наведалі тэатр оперы і балета, Малы оперны тэатр, тэатр сатыры, Эрмітаж, Рускі музей, Музей Рэвалюцыі, Балтыйскі караблебудаўнічы завод. У Беларускім Доме культуры (Фантанка, 27) наладжаны вечар, прысвечаны беларускай дэлегацыі. Яе віталі прадстаўнікі ўкраінскай, літоўскай, туркменскай літаратурных арганізацый (гл. фота: ЭД, с. 335). *«Чырв. змена», 21 лют.; «Звязда», 26 лют., 6 сак.; «Полымя», № 3, с. 172—173; «Красная панорама», № 12; ЭД, с. 176.*

*Люты, 24.* У «Савецкай Беларусі» «Адозва да культурных дзеячоў і працаўнікоў СССР і ўсяго свету», падпісаная членамі камітэта навуковых работнікаў і пісьменнікаў БССР па абароне Беларускай сялянска-работніцкай Грамады.

*Сакавік, 2.* У Маскве падпісаў К. Буйло Збор твораў, т. 1 і 5 (1928). *ЭД, с. 96; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 333.*

*Сакавік, 8.* У БДТ-1 на дыспуце «Агляд і шляхі беларускай літаратуры», арганізаваным «Чырвонай зменаю». *Булацкі Р., Карніловіч Э. Платон Галавач — публіцыст. Мн., 1973. С. 114; ЭД, с. 146.*

Студэнты педфака БДУ абралі Я. Купалу і Я. Коласа дэпутатамі ў Мінскі гарсавет. Прысутнічалі 734 чалавекі. Абраны дэпутатамі: праф. Пічэта — 636 галасоў, Я. Колас — 609 галасоў, Я. Купала — 609 галасоў, праф. С. Я. Вальфсон — 588 галасоў. *«Звязда», 16 сак.; Мушынскі, с. 192—193.*

*Сакавік, 22.* У «Красной панораме» (Ленінград) артыкул Л. Белорусса (Л. М. Клейнбарта) «Молодая Белоруссия», у якім ён піша і пра Я. Купалу.

*Красавік, 6.* Падпісаў свой фотаздымак 1929 г. С. Шамардзіной, жонцы Я. Адамовіча. *ЭД, с. 660; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 327.*

*Май, 6.* У в. Вялікая Мыса Ашмянскага пав. гурток Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (БІГіК) паставіў «Паўлінку». *«Бел. крыніца», 30 мая.*

*Май, 8—15.* Прымаў удзел у рабоце IX Усебеларускага з'езда Саветаў. З'езд ухваліў справаздачу ўрада БССР, зацвердзіў першы пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі і культуры рэспублікі на 1928/29—1932/33 гг., заслухаў даклад камандуючага БВА пра Чырвоную Армію. Разам з Я. Коласам, М. Чаротам, П. Галавачом, З. Жылуновічам абіраецца членам ЦВК. *«Звязда», 9—16 мая; «Сав. Беларусь», 16 мая.*

*Май, 9.* У «Савецкай Беларусі» паведамлялася, што Я. Купала прачытаў свае вершы на вечары М. Горкага.

*Май, 12.* У в. Свірыдавічы Ашмянскага пав. і ў Жодзішках гурткі БІГіК паставілі «Паўлінку». *«Бел. крыніца», 30 мая.*

*Май, 23.* Балгарскі часопіс «Наковалня» апублікаваў артыкул беларускага эсперантыста З. Снежкі (Дз. Белага) «Сучасная беларуская літаратура», у якім аўтар шырока разглядае творчасць Я. Купалы. *ЭД, с. 60.*

*Май, 30.* Разам з Ц. Гартным і А. Александровічам сустракаў на станцыі Негарэлае М. Горкага, які вяртаўся з Італіі. *«Звязда», 31 мая; ЭД, с. 36, 150, 438.*

*Чэрвень, 25.* Напісаў ліст Л. М. Клейнбарту.

*Чэрвень, 29.* Абраны акадэмікам АН Украіны. *ЭД, с. 706.*

*Чэрвень.* «Полымя» (№ 6) паведамляла: у № 15—16 бюлетэня Усесаюзнага таварыства культурнай сувязі з замежнымі краінамі (выдаваўся на англійскай, французскай і нямецкай мовах) змешчаны артыкул «Беларускія паэты», у якім даецца характарыстыка Я. Купалу, Я. Коласу і іншым пісьменнікам.

*Ліпень, 2.* З ліста Л. М. Клейнбарту: «Книгу обо мне, Лев Максимович, заканчивайте, и она (я уверен) будет напечатана. Когда вернется Шипилло, я с ним поговорю, и если ГИЗ БССР будет в чем-нибудь не соглашаться, то над ним еще есть также начальство, с которым пока что я в хороших отношениях. Книга Ваша обо мне желательна не только для меня одного, чтобы вышла в этом или в начале будущего года, т. к. в 1930 г., кажись в мае, исполнится 25 лет моей литерат[урной] деятельности». *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 280.*

*Ліпень, 9*. Напісаў ліст П. Р. Тычыне, павіншаваў яго з выбраннем акадэмікам Украінскай акадэміі навук.

*Ліпень, каля 20*. Едзе адпачываць у Крым (Ялта) (гл. фота: з жонкаю, пісьменнікамі Ц. Гартным, У. Дубоўкам, М. Мялешкам, А. Вольным і інш.— ЭД, с. 7). *ЭД, с. 7, 126, 150.*

*Ліпень*. «Полымя» (№ 7) паведамляла: пры Украінскай АН адкрываецца кафедра мастацкай літаратуры, якой кіраваць будуць акадэмікі Т. Масэнка і Я. Купала.

*Жнівень*. Першае знаёмства татарскага чытача з беларускай літаратураю і творчасцю Я. Купалы: артыкул І. Барашкі «Пра беларускую літаратуру» («Безнен юл» — «Наш шлях», 1929, № 8).

*Кастрычнік, 4*. Выйшаў 1-ы нумар газеты «Піянер Беларусі», у якой друкаваўся Я. Купала.

*Лістапад, 3*. Напісаны верш «Дыктатура працы». Упершыню — «Чырвоная Беларусь», 1930, № 1, 10 студз.

*Лістапад, 28*. Напісаў ліст Л. М. Клейнбарту, у якім выказаў упэўненасць, што кніга пра яго будзе надрукавана.

*Лістапад*. Напісаны верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...». Упершыню — «Звязда», 1929, 19 снеж.; «Полымя», 1929, № 11—12.

*Снежань, да 24*. Уведзены ў склад новага праўлення Дома пісьменніка. *«Сав. Беларусь», 24 снеж.*

*Снежань, 29*. У «Савецкай Беларусі» віншаванне А. Гурло. Подпісы Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, З. Бядулі, М. Гарэцкага, М. Грамыкі, Я. Нёманскага, В. Сташэўскага.

*На працягу года*. Выйшаў з друку 2-і том Збору твораў (выд. 2-е). Пераклаў верш М. Красільнікава «Колыбельная». Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6 пад назваю «Пралетарская калыханка».

У даследаванні «Славянскія літаратуры» (Прага, т. 3) чэшскі літаратуразнавец-славіст Я. Махал ахарактарызаваў Я. Купалу як аднаго з найлепшых прадстаўнікоў славянскіх народаў, падкрэсліў лірычны характар яго паэзіі, поспех на беларускай сцэне камедыі «Паўлінка» і жарту «Прымакі», сцвердзіў, што драма «Раскіданае гняздо» — вобраз Беларусі напярэдадні рэвалюцыі 1905—1907 гг., высока ацаніў перакладчыцкую дзейнасць Я. Купалы.

У Харкаве выйшаў альманах «Нова Білорусь», у якім апублікаваны пераклады 9-га і 10-га раздзелаў з паэмы «Безназоўнае», вершы «На пагранічч» (пераклаў А. Паніў), «...О так! Я — пралетар!..», «Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі» (Т. Масэнка), «Арлянятам» (1-я частка; В. Палішчук), «Моладзі» (П. Галота), «Вось тут і жыві...» (пад назваю «З песень

беларускага мужыка»), «А хто там ідзе?», байкі «Два мужыкі і глушэц», «Ігнат і п'яўкі», «Мікіта і валы», «Асёл і навука» (усе пераклаў С. Піліпенка).

## 1930

*Студзень, 6.* К. Душэўскі злажыў у дэпазіт музея імя І. Луцкевіча ў Вільні рукапіс зборніка Я. Купалы «Шляхам жыцця», падараваны яму паэтам. *ЭД, с. 209; ПЗТ, т. 7, с. 372.*

*Пачатак года.* У Доме асветы сустракаецца з удзельнікамі Мінскай акруговай настаўніцкай канферэнцыі. Чытае вершы «Мая навука», «Арлянятам», «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» і інш. Адказвае на пытанні. *Такі ён быў, с. 237—238.*

*Студзень, 10.* Выйшаў 1-ы нумар мастацкага ілюстраванага часопіса «Чырвоная Беларусь», у якім друкаваўся Я. Купала.

*Студзень, 12.* Напісаны верш «Беларускаму дзяржаўнаму выдавецтву». Упершыню — «Чырвоная Беларусь», 1930, № 2. У ДзМЛЯнК захоўваецца аўтограф з паметаю: Янка Купала, былы тэхнічны рэдактар выдавецтва (працаваў у выдавецтве тэхнічным рэдактарам у 1924—1925 гг.— *Я. С.*). Верш напісаны да 5-годдзя выдавецтва.

*Студзень, 19.* Падарыў П. В. Мядзёлцы сваё фота 1929 г. і «Сборник стихов» (М.—Л., 1930). *ЭД, с. 413; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 353.*

*Студзень, 28.* Напісаў ліст доктару Я. Ф. Калітоўскаму ў Кіславодск.

*Люты, 16.* Арыштаваны П. В. Ільючонак, дзяржаўны дзеяч, знаёмы Я. Купалы.

*Люты, 23.* Выязджаў з М. Чаротам, А. Александровічам, І. Харыкам у Гомель для ўдзелу ў трохмесячніку беларускай культуры. У Хойніках і Мазыры выступілі перад рабочымі і калгаснікамі. *«Палеская праўда», 28 лют.*

*Люты.* У Доме культуры ў Хойніках выступіў з прамоваю, чытаў вершы. Выязджаў ў навакольныя вёскі, удзельнічаў у літаратурных вечарах. *«Звязда», 1 сак.; «Рабочий», 2 сак.; «Полымя», № 3; «Маладняк», № 2.*

*Люты — сакавік.* У сувязі з трохмесячнікам беларускай культуры, што праводзіўся па ініцыятыве ЦК ЛКСМБ, выязджаў у складзе розных брыгад беларускіх пісьменнікаў у Бабруйск, Віцебск, Гомель, Хойнікі, Мазыр. *«Звязда», 1 сак.; «Рабочий», 2 сак.; «Полымя», № 3, с. 169; «Маладняк», № 2, с. 165.*

*Сакавік, 1.* У Мазыры канферэнцыя, прысвечаная 5-годдзю Дзяржаўнага выдавецтва і трохмесячніку беларускай культуры. Прысутнічалі Я. Купала, М. Чарот, А. Александровіч, М. Лужанін, І. Харык.

*Красавік, 3.* Арыштаваны этнограф і фальклярыст А. Шлюбскі.

*Красавік, 10.* Пазбаўлены звання акадэміка і высланы на 5 гадоў у г. Саратаў В. Ластоўскі.

*Красавік, 12.* У газеце «České slovo» (Прага) пераклад на чэшскую мову верша Я. Купалы «На полі тае».

*Май, 1.* На маёўцы ў калгасе «Маяк сацыялізма» ў в. Дудзінка Барысаўскага р-на. *ДзЛМЯнК, НД1446.*

*Май, 8.* Ліст П. Р. Тычыне.

*Май, 14.* У «Вечерней Москве» артыкул В. Наседкіна «Янка Купала — поэт белорусской бедноты (25-летие литературной деятельности)», дзе аўтар сцвярджае, што Янка Купала «занимает одно из видных мест в мировой художественной литературе».

*Май, 15.* У «Известиях» А. В. Луначарскі ў артыкуле «Народны паэт Беларусі» адзначаў, што Я. Купала з'яўляецца бацькам новай беларускай паэзіі не толькі дзякуючы зместу сваёй творчасці, а і па ролі ў развіцці беларускай літаратурнай мовы і інтанацыйна-меладычнай структуры верша.

*Май, 20.* Мінская газета «Рабочий» паведамляла пра стыпендыі імя Я. Купалы на літаратурным факультэце Маскоўскага універсітэта.

*Май, 24.* Я. Колас да 25-годдзя літаратурнай дзейнасці паэта напісаў верш «Янку Купалу» («Была пара — марнелі нашы гоні...»).

*Май, 25.* У «Савецкай Беларусі» верш В. Маракова «Янку Купалу», у «Рабочем» кароткая літаратурная даведка «Янка Купала», у «Звяздзе» і «Полымі» — артыкул Л. Бэндэ «Шлях паэта», дзе Я. Купала абвяшчаўся «ідэолагам буржуазнага нацыянал-адраджанізму».

*Май, 27.* У «Полымі» (№ 5—6) віншаванне М. Галадзеда ад імя СНК БССР.

*Май, 28.* У Мінскім Доме асветы на Юр'еўскай (Камуністычнай) вечар, прысвечаны 25-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Арганізаваны Наркамасветы БССР і Домам пісьменніка. Уступнае слова наркома асветы БССР А. М. Платуна. Даклад прафесара М. Піятуховіча. Верш «Янку Купалу» прачытаў Я. Колас. Паэта віншавалі СНК і ЦВК БССР, Галоўмастацтва, БелАПП, рэдакцыі газет і часопісаў, БДзВ, пісьменікі РСФСР і іншых рэспублік, Камакадэмія і секцыя мастацтваў народаў СССР. У сувязі з юбілеем Народны камі-

сарыят асветы БССР устанавіў дзве стыпендыі імя Янкі Купалы на літаратурным аддзяленні педфака БДУ і ў Белпедтэхнікуме, БДзВ — адну стыпендыю на педфаку БДУ, Дзяржвыдавецтва РСФСР 2 стыпендыі ў Маскоўскім універсітэце. І. Харык чытаў на яўрэйскай мове верш Я. Купалы «Дыктатура працы». *«Звязда», 30 мая.*

*Май, 29.* Напісаў ліст у рэдакцыю ў сувязі са святкаваннем 25-годдзя сваёй літаратурнай дзейнасці (апублікаваны 30 мая ў «Звяздзе» і «Савецкай Беларусі»).

У «Звяздзе» верш Я. Коласа «Янку Купалу» («Была пара — марнелі нашы гоні...»).

*Май.* У «Чырвонай Беларусі» (№ 5) купалаўскі пераклад з польскай мовы ўрыўкаў з паэмы У. Бранеўскага «Парыжская камуна».

У «Вясне» (№ 4; Бабруйск): кароткая біяграфія Я. Купалы, яго партрэт, вершы «Дыктатура працы», «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...», артыкул Х. Шынклера «Шлях паэта», у якім ён з захапленнем пісаў пра багацце і хараство творчасці Я. Купалы.

*Чэрвень, 9.* У Камакадэміі (Масква) урачыстасці ў сувязі з 25-годдзем літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Уступнае слова народнага камісара асветы РСФСР А. В. Луначарскага. З прывітаннямі выступілі прадстаўнікі шматлікіх пісьменніцкіх арганізацый (М. Галодны, С. Гарадзецкі, Г. Каляда і інш.). Я. Купала прачытаў свае вершы. *«Известия», 11 чэрв.; «Полымя», № 7, с. 237; Ярош, с. 255.*

*Чэрвень, 15.* «Известия» змясцілі пісьмо Я. Купалы з падзякаю Камакадэміі і таварышам Ф. Кону, А. Луначарскаму, А. Халатаву за вялікую работу ў сувязі з 25-годдзем літаратурнай дзейнасці паэта.

*Чэрвень, 19.* Падпісаў П. В. Мядзёлцы «Творы 1918—1928» (1930). *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 353.*

*Чэрвень, 29.* Пра юбілей Я. Купалы паведаміла пражскае «České slovo».

*Чэрвень.* У «Полымі» (№ 5—6) 18 арыгінальных твораў і 11 перакладаў з архіва Я. Купалы, якія, як пісаў аўтар, «раней па цэламу шэрагу прычын, у тым ліку і па цэнзурных, нідзе не друкаваліся». Гэта «Мая доля», «З надзеяй гаротнай...», «Грымну я, грымну па струнах бунтарных», «Я не плачу над братняй магілай», «Тканне намёткі», «Лясная царэўна», пераклады вершаў М. Някрасава «Што ні год, памяншаюцца сілы...», «Галадоўліца», «Малы сынок...», Т. Шаўчэнкі «Пажоўкнуў ліст... Прыгаслі вочы...», Г. Чупрынкі «Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясняр», «Не каханак чарнавокіх», А. Міц-

кевіча «Мужык і вужака», з «Конрада Валенрода» («З мальборскай вежы званы загудзелі») пад назваю «Выбар», Л. Кандратовіча «Нядзеля», Яскулкі «Жальба дзяўчыны», М. Красільнікава «Пралетарская калыханка».

*Ліпень, 5.* У Маскве падараваў «Творы 1918—1928» (1930) Я. Адамовічу і яго жонцы. *ЭД, с. 28; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 327.*

*Ліпень, 13.* Арыштаваны М. А. Грамыка.

*Ліпень, 14.* Арыштаваны А. І. Цвікевіч.

*Ліпень, 17.* Арыштаваны Я. Ю. Лёсік.

*Ліпень, 18.* Арыштаваны Б. І. Эпімах-Шыпіла (крымінальная справа спынена 12. 9. 1930 г. ), І. І. Цвікевіч, М. І. Гарэцкі, Я. Л. Дыла.

*Ліпень, 19.* Арыштаваны Ф. П. Ждановіч, У. А. Жылка.

Паказанні ДПУ П. В. Мядзёлкі: «В 1927 г. я дала обязательство ГПУ БССР о том, что я не буду разглашать имевших место разговоров со мной о моем сотрудничестве в ГПУ. Эти разговоры со мной вели Опанский и Андреев. [...] В июне 1930 года в Горецкую академию приехал сотрудник ГПУ Чернышев. Он меня вызвал к себе и стал спрашивать меня о ряде лиц, проживающих в Минске, в частности о Ластовском, Красковском, Тремповиче, М. Красинском, Ильюченке, Смоличе. Далее он мне сообщил, что в Белоруссии имеется невыявленная контрреволюционная организация националистической окраски с ориентацией на Польшу. В заключение он мне предложил принять участие в раскрытии этой организации. Я на это ответила согласием и заявила [...], что после своего возвращения из Москвы я приеду в Минск, свяжусь с ГПУ, вернее, сообщу в ГПУ о своем приезде и по мере сил буду помогать ГПУ в раскрытии организации. ...После этого я встретилась в Москве с Янкой Купала. О предложении Чернышева я ему ничего не говорила, возможно, что в разговоре с Купалой мы затронули вопрос об арестах, произведенных в Минске (об аресте Смолича и Кислякова сообщила мне жена Купалы, об аресте Тремповича в Москве я узнала от Василевича). Показание записано с моих слов правильно». *Колас Г. Карані міфаў: Жыццё і творчасць Янкі Купалы. Мн., 1998. С. 193—194 (далей будзе: Колас Г.— Я. С.).*

*Ліпень, 20.* Арыштаваны У. М. Дубоўка.

Паказанні ДПУ П. В. Мядзёлкі: «Последний мой приезд совпал с раскулачиванием его (Я. Купалы.— *Я. С.*) родственников. Он, как всегда, мало говорил, но все же из скудных фраз можно было заключить, что принципиально против коллективизации он ничего не имел, наоборот, признавал большую

выгоду, но на него большое впечатление произвела судьба раскулаченных, в большинстве неправильно раскулаченных (против правильности раскулаченных Романовских — он не возражал — «я их сделал кулаками, и им помогал в хозяйстве, я виноват»,— но Облачинские (трэба — Облачимские.— *Я. С.*) — многолюдная семья, очень бедные). Высылку раскулаченных считал хуже, чем беженство». *Колас Г., с. 187—188.*

*Ліпень, 24.* Арыштаваны Г. І. Гарэцкі.

*Ліпень, 25.* Арыштаваны А. К. Гурло, А. Я. Адамовіч, А. А. Бабарэка.

*Ліпень, 28.* З паказанняў ДПУ А. Смоліча: «Об эпизоде с Купалой. В начале марта у меня собралась небольшая компания. Были: Тремпович, несколько дам, и том числе жена Купалы. Позже пришли сам Купала и Лесик, которые перед этим были у него дома. У Купалы была большая неприятность — его двух замужних сестер раскулачили и выслали в эшелоне вместе с детьми из Белоруссии. Он был этим чрезвычайно расстроен и целый вечер только об этом и говорил... В конце ужина, сильно захмелевши, Купала разрыдался, чем привел всех в смущение. Он упрекал всех белорусов, что ему никто не хочет помочь. Мы постарались его утешить, говорили, что это ошибка, что даже перед массами неудобно сказать о высылке из Белоруссии семьи Купалы, что он, как народный поэт, заслужил, чтобы считались с его личной жизнью и т. д. Купала, впрочем, обращался главным образом к Коласу, и тот обещал завтра же сходить по этому делу в СНК. Свое обещание Колас исполнил. Вскоре затем высылка сестер Купалы была отменена». *Колас Г., с. 187.*

*Ліпень.* У Празе вечар-канцэрт з нагоды 25-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Прысутнічала каля 400 чалавек беларускіх, украінскіх, чэшскіх рабочых, служачых, студэнтаў. Даклад З. Нееддлы. Студэнты дэкламавалі вершы Я. Купалы.

*Жнівень, 6.* Арыштаваны П. А. Бузук.

*Жнівень, 15.* Напісаны верш «Працай дружнай, калектыўнай». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1930, № 190, 17 жн.

*Лета.* Я. Купалу выклікалі на допыты ў ДПУ, дзе патрабавалі фактаў аб арганізацыі «Саюза вызвалення Беларусі», лідэрам якой ён нібыта быў.

*Верасень, 3.* Арыштаваны А. В. Баліцкі.

*Верасень, 10.* Падарыў З. Азгуру «Творы 1918—1928» (1930). *ЭД, с. 32; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 328.*

*Верасень, 16.* К. С. Елісееву падпісаў сваю кнігу «Творы 1918—1928» (1930). *ЭД, с. 212; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 341.*

*Верасень, 25.* У газеце «Беларуская крыніца» (№ 27, Вільня) артыкул А. Сакалінскага (А. Станкевіча) «Янка Ку-

пала (У 25-я ўгодкі яго творчасці. 1905—1930)», дзе аўтар хваліць дарэвалюцыйную творчасць паэта і негатыўна ацэньвае савецкую.

*Верасень, 27.* У зале Віленскай беларускай гімназіі ўрачысты вечар, прысвечаны 25-годдзю літаратурнай творчасці Я. Купалы. Ставіўся абразок «На папасе». *ЭД, с. 494.*

*Верасень, 28.* У літоўскай зале (зав. Св. Мікалая, 8) В. Багдановіч прачытаў лекцыю «Янка Купала і Шаўчэнка». *«Шлях моладзі» (Вільня), 1930, № 10 (20), вокладка.*

*Кастрычнік, 9.* У газеце «Čin» («Права», Прага) верш Я. Купалы «Вы кажаце» (пераклад Ф. Ціхага).

*Кастрычнік, 10.* Удзельнічаў у сустрэчы друкароў з пісьменнікамі Беларусі, са старшынёй Міжнароднага бюро рэвалюцыйнай літаратуры венгерскім пісьменнікам Бэла Ілешам, адказным сакратаром ВОАПП А. Селіваноўскім. Выступаў з чытаннем сваіх твораў. *«Рабочий», 18 кастр.*

У «Звяздзе» «Пратэст пісьменнікаў БССР» супраць рэпрэсій польскіх уладаў да працоўных Заходняй Украіны. Сярод іншых подпіс Я. Купалы.

*Лістапад, да 7.* Прыязджаў у Маскву.

*Лістапад, 7.* Падпісаў «Творы 1918—1928» (1930) С. М. Гарадзецкаму. *ЭД, с. 149; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 335.*

*Лістапад, 15.* Даваў паказанні ў ДПУ. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 510—512.*

*Лістапад, 20.* Пісьмо А. Чарвякову. *ПЗТ, т. 8, с. 113, 391—394.*

Спроба самагубства. *«ЛіМ», 1988, 3 чэрв.*

*Снежань, 6.* На бюро ЦК КП(б)Б разглядалася справа Я. Купалы. *Платонаў Р. На крутым павароце. Мн., 1999. С. 297.*

*Снежань, 10.* «Адкрыты ліст Янкі Купалы» ў рэдакцыю газеты «Звязда» напісаў Л. Бэндэ, бо ў бальніцы хворы Я. Купала не мог фізічна зрабіць гэта.

*Снежань, 14.* «Звязда» апублікавала гэты фальсіфікаваны «Адкрыты ліст Янкі Купалы».

*На працягу года.* Напісаны верш «Новая восень». Упершыню — «Беларусь калгасная», 1932, № 1. Выйшлі з друку: «Избранные стихи» з прадмоваю Л. М. Клейнбарта ў Дзяржаўным выдавецтве РСФСР; зборнікі вершаў «Песня-байка»; «Творы 1918—1928»; зборнік вершаў «Адцвітанне»; зборнік паэм «За што?».

У артыкуле «Беларуская мова і літаратура» (энцыклапедыя Меера, 7-е выданне, т. 12, на нямецкай мове) сярод 13 беларускіх пісьменнікаў названа і прозвішча Купалы.

Зрабіў пераклад паэмы У. Бранеўскага «Парыжская камуна». Упершыню — «Чырвоная Беларусь», 1930, № 5, цалкам — Зб. тв., т. VI (1932).

## 1931

*Студзень.* У бальніцы. Рана не загойвалася. Як паведаміў мастак Я. М. Ціхановіч: яго маці, якая працавала ў бальніцы санітаркай, бачыла, як за шырмаю каля Я. Купалы сядзеў супрацоўнік НКУС.

*Люты, 1.* Газета «Русский голос» (Нью-Йорк) перадрукавала са «Звязды» «Адкрыты ліст».

*Люты, 4.* З-за палітычнага праследавання застрэліўся вучоны, першы прэзідэнт АН БССР, акадэмік, сябар Я. Купалы У. М. Ігнатоўскі. *ПЗТ, т. 8, с. 394.*

*Люты, 15.* Газета «Белорусская трибуна» (ЗША, рэдактар Я. Варонка) перадрукавала з «Русского голоса» «Адкрыты ліст».

*Люты, 20.* «Беларуская крыніца» (Вільня) паведамляла, што Я. Купала быццам быў арыштаваны і скончыў жыццё самагубствам.

*Люты, 26.* Газета «Беларускі звон» (Вільня) паведаміла, што Я. Купала скончыў жыццё самагубствам, змясціла яго партрэт у жалобнай чорнай рамцы і надрукавала «некралог». Адказ Я. Купалы ў газеце «Чырвоны сцяг» (Вільня), 1931, 15 (4) крас., № 3 (81), с. 3—4 пад загалоўкам «Здэмаскаваная хлусня нацыянал-фашыстаў» з датаю: Менск, 30/III. 31 г.

*Сакавік, 30.* Напісаў «Ліст у рэдакцыю». Упершыню — «Звязда», 1931, 2 крас.

*Сакавік, 31.* У «Звяздзе» (№ 38) адкрытае пісьмо М. Горкаму з нагоды яго 63-й гадавіны з дня нараджэння «Вы працярэблівайце шляхі да сусветнай пралетарскай рэвалюцыі».

*Красавік, 10.* Напісаны верш «А ў Вісле плавае тапелец». Упершыню — «Звязда», 1931, № 100, 12 крас.

*Вясна.* На кватэры Я. Купалы В. Таўлай з таварышамі дамаўляліся з паэтам выступіць у «Звяздзе» супраць праследавання ўладамі Польшчы ўдзельнікаў рэвалюцыйнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі.

М. Лужанін пісаў: «У тыя гады паводкі на Свіслачы былі вельмі бурныя. Яна выходзіла з берагоў, заліваючы ўсе нізкія мясціны ўздоўж рэчышча. Кастрычніцкая вуліца з домам паэта на некалькі дзён аказвалася адрэзанай ад горада, і Купалу даводзілася загадзя выбірацца і адседжвацца то на кватэры ў Коласа, то дзе-небудзь у іншым месцы.

Вясною 1931 года рака ўзбунтавалася ноччу так хутка і раптоўна, што праз нейкую гадзіну дом Купалы быў заліты па вокны. Вада хлынула ўсярэдзіну. Іван Дамінікавіч, Уладзіслава Францаўна і ўсе хатнія эвакуіраваліся на гарышча. З Дома пісьменніка была накіравана «ўратоўчая экспедыцыя» на чале з Сымонам Баранавых, якая на лодках перавезла «пацярпеўшых» да Міхася Чарота. Па званку гаспадара кватэры мы прыйшлі туды з Валерыем Маракоўым. Папыталіся, як адчуваюць сябе ўратаваныя ад стыхіі.

Купала адпачыў і пасміхаўся, прапануючы Чароту мяняцца на кватэры. Раптам у кухні нехта адкруціў кран, зацурчаў струменьчык вады.

— Не, Міхасёк,— звярнуўся Купала да Чарота,— лепш будзем жыць, як жылі. Вада мяне і тут даганяе, ведае, што я яе люблю». *Лужанін М. Сустрэчы. Мн., 1982. С. 13—14.*

*Май.* У «Маладняку» (№ 5) «Матэрыялы да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры (Уводзіны)» Л. Бэндэ. Творчасць Я. Купалы разглядаецца з вульгарна-сацыялагічных пазіцый. Негатыўная ацэнка творчасці Я. Купалы паўторана ў больш грубай форме ў 2-й ч. «Матэрыялаў для нарысаў...», напісанай Л. Бэндэ і А. Кучарам. *«Маладняк», № 6—7.*

Выступаў у Рагачове ў кавалерыйскім палку. Чытаў байцам свае вершы.

*Жнівень.* У доме адпачынку «Работнік друку» (Сочы). *ЭД, с. 571.*

*Жнівень, 18.* З Сочы напісаў ліст К. С. Елісееву. *ЭД, с. 571; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 284.*

*Верасень.* Па дарозе дамоў заязджаў у Маскву, сустракаўся з К. С. Елісеевым. *Ліст К. С. Елісеева ад 14. IX. 1931 г.*

*Лістапад, 14.* З Мінска ў лісце К. С. Елісееву прасіў прыслаць «Кабзар» Т. Шаўчэнкі на рускай мове. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 284.*

*Лістапад, 16.* Напісаны верш «Маладым паэтам». Упершыню — зб. «Песня будаўніцтву». У «Звяздзе» верш «Дзе крыўда адвечная спела».

*Лістапад, 22.* Напісаны верш «Песня будаўніцтву». Упершыню — «Звязда», 1931, № 317, 25 лістап.

*Снежань.* Напісаны вершы «Ударніку» і «Заўсёды наперад». Упершыню абодва — «Беларусь калгасная», 1932, № 2.

*Студзень, да 15.* У часопісе «Чырвоная Беларусь» (№ 1) фота: Я. Купала і А. Вішня; Я. Купала з брыгадай беларускіх пісьменнікаў.

*Студзень, 29.* Разам з Я. Коласам, М. Лыньковым, М. Чаротам, Ц. Гартным, П. Галавачом і іншымі на літаратурным вечары ў Мінску, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння А. С. Серафімовіча. *«Заклік», 1933, № 2, с. 130.*

*Люты, 26.* Выйшаў 1-ы нумар газеты «Літаратура і мастацтва», дзе Я. Купала часта друкаваўся.

*Сакавік, 29.* Падпісаў А. Дудару свой Збор твораў, т. 2 (1929, 2-е выд.). *ЭД, с. 206; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 340.*

*Сакавік.* Напісаны верш «Настане такая часіна». Упершыню — «Звязда», 1932, № 86, 16 крас.

*Красавік, 15—16.* З Я. Коласам прыняў удзел у Першай літаратурнай канферэнцыі пагранаховы і войск Дзяржаўнага палітупраўлення (ДПУ). Чытаў вершы. *Мушынскі, с. 204; «Звязда», 18 крас.; «Чырв. змена», 25 крас.*

*Красавік, 24.* У Рыжскай дадатковай школе для дарослых вечар, прысвечаны творчасці Я. Купалы і Я. Коласа. *ЭД, с. 585.*

У «Правде» Пастанова ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» ад 23 красавіка 1932 г. 27 красавіка яна змешчана ў «Савецкай Беларусі».

*Красавік, 26.* У Дзвінскай (Латвія) беларускай гімназіі вечар «Янка Купала — прарок беларускага адраджэння». *ЭД, с. 190.*

*Красавік.* У № 4 часопіса «Беларусь калгасная» паведамлялася: «Скора выходзіць шосты том Збору твораў Янкі Купалы».

*Май, 15.* «Літаратура і мастацтва» (№ 8) змясціла прывітанне ўдзельнікаў агульнага сходу г. Мінска М. М. Галадзеду ў сувязі з 5-годдзем яго работы Старшынёй СНК БССР. Сярод падпісаўшых членаў прэзідыума сходу — Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, А. Александровіч, К. Крапіва, П. Шведэль, П. Галавач, Ц. Гартны, В. Вольскі, М. Чарот, І. Харык, М. Кульбак, Л. Кацовіч, М. Модэль, І. Шапавалаў і інш.

У газеце «Літаратура і мастацтва» эпіграма Ц. Гартнага «Янку Купалу», артыкул Я. Купалы «Дасцігнем нявіданых сусветных поспехаў» — водгук на пастанову ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый».

*Май, 22—24.* У складзе брыгады беларускіх пісьменнікаў (С. Баранавых, У. Хадыка, С. Ліхадзіеўскі, А. Кучар і інш.) выязджаў у Барысаў для ўдзелу ў літаратурных вечарах. Чытаў свае вершы. «Беларусь калгасная», 1932, № 5, с. 95 паведамляла: «Брыгада правяла чатыры літаратурныя вечары: 22 мая

для рабочых Нова-Барысаўскіх прадпрыемстваў; 23 мая ранішнік для студэнцкай моладзі Барысава, вечарам адбылося ўрачыстае паседжанне бюро РК КСМ з шырокім удзелам гарадскога камсамольскага актыву, дзе С. Ліхадзіеўскім быў зроблены даклад аб паказе камсамолу ў мастацкай літаратуры і аб разгортванні творчага агляду маладзёжнай літаратуры. 24 мая брыгада выязджала ў Стара-Барысаўскі с.-г. тэхнікум, дзе таксама правяла літаратурныя выступленні для студэнтаў тэхнікуму. За час прабывання брыгады ў Барысаве ў газ. «Бальшавік Барысаўшчыны» была выдадзена пры ўдзеле брыгады літаратурная старонка».

*Май, 23.* Выступіў на пасяджэнні Барысаўскага РК ЛКСМБ.

*Май, 24.* Сустрэўся са студэнтамі сельгастэхнікума. *«ЛіМ», 5 чэрв.; ЭД, с. 65.*

*Май — чэрвень.* У «Кнізе — масам» (№ 2—3) паведамленне, што Я. Купала перакладае «Кабзара» Т. Шаўчэнкі.

*Чэрвень, 15.* Канферэнцыя беларускіх настаўнікаў у Дзвінску пастанавіла адсвяткаваць 8 ліпеня ва ўсіх беларускіх школах Латвіі 50-годдзе з дня нараджэння Я. Купалы. Звярнулася ў Латвійскі радыёфонд з просьбаю прачытаць у гэты дзень лекцыю на тэму «Беларускае адраджэнне і творчасць Янкі Купалы» і даць беларускае канцэртнае аддзяленне.

*Чэрвень.* У часопісе «Беларуская школа» (Рыга, 1932, № 6) артыкул К. Адраджэнца (К. Б. Езавітава) «Святкаванне 50-х угодкаў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Рызе».

*Першае паўгоддзе.* Выйшаў з друку 4-ы том Збору твораў Я. Купалы. *«Беларусь калгасная», № 5, с. 96.*

*Ліпень, 11.* У «Звяздзе» (№ 154) апублікаваны вершы «Адзінаццаць месяцаў...» (пад назваю «Адзінаццаць...») і «Пад чырвонай зоркаю».

*Ліпень, 12.* У Львове на беларускай мове выйшла газета «Жыццё» — орган КПЗБ. У ёй надрукаваны верш Я. Купалы «Настане такая часіна», у якім замест слоў «савецкай», «ленінскім», «камуны» былі пастаўлены шматкроп'і.

*Жнівень, 20.* «Літаратура і мастацтва» (№ 16) паведаміла: «У Капыль выязджалі народны паэт Янка Купала і паэт М. Хведаровіч.

18 ліпеня ў будынку сацкультуры адбыўся шырокі літаратурны вечар для парт- і прафактыву. Прысутныя паэтаў сустракалі вельмі горача. М. Хведаровіч зрабіў даклад пра задачы перабудовы літаратурных арганізацый у сувязі з пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Пасля даклада і адказу на запытанні выступілі Янка Купала і Мікола Хведаровіч, якія чыталі свае творы.

Азнаёміўшыся з будаўніцтвам у Капылі, пісьменнікі выехалі на мяжу для знаёмства з жыццём і бытам пагранічнікаў. Пісьменнікі рабілі літаратурныя выступленні сярод пагранічнікаў, а таксама знаёміліся з будаўніцтвам прымежных калгасаў.» *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 196—197; ЭД, с. 635.*

*Жнівень, 21.* Падараваў Сымону Баранавых Збор твораў, т. 6 (1932) з аўтографам. *ЭД, с. 64; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 329.*

*Жнівень.* У часопісе «Беларусь калгасная» (№ 8) паведамленне: «Я. Купала ўвайшоў у склад рэдкалегіі час. «Беларусь калгасная».

У часопісе «Яна ліф» — «Новае пісьмо» (№ 8) першы пераклад на татарскую мову твораў Я. Купалы — верша «А ў Вісле плавае тапелец» (перакладчык невядомы).

*Верасень, 9.* Напісаў ліст у рэдакцыю «Савецкай Беларусі» ў сувязі з «святкаваннем» яго 50-годдзя ў Польшчы.

*Верасень, 10.* У Яўрэйскім дзяржаўным тэатры вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы (фота ў «Чырвонай Беларусі», № 18). З дакладамі выступілі Т. Ф. Домбаль, А. Кучар, з прывітаннямі — М. Лынькоў, П. Галавач, І. Харык. Вершы Я. Купалы ў перакладзе на яўрэйскую мову чытаў З. Аксельрод. З прамовай выступіў юбіляр (надрукавана 13 верасня ў «Савецкай Беларусі» і «Звяздзе»). *«Лит. газета», 11 верас.; «Чырв. змена», 12 верас.; «Звязда», 13—14 верас.*

У «Літаратуры і мастацтве»: апавяданне-імпрэсія С. Баранавых «Матчын сын», прысвечанае Я. Купалу, вітанні, падпісаныя М. Зарэцкім, Р. Кобецам, М. Лужаніным, В. Мараковым, У. Хадыкам, С. Шушкевічам, А. Вольным, верш П. Броўкі «Янку Купалу», артыкул А. Кучара «Янка Купала» (гаворыць і пра памылкі, зрывы, неразуменне паэтам Кастрычніцкай рэвалюцыі).

У віленскай газеце «Беларуская крыніца» (№ 31, працяг у № 32, 20 верас., № 34, 8 кастр.) артыкул В. Багдановіча «К сонцу душой! Крытычны нарыс творчасці Я. Купалы з пункту гледжання хараства і мастацтва (У 50-ыя ўгодкі нарадзінаў паэта. 25. VI. 1882—25. VI. 1932)», у якім аўтар станоўча характарызуе дарэвалюцыйную творчасць Я. Купалы і негатыўна ацэньвае савецкую.

*Верасень, 11.* У «Литературной газете» прывітанні Я. Купалу ад аргкамітэта ССП СССР і верш «А ў Вісле плавае тапелец».

Урад рэспублікі прыняў дэлегацыю беларускіх пісьменнікаў у сувязі з юбілеем Я. Купалы. У час гутаркі былі закрануты пытанні нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР і перабудовы літаратурна-мастацкіх арганізацый. *«Звязда», 14 верас.*

*Верасень, 12.* З дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў у М. М. Галадзеда. *«Сав. Беларусь», 13 верас.; «Чырв. змена», 15 верас.*

*Верасень, 13.* У «Савецкай Беларусі» (№ 203) артыкул «Усе свае сілы, усе свае парывы думак і сэрца аддаю на ажыццяўленне гэтай вялікай ідэі — пабудовы сацыялізму...».

*Верасень, 16.* На вечары ў кінатэатры «Культура» (цяпер Рускі тэатр імя М. Горкага), прысвечаным прыезду ў Мінск палітычных вязняў Заходняй Беларусі, вызваленых з польскіх астрогаў савецкім урадам. Вязняў віталі рабочыя фабрык і заводаў Мінска, Я. Купала, М. Чарот, А. Александровіч, І. Харык. Я. Купала чытаў верш «А ў Вісле плавае тапелец». В. Харужая, калі Я. Купала скончыў чытаць, падхапілася з месца, падбегла да паэта і расцалавала яго. *«Звязда», 18 верас.; «Дружба народов», 1965, № 12, с. 223—229; «Полымя», 1974, № 5, с. 33.*

*Верасень, 17.* Я. Купала, В. Харужая і М. Чарот наведалі рэдакцыю часопіса «Чырвоная Беларусь». *Шарахоўскі, 1976, с. 56—57.*

*Верасень, 24.* У Доме асветы злёт ударнікаў, закліканых у літаратуру. Даклады М. Лынькова, М. Аляхновіча. З прамовамі выступілі Я. Купала, П. Глебка, В. Маракоў і інш. *«Звязда», 26 верас.*

*Верасень, 25.* На ўрачыстым пасяджэнні ў Доме культуры, прысвечаным 40-годдзю літаратурнай дзейнасці М. Горкага, выступіў з прамоваю.

У «Савецкай Беларусі» і «Звяздзе» артыкул «Максіму Горкаму».

*Верасень.* ЦК КПЗБ выдаў у Вільні нелегальны зборнік «Пяцідзесяцігоддзе народнага паэта Янкі Купалы».

*Кастрычнік, 2.* На аб'яднаным пасяджэнні Акадэмічнага савета Беларускай Акадэміі навук, Аргкамітэта Саюза пісьменнікаў Беларусі, Цэнтральнага бюро секцыі навуковых работнікаў у Доме Камасветы (каля тэатра імя Я. Купалы), прысвечаным М. Горкаму. З дакладамі выступілі І. Замоцін, С. Вальфсон. Я. Купала зачытаў прывітанне М. Горкаму. Свае творы чыталі С. Ліхадзіеўскі, А. Александровіч, І. Шапавалаў. *«Звязда», 5 кастр.; «ЛіМ», 8 кастр.*

*Кастрычнік, 10.* Разам з М. Лыньковым, А. Александровічам, П. Галавачом, С. Баранавых, З. Аксельродам едзе ў Запарожжа на ўрачыстае адкрыццё Днепрагэсу. Брыгада пісьменнікаў наведала Краматорскі машынабудаўнічы завод, Харкаўскі трактарны завод, Літаратурны інстытут імя Т. Р. Шаўчэнкі. На ўрачыстым пленуме Украінскага аргкамітэта ССП,

наладжаным у Харкаве ў гонар беларускіх гасцей, Я. Купала прачытаў свае вершы. Пленум пастанавіў выдаць зборнік твораў паэта на ўкраінскай мове. Тут сустракаўся з Т. Масэнкам, У. Сасюрай. *«Сав. Беларусь», 19 кастр.; «ЛіМ», 24 кастр.; ЭД, с. 64, 146, 200.*

*Кастрычнік, 15.* Ліст брыгады беларускіх пісьменнікаў, што ездзілі з Я. Купалам на Днепрагэс. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 198; ПЗТ, т. 8, с. 299—300.*

*Кастрычнік, 29.* Рыжская прыватная беларуская гімназія Таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі адзначыла 50-годдзе Я. Купалы і Я. Коласа. Лекцыю «Янка Купала і Якуб Колас у беларускім адраджэнні» прачытаў кіраўнік Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы У. В. Пігулеўскі. *«Бел. крыніца», 6 лістап.; ЭД, с. 585.*

*Кастрычнік, 30.* Таварыства «Беларуская хата» разам з Рыжскай беларускай вячэрняй школай для дарослых наладзіла ў адным з клубаў Старога горада Рыгі вечар у гонар 50-годдзя Я. Купалы і Я. Коласа. Старшыня таварыства М. Я. Дзямідаў сказаў слова пра значэнне Я. Купалы і Я. Коласа ў нацыянальна-сацыяльным руху беларусіх працоўных. Вучні прачыталі вершы народных паэтаў Беларусі.

*Кастрычнік.* Напісаны верш «Вялікаму Кастрычніку». Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1932, № 21, 6 лістап.

*Лістапад, 16.* І. М. Барашку падпісаў свае кнігі: Збор твораў, т. 1 (1928), т. 2 (1929). *ЭД, с. 65; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 329.*

*Лістапад, 20.* У Дзвінскай (Латвія) беларускай гімназіі літаратурны вечар, прысвечаны 50-годдзю Я. Купалы і Я. Коласа. Уступнае слова намесніка дырэктара У. Н. Раткіна. Навучэнка Л. Чаркоўская прачытала рэферат. Быў сыграны абразок «На папасе», прачытана 12 вершаў паэта. *«Бел. школа ў Латвіі», № 6, с. 232; ЭД, с. 190.*

*Лістапад, 22.* З нагоды прызначанага на 28 лістапада суда над Б. Тарашкевічам напісаны верш «Суд ідзе». Упершыню — «Звязда», 1932, № 265, 28 лістап.

*Лістапад, 27.* У зале Віленскай літоўскай гімназіі (зала «Apollo», Дамброўскага, 5) беларуская грамадскасць святкавала 50-годдзе Я. Купалы і Я. Коласа. Даклады пра Я. Купалу В. Багдановіча, пра Я. Коласа Н. Чарнецкага. Чыталі вершы Я. Купалы і Я. Коласа. Хор студэнтаў пад кіраўніцтвам Р. Р. Шырмы спяваў песні на вершы паэтаў. Былі прадстаўнікі літоўскай і польскай грамадскасці. *«Бел. крыніца», 27 лістап., 4 снеж.; ЭД, с. 494.*

*Лістапад, 30.* У газеце «Orka» (№ 131; «Ворыва», Мінск) верш «Суд ідзе» ў перакладзе на польскую мову А. Гараўскага.

У «Звяздзе» ліст беларускіх пісьменнікаў супраць суда над Б. Тарашкевічам. Сярод падпісаўшых Я. Купала.

*Снежань, 4.* У «Літаратуры і мастацтве» ліст беларускіх пісьменнікаў у абарону Б. Тарашкевіча. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 199—200.*

*Снежань, 11.* Напісаны верш «Якубу Коласу» («Як калісь спявалі...»). Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1932, № 24, 15 снеж.; «Звязда», 1932, № 279, 15 снеж.

*Снежань, 15.* На ўрачыстым вечары ў БДТ-1, прысвечаным 50-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа, абраны ў прэзідыум, прачытаў свой верш «Якубу Коласу» («Як калісь спявалі...»). Прысутнічалі П. Горын, Л. Бэндэ, М. Лынькоў, І. Харык і інш. *«Звязда», 18 снеж.; «ЛіМ», 28 снеж.*

*Снежань, 18.* Літаратурна-гістарычны гурток Віленскай беларускай філіі дзяржаўнай гімназіі наладзіў свята ў гонар 50-годдзя Я. Купалы і Я. Коласа. Прачытаны 2 рэфераты, паставілі «Сон на кургане», адбыўся канцэрт. *«Бел. крыніца», 25 снеж.*

*Снежань, 19—20.* У «Савецкай Беларусі» артыкул Л. Бэндэ «Аб класавай барацьбе на культурным участку». Негатыўна ацэнена творчасць Я. Купалы.

*Снежань, 28.* У «Літаратуры і мастацтве» паведамленне: «Янка Купала перакладае з украінскай мовы «Кабзар» Т. Шаўчэнкі».

*Снежань.* Газета КПЗБ «Барацьба» (Берлін, на беларускай мове) у № 3 змясціла верш «Суд ідзе».

У часопісе «Ljublianski zvon» (Любляна, Югаславія) артыкул Я. Шэдзівага «Янка Купала», у якім аўтар піша: «Сярод людзей, якія найбольш паспяхова абуджалі свядомасць народнай самабытнасці і беларускай мове заваявалі аўтарытэт літаратурнай, першае месца, безумоўна, займае Янка Купала. Дзякуючы значэнню сваёй паэзіі, ён дамогся ўваходу ў сусветную літаратуру і звярнуў увагу свету на свой невядомы народ. Многія яго вершы перакладзены на польскую, украінскую, чэшскую і нямецкую мовы; сярод перакладчыкаў на рускую мову — Максім Горкі... Глыбокія думкі, прыгожая мова і цудоўныя тропы яшчэ больш уздымаюць мастацкую вартасць твораў Янкі Купалы і забяспечваюць яму месца сярод найбольш значных прадстаўнікоў сусветнай паэзіі. Пераклад яго твораў на нашу мову азначаў бы для славенскай культуры набыванне свежых сокаў маладога славянскага народнага арганізма».

*На працягу года.* Напісаны верш «Дзіцячае». Упершыню — Зб. тв., 1932, т. VI.

У Зборы твораў, т. 6 (1932) упершыню апублікаваны пераклады з рускай мовы — «Першамайская песня» і верш П. Шкулёва «Мы кузнецы» — «Кавалі», 14 радкоў з верша М. Някрасава «Несжатая полоса» («Нязжатыя гоні»).

Выйшаў 3-і том Збору твораў (2-е выданне, на вокладцы — 1933).

## 1933

*Студзень, 19—20.* Разам з Ц. Гартным, П. Галавачом, М. Лужаніным, А. Кучарам выязджаў у Магілёў для сустрэчы з палітработнікамі і камсаставам гарнізона, са студэнтамі горада. У вечарах прымалі ўдзел А. Александровіч і С. Нортман. *«Заклік», № 2, с. 132; ЭД, с. 146.*

*Студзень, 28.* У «Літаратуры і мастацтве» артыкул М. Піятуховіча «Супраць праяў нацыянал-дэмакратызму ў беларускай літаратуры», дзе ён абвінавачвае Я. Купалу ў нацдэмаўшчыне (п'еса «Тутэйшыя», памылкі мінулага і інш.), выступае супраць артыкула А. Сідарэнкі «Шлях паэта» (пра Я. Купалу, «Беларусь калгасная» , 1932, № 6—7), С. Баранавых.

*Студзень, 29.* У прэзідыуме вечара, прысвечанага 70-годдзю з дня нараджэння А. Серафімовіча разам з Я. Коласам, М. Чаротам, М. Лыньковым, А. Александровічам, П. Галавачом, К. Крапівой, Ц. Даўгапольскім, Ц. Гартным, С. Рак-Міхайлоўскім, С. Нортманам і інш. *«Заклік», № 2, с. 130; «ЛіМ», 10 лют.*

*Люты, да 10.* У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў (Я. Колас, К. Чорны, М. Клімковіч, А. Александровіч, П. Галавач, І. Харык, Р. Кобец, Б. Мікуліч, Ц. Даўгапольскі, Я. Рамановіч) выязджае ў Маскву на другі пленум Аргкамітэта ССП СССР. *«ЛіМ», 10 лют.; Мушынскі, с. 210.*

*Люты, 10.* У «Літаратуры і мастацтве» ліст у рэдакцыю С. Баранавых «Пра маю вялікую памылку» («Матчын сын»).

*Люты, 11.* «Таварыства беларускай моладзі ў Латвіі» разам з вучнямі Рыжскай беларускай вячэрняй дадатковай школы паставіла ў Рызе «Паўлінку». *«Бел. школа ў Латвіі», № 2.*

*Люты, 12—19.* Браў удзел у рабоце другога пленума Аргкамітэта ССП СССР. Заслуханы і абмеркаваны даклады А. В. Луначарскага пра задачы драматургіі і С. С. Дынамава пра драматургію для вёскі, даклад Л. Субоцкага пра статут ССП СССР. Я. Купала і Я. Колас выступалі з прамовамі. *«Лит. газета», 17, 23 лют.; «Правда», 13 лют.; «Звязда», 20 лют.; «ЛіМ», 27 лют.*

*Люты, 17.* У «Литературной газете» пад загалоўкам «Свою судьбу я навсегда связал с судьбой пролетарской революции» выступленне на пленуме Аргкамітэта ССП СССР.

*Люты, 20.* У «Звяздзе» выступленне на пленуме Аргкамітэта ССП СССР.

*Люты, 24—сакавік, 2.* Удзельнічае ў рабоце першага пашыранага пленума Аргкамітэта ССП БССР, прысвечанага творчым пытанням беларускай літаратуры. Даклады М. Клімковіча, Я. Бранштэйна. Разам з Я. Коласам кааптаваны ў склад аргкамітэта ССПБ. *«Звязда», 26, 28 лют., 1, 2, 3 сак.*

*Люты, 26.* На вячэрнім пасяджэнні пленума выступіў з прамоваю. *«ЛіМ», 27 лют., 1—3 сак.; «Полымя», 1982, № 6, с. 60; ПЗТ, т. 8, с. 129—131.*

*Люты, 27.* Разам з Я. Коласам, П. Галавачом, П. Шукайлам і іншымі дэлегатамі пленума аргкамітэта ССП БССР выступіў на літаратурным вечары ў Мінскім педінстытуце. *«Чырв. змена», 27 лют.; «Заклік», № 3, с. 113.*

*Сакавік, 1.* У «Звяздзе» (№ 47) выступленне Я. Купалы на пленуме Аргкамітэта ССП СССР.

*Сакавік, 16.* Арыштаваны З. Астапенка.

*Сакавік, 17.* У «Литературной газете» артыкул сакратара ЦК ВКП(б) Беларусі В. Жаброўскага «Литература Советской Белоруссии и требования эпохи», дзе гаворыцца пра Я. Купалу як вялікага майстра беларускага слова.

*Сакавік, 19.* У «Літаратуры і мастацтве» фатаграфія Я. Купалы з удзельнікамі пленума Аргкамітэта ССП Беларусі ў Мінску: з Я. Коласам, М. Чаротам, В. Кірпоцінным, Х. Дунцом, Я. Бранштэйнам, А. Александровічам, І. Харыкам.

*Сакавік, 21—25.* У Мінску Усебеларускі з'езд калгаснікаў-ударнікаў. Вітаў дэлегатаў з'езда. *«Заклік», № 4, с. 132.*

*Красавік, 19.* Напісаны верш «Май» («Ходзіць май па свеце»). Упершыню — «Звязда», 1933, № 95, 30 крас.— 1 мая; «ЛіМ», 1933, № 13, 1 мая.

*Красавік, 21.* Напісаны артыкул «23-IV-32—23-IV-33 г.». Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1933, № 12, 23 крас.

*Красавік, 23.* Разам з Я. Коласам, М. Хведаровічам і іншымі выступіў на літаратурным вечары ў БДУ, прысвечаным гадавіне пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». Расказаў студэнтам пра сутнасць і значэнне пастановы, прачытаў новыя вершы. *«Заклік», № 4, с. 131.*

*Красавік, 26.* У клубе металістаў выступіў з чытаннем твораў. *«Заклік», № 4, с. 131.*

*Май, 8.* Разам з Я. Коласам, П. Галавачом, З. Бядулем, М. Лыньковым, Х. Дунцом, С. Нортманам на пасяджэнні Аргкамітэта

Саюза пісьменнікаў увайшоў у склад камісіі па зборы сродкаў на пабудову эскадрыллі імя М. Горкага. *«ЛіМ», 12 мая.*

*Май, 12.* На Зборы твораў, т. 6 (1932) пакінуў аўтограф А. А. Карынфскаму і яго жонцы Мар'яне Іосіфаўне. *ЭД, с. 289; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 347.*

*Май, пасля 12.* Па дарозе ў калгас імя БВА наведаў г. Любань.

У першыя дні знаходжання ў Камуне БВА (Любанскі р-н) наведаў з П. Галавачом і У. Хадыкам рабфак у саўгасе пры Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце. На рабфаку літаратуру выкладаў Алесь Жаўрук. Ён, відаць, і запрасіў пісьменнікаў да сваіх выхаванцаў. Збярогся фотаздымак, які зрабіў выкладчык хіміі і біялогіі Кірэеў, а збярог С. А. Харко, удзельнік той сустрэчы. Прачытаў верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...», расказаў, як збірае матэрыялы да паэмы «Над ракою Арэсай». *«ЛіМ», 1970, 24 ліп.*

*Чэрвень, 2.* «Літаратура і мастацтва» паведаміла пра конкурс на лепшы драматычны твор, аб'яўлены паводле пастановы СНК БССР. У журы — Я. Купала.

*Чэрвень, 10.* Ліст К. С. Елісееву.

*Чэрвень, 13.* Удзельнічаў у сустрэчы беларускіх пісьменнікаў (А. Александровіч, К. Крапіва, І. Харык, Л. Бэндэ, З. Аксельрод, М. Хведаровіч, С. Знаёмы, Я. Маўр і інш.) з бібліятэчнымі работнікамі ў Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы. Уступнае слова — Я. Бранштэйн. Выступіў дырэктар бібліятэкі І. Б. Сіманоўскі. *«ЛіМ», 26 чэрв.*

*Чэрвень, 23.* З К. Крапівой, Л. Кацовічам выехаў у Дзяржынскі р-н для ўдзелу ў мерапрыемствах, якія мелі назву «чыстка партыі». *«ЛіМ», 26 чэрв.*

*Чэрвень, 29—30.* У «Звяздзе» (№ 141—142) надрукавана паэма «Над ракою Арэсай».

*Лета.* Быў з жонкаю ў Капылі па запрашэнні Алесі Александровіч. *ЭД, с. 36.*

Разам з Ц. Гартным і М. Хведаровічам ездзілі ў Цімкавічы да К. Чорнага. *ЭД, с. 655.*

*Ліпень, пачатак.* Прысутнічае ў Доме пісьменніка на вечары, прысвечаным прыезду малдаўскіх пісьменнікаў. *ЭД, с. 655.*

*Ліпень, 5.* «Звязда» паведамляла, што Я. Купала быў у прэзідыуме вечара-сустрэчы з мардоўскімі пісьменнікамі Н. Эркаем, А. Лук'янавым, С. Лявонцывым. Прысутнічалі таксама У. Галубок, К. Чорны, П. Галавач, І. Гурскі, І. Шапавалаў, віцэ-прэзідэнт БАН Т. Домбаль. Выступалі П. Броўка, С. Дарожны, С. Нортман, В. Казлоўскі і інш. *«ЛіМ», 9 ліп.*

*Ліпень, 6—13.* З У. Ф. Луцэвіч і А. Александровічам прыехаў у Ленінград. Наведаў завод «Чырвоны пуцілавец»,

дзе гутарыў з рабочымі, Пецяргоф. 10 ліпеня сустрэўся з пісьменнікамі. 11 ліпеня ўдзельнічаў у вечары ленінградскіх рабочых-беларусаў, прысвечаным 13-й гадавіне вызвалення Беларусі ад польскай акупацыі, які адбыўся ў Летнім тэатры Выбаргскага дома культуры. Чытаў вершы, урыўкі з паэмы «Над ракою Арэсай». Сустракаўся з рэжысёрамі, сцэнарыстамі, рэдактарамі і іншымі работнікамі кінафабрыкі «Савецкая Беларусь». Даў кінематаграфістам абяцанне выступіць з лістом да пісьменнікаў БССР і заклікаць іх памагчы ў стварэнні кінематаграфіі.

Наведаў тэатры, Эрмітаж, Дзяржаўны рускі музей, майстэрню скульптара М. Манізера. Пабываў у свайго даўняга сябра Б. І. Эпімах-Шыпілы. *«Литературный Ленинград», 15 ліп.; «ЛіМ», 26, 28 ліп.; «Беларусь», 1947, № 6, с. 8.*

*Ліпень, 12.* Падпісаў І. М. Барашку свой Збор твораў, т. 5 (1928). *ЭД, с. 65; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 330.*

*Ліпень, 15.* У газеце «Литературный Ленинград» артыкул І. М. Барашкі «Янка Купала в Ленинграде».

*Чэрвень—ліпень.* У «Полымі рэвалюцыі» (№ 6—7) купалаўскі пераклад паэмы Т. Шаўчэнкі «Сон» («У кожнага свая доля»).

*Жнівень, 10.* Арыштаваны С. Ліхадзіеўскі, М. Лужанін.

*Жнівень, 13.* У «Літаратуры і мастацтве» апублікаваны адкрыты ліст камсамольцаў Мінскага машынабудаўнічага завода «Камунар» да Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, Ц. Гартнага, К. Чорнага, К. Крапівы, у якім заклік да старэйшых пісьменнікаў Беларусі паказаць у сваіх творах гераічныя будні рабочай і калгаснай моладзі.

*Жнівень, 16.* Арыштаваны І. С. Дварчанін.

*Жнівень, 17—21.* Паездка на адкрыццё Беламорска-Балтыйскага канала, пабудаванага вязнямі ГУЛАГа. 17—18 жніўня знаёміўся з Ленінградам і Пецяргофам. Праз Петразаводск цягніком прыехалі на станцыю Мядзведжая гара. 19 жніўня ў Мядзведжай гары пераселі на параход «Анохін». Праплылі на ім 227 км канала ад пасёлка Павянец да Анежскага возера. На Выг-возеры на мітынгу выступіў і Я. Купала. Члены беларускай дэлегацыі: А. Александровіч, П. Галавач, М. Лынькоў, І. Харык. *Ярош, с. 268; ЭД, с. 412.*

*Жнівень, 26.* Распараджэнне дырэктара выдавецтва «Художественная литература» ў Маскве М. Н. Накаракава пра хутчэйшае выданне паэмы Я. Купалы «Над ракою Арэсай». *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 203; ЭД, с. 515.*

Пастанова СНК БССР аб рэформе беларускага правапісу.

*Жнівень, 27.* Ліст С. М. Гарадзецкаму.

*Жнівень, 29.* У «Литературной газете» (№ 40) артыкул «Чудо, созданное большевиками» — пра Беламорска-Балтыйскі канал (друкаваўся ў «Літаратуры і мастацтве», 1933, № 40, 18 верас.).

*Верасень, 6.* У «Літаратуры і мастацтве» артыкул П. Броўкі пра творчасць Я. Купалы «У пошуках паэзіі».

Арыштаваны А. А. Грыневіч.

*Верасень, 18.* У «Літаратуры і мастацтве» артыкул А. Кучара з крытыкай паэмы «Над ракою Арэсай» і фота: Я. Купала сярод членаў беларускай дэлегацыі на Беламорска-Балтыйскім канале.

У «Літаратуры і мастацтве» і «Чырвонай змене» за подпісамі Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, І. Гурскага, М. Лынькова, А. Александровіча, К. Крапівы, К. Чорнага, М. Зарэцкага, Б. Мікуліча, П. Галавача і іншых пісьменнікаў «Адказ камсамольцам Случчыны».

*Верасень, каля 20.* З Я. Коласам на працягу трох дзён знаходзіцца ў Маскве.

*Верасень, 24.* У Доме пісьменніка ў Мінску расказаў пра паездку на Беламорска-Балтыйскі канал. *«Звязда», 24, 28 верас.*

*Верасень, 29.* «Літаратура і мастацтва» паведаміла, што кампазітар М. Аладаў напісаў вакальна-сімфанічную паэму «Над ракою Арэсай» на словы Я. Купалы. У газеце эскізы П. Галавача «На Беламорбудзе».

*Верасень.* У навукова-папулярным зборніку «Luč» — («Прамень», 1933. IX) артыкул славенскага пісьменніка, крытыка і перакладчыка А. Будала «Пра беларусаў і беларускую літаратуру». Верш «А хто там ідзе?» даецца ў арыгінале і падрадковым перакладзе. *ЭД, с. 95.*

*Кастрычнік, 1.* Браў удзел у пасяджэнні Аргкамітэта ССП БССР у сувязі з падрыхтоўкай да Першага з'езда пісьменнікаў БССР. *«ЛіМ», 10 кастр.*

*Кастрычнік, 20.* У Доме пісьменніка спаткаўся з грузінскімі пісьменнікамі М. С. Джавахішвілі і Н. М. Лордкіпанідзе. Прысутнічалі М. Клімковіч, А. Александровіч, З. Бядуля, М. Лынькоў, П. Броўка, М. Хведаровіч, Я. Бранштэйн, супрацоўнікі Інстытута літаратуры АН Беларусі, студэнты БДУ, Ц. Гартны, І. Замоцін, М. Піятуховіч. *ЭД, с. 170, 188.*

*Кастрычнік, 21.* Пасля паездкі на Барысаўскі фанернапапалкавы камбінат госці з Грузіі пабывалі ў доме Я. Купалы. Былі таксама М. Зарэцкі, П. Глебка, І. Харык, А. Александровіч, М. Хведаровіч. Падарыў гасцям паэму «Над ракою Арэсай». *Хведаровіч М. Незабыўнае, с. 126.*

*Кастрычнік, 22.* Праводзіў М. Джавахішвілі і Н. Лордкіпанідзе на Мінскім вакзале. *Хведаровіч М. Незабыўнае, с. 126.*

*Кастрычнік, да 23.* У «Звяздзе» паведамлялася, што выйшла з друку паэма «Над ракою Арэсай». *«Звязда», 23 кастр.*

*Кастрычнік, 24.* Падпісаў «Над ракою Арэсай» (1933) С. Гарадзецкаму. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 335.*

*Кастрычнік, 26.* «Літаратура і мастацтва» паведамляла: «Янка Купала працуе зараз над перакладамі з Тараса Шаўчэнкі».

*Кастрычнік, 27.* У паштоўцы С. М. Гарадзецкаму прасіў прысланць кніжку пра Беламорска-Балтыйскі канал.

*Лістапад.* У «Новом мире» (№ 11) «Над ракою Арэсай» Я. Купалы ў перакладзе С. М. Гарадзецкага.

*Лістапад, 11.* У балгарскай газеце «Работнически литературен фронт» паведамленне пра напісанне паэмы «Над ракою Арэсай».

*Лістапад, 14.* У Кіславодску з гэтага дня на лячэнні ў санаторыі КСВ.

*Снежань, 2.* Паштоўка М. К. Хайноўскай.

*Снежань, 9.* Ліст С. М. Гарадзецкаму, у якім клапоціцца пра свой зборнік у выдавецтве «Художественная литуратура» ў Маскве. Просіць навесці даведкі. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 287.*

*Снежань, 12.* У паштоўцы С. М. Гарадзецкаму ўдакладняе, што выедзе з Кіславодска 5 студзеня, а не лютага.

*На працягу года.* Выйшлі з друку: Збор твораў (выд. 2-е), т. 3.

Польскі філолаг-славіст Ю. Галомбак у артыкуле «Беларуская літаратура» («Вялікая ўсеагульная літаратура». Варшава, 1933, т. 4) высока ацаніў паэзію і драматургію Я. Купалы, яго ролю ў развіцці новай беларускай літаратуры: «Паэзія Купалы вызначаецца шчырасцю пачуцця, багаццем мовы і дасканалым майстэрствам; ён па праву займае выдатнае месца ў беларускай літаратуры». *ЭД, с. 147.*

Графік А. М. Тычына стварыў цыкл «Над ракою Арэсай». *ЭД, с. 599—600.*

## 1934

*Студзень, 4.* У Кіславодску напісаны ліст у АН БССР «Што было сном, тое стала явай». Прысвечаны пастанове СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Упершыню — «Звязда», 1934, № 13, 17 студз.

*Студзень, 5.* Апошні дзень у Кіславодску.

*Студзень, 9.* Арыштаваны С. Рак-Міхайлоўскі.

*Студзень, 15.* У «Известиях» артыкул Н. Агнёва (М. Р. Разанава) «Поэты Советской Белоруссии», дзе паэзія Я. Купалы ацэньваецца з вульгарна-сацыялагічных пазіцый.

*Студзень, 18.* У «Литературной газете» артыкул Н. Агнёва «Две биографии (15 лет Советской Белоруссии)». Паэзія Я. Купалы разглядаецца з вульгарна-сацыялагічных пазіцый.

*Люты, пачатак.* У Мінск прыязджалі смаленскія пісьменнікі М. Ісакоўскі, А. Твардоўскі і інш. Сустракаўся з імі ў клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі. *«Нёман», 1977, № 8, с. 162; «Полымя», 1982, № 6, с. 63; Успаміны пра Янку Купалу. Мн., 1982. С. 186.*

*Люты, 14.* Удзельнічаў у вечары беларускай літаратуры ў Камуністычным універсітэце нацменшасцей Захаду ў Маскве. Дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў была ў Маскве па запрашэнні Аргкамітэта ССП СССР у сувязі з падрыхтоўкай да Першага Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў. *«Лит. газета», 16 лют.; «Звязда», 26 лют.*

*Люты, 16.* У «Літаратуры і мастацтве» нататка «Памяці Багрыцкага». Сярод іншых подпіс Я. Купалы.

*Сакавік, 7—11.* У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў удзельнічае ў рабоце трэцяга Усесаюзнага пленума Аргкамітэта ССП, на якім быў зацверджаны праект статута СП СССР.

9 сакавіка — сустрэча пісьменнікаў Масквы з беларускай дэлегацыяй. Прысутнічалі Я. Купала, Я. Колас, Я. Маўр, А. Александровіч, Я. Бранштэйн, Г. Жарскі, У. Бахмецьеў, Ф. Беразоўскі, Н. Агнёў, У. Лідзін, С. Леўман. Была прынята пастанова выдаць «Антологию белорусской литературы». *«Лит. газета», 12 сак.*

*Сакавік, 16.* «Літаратура і мастацтва» апублікавала пераклады Я. Купалы з Т. Шаўчэнкі да 120-годдзя з дня нараджэння ўкраінскага паэта: «Думка» («Вецер буйны, вецер буйны!..»), «Думка» («Цяжка, цяжка жыць на свеце»), «Запаведзь», «З успамінаў пра дзяцінства», «Свет мой ясны! Свет спакойны!..».

*Красавік, 17.* У Доме камасветы на вечары-сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з камсамольскім актывам Мінска выступілі Я. Купала (прачытаў урывак з паэмы «Над ракою Арэсай»), Я. Колас, К. Крапіва, У. Хадыка, Б. Мікуліч, А. Куляшоў і інш. *«Чырв. змена», 20 крас.; «ЛіМ», 23 крас.*

*Красавік, 23.* На другім пашыраным пленуме Аргкамітэта ССП БССР выступіў з прамоваю аб задачах беларускай літаратуры ў сувязі з пастановай ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». *«ЛіМ», 26 крас.*

*Красавік, 24—25.* У складзе дэлегацыі беларусіх пісьменнікаў (А. Александровіч, К. Чорны) браў удзел у рабоце з'езда пісьменнікаў Заходняй вобласці ў Смаленску. Абраны ў прэзідыум з'езда.

Адбыліся сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з рабочымі прадпрыемстваў, камсаставам смаленскага гарнізона. Разам з М. Ісакоўскім выступіў на літаратурным вечары ў Смаленскім педагагічным інстытуце (Я. Купала, М. Ісакоўскі, А. Александровіч чыталі свае творы. А. Александровіч зрабіў даклад пра беларускую літаратуру) і на абласным радыё (уступ К. Чорнага, Я. Купала і А. Александровіч чыталі свае творы, М. Ісакоўскі свае пераклады з А. Александровіча і Я. Купалы). *«ЛіМ», 6 мая; «Беларусь», 1947, № 6, с. 10; «Нёман», 1977, № 8, с. 162.*

*Красавік, да 26.* Падпісаўся на 600 руб. пазыкі. *«ЛіМ», 26 крас.*

*Май, 16.* Прыняты ў члены ССП. Членскі білет № 47 падпісаны старшынёй праўлення СП СССР М. Горкім. *«ЛіМ», 17 мая.*

*Май, 23.* Прыняў удзел у рабоце Усесаюзнай паэтычнай нарады ў Маскве. Выступіў на вечары паэтаў у Цэнтральным парку культуры і адпачынку, прачытаў урыўкі з паэмы «Над ракою Арэсай». *«Лит. газета», 26 мая.*

*Май, 24.* Літаратурная секцыя «Русского Общества» ў Вільні наладзіла вечар, прысвечаны беларускай літаратуры. Вечар распачаў уступным словам старшыня секцыі — пісьменнік, перакладчык, публіцыст Д. Бохан. Пасля В. Багдановіч прачытаў рэферат пра творчасць Я. Купалы. *«Шлях моладзі», № 6, с. 20.*

*Май, 25.* У Маскве прайшоў творчы вечар Я. Купалы, арганізаваны Аргкамітэтам ССП СССР. Даклад П. Замойскага. З прамовамі выступілі фалькларыст Ю. Сакалоў, А. Суркоў і інш. Я. Купала прачытаў вершы. Пераклады твораў паэта на рускую мову чыталі М. Галодны, М. Ісакоўскі і інш. *«Лит. газета», 28 мая; «ЛіМ», 18 чэрв.*

*Май, 30.* Выступіў на сходзе партактыву Мінска, прысвечаным пытанням літаратуры і падрыхтоўкі да Першага з'езда пісьменнікаў Беларусі. *«ЛіМ», 18 чэрв.*

*Чэрвень, 8—14.* Удзельнічаў у рабоце Першага Усебеларускага з'езда пісьменнікаў. Абраны членам праўлення ССП БССР і дэлегатам на Першы Усесаюзны з'езд пісьменнікаў. *«Звязда», 10, 14, 15 чэрв.; «ЛіМ», 14, 18 чэрв.; «Полымя», 1982, № 6, с. 63.*

У рабоце з'езда прымала ўдзел болей за 100 дэлегатаў. Даклад М. Клімковіча. Садаклады пра прозу Я. Бранштэйна,

пра паэзію А. Кучара, пра драматургію В. Вольскага, пра работу з маладымі пісьменнікамі К. Чорнага.

У спрэчках выступілі: Я. Колас, Ц. Гартны, З. Бядуля, Б. Ясенскі, М. Галодны, У. Бахмецьеў, М. Зарэцкі, П. Броўка, Я. Маўр, І. Шапавалаў, П. Галавач, Б. Мікуліч, А. Александровіч, А. Дудар, С. Знаёмы і інш. З прамовай выступіў старшыня Саўнаркома БССР М. М. Галадзед. *«Звязда», 9, 10, 14, 15 чэрв.*

*Чэрвень, 11.* Падараваў У. Г. Лідзіну «Над ракою Арэсай» (1934). *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 349.*

*Чэрвень, 15.* У «Звяздзе» інтэрв'ю А. Лахуці, у якім ён засяродзіў увагу на ўкладзе Я. Купалы ў скарбніцу савецкай шматнацыянальнай літаратуры.

*Чэрвень, 18.* У «Звяздзе» (№ 132) верш «Трэба нам песень».

*Чэрвень, 19.* Напісаны верш «То не шум баравы...». Упершыню — «Звязда», 1934, № 133, 20 чэрв.

*Ліпень, 1—24.* Разам з І. Гурскім і В. Кавалём у творчай камандзіроўцы ў г. Барысаве і калгасах Барысаўскага раёна. 1 ліпеня ў клубе імя М. Горкага на літаратурным вечары для партыйна-камсамольскага і прафсаюзнага актыву г. Барысава. Прачытаў свае вершы. 2 ліпеня наведалі запалкавую фабрыку «Пралетарская перамога», Старабарысаўскі піянерскі лагер, калгас «Чырвоны баец» Карсакавіцкага сельсавета. 4 ліпеня завяршыў паэму «Барысаў». Упершыню — «Звязда», 1934, № 151, 11 ліп. з паметай: Скупліно, калгас «Чырвоны баец» і падзагалоўкам «Да адкрыцця помніка Леніну ў Барысаве» (без радкоў 29—40). 6 ліпеня ў «Звяздзе» (№ 147) і «Известиях» (№ 156; на беларускай мове) верш «Нашай Канстытуцыі». 9 ліпеня брыгада пісьменнікаў наведала калгас «Камінтэрн». Піянерскі атрад вітаў іх. Пасля агляду гаспадаркі, палёў, ураджаю пісьменнікі былі запрошаны на абед. 10 ліпеня напісаны верш «Калгасу «Чырвоны баец». Упершыню — «Бальшавік Барысаўшчыны», 1934, 14 ліп. Наведаў калгас «Чырвоны молат». Вечарам разам з калгаснікамі удзельнічаў ва ўрачыстым пленуме Карсакавіцкага сельсавета, прысвечанага 14-й гадавіне вызвалення БССР ад белапольскай акупацыі. Прачытаў урывак з паэмы «Барысаў». *«ЛіМ», 10, 28 ліп.; «Лит. газета», 20 ліп., 2 жн.* 12 ліпеня ў «Літаратуры і мастацтве» ўрывак з паэмы «Барысаў» «І памёр стары Барысаў». 15 ліпеня ў калгасе «Чырвоны баец» напісаў верш «Я — калгасніца...». Упершыню — «Звязда», 1934, № 250, 7 лістап. 21 ліпеня на сустрэчы з чэхаславацкай рабочай дэлегацыяй у Барысаве ўзначальваў дэлегацыю беларускіх пісьменнікаў. *«ЛіМ», 26 ліп.*

*Ліпень, 28.* У Мінску напісаны верш «Звяздзе». Упершыню — «Звязда», 1934, № 167, 30 ліп. Верш прысвечаны выхаду 5000 нумару «Звязды». Першы нумар газеты выйшаў 27. 7 (9. 8.). 1917 г.

*Жнівень, 9.* У «Звяздзе» (№ 175) артыкул «Сам напаўняешся вялікай радасцю» — пра ўражанні ад камандзіроўкі ў Барысаўскі р-н. Тут жа пад рубрыкай «Бурна расце і квітнее беларуская сацыялістычная культура» змешчаны выступленні Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, М. Лынькова, К. Чорнага, М. Зарэцкага, П. Броўкі, А. Дудара, у якіх разглядаюцца галоўныя дасягненні Беларусі за гады савецкай улады.

*Жнівень, 15.* У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў (Я. Колас, Д. Конік, М. Клімковіч, К. Крапіва, К. Чорны, М. Чарот, М. Лынькоў, П. Броўка, П. Галавач, А. Александровіч, І. Харык, Г. Раманоўская, Я. Бранштэйн, С. Баркоўскі, М. Хайноўская і інш. ) прыязджае ў Маскву на Першы Усесаюзны з'езд пісьменнікаў. У склад дэлегацыі з правам рашаючага голасу ўваходзілі: З. Бядуля, І. Гурскі, М. Хведаровіч, Ф. Браўковіч.

*Жнівень, 16.* Наведаў завод «Шарыкападшыпнік». *«Лит. газета», 17 жн.*

*Жнівень, 17—верасень, 2.* Удзельнічаў у рабоце Першага Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў. Сустракаўся з М. Горкім, А. Фадзеевым, А. Талстым, С. Стальскім, І. Качаргой, Ж.-Р. Блокам, Г. Караваевай і інш. Абраны ў прэзідыум з'езда.

*Жнівень, 17.* У «Правде» (№ 226) артыкул «Могучая сила» пра росквіт культуры Беларусі.

*Жнівень, 18.* У «Звяздзе» змешчаны прысвечаны з'езду верш «Трэба нам песень».

*Жнівень, 19.* Быў старшынёю на ранішнім пасяджэнні з'езда. Падарыў М. Горкаму свой зборнік «Избранные стихи» (1934). *ЭД, с. 161; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 338.*

*Жнівень, 22.* Удзельнічаў у сустрэчы беларускай дэлегацыі з супрацоўнікамі рэдакцыі «Правды».

*Жнівень, 23.* Падпісаў зборнік «Избранные стихи» (М., 1934) А. Лахуці.

*Жнівень, 24.* У газеце «Литературный Ленинград» (№ 42) інтэрв'ю «Самая интересная встреча — весь съезд».

У «Правде» пераклад верша «Трэба нам песень» і здымак беларускіх пісьменнікаў, удзельнікаў Першага Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў, у рэдакцыі газеты «Правда».

У «Известиях» фота: Я. Купала, Ж.-Р. Блок, А. Новікаў-Прыбой, грузінскія пісьменнікі М. Джавахішвілі, Міцышвілі, украінскі пісьменнік І. Качарга.

*Жнівень, 25.* Падпісаў «Избранные стихи» (М., 1934) П. Панчу. *ЭД, с. 459; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 356.*

«Вечерняя Москва» апублікавала інтэрв'ю з Я. Купалам «Земля и небо» — пра ўражанні паэта аб Маскве.

*Жнівень, 26.* Выступіў на сустрэчы дэлегатаў Першага Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў з рабочымі Масквы.

З беларускімі пісьменнікамі ў М. Горкага на яго дачы (гл. фота паміж с. 144—145 ЭД: Я. Купала, І. Харык, П. Галавач, М. Клімковіч, М. Горкі, А. Александровіч, М. Лынькоў, Я. Колас).

*Жнівень, 27.* «Литературная газета» паведаміла, што ў Зялёным тэатры ў Маскве выступаў Я. Купала.

*Жнівень, 28.* У «Правде» зварот «Писатели Белорусской ССР, делегаты Первого Всесоюзного съезда — товарищу Сталину». Сярод іншых подпіс Я. Купалы.

*Жнівень, 31.* Абраны ў склад праўлення СП СССР.

У «Літаратуры і мастацтве» артыкул «Беларускія пісьменнікі ў рэдакцыі «Правды».

*Верасень, 1.* Падарыў В. М. Монічу кнігу «Над ракою Арэсай» (1934) з аўтографам. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 352.*

*Верасень, 2.* Прымаў удзел у рабоце І пленума праўлення ССП СССР.

Падпісаў К. Буйло «Над ракою Арэсай» (1934). *ЭД, с. 96; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 333.*

*Верасень, 9.* У «Звяздзе» (№ 201) артыкул Я. Купалы «Створым літаратуру, лепшую ў свеце» — водгук на Першы з'езд пісьменнікаў СССР.

*Верасень, 12.* Выступіў у Барысаве (клуб хімікаў) на партыйна-камсамольскім сходзе, прысвечаным Першаму Усесаюзнаму з'езду пісьменнікаў. Даклад пра 1-ы з'езд пісьменнікаў А. Александровіча. Выступілі Я. Купала, П. Броўка, Р. Мурашка. *«Звязда», 14 верас.; «ЛіМ», 16 верас.; ЭД, с. 65.*

*Верасень, 15.* Удзельнікі Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў у М. Ф. Гікалы. Ён даў высокую ацэнку творчасці Я. Купалы. *«ЛіМ», 24 верас.; ЭД, с. 155.*

*Верасень, 18.* З беларускімі пісьменнікамі на сходзе партыйнага, камсамольскага і прафсаюзнага актыву Мінска. Свае творы чыталі Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, А. Александровіч, М. Галодны. *«Звязда», 21 верас.; «ЛіМ», 24 верас.*

*Верасень, да 24.* Выбраны ў склад камісіі па стварэнні надмагільнага помніка П. Трусу. *«ЛіМ», 24 верас.*

*Верасень, 24.* «Літаратура і мастацтва» паведаміла, што Я. Купала выступіў у Мінску і Барысаве.

*Верасень.* У татарскім часопісе «Савет эдэбіяты» — «Савецкая літаратура» (№ 9) апублікаваны даклад М. Клімкові-

ча на Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў, дзе ішла гаворка пра Я. Купалу. *ЭД, с. 591.*

*Кастрычнік, да 24.* Разам з Ц. Гартным і І. Гурскім удзельнічае ў літаратурным вечары ў Аб'яднанай беларускай вайсковай школе. *«ЛіМ», 24 кастр.*

*Кастрычнік, 26.* Удзельнічае ў вечары-сустрэчы дэлегатаў Першага Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў з перадавікамі сельскай гаспадаркі Мінскага р-на. *«Звязда», 28 кастр.*

*Кастрычнік.* Першыя пераклады вершаў Я. Купалы «Трэба нам песень» і «Вялікаму Кастрычніку» на таджыкскую мову (перакладчык М. Рахімі, «Бераі адэбіецi сацыялістык», 1934, № 9—10).

*Лістапад, 3.* У Коўне Беларускі народны тэатр паставіў «Паўлінку». *«Бел. крыніца», 1935, № 8, 17 лют.*

*Лістапад, 7.* У газетах «Правда» (№ 308) і «Рабочий» (№ 245) у перакладзе на рускую мову С. Гарадзецкага паэма «Барысаў». У «Звяздзе» (№ 250) вершы «Хвалююцца морскія хвалі», «Выпраўляла маці сына», «Абвілася краіна...», «На нашым полі» пад агульным загалоўкам «Песні».

*Лістапад, 9.* Ліст С. Гарадзецкаму з Кіславодска, дзе знаходзіцца на лячэнні ў санаторыі КСВ.

*Лістапад, 19.* У газеце «Літаратура і мастацтва» купалаўскі пераклад верша М. Ісакоўскага «Майстры зямлі».

У «Звяздзе» (№ 206) калектыўнае пісьмо «Памяці прафесара Я. І. Барычэўскага». Сярод падпісаўшых — Я. Купала.

*Лістапад, 30.* З Кіславодска напісаў ліст С. Гарадзецкаму. Паведаміў, што прабудзе ў Кіславодску да 25 снежня.

*Лістапад.* У Кіславодску напісаны верш «Для тых, якіх люблю». Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1935, № 3, 19 студз.

*Снежань, 4.* У Кіславодску напісаны верш «На смерць таварыша Кірава». Упершыню — «Звязда», 1934, № 278, 12 снеж.

Ліст С. Гарадзецкаму.

*Снежань, 18.* «Избранные стихи» (М., 1934) падарыў сям'і доктара Я. Ф. Калітоўскага. *ЭД, с. 278; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 345.*

*Снежань, да 25.* Выбраны дэлегатам на XI Усебеларускі з'езд Саветаў. *«ЛіМ», 25 снеж.*

*Снежань, 29.* У Коўне Беларускім культурна-асветным і літоўска-ўкраінскім таварыствамі прыяцеляў сцэны і песні наладжана беларускае і ўкраінскае прадстаўленні. Сыграны «Паўлінка» і «Бувальшчына» Весялоўскага. *«Бел. крыніца», 1935, 17 лют.*

*На працягу года.* У Маскве выйшлі «Избранные стихи», у Мінску 2-е ілюстраванае выданне паэмы «Над ракою Арэсай».

У часопісе «Борьба за технику» (№ 17—18) адказ на анкету часопіса «Мы живем в сказочное время».

## 1935

*Студзень, 4.* У 1-й Мінскай сярэдняй школе Я. Купала, В. Каваль, П. Броўка, А. Александровіч, М. Хведаровіч, В. Маракоў, А. Звонак чыталі свае творы. *«ЛіМ», 14 студз.*

*Студзень, да 14.* Напісаны верш «З'езду Саветаў». Упершыню — «Звязда», 1935, № 12, 14 студз.

*Студзень, 14—22.* Удзельнічаў у рабоце XI Усебеларускага з'езда Саветаў. 18 студзеня на вячэрнім пасяджэнні выступіў з прамоваю. Упершыню — «Рабочий», 1935, 19 студз. пад назваю «Вялікая гордая радасць», на беларускай мове — «Звязда», 1935, 24 студз. 22 студзеня разам з Я. Коласам, А. Александровічам, І. Харыкам, Х. Дунцом, М. Клімковічам, М. Рафальскім, У. Крыловічам выбраны членам ЦВК БССР і дэлегатам на VII з'езд Саветаў СССР з правам рашаючага голасу. *«Звязда», 17, 18, 24 студз.; «ЛіМ», 26 студз.; ПЗТ, т. 8, с. 146—147, 400.*

*Студзень, 14.* У газеце «Trybuna radziecka» («Савецкая трыбуна», М., № 7) пераклад на польскую мову Я. Машынскай-Гельтман III раздзела з паэмы «Над ракою Арэсай» «Зашумела, загуло...».

*Студзень, 16.* Напісаны верш «Украіна». Упершыню — «Звязда», 1935, № 17, 20 студз. з паметаю: «Гэты верш напісан па запрашэнню ЦО КП(б)У «Камуніст» для нумара, прысвечанага адкрыццю Усесаюзнага з'езда Саветаў».

*Студзень, 18.* Выступіў на XI Усебеларускім з'ездзе Саветаў. *«ЛіМ», 19 студз.*

*Студзень, 26.* У «Літаратуры і мастацтве» метадычная распрацоўка Я. Браништэйна «Над ракою Арэсай» Янкі Купалы», у якой крытык прыпісвае аўтару буржуазна-нацыяналістычныя погляды.

*Студзень, 28—люты, 6.* Разам з Я. Коласам удзельнічаў у рабоце VII Усесаюзнага з'езда Саветаў. *«Звязда», 29 студз.; «ЛіМ», 5 лют.; «Лит. газета», 5 лют.*

*Студзень, 31.* У «Літаратуры і мастацтве» выступленне на XI Усебеларускім з'ездзе Саветаў — «Вялікая, гордая радасць».

*Люты, 5.* У «Литературной газете» (№ 7) артыкул «Создадим песни о прекрасной Родине» — уражанні пра VII Усесаюзны з'езд Саветаў.

*Люты, 26.* У складзе дэлегацыі пісьменнікаў Беларусі (А. Александровіч, М. Лынькоў, І. Харык, П. Броўка, А. Куляшоў, У. Кавальскі і інш.) прымаў удзел у рабоце III Усебеларускага з'езда рабселькораў. Чытаў вершы. *«Звязда», 27 лют.; «Чырв. змена», 27 лют.; «ЛіМ», 27 лют.*

*Люты, 28.* У складзе дэлегацыі пісьменнікаў (Я. Колас, М. Лынькоў, П. Броўка, М. Клімковіч, А. Александровіч, І. Харык, Я. Бранштэйн, В. Вольскі, А. Кучар, М. Модэль) выехаў у Маскву на II пленум праўлення ССП СССР. *«ЛіМ», 27 лют.*

*Сакавік, 2—7.* Удзельнічаў у рабоце II пленума праўлення ССП СССР. Даклад «Аб стане і задачах савецкай крытыкі» (І. Бяспалаў), садаклады — М. Шагінян і А. Афінагенава, даклад рэдакцыі «Истории гражданской войны» (І. Мінц), даклад рэдакцыі «Истории фабрик и заводов» (Ус. Іваноў). *«Лит. газета», 6 і 10 сак.; «ЛіМ», 11 сак.*

*Сакавік, 9.* Падпісаў К. Буйло «Избранные стихи» (1934). *ЭД, с. 96; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 333.*

*Сакавік, 16.* «Літаратура і мастацтва» паведамляла пра ўдзел Я. Купалы ва ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 10-годдзю беларускай кінематаграфіі.

*Сакавік, 24.* У складзе дэлегацыі Акадэміі навук БССР і ССП БССР прыехаў у Харкаў на адкрыццё помніка Т. Шаўчэнку. Выступіў з вершам «Памяці Шаўчэнкі» («Ад гасцінца да гасцінца») (гл. фота: акадэмік В. Шчарбакоў, П. Галавач і Я. Купала на адкрыцці помніка Т. Шаўчэнку ў Харкаве — ЭД, с. 146). *«Правда», 25 сак.; «ЛіМ», 10 крас.*

*Красавік, 1.* У «Звяздзе» (№ 74) артыкул «На адкрыцці помніка Тарасу Шаўчэнку» — уражанні ад паездкі ў Харкаў.

*Красавік, 23.* У актавай зале БДУ на ўрачыстым пленуме праўлення ССП БССР, прысвечаным 3-й гадавіне пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». У прэзідыуме: Я. Купала, Я. Колас, М. Клімковіч, А. Александровіч, Ц. Гартны, К. Крапіва, К. Чорны, І. Харык, Я. Бранштэйн, П. Броўка, П. Глебка, І. Гурскі, М. Зарэцкі, А. Кучар, С. Знаёмы, В. Каваль, В. Вольскі, З. Аксельрод і інш. Чыталі свае творы Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, П. Глебка, І. Харык, П. Броўка, К. Крапіва, З. Аксельрод. *«ЛіМ», 26 мая; «Звязда», 27 крас.*

*Красавік.* На чале групы беларускіх пісьменнікаў быў на Аршаншчыне (Копыскае лясніцтва, Зубаўскі сельсавет). Выступаў на калгасных сходах, бываў на вечарынах у клубах, у дні сяўбы быў у полі, на фермах, цікавіўся развіццём прамысловасці ў раёне, будаўніцтвам дарог. Упершыню пабываў у Ляўках. *«ЛіМ», 1960, 13 крас.; «Голас Радзімы», 1977, 21 ліп.*



Янка Купала і Якуб Колас. 1935 г.



Янка Купала з групай беларускіх пісьменнікаў.
Сядзяць: Зм. Бядуля, А. Уласаў, Я. Купала.
Стаяць: Я. Фарботка, У. Галубок, М. Чарот, А. Гарун.
1920 г.

Янка Купала і Якуб Колас сярод супрацоўнікаў часопіса «Жатва». 1926 г.





Янка Купала ў майстэрні скульптара А. Бразера.
1925 г.



П. Броўка, Я. Мазалькоў, М. Лынькоў, Я. Купала.
1938 г.

Янка Купала ў майстэрні скульптара З. Азгура.
1939 г.





Янка Купала і Якуб Колас. 1935 г.

Беларускія і ўкраінскія пісьменнікі каля дома Янкі Купалы. 1928 г.





А. Серафімовіч,
П. Тычына,
Янка Купала.
Кіеў, 1939 г.

Група пісьменнікаў, членаў літаратурнага аб'яднання «Полымя», на кінастудыі «Савецкая Беларусь».
Ленінград, 1929 г.



Янка Купала сярод удзельнікаў I з'езда латышскіх пісьменнікаў. Рыга, 1941 г.

Янка Купала і Якуб Колас сярод пісьменнікаў і настаўнікаў. Беласток, 1939 г.



*Май, 5.* Падараваў П. Ф. і Н. І. Глебкам «Выбраныя творы» (Школьная серыя), 1935. *ЭД, с. 158; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 337.*

*Май, 10.* Падараваў А. П. Рабінінай сваё фота. *ЭД, с. 515; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 358.*

*Май, 12.* У Мінск прыехалі грузінскія пісьменнікі К. Лордкіпанідзе, І. Масашвілі, А. Кутатэлі, Р. Гветадзе. У Саюзе пісьменнікаў сустрэча, пасля снеданне, на якім прысутнічалі Я. Купала, Я. Колас, М. Клімковіч, А. Александровіч, П. Галавач, І. Харык, М. Лынькоў, К. Чорны, К. Крапіва, М. Зарэцкі, П. Глебка, У. Хадыка, С. Знаёмы, Г. Камянецкі, А. Вольны, А. Куляшоў, Я. Бранштэйн, А. Кучар, М. Модэль, Л. Кацовіч і інш. *«ЛіМ», 16 мая.*

*Май, 13.* У Мінск прыехаў Б. Буачыдзе. *«ЛіМ», 16 мая.*

*Май, 17.* Разам з Я. Коласам на сустрэчы грузінскіх пісьменнікаў з акадэмікамі Беларускай Акадэміі навук Гаўсманам, С. Вальфсонам, Ц. Бурштынам, В. Шчарбаковым, П. Панкевічам. *«Звязда», 20 мая; «ЛіМ», 22 мая; Кекелидзе С. А. Грузино-белорусские литературные взаимосвязи. Тбилиси, 1979. С. 44, 55, 90—93, 104—107.*

У газеце «Казах адэбіеці» («Казахская літаратура») першыя пераклады твораў Я. Купалы на казахскую мову: «А хто там ідзе?» (перакладчык І. Джансугураў), «Сонцу» і «Сосны» (перакладчык Ж. Сыздыкаў).

*Май, 21.* У «Звяздзе» (№ 114) верш «Самалёту «Максім Горкі» пад назваю «Памяці загінуўшых». Прысвечаны трагічнай падзеі: катастрофе найбуйнейшага на той час пасажырскага самалёта АНТ-20.

*Май, 23.* На літаратурным вечары ў Вышэйшым педагагічным інстытуце, прысвечаным 30-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Прачытаў вершы «Выпраўляла маці сына», «Украіна», «Трэба нам песень», «Памяці загінуўшых». *«Известия», 27 мая; «ЛіМ», 31 мая.*

*Май, 27.* На прыёме ў Саўнаркоме БССР разам з дэлегацыяй беларускіх і грузінскіх пісьменнікаў. У М. М. Галадзеда былі: Р. Гветадзе, Б. Буачыдзе, К. Лордкіпанідзе, А. Кутатэлі, І. Масашвілі, Я. Купала, Я. Колас, М. Клімковіч, А. Александровіч, М. Лынькоў, П. Галавач, К. Чорны, К. Крапіва, П. Броўка, Х. Шынклер. *«ЛіМ», 31 мая.*

Я. Колас напісаў верш «Янку Купалу» («Я не ведаю, дружа мой Янка»).

*Май, 28.* У Доме пісьменніка ўрачысты вечар з нагоды 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Ад грузінскіх пісьменнікаў юбіляра вітаў Б. Буачыдзе, ад польскіх — С. Р. Стандэ, ад яўрэйскіх — З. Аксельрод. Даклад А. Кучара.

З прамоваю ў адказ выступіў Я. Купала. *«Правда», 30 мая; «ЛіМ», 31 мая.*

СНК БССР прыняў пастанову «Аб 30-гадовым юбілеі літаратурнай дзейнасці народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы».

У «Літаратуры і мастацтве» (№ 27) Я. Колас выступае з успамінамі «Маё першае спатканне з Янкам Купалам». Дае ацэнку раннім творам Я. Купалы, расказвае пра першую сустрэчу 26 ліпеня 1912 г. на хутары Смольня каля Мікалаеўшчыны. «Творы маладога паэта адразу ж звярнулі на сябе ўвагу сваім народным песенным ладам, сваім зазыўным свежым тонам і шырокім размахам. Яго вершы карысталіся вялікай папулярнасцю і сведчылі аб высокай адаронасці юнака-паэта».

У «Літаратуры і мастацтве» ў перакладзе на польскую мову Я. Машынскай-Гельтман першы раздзел паэмы «Над ракою Арэсай» «Замест уступу», верш А. Александровіча «Маё віншаванне», артыкул Я. Бранштэйна пра Я. Купалу «Ля вытокаў».

Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр БССР і хор Беларускага радыёцэнтра ў прысутнасці Я. Купалы выканалі вакальна-сімфанічную паэму М. Аладава «Над ракою Арэсай» (дырыжыраваў аўтар).

*Май, 29.* У мінскай газеце «Рабочий» віншаванне ад маскоўскіх пісьменнікаў.

*Май, 30.* «Литературная газета» змясціла верш «Май» («Ходзіць май па свеце») у перакладзе М. Ісакоўскага, нататку «Юбілей Янкі Купалы» і ліст Я. Коласа з прывітаннем паплечніку па працы і сябру.

«Правда» пісала пра выступленне Я. Купалы ў Доме пісьменніка ў Мінску на юбілейным вечары.

*Май, 31.* У «Літаратуры і мастацтве» (№ 28) прамова на вечары ў Доме пісьменніка 28. 5. 1935 г., артыкул кампазітара М. І. Аладава «Кожны радок прасякнут музыкальнасцю і настраёвасцю». Тут жа верш «Якія» ў перакладзе на польскую мову С. Р. Стандэ, паведамленне, што ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна адкрыта выстаўка «Творчы шлях Янкі Купалы».

Студэнты Мінскага педагагічнага інстытута адзначылі юбілей паэта вялікім літаратурным вечарам, на якім Я. Купала чытаў свае творы.

*Чэрвень — жнівень.* Адпачывае ў калгасе «Х з'езд Саветаў» (в. Ляўкі Аршанскага р-на). У чэрвені напісаў вершы «Сыны», «Сонцу», «Дарогі», «Старыя акопы», «Беларусі ардэнаноснай», «Вечарынка», «Хлопчык і лётчык», «Алеся», «Госці», «Здаецца ж, было гэта ўчора», «Партызаны».

*Чэрвень, 6.* У «Літаратуры і мастацтве» верш «Лапці» ў перакладзе на польскую мову С. Р. Стандэ, у «Літературної газеті» вершы «Май» («Ходзіць май па свеце») у перакладзе на ўкраінскую мову П. Усэнкі і «Ужо днее» (перакладчык Дз. Чапурны).

*Чэрвень, 21—25.* На Міжнародным кангрэсе пісьменнікаў у абарону культуры (Парыж) А. Лахуці гаварыў пра шматнацыянальны характар савецкай літаратуры, уклад Я. Купалы ў здабытак агульначалавечага прагрэсу, на прыкладзе твораў Т. Шаўчэнкі і Я. Купалы паказаў еўрапейскай і сусветнай грамадскасці, як цяжка жылі працоўныя раней.

*Чэрвень, 21.* У «Звяздзе» (№ 140) верш «Сыны» — першы верш з паметай: Ляўкі.

*Чэрвень, 28.* У «Літаратуры і мастацтве» верш «Сонцу», вітанне Р. Ралану ў сувязі з яго прыездам у Савецкі Саюз, сярод пісьменнікаў, падпісаўшых якое, і Я. Купала.

*Чэрвень.* У часопісе «Полымя рэвалюцыі» (№ 6) верш М. Сяднёва «Янку Купалу».

*Ліпень, 3.* У «Звяздзе» (№ 150) верш «Здаецца ж, было гэта ўчора».

*Ліпень, 5.* У «Звяздзе» (№ 152) верш «Старыя акопы».

*Ліпень, 6.* У «Літаратуры і мастацтве» верш «Сосны».

У газеце «Пралетар» (Тбілісі) на армянскай мове артыкул Г. Халата «Трыццаць гадоў» і верш Я. Купалы «Хвалююцца морскія хвалі» (пераклад Г. Халата і А. Цовака).

*Ліпень, 9.* Выступаў на Усебеларускім радыёмітынгу, прысвечаным дню вызвалення Беларусі ад белапольскай акупацыі. *ЭД, с. 517.*

*Ліпень, 10.* У газеце «Рабочий» (№ 152) артыкул пра армейскую самадзейнасць «Об олимпиаде».

*Ліпень, 11.* У сувязі з 15-й гадавінай вызвалення Беларусі ад польскай акупацыі і ўручэння ёй ордэна Леніна ўзнагароджваецца ганаровай граматай БССР. *«Звязда», 11, 12 ліп.*

У «Літаратуры і мастацтве» (№ 36) і «Звяздзе» (№ 157) верш «Беларусі ардэнаноснай».

У «Правде» (№ 189) верш «Лён» у перакладзе М. Галоднага. На полі машынапісу гэтага перакладу М. Горкі напісаў: «Славно А. П.».

У газеце «Вісті ВУЦВК» (Кіеў) пераклад М. Булатовіча на ўкраінскую мову верша «Беларусі ардэнаноснай» (пераклад і ў часопісе «Червоний шлях», 1935, № 7) і артыкул М. М. Галадзеда «15 гадоў барацьбы і перамог», у якім гаворыцца пра папулярнасць Я. Купалы за межамі Беларусі.

У газеце «Красная звезда» на беларускай мове верш «Пад чырвонай зоркай». *ЭД, с. 304.*

*Ліпень, 12.* У «Літературної газеті» вершы: «Працай дружнай, калектыўнай» (пераклад О. Сарокі), «Беларусі ардэнаноснай» (пераклад М. Булатовіча), «Дзве дзяўчыны» (пераклад Дз. Чапурнога), «Як у лесе зацвіталі» (пераклад П. Тычыны).

У газеце «Більшовик Полтавщини» верш Я. Купалы «Май» («Ходзіць май па свеце») у перакладзе П. Усэнкі.

*Ліпень, 14.* У М. Ф. Гікалы з беларускімі і грузінскімі пісьменнікамі. Прысутнічалі Б. Буачыдзе, К. Лордкіпанідзе, І. Масашвілі, А. Кутатэлі, Я. Колас, А. Александровіч, К. Чорны, М. Лынькоў, П. Броўка, І. Харык, П. Галавач, М. Кульбак, К. Крапіва, А. Вольны, Я. Бранштэйн, М. Зарэцкі, А. Кучар, М. Хведаровіч, М. Клімковіч. М. Гікала выступіў з вялікай прамоваю (фота: «Звязда», 18. 7. 1935 г. ). *«ЛіМ», 16 ліп.; ЭД, с. 146.*

*Ліпень, 15.* Ліст С. М. Гарадзецкаму.

*Ліпень, 16.* Ліст С. М. Гарадзецкаму.

У газеце «Deutsche Zentralzeitung» (№ 162, Масква) пераклад на нямецкую мову Э. Фабра верша «Сыны».

*Ліпень, 17.* У «Літаратуры і мастацтве» «Нібы эпіграмы Якубу Коласу. Валодзю Хадыку» з паметаю: Кіславодск, 1934 г. і фота: Я. Купала з грузінскімі і беларускімі пісьменнікамі на прыёме ў М. Ф. Гікалы.

*Ліпень, 23.* У «Звяздзе» (№ 165) верш «Вечарынка».

*Ліпень, 27.* У «Правде» артыкул Я. Бранштэйна «Янка Купала», у якім аўтар не пазбег вульгарызатарскіх скажэнняў творчасці паэта.

*Ліпень, 28.* У «Звяздзе» (№ 169) верш «Алеся».

*Ліпень.* У часопісе «Іскры Ільіча» (№ 7) верш «Хлопчык і лётчык». У «Полымі рэвалюцыі» (№ 7) вершы «Партызаны» і «Дарогі». У часопісе «Інгілаб ве мадэніят» — «Рэвалюцыя і культура» (№ 6—7) першае паведамленне пра Я. Купалу ў азербайджанскім друку.

*Жнівень, 2.* У «Звяздзе» верш «Як я молада была...».

*Жнівень, 6.* У «Літаратуры і мастацтве» верш «Ад сэрца. Адказ на пародыю Янкі Купалы» У. Хадыкі.

*Жнівень, 8.* З Мінска ліст С. М. Гарадзецкаму.

*Жнівень, 10.* Выехаў у Ляўкі.

*Жнівень, 12.* У «Літаратуры і мастацтве» (№ 142) упершыню вершы «Лён» і «Шоў я пушчаю...» (з памылкамі).

*Жнівень, 15.* Ліст С. М. Гарадзецкаму.

*Жнівень, 18.* У «Літаратуры і мастацтве» верш «Шоў я пушчаю» з папраўкамі.

*Жнівень, 27.* У «Літаратуры і мастацтве» партрэт-фрэска Я. Купалы мастака Х. Даркевіча.

У «Правде» (№ 236) верш «Як у госці сын прыехаў...» у перакладзе М. Панова.

*Жнівень.* У Ляўках напісаны верш «Дзве дзяўчыны». Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1935, № 54, 12 кастр.

У «Полымі рэвалюцыі» (№ 8) пераклад з польскай мовы верша М. Канапніцкай «Вольны найміт».

*Верасень, 10.* У Дзяржаўнай бібліятэцы Беларусі выстаўка, прысвечаная 30-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы.

*Верасень, 12.* З Сочы паштоўка А. І. Александровіч. *ЭД, с. 571.*

*Верасень, 13.* У «Правде» (№ 253) верш «Дзве дзяўчыны» ў перакладзе М. Панова.

*Верасень, 16.* З Сочы выслаў у Копыскае лясніцтва М. І. Шыманскай паштоўку. *«Полымя», 1982, № 6, с. 196; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 294.*

*Верасень, 18.* Палітбюро ЦК ВКП (б) прыняло пастанову пра паездку журналістаў у Чэхаславакію. У склад дэлегацыі ўключаны Я. Купала. *«Счастье литературы». Государство и писатели. 1925—1938. Документы / Сост. Д. Л. Бабиченко. М., 1997. С. 196—197; Сталин и Каганович. Переписка. 1931—1936 гг. М., 2001. С. 566—567, 571, 573.*

*Верасень, 24.* «Правда» надрукавала верш «Хлопчык і лётчык» у перакладзе М. Галоднага.

*Верасень.* З Уладзіслававай Францаўнай у Сочы адпачываў у санаторыі «Правда».

У газеце «Казах адэбіеці» верш С. Машакава «Пяць сыноў», напісаны пад уплывам купалаўскага верша «Сыны».

*Верасень, канец.* Выехаў у Маскву, каб ехаць адтуль у Чэхаславакію.

*Кастрычнік, 3.* З Масквы паехалі ў Чэхаславакію.

*Кастрычнік, 4.* На мінскім вакзале перад ад'ездам у Чэхаславакію Я. Колас, А. Александровіч, П. Галавач, К. Крапіва, А. Вольны, І. Гурскі, П. Броўка, П. Глебка і іншыя праводзілі дэлегацыю.

У «Літаратуры і мастацтве» (6 кастр.) паведамлялася пра дачу Я. Купалы ў Ляўках і пра тое, што Аршанскі райвыканкам пастанавіў адпусціць бясплатна будаўнічы матэрыял для яе пабудовы.

*Кастрычнік, 5—20.* У складзе дэлегацыі пісьменнікаў і журналістаў, у якую ўваходзілі М. Кальцоў (кіраўнік дэлегацыі), А. Талстой, А. Фадзееў, Г. Караваева, І. Мікітэнка і іншыя, падарожнічаў па Чэхаславакіі.

*Кастрычнік, 6.* Дэлегацыю прыняў міністр замежных спраў Чэхаславакіі Э. Бенеш.

*Кастрычнік, 8*. Выступіў у Міністэрстве замежных спраў Чэхаславакіі.

*Кастрычнік, 9*. Выступіў у Празе на сустрэчы з чэшскімі пісьменнікамі.

*Кастрычнік, 11*. З членамі дэлегацыі наведаў Пльзень. Агледзелі бровар і цэхі завода «Шкода».

*Кастрычнік, 12*. У «Літаратуры і мастацтве» (№ 54) верш «Дзве дзяўчыны».

*Кастрычнік, 13*. «Rude pravo» змясціла інфармацыю пра паездку савецкай дэлегацыі, вершы Я. Купалы «Старыя акопы» і «Дзве дзяўчыны» ў перакладзе на чэшскую мову І. Барта.

*Кастрычнік, 16*. У «Літаратуры і мастацтве» сяброўскі шарж на Я. Купалу мастака В. Волкава, эпіграма Я. Коласа «Адзначым факт»:

Адзначым факт ва ўсякім разе —
Ці то нам, можа, сон прысніўся:
Нібыта Янка наш у Празе
Прамовай доўгай разразіўся.

*Кастрычнік, 17*. На курорце П'ешцяны. Наведалі таксама г. Модра. *ЭД, с. 405, 484.*

У «Літаратуры і мастацтве» сярод іншых прывітанне Я. Купалы І. Харыку.

*Кастрычнік, 18*. У «Звяздзе» (№ 238) верш Я. Купалы «Як у госці сын прыехаў».

*Кастрычнік, 20*. Праз Мінск праехала дэлегацыя пісьменнікаў і журналістаў СССР, якая вярталася з Чэхаславакіі. Я. Купала застаўся дома. *«ЛіМ», 23 кастр.*

Прэзідыум ЦВК БССР зацвердзіў пастанову НК Асветы пра арганізацыю камітэта да 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Купалы.

*Кастрычнік, 21*. На прыёме ў М. Гікалы і Д. Валковіча з журналістамі і А. Александровічам. *«Звязда», 22 кастр.; «ЛіМ», 23, 29 кастр.*

*Кастрычнік, 23*. У «Звяздзе» ўражанні і думкі Я. Купалы ад паездкі ў Чэхаславакію пад назваю «У Чэхаславакіі».

Вітаў З. Бядулю з 25-годдзем яго літаратурнай дзейнасці. *«Чырв. змена», 23 кастр.*

У Рэчыцкім педтэхнікуме вечар Я. Купалы. *«ЛіМ», 31 кастр.*

*Кастрычнік, 29*. У «Літаратуры і мастацтве» (№ 57) «Падарожжа па Чэхаславакіі (Гутарка з народным паэтам рэспублікі)», верш «Партызаны».

*Кастрычнік, 31*. Вітаў І. Харыка з 15-годдзем творчасці.

У «Літаратуры і мастацтве» (№ 58) верш «Дарогі».

*Лістапад, 2.* Напісаны верш «Нашаму святу». Упершыню — «Звязда», 1935, № 254, 7 лістап., «Літаратура і мастацтва», 1935, № 59, 7 лістап.

*Лістапад, 5.* Я. Колас у лісце С. М. Гарадзецкаму: «Недавно отпраздновали З. Бядулю. 17/XI будем праздновать 15-летний юбилей Харика. 11/XII — Янки (Купалы.— *Я. С.*). Кстати — Янка собирался на праздники съездить в Москву, но он немного прихворнул, и поездка в ближайшие дни не состоится. 25 ноября у нас будет писательский пленум. Мне остается еще написать кое-что для Янки ко дню его 30-летней литературной деятельности... Надеюсь видеть тебя в Минске на юбилее Купалы». *Колас, т. 13, с. 113—114.*

*Лістапад, 16.* Пасяджэнне камітэта па правядзенню юбілею Я. Купалы. Прынята рашэнне запрасіць на ўрачыстасці М. Горкага, А. Талстога, А. Лахуці, А. Безыменскага і інш.

*Лістапад, 17.* У «Літаратуры і мастацтве» (№ 61) вітанне «Ізі Харыку — выдатнаму песняру яўрэйскага працоўнага народа».

*Лістапад, 20.* Да 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Купалы Я. Колас напісаў верш «Янку Купалу» («Узышоў юнак калісьці»).

У Вільні па радыё выступіў хор Р. Р. Шырмы з беларускімі песнямі і творам на словы Я. Купалы «Песня і сіла». *«Бел. крыніца», 8 снеж.*

*Лістапад, 21.* «Літаратура і мастацтва» (№ 62) паведаміла, што Я. Купала быў на вечары І. Харыка ў БДТ.

*Лістапад, 24.* У «Літаратуры і мастацтве» (№ 63) выказванне Я. Купалы пра стаханаўскі рух «Слава творцу новага, шчаслівага жыцця».

У Дзяржаўнай бібліятэцы БССР выстаўка да юбілею Я. Купалы.

*Лістапад, 26.* У мінскім Доме пісьменніка абмяркоўвалася музыка Л. Ямпольскага да вершаў Я. Купалы «Лён», «Выпраўляла маці сына», «Абвілася краіна...», «Хлопчык і лётчык», «Алеся», «Здаецца ж, было гэта ўчора», «Маруся і Марыся», «Вечарынка», «На нашым полі».

*Лістапад, 27.* У лісце С. М. Гарадзецкаму Я. Колас паведамляў: «Посылаю вырезку из газеты «Звязда» за 27/XI с заметкой о подготовке к юбилею Я. Купалы, чтоб ты знал, что ты приглашаешься на юбилей. Наверное, пришлют специальное приглашение. Янка (Купала.— *Я. С.*) завтра собирается в Москву. Надо полагать, он скорее увидит тебя, чем это письмо». *Колас, т. 13, с. 115.*

*Лістапад, 29.* У «Звяздзе» артыкул І. І. Любана «Вечар песні Янкі Купалы».

*Снежань, 1.* У «Літаратуры і мастацтве» верш «На смерць таварыша Кірава». Зварот беларускіх пісьменнікаў «Трохкутніку Магілёўскай фабрыкі штучнага шоўку», які сярод іншых падпісаў і Я. Купала.

Падараваў «Избранные стихи и поэмы» (М., 1935) А. Лахуці і яго жонцы (зберагаецца ў фондах Інстытута мовы і літаратуры імя Рудакі АН Таджыкістана). *«Известия Академии наук Таджикской ССР». Серия: востоковедение, история, филология. 1987, № 2, с. 5.*

*Снежань, 10.* Урачысты вечар у хаце Я. Купалы. Трансліраваўся па радыё. *Такі ён быў, с. 243.*

*Снежань, 11.* У БДТ-1 вечар 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. Сход адкрыў сакратар ЦВК БССР М. Ляўкоў. Даклад члена ЦК КПБ А. Дзьякава. Прынялі ўдзел І. Мікітэнка, А. Лахуці, А. Новікаў-Прыбой, М. Рыленкаў, акадэмік АН Беларусі П. Горын. Я. Купалу віталі піянеры і школьнікі. М. Горкі даслаў тэлеграму: «Сердечный привет неутомимому соратнику, поэту-революционеру». Тэлеграмы даслалі армянскі паэт А. Вштуні, С. Стальскі. Я. Колас вітаў юбіляра вершам. Беларускі ўрад узнагародзіў Я. Купалу персанальнай машынай. *«Звязда», 14 снеж.; «ЛіМ», 17 снеж.*

СНК БССР прыняў пастанову «Аб палепшанні жыллёвых і бытавых умоў народнага паэта Янкі Купалы». У Ляўках, за 28 км ад Оршы, паэту пабудавалі дачу.

Удзень М. М. Галадзед прыняў Я. Купалу, А. Лахуці, А. Новікава-Прыбоя, І. Мікітэнку, Н. Зар'яна, М. Клімковіча, А. Александровіча.

У «Чырвонай змене» (№ 271) вершы Я. Купалы «Алеся», «Як у госці сын прыехаў», верш А. Лахуці «Янка Купала» (пераклаў на беларускую мову В. Вітка).

У «Літаратуры і мастацтве» віншаванне Я. Купалу ад М. Зарэцкага, А. Вольнага, У. Хадыкі, С. Шушкевіча, К. Чорнага, верш А. Лахуці «Янка Купала» (пераклад М. Хведаровіча), верш Я. Коласа «Янку Купалу», артыкул Ц. Гартнага «Прымі маю радасць».

У «Звяздзе» верш Э. Агняцвет «Народнаму паэту», А. Лахуці «Янка Купала» (пераклад М. Хведаровіча).

*Снежань, 12.* У «Звяздзе» выступленне А. Лахуці на юбілейным вечары Я. Купалы «Як нам не радавацца» і яго назіра «Кастрычнік і паэт» — адказ на верш Я. Купалы «Я не паэта», напісаны тым самым памерам, артыкул А. Новікава-Прыбоя «Талент яго вялікі», тэлеграма У. М. Бахмецьева.

У «Літаратуры і мастацтве» артыкул С. Р. Стандэ пра Я. Купалу «Моцна паціскаю руку паэту свабоднага беларускага народа...».

*Снежань, 13.* У клубе імя Сталіна інтэрнацыянальны вечар. Былі Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, А. Новікаў-Прыбой, І. Мікітэнка, Н. Зар'ян, П. Глебка, П. Галавач, Ц. Гартны, З. Аксельрод, Э. Самуйлёнак, Э. Агняцвет, стаханаўцы горада. *«ЛіМ», 17 снеж.*

У Магілёўскім палітасветным інстытуце вечар, прысвечаны 30-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы.

*Снежань, 14.* У «Звяздзе» артыкул «Жыццё наша такое вясёлае...», паведамленне пра спатканне А. Лахуці, А. Новікава-Прыбоя, І. Мікітэнкі, Н. Зар'яна з пісьменніцкім актывам Мінска.

*Снежань, 17.* Увайшоў у склад Усесаюзнага Пушкінскага камітэта, створанага ў сувязі з падрыхтоўкай да 100-годдзя з дня смерці А. С. Пушкіна. *«Звязда», 18 снеж.*

П. Тычына пераклаў на ўкраінскую мову верш «Як у лесе зацвіталі...» («Літературна газета»).

*Снежань, 19.* Ліст Я. С. Мазалькову.

*Снежань, 21.* Смалявіцкая беларуская ПСШ разам з яўрэйскай школай правяла вечар, прысвечаны 30-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. *«ЛіМ», 31 снеж.*

*Снежань, 23.* У «Палескай праўдзе» тэлеграма Я. Купалы У. Галубку і яго тэатру з нагоды 15-годдзя тэатра. Апублікавана таксама ў «Звяздзе» (№ 291).

У «Літаратуры і мастацтве» падзяка Я. Купалы за віншаванні з 30-годдзем літаратурнай працы.

*Снежань, 24.* У «Литературной газете» (№ 71) інтэрв'ю ў сувязі з маючым адбыцца III пленумам ССП СССР па пытаннях развіцця беларускай і башкірскай літаратур «Братский привет поэтам Советской страны...» (пленум праходзіў у Мінску з 10-га да 16 лютага 1936 г.).

*Снежань, 28.* «Літаратура і мастацтва» паведаміла пра стварэнне Усесаюзнага Пушкінскага камітэта. Сярод членаў пад № 37 Я. Купала.

*Снежань, 31.* У «Літаратуры і мастацтве» верш «Маё мне сонца правадыр...».

У газеце «Казак адэбіеці» — «Казахская літаратура» — артыкул Ж. Сыздыкава «Янка Купала». З артыкула: «Яго паэзія поўная прыгажосці і гармоніі, стала сапраўды ўсенароднай, зразумелай шырокім слаям працоўных мас. Яго вершы дакладна адлюстроўваюць народныя спадзяванні».

*Снежань.* Працягваецца святкаванне 30-годдзя літаратурнай дзейнасці. Адбыўся радыёвечар на кватэры Я. Купалы,

у якім прынялі ўдзел пісьменнікі, мастакі, артысты, грамадскія дзеячы. У адказ на віншаванне паэт сказаў: «Я шчаслівы ва ўпэўненасці, што ў гадзіну трывогі мой савецкі народ падымецца на абарону межаў сваёй сацыялістычнай радзімы. Я шчаслівы, што над маёй хатай, як і над усёй маёй савецкай радзімай, горда палыхае чырвоны сцяг Вялікай пралетарскай рэвалюцыі. Я шчаслівы, што жыву ў эпоху Леніна—Сталіна, якія паказалі працоўным усіх прыгнечаных народаў шлях да вызвалення, да радаснага і шчаслівага жыцця». *«Звязда», 10 снеж.*

*На працягу года.* Выйшлі з друку: зборнік «Выбраныя творы»; «Выбраныя творы», т. 1; асобным выданнем паэма «Над ракою Арэсай» на польскай і літоўскай мовах; у Маскве — «Избранные стихи и поэмы (1906—1935)» у перакладзе М. Галоднага, Э. Багрыцкага, В. Брусава і інш.

У Вільні — зборнік «Шляхам жыцця» (выд. 3-е).

У энцыклапедыі «Вялікі Бракгаўз» (15-е выд., т. 20, на нямецкай мове) артыкул «Беларуская літаратура» з характарыстыкай творчасці Я. Купалы.

## 1936

*Студзень, 12.* У «Літаратуры і мастацтве» верш «Вечарынка» з нотамі (музыка Л. Ямпольскага).

*Студзень, 15.* Удзельнічаў у нарадзе драмсекцыі ССП БССР. Прысутнічалі: М. Клімковіч, І. Гурскі, К. Чорны, У. Галубок, Я. Бранштэйн, Л. Літвінаў, У. Крыловіч, М. Зарэцкі, М. Модэль, Л. Кацовіч, Ш. Дадыяні і інш. *«ЛіМ», 22 студз.*

*Студзень, 17.* У Гомельскай узорнай школе № 1 імя Камінтэрна літаратурна-музычны вечар, прысвечаны творчасці Я. Купалы. *«ЛіМ», 31 студз.*

*Студзень, 26.* На нарадзе паэтаў, празаікаў і крытыкаў, скліканай рэдакцыяй «Літаратуры і мастацтва», з Я. Коласам, А. Александровічам, У. Хадыкам, П. Броўкам, З. Аксельродам, У. Кавальскім абраны членам секцыі паэтаў. Абмяркоўвалі раздзелы даклада А. Александровіча да III пленума праўлення ССП СССР пра паэзію. *«Звязда», 30 студз.; «ЛіМ», 31 студз.*

*Студзень, 29.* Разам з Я. Коласам, К. Крапівой, К. Чорным, М. Лыньковым, М. Клімковічам, А. Александровічам, І. Гурскім, П. Галавачом, Я. Бранштэйнам, У. Хадыкам падпісаў прывітанне Р. Ралану з 70-годдзем з дня нараджэння. *«Звязда», 29 студз.; «Рабочий», 29 студз.*

На вечары 70-годдзя з дня нараджэння А. Серафімовіча ў Мінску. *ЭД, с. 146.*

*Студзень, 30.* У гарадскім тэатры Бабруйска на вечары, прысвечаным III пленуму праўлення ССП СССР, выступіў з прамоваю (апублікавана ў газетах «Рабочий», «Советская Белоруссия», 2 лют.), чытаў вершы разам з П. Глебкам, М. Клімковічам, З. Аксельродам, Э. Агняцвет, Н. Зар'янам. *«Звязда», 1 лют.; ПЗТ, т. 8, с. 162—163, 403.*

*Люты, 2—7.* Разам з Я. Коласам прымаў удзел у рабоце 3-й сесіі ЦВК БССР XI склікання. *«Звязда», 3 лют.*

*Люты, 3.* Падпісаў свой зборнік «Песня будаўніцтву» (1936) Глебкам. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 337.*

У газеце «Башкортастан» — «Башкірыя» — першыя пераклады твораў Я. Купалы на башкірскую мову — урывак з паэмы «Над ракою Арэсай» (перакладчык М. Сюндзюкле), вершы «Хвалююцца морскія хвалі...», «На нашым полі» (перакладчык С. Кудаш).

*Люты, 3—9.* Перад III пленумам праўлення ССП БССР у Мінску адбыліся радыёвечары творчасці пісьменнікаў Масквы, Ленінграда, Грузіі, Башкірыі, Беларусі.

*Люты, 5.* Ударнікі мінскага завода імя Варашылава абмяркоўвалі паэму «Над ракою Арэсай». *«Лит. газета», 10 лют.*

*Люты, 9.* Разам з Я. Коласам, М. Лыньковым, П. Глебкам прыняў удзел у літаратурным вечары (праходзілі з 3-га да 9 лютага). Прачытаў верш «Прывет вам». *«Звязда», 10 лют.; «ЛіМ», 10 лют.*

*Люты, 10.* У «Звяздзе» і «Літаратуры і мастацтве» (№ 8) верш «Прывет вам...». Твор напісаны да адкрыцця III пленума праўлення ССП СССР, прысвечанага пытанням паэзіі, які праходзіў у Мінску 10—16 лютага. 10 лютага Я. Купала вітаў удзельнікаў пленума і прачытаў гэты верш.

У «Литературной газете» артыкул І. І. Замоціна «Янка Купала».

*Люты, 10—16.* У Мінску ў зале паседжанняў Дома ўрада III пленум праўлення ССП СССР, прысвечаны пытанням беларускай і башкірскай літаратур, паэзіі. Даклады: «Пра савецкую паэзію» А. Суркова, «Беларуская савецкая літаратура» А. Александровіча. Творчасць Я. Купалы 1905—1906 гг. і 1930-х гг. у дакладах М. Клімковіча і А. Александровіча ацэнена аб'ектыўна, «нашаніўскі перыяд» і час 20-х гг. — з пазіцый вульгарна-сацыялагічнай крытыкі. У спрэчках на пленуме выступілі А. Безыменскі, Б. Ясенскі, Л. Сейфуліна, У. Бахмецьеў, І. Бехер, К. Федзін, А. Гідаш, М. Бажан, С. Чыкавані, М. Галодны, У. Лідзін, М. Ціханаў, Л. Лайцэн, Эмі Сяо, А. Пра-

коф'еў, Р. Стыенскі, К. Чорны, М. Лынькоў, П. Галавач. *«Звязда», 11 лют.; «Правда», 11—17 лют.; «ЛіМ», 12, 14—17, 23 лют.*

*Люты, 10.* У «Літаратуры і мастацтве» артыкул Я. Бранштэйна «Янка Купала», у якім паэту закідваецца «ўхіл у бок нацыяналістычнай абмежаванасці, крахаборства, асветніцкага рэфармізму», нацыяналістычнае стылізатарства, рамантычнае сюсюканне над «курганамі мінулага», хваліцца паэма «Над ракою Арэсай».

*Люты, 14.* У «Литературной газете» фота: Я. Купала, А. Новікаў-Прыбой, У. Бахмецьеў у Мінску на III пленуме праўлення ССП СССР і прамова там П. Галавача, у якой сказана пра аптымізм Я. Купалы.

*Люты, 15.* Падпісаў армянскаму пісьменніку Г. Маары сваё фота. *ЭД, с. 369; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 350.*

У Доме пісьменніка вечар творчасці кампазітара Л. Ямпольскага, у праграме якога творы на словы Я. Купалы.

*Люты, 17.* «У «Літаратуры і мастацтве» даклад А. Александровіча на III Пленуме праўлення ССП СССР, у якім гаварылася пра буржуазныя пазіцыі Я. Купалы ў часы «Нашай нівы», пра тое, што Я. Купала і Я. Колас не зразумелі Кастрычніцкай рэвалюцыі, пра ноткі непрыязні ў іх творчасці па адрасу дыктатуры пралетарыяту.

*Люты, 20.* Я. Колас піша С. М. Гарадзецкаму: «Янка (Купала.— *Я. С.*) все еще лежит. Вчера о нем не справлялся. Но ему лучше». *Колас, т. 13, с. 122.*

*Люты, 23.* Я. Колас піша С. М. Гарадзецкаму: «Только что звонил Янку (Купале.— *Я. С.*). Говорил о посылке телеграммы. Он уже послал. Ему была какая-то телеграмма от Союза писателей Грузии». *Колас, т. 13, с. 123.*

*Люты, 29.* З ліста С. М. Гарадзецкаму: «Сборник делаю сам и в скором времени привезу в Москву... Сборник делаю исключительно из стихов, не печатанных в вышедших русских сборниках».

*Сакавік, 10.* «Звязда» (№ 56) і «Чырвоная змена» (№ 51) апублікавалі верш «Камсамолу». Верш напісаны напярэдадні адкрыцця X з'езда ВЛКСМ, які праходзіў 10—21 красавіка 1936 г. Пастанова Прэзідыума ЦВК БССР пра стварэнне Пушкінскага камітэта БССР па правядзенні мерапрыемстваў у сувязі з 100-й гадавінай з дня смерці А. С. Пушкіна. Я. Купала абраны членам камітэта. *«ЛіМ», 11 сак.*

*Сакавік, 11.* «Літаратура і мастацтва» паведамляла: «У 1937 г. БДВ выпусціць акадэмічным выданнем першыя тамы твораў народнага паэта рэспублікі Я. Купалы і народнага

паэта рэспублікі Я. Коласа» (звесткі пра падрыхтоўку гэтых выданняў не выяўлены).

У газеце пераклад верша Т. Шаўчэнкі «Думка» («Цяжка, цяжка жыць на свеце...»), інфармацыя пра стварэнне Пушкінскага камітэта БССР і ўваход у яго члены Я. Купалы.

*Сакавік, 17.* «Літаратура і мастацтва» паведаміла, што на Усесаюзным конкурсе на лепшую песню, арганізаваным газетай «Правда», журы прысудзіла Я. Купалу 2-ю прэмію за песню «Выпраўляла маці сына».

*Сакавік, 31.* У Доме пісьменніка прымае ўдзел у сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з піянерамі калгаса імя К. Я. Варашылава Жлобінскага р-на, якія прыехалі на экскурсію ў сталіцу. *«ЛіМ», 7 крас.*

Удзельнічае з Я. Коласам, М. Клімковічам, М. Лыньковым, І. Любанам, В. Залатаровым, М. Грынблатам у пасяджэнні фальклорнай камісіі АН БССР, на якім абмяркоўвалася пытанне пра выданне зборніка беларускіх народных песень. *«Звязда», 2 крас.; «ЛіМ», 12 крас.*

*Красавік, 8.* На пашыраным пленуме праўлення ССП БССР абіраецца ў склад камісіі па вывучэнні пытання аб перакладах. *«ЛіМ», 16 крас.*

*Красавік, 10.* У Маскве выступае на нарадзе, скліканай галоўнай рэдакцыяй кнігі «Дзве пяцігодкі» сумесна з рэдакцыяй «Правды» і праўленнем ССП СССР у сувязі з работай над томам «Родина», які рыхтаваўся да 20-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. *«Правда», 12 крас.*

*Красавік, 10.* Я. Колас піша С. М. Гарадзецкаму: «Янка (Купала.— *Я. С.*) в Москве. Ты его, очевидно, увидишь». *Колас, т. 13, с. 123.*

*Красавік, 11.* У Маскве на пасяджэнні Усесаюзнага Пушкінскага камітэта. *«Правда», 12 крас.*

*Красавік.* На літаратурным вечары ў Гомелі. Чытаў паэму «Над ракою Арэсай» і вершы.

*Май, 13.* У Бабруйску з П. Броўкам, А. Александровічам, В. Сташэўскім па запрашэнні БДТ-2. Прысутнічаў на рэпетыцыях спектакляў па яго п'есах «Паўлінка» і «Прымакі». Прагледзеў эскізы, макеты дэкарацый, праслухаў музыку М. Красева, даў парады. *«ЛіМ», 21 мая; ЭД, с. 576.*

*Май, 17.* Газеты «Красная Чувашия» і «Канаш» («Савет») апублікавалі «Прывітанне народнаму паэту Чувашыі М. І. Паларусаву-Шэлебі» Я. Купалы.

*Май, 20.* На пасяджэнні праўлення ССП Беларусі паведамлена, што Я. Купала будзе перакладаць «Меднага конніка» А. С. Пушкіна. *«ЛіМ», 27 мая.*

*Май, 21.* У «Літаратуры і мастацтве» артыкул І. Дорскага «Янка Купала ў БДТ-2».

*Май, 24.* У газеце «Канаш» пераклад на чувашскую мову верша «Камсамолу» пад назваю «Юнацтва» (перакладчык М. В. Шубасіні).

*Май.* У «Полымі рэвалюцыі» (№ 5) артыкул Я. Казекі «З невычэрпнай крыніцы» пра мастацкія вытокі творчасці Я. Купалы перыяду «Жалейкі».

*Чэрвень, 7.* Напісаны верш «Песня трактарысткі». Упершыню — «Звязда» (№ 132) і «Літаратура і мастацтва» (№ 37), 1936, 11 чэрв. пад загалоўкам «Песня Тані-трактарысткі з Прыямінскай МТС».

*Чэрвень, 8.* Арыштаваны Х. Дунец, рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва».

*Чэрвень, 12.* Разам з Я. Коласам, М. Зарэцкім у Бабруйску (гарадскі тэатр) на вечары вадэвіляў («Паўлінка», «Прымакі», «Пінская шляхта» В. І. Дуніна-Марцінкевіча; пастаноўка П. Малчанава). *«ЛіМ», 17 чэрв.*

*Чэрвень, 14.* У «Камунісце» (Бабруйск) артыкул М. Кручкова «Бліскучая перамога» пра вечар вадэвіляў у Бабруйску.

*Чэрвень, да 17.* Першая прэмія на Усесаюзным конкурсе ЦК ВЛКСМ на лепшую дзіцячую песню за тэкст песні «Маленькі лётчык» (музыка В. Белага). *«ЛіМ», 17 чэрв.*

*Чэрвень, 18.* На жалобным мітынгу ў Доме пісьменніка ў Мінску з прычыны смерці М. Горкага. У дэлегацыю на пахаванне М. Горкага ўвайшлі Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, І. Гурскі, М. Лынькоў, К. Чорны, І. Харык, З. Аксельрод, П. Глебка, А. Вольны.

*Чэрвень, 20.* Удзельнічаў у пахаванні М. Горкага. «Правда» апублікавала артыкул Я. Купалы і Я. Коласа «Памяти великого человека». «Літаратура і мастацтва» і «Рабочий» выказванні Я. Купалы ў сувязі са смерцю М. Горкага «Лепшы настаўнік і друг». У «ЛіМе» фота: беларускія пісьменнікі на дачы М. Горкага ў 1934 г., у «Звяздзе» артыкул Я. Купалы і Я. Коласа «Памяці вялікага чалавека, пісьменніка-грамадзяніна». *«ЛіМ», 20, 27, 29 чэрв.; ПЗТ, т. 8, с. 163, 307, 403.*

*Чэрвень, 21.* Арыштаваны У. Галубок.

*Ліпень, не пазней 9.* У М. Ф. Гікалы на абмеркаванні пісьма І. В. Сталіну. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 512—513.*

*Ліпень, 11.* У «Літаратуры і мастацтве» і іншых газетах «Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну». Аўтары: Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, П. Броўка, П. Глебка, І. Харык.

Вечарам на цэнтральным балконе Дома ўрада Усебеларускі радыёмітынг, прысвечаны 16-й гадавіне вызвалення Бе-

ларусі ад польскай акупацыі і гадавіне ўручэння рэспубліцы ордэна Леніна. Прысутнічалі М. Гікала, М. Галадзед, А. Чарвякоў і іншыя, пісьменнікі Я. Купала, А. Александровіч, П. Броўка, П. Глебка, І. Харык. *«ЛіМ», 18 ліп.*

*Ліпень, 15.* «Чырвоная змена» паведаміла, што кампазітар А. Туранкоў напісаў музыку да верша «Песня трактарысткі».

*Ліпень, 26.* У «Літаратуры і мастацтве» артыкул П. Малчанава «Слова рэжысёра» пра пастаноўку п'ес Я. Купалы «Паўлінка» і «Прымакі» ў Бабруйску і фота: П. Малчанаў у ролі Максіма Кутаса («Прымакі»), Р. Кашэльнікава ў ролі Паўлінкі («Паўлінка»), артыкул Б. Мікуліча «Тры вадэвілі», «Песня Тані-трактарысткі» з нотамі (музыка А. Туранкова, для масавага жаночага хору).

*Жнівень, 3.* У Маскве падпісаны ў друк зборнік Я. Купалы «Под новым солнцем».

*Жнівень, 12.* У «Звяздзе» прывітанне паэта лётчыкам-ардэнаносцам В. Чкалаву, Г. Байдукову, А. Белякову, якія зрабілі бяспрыкладны ў той час пералёт па трасе Масква — Зямля Франца Іосіфа — Петрапаўлаўск-Камчацкі — Хабараўск — Масква.

*Жнівень, да 15.* Увайшоў у склад камітэта па святкаванні 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Коласа. *«Правда», 15 жн.*

*Жнівень, 29.* З Я. Коласам Я. Купалу выклікалі ў ЦК КП(б) Беларусі на гутарку па справе М. Клімковіча. *«Звязда», 2002, 4 і 5 чэрв.; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 517—522.*

У «Літаратуры і мастацтве» выступленне беларускіх пісьменнікаў «Родны, любімы Іосіф Вісарыёнавіч!», якое падпісаў і Я. Купала.

Арыштаваны С. Дарожны.

*Жнівень.* У «Полымі» (№ 8) паведамлялася, што Я. Купала перакладае «Меднага конніка» А. С. Пушкіна.

*Верасень, 10.* У складзе групы пісьменнікаў БССР і Масквы (Я. Колас, А. Александровіч, М. Лынькоў, І. Гурскі, І. Харык, П. Броўка, А. Суркоў, В. Гусеў) выязджае на манеўры Беларускай ваеннай акругі, якія адбываліся 9—12 верасня. Прысутнічалі маршалы Савецкага Саюза К. Я. Варашылаў, С. М. Будзённы, М. М. Тухачэўскі, А. І. Ягораў, чэхаславацкая, французская ваенныя дэлегацыі, ваенная дэлегацыя Вялікабрытаніі. *«Звязда», 10 верас.*

У гонар К. Я. Варашылава Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, П. Броўка, П. Глебка напісалі твор «Дванаццаць песень пра Чырвоную Армію». Упершыню — «Літаратура і мастацтва», № 52, 14 верас.

*Верасень, 11.* У «Правде» «Десять песен...». Аўтарамі названы Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, М. Лынькоў, А. Суркоў, В. Гусеў, І. Гурскі, П. Глебка, І. Харык, П. Броўка.

*Верасень, 28.* З Я. Коласам на адкрыцці ў Мінску Палаца піянераў і акцябрат. *«ЛіМ», 3 кастр.*

*Кастрычнік, 5—11.* На святкаванні 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Коласа.

*Кастрычнік, 5.* На кватэры Я. Коласа вітаў юбіляра ў час сустрэчы з пісьменнікамі, вучонымі, прадстаўнікамі грамадскасці.

*Кастрычнік, 6.* У «Літаратуры і мастацтве» 3 фота: на кватэры Я. Коласа сустрэча пісьменнікаў, вучоных, рабочых-стаханаўцаў, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый. На ўсіх — Я. Купала.

*Кастрычнік, 8.* Удзельнічаў ва ўрачыстым пасяджэнні АН БССР, прысвечаным Я. Коласу.

*Кастрычнік, 11.* У БДТ-1 на вечары Я. Коласа прачытаў верш «Якубу Коласу» («Жыві ў радасці і шчасці»).

У «Літаратуры і мастацтве» (№ 57) і «Звяздзе» (№ 234) верш «Якубу Коласу» («Жыві ў радасці і шчасці»). У «Звяздзе» вітанне Я. Коласу ад беларускіх пісьменнікаў, падпісанае і Я. Купалам.

*Кастрычнік, 13.* Выступіў з чытаннем твораў на вечары ў БДУ, у якім прымалі ўдзел пісьменнікі Масквы, Беларусі, УССР, Смаленскай вобласці (А. Суркоў, Я. Купала, Я. Колас, А. Александровіч, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Хведаровіч, П. Глебка, І. Ле, Т. Масэнка і інш.). *«Звязда», 15 кастр.*

*Кастрычнік, 16.* Арыштаваны А. Дзяркач.

*Кастрычнік, 18.* Разам з Я. Коласам, А. Александровічам і І. Харыкам едзе ў Маскву для ўдзелу ва ўрачыстасцях 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Коласа. *«Звязда», 20 кастр.; «Лит. газета», 20 кастр.*

*Кастрычнік, 19.* Ліст М. М. Накаракаву.

*Кастрычнік, 20.* У маскоўскім Доме пісьменніка выступіў на вечары, прысвечаным юбілею Я. Коласа. Прачытаў верш. Прысутнічалі У. Стаўскі, Дз. Бедны, А. Лахуці, А. Безыменскі, М. Галодны, С. Кірсанаў, М. Ісакоўскі, В. Гусеў, А. Суркоў і інш. Сход адкрыў адказны сакратар ССП СССР У. Стаўскі. Даклад пра творчы шлях юбіляра прачытаў А. Суркоў. З прамовамі і прывітаннямі выступілі сакратар Савета нацыянальнасцей ЦВК СССР А. Хацкевіч, намеснік старшыні СНК БССР Любовіч, Дз. Бедны, народны паэт Таджыкістана А. Лахуці, Я. Купала. Артысты чыталі вершы юбіляра, перакладзеныя на мовы народаў СССР. *«Звязда», 20 кастр.; «ЛіМ», 27 кастр.*

*Кастрычнік, 21.* Падпісаў С. М. Гарадзецкаму свой зборнік «Под новым солнцем» (М., 1936). *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 335.*

*Кастрычнік, 24.* «Звязда» паведаміла, што граматамі ЦВК і СНК БССР узнагароджаны Я. Купала, Я. Колас і інш.

*Кастрычнік, 30.* Напісаў верш «Іспанія будзе свабоднай». Упершыню — «Звязда», 1936, № 252, 2 лістап.; 12 лістапада «Літаратура і мастацтва» (№ 63) надрукавала верш са зменамі.

*Кастрычнік, 31.* Арыштаваны А. Дудар.

*Лістапад, 1.* У БДТ-1 чытаў вершы на вечары, прысвечаным Іспаніі. Адкрыў А. Александровіч. Чыталі свае вершы А. Александровіч, П. Броўка, А. Куляшоў, У. Хадыка, П. Глебка, А. Звонак, З. Аксельрод, Г. Камянецкі. *«Звязда», 3 лістап.; «ЛіМ», 7 лістап.*

Напісаў ліст Я. С. Мазалькову.

*Лістапад, 2.* У Доме пісьменніка вечар, прысвечаны ўзнагароджанню граматамі ЦВК і СНК БССР Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, А. Александровіча, І. Харыка — аўтараў «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну». *«ЛіМ», 12 лістап.*

Арыштаваны В. Каваль.

*Лістапад, 3.* Арыштаваны М. Зарэцкі, Т. Кляшторны.

*Лістапад, 4.* Арыштаваны М. Багун, С. Баранавых, А. Вольны.

*Лістапад, 5.* Разам з Я. Коласам, А. Александровічам, К. Чорным прысутнічаў на тэатралізаваным балі-маскарадзе ў мінскім Палацы піянераў. *«Звязда», 11 лістап.*

*Лістапад, 6.* Арыштаваны В. Маракоў.

*Лістапад, 7.* У «Літаратуры і мастацтве» зварот беларускіх пісьменнікаў «Гераічнаму народу Іспаніі», падпісаны і Я. Купалам, матэрыял «Правадыру народаў вялікаму Сталіну» ў падтрымку Іспаніі (таксама падпісаны і Я. Купалам).

*Лістапад, 11.* Ліст Я. С. Мазалькову.

*Лістапад, 12.* У «Літаратуры і мастацтве» фота: узнагароджаныя граматамі ўрада БССР аўтары «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну».

*Лістапад, 13.* Арыштаваны Я. Скрыган.

*Лістапад, 14.* Арыштаваны С. Баркоўскі, А. Звонак.

*Лістапад, 15.* Арыштаваны С. Шушкевіч, Ц. Гартны.

*Лістапад, да 17.* З А. Александровічам прымае ўдзел у рабоце сесіі Плешчаніцкага райсавета. Прачытаў свае вершы. З А. Александровічам абраны дэлегатамі XII Надзвычайнага Усебеларускага з'езда Саветаў. *«ЛіМ», 17 лістап.*

*Лістапад, 17.* У «Літаратуры і мастацтве» «Паэты і пісьменнікі пра Дом Чырвонай Арміі» (подпіс і Я. Купалы).

*Лістапад, 20.* Напісаў верш «Табе, правадыр...». Упершыню — «Звязда», 1936, № 268, 23 лістап.; «Полымя рэвалюцыі», 1936, №11.

*Лістапад, 20—23.* У прэзідыуме XII Надзвычайнага Усебеларускага з'езда Саветаў. 21 лістапада на вячэрнім пасяджэнні прачытаў верш «Табе, правадыр...». ***«Звязда», 21 лістап.; «ЛіМ», 27 лістап.***

*Лістапад, 22.* У «Звяздзе» (№167) спачуванне з выпадку смерці М. Дзегцяра.

*Лістапад, 23.* XII Усебеларускім з'ездам Саветаў абраны дэлегатам на VIII Надзвычайны з'езд Саветаў.

*Лістапад, 24.* Запоўніў анкету дэлегата VIII Надзвычайнага з'езда Саветаў у Маскве. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 505—506.*

*Лістапад, 25—снежань, 5.* У складзе дэлегацыі БССР удзельнічаў у рабоце VIII Надзвычайнага з'езда Саветаў СССР. З'езд прыняў новую Канстытуцыю СССР. ***«ЛіМ», 10 снеж.***

*Лістапад, 26.* Арыштаваны С. Куніцкі, Б. Мікуліч, У. Хадыка, С. Знаёмы.

*Лістапад, 27.* У «Літаратуры і мастацтве» фота: Я. Купала гутарыць з дэлегатамі-ардэнаносцамі на XII Надзвычайным Усебеларускім з'ездзе Саветаў.

*Снежань, 2.* У Маскве разам з іншымі дэлегатамі VIII Надзвычайнага Усесаюзнага з'езда Саветаў СССР прысутнічаў на вечары кіргізскай паэзіі. *ЭД, с. 296.*

*Снежань, 5.* Арыштаваны З. Астапенка.

*Снежань, 7.* У Мінску разам з Я. Коласам, А. Александровічам, дэлегатамі VIII Надзвычайнага Усесаюзнага з'езда Саветаў СССР удзельнічае ў сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскасці. ***«Полымя рэвалюцыі», № 12.***

*Снежань, 17.* Падпісаў зборнік «Песня будаўніцтву» (1936) М. В. Ісакоўскаму і напісаў яму ліст з Мінска. *ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 344.*

«Літаратура і мастацтва» паведаміла: «Дэлегаты Надзвычайнага VIII з'езда Саветаў беларускія паэты Я. Купала, Я. Колас і А. Александровіч робяць справаздачы аб работах з'езда на сходах працоўных горада. Гэтымі днямі адбыўся сход пісьменнікаў, на якім тт. Александровіч, Я. Колас, Я. Купала выступалі са сваімі ўражаннямі ад з'езда».

*Снежань, 20.* Прысутнічаў на пашыраным пасяджэнні рэспубліканскага Пушкінскага камітэта. ***«Звязда», 23 снеж.***

*Снежань, 24.* У газеце «Рабочий» артыкул Я. Купалы «Прекрасный друг нового общества», прысвечаны М. Астроўскаму, у «Звяздзе» (№ 294) пад загалоўкам «Памяці Мікалая Астроўскага».

*Снежань, да 29.* Як дэлегат VIII Надзвычайнага з'езда Саветаў СССР выступаў перад байцамі і камандзірамі адной з воінскіх часцей мінскага гарнізона. *«ЛіМ», 29 снеж.*

*На працягу года.* Выйшлі з друку: зборнік вершаў і паэм «Песня будаўніцтву»; «Выбраныя творы», т. II; паэма «Над ракою Арэсай» (3-е выд.); «Прымакі» (выд. Усесаюзнага дома народнай творчасці імя Н. К. Крупскай); у Маскве — зборнік «Под новым солнцем»; у Кіеве — «Над ракою Арэсай» на ўкраінскай мове ў перакладзе Т. Масэнкі.

## 1937

*Студзень, 14.* Арыштаваны В. Дружчыц.

*Студзень, 20.* Арыштаваны Г. Жарскі.

*Студзень, 24.* Арыштаваны М. Чарот.

*Студзень, 27.* У газеце «Рабочий» артыкул «Смерть изменникам Родины», у «Літаратуры і мастацтве» 24 студз. пад загалоўкам «Ворагі народа павінны быць знішчаны».

*Студзень, 29.* Напісаны верш «Мала іх павесіць!...». Упершыню —«Літаратура і мастацтва», 1937, № 56, 1 лют.

*Люты, 9.* У «Звяздзе» пераклад уступу да паэмы А. С. Пушкіна «Медны коннік».

*Люты, 10.* У «Звяздзе» (№ 33) артыкул «Любімы паэт» (пра А. С. Пушкіна), у газеце «Рабочий» артыкул «Певец свободы» (пра А. С. Пушкіна); у «Літаратуры і мастацтве» — 1-я частка паэмы «Медны коннік» у перакладзе Я. Купалы.

*Люты, 12.* Разам з Я. Коласам у БДТ-1 на вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці А.С. Пушкіна. Л. Рахленка чытаў урыўкі з «Меднага konніка» ў перакладзе Я. Купалы. *«ЛіМ», 16 лют.; «Полымя рэвалюцыі», № 2, с. 151—153.*

*Люты, 14.* У газеце «Trybuna Radziecka» («Савецкая трыбуна») урыўкі з паэмы «Над ракою Арэсай» у перакладзе на польскую мову Г. Машынскай-Гельтман.

*Люты, 15—19.* Удзельнічае ў рабоце XII Надзвычайнага Усебеларускага з'езда Саветаў, які пасля перапынку працягваў абмеркаванне праекта Канстытуцыі БССР. Разам з Я. Коласам абраны ў склад рэдакцыйнай камісіі для падрыхтоўкі канчатковага тэксту Канстытуцыі з улікам вынікаў абмеркавання праекта на з'ездзе. Надзвычайны з'езд прыняў новую Канстытуцыю БССР. *«ЛіМ», 21 лют.*

*Люты, 20.* У «Литературной газете» артыкул беларускіх пісьменнікаў «Бессмертный образ» з нагоды смерці С. Арджанікідзе. Сярод падпісаўшых і Я. Купала.

*Красавік, 2.* Зацверджаны членам Камітэта па Дзяржаўных прэміях СССР. *«Правда», 2 крас.; «Комс. правда», 3 крас.; «Лит. газета», 5 крас.*

*Красавік, 21.* Падараваў прафесару А. Я. Пракапчуку 4-ы том Збору твораў з аўтографам. *ЭД, с. 499; ПЗТ, т. 9, кн. I, с. 357.*

*Красавік, не пазней 25.* Па просьбе І. К. Лупала для запланаванай Інстытутам сусветнай літаратуры імя М. Горкага гісторыі шматнацыянальнай савецкай літаратуры напісаў аўтабіяграфію.

*Красавік, 25.* Пасылае аўтабіяграфію І. К. Лупалу.

*Красавік, 26.* Сярод іншых падпісвае ліст П. К. Панамарэнку ў абарону А. М. Уласава, арыштаванага 16. 10. 1939 г. *«ЛіМ», 1990, 20 крас.*

*Красавік, 25—27.* Удзельнічаў у рабоце IV сесіі Вярхоўнага Савета БССР. *«Звязда», 26 крас.*

*Красавік.* У часопісе «Karogs» («Сцяг») артыкул Я. Гранта «Беларускі народны паэт Янка Купала» і пераклад на латышскую мову вершаў «Мужык» і «Табе, правадыр...» (пераклала М. Грынфелдэ).

У Казахстан выслана Н. А. Арсеннева з сынамі.

*Май, 1.* У газеце «Туркменская искра» верш «Май» («Да нас у госці май прыходзіць») у перакладзе А. Ніязава — першы пераклад на туркменскую мову твораў Я. Купалы.

*Май, 11.* У «Літаратуры і мастацтве» віншаванне да 30-годдзя творчай працы Д. Бергельсона. Сярод іншых подпіс Я. Купалы.

*Май, 12.* Падараваў А. Ф. Посаху 4-ы том Збору твораў з аўтографам. *«Маладосць», 1964, № 7 (публікацыя Р. Семашкевіча «Ён дружыў з Купалам»); ПЗТ, т. 9, кн. I, с. 356.*

*Чэрвень, 4.* У газеце «Советское искусство» артыкул К. Крапівы «Заметки о белорусской драматургии», у якім ён аналізуе п'есы Я. Купалы «Паўлінка», «Прымакі», «Раскіданае гняздо».

*Чэрвень, 8.* Разам з Я. Коласам і групай беларускіх пісьменнікаў прыязджае ў Маскву на Дэкаду беларускага мастацтва (пачалася 5 чэрвеня). *«Лит. газета», 10 чэрв.; ЭД, с. 210.*

*Чэрвень, 13.* На нарадзе праўлення ССП СССР па пытаннях развіцця беларускай літаратуры, у якой паэт прымаў удзел, цыкл вершаў Я. Купалы «На заходнебеларускія матывы» адзначаны як найбольш прыкметная з'ява ў беларускай паэзіі апошніх гадоў. *«Сов. Белоруссия», 15 чэрв.; «Лит. газета», 20 чэрв.; ЭД, с. 440.*

*Чэрвень, 17.* Прысутнічае на прыёме ў Крамлі ў гонар удзельнікаў дэкады. *«Звязда», 18 чэрв.*

*Чэрвень, 18.* У парку культуры і адпачынку імя М. Горкага разам з Я. Коласам, М. Лыньковым, П. Броўкам і іншымі прымае ўдзел у сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з працоўнымі Масквы. *«Звязда», 20 чэрв.; «Сов. Белоруссия», 20 чэрв.*

*Чэрвень, 20.* У сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння класіка грузінскай літаратуры А. Цэрэтэлі ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Грузінскай ССР. *«Правда», 26 чэрв.*

*Чэрвень, 25.* Удзельнічаў у сходзе інтэлігенцыі г. Мінска, прысвечанага вынікам Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве. *«Звязда», 26 чэрв.*

*Чэрвень, 26.* Прысутнічаў на прыёме, наладжаным СНК БССР у гонар удзельнікаў дэкады. *«Звязда», 27 чэрв.*

*Ліпень, 3.* «Літаратура і мастацтва» паведаміла, што Я. Купала падпісаўся на 3500 руб. пазыкі 3-й пяцігодкі.

*Ліпень, да 6.* Выбраны членам Прэзідыума АН БССР. *«Правда», 6 ліп.; «Известия», 6 ліп.*

*Ліпень, 11.* У газеце «Tiesa» («Праўда») па-літоўску няпоўны артыкул «Культурны прагрэс народаў СССР».

*Жнівень, 2.* Я. Колас С. Гарадзецкаму: «Янка (Купала.— *Я. С.*) уехал на свою дачу в районе Орши. Как он живет, что делает, не знаю. Вообще он не пишет мне и на мои письма не отвечает». *Колас, т. 13, с. 206.*

*Верасень, да 6.* У склад камісіі па правядзенні 35-годдзя творчай дзейнасці Я. Купалы абраны Я. Колас. Старшыня камісіі сакратар ЦК КП(б)Б У. Малін, члены: нарком асветы БССР Е. Уралава, прэзідэнт Акадэміі навук К. Гораў, адказны рэдактар «Звязды» Ц. Гарбуноў, пісьменнікі М. Лынькоў, М. Клімковіч, П. Броўка, П. Пестрак і інш. *Мушынскі, с. 313.*

*Верасень, 6.* Першае пасяджэнне камісіі па правядзенні 35-годдзя творчай дзейнасці Я. Купалы. *«ЛіМ», 7 верас.*

*Верасень, да 7.* Уведзены ў камісію па правядзенні юбілею З. Бядулі. *«ЛіМ», 7 верас.*

*Верасень, 8.* «Правда» паведаміла пра выхад Збору твораў Я. Купалы ў Дзяржвыдзе БССР (не зафіксаваны).

*Верасень, 18.* Прыехаў у Мінск з Ляўкоў.

*Верасень, 19.* Я. Колас С. Гарадзецкаму: «Осенью будем отмечать и очень широко юбилей Янки Купалы, затем Бядули. Состою членом юбилейного комитета. Надо писать о Янке

статью для «Правды» или «Известий». Между прочим, извещаю тебя, что юбилейный комитет хочет обратиться к тебе с просьбой написать статью о Янке Купале для русской печати как переводчика Купалы и его друга. Юбилей назначается на 8 декабря текущего года... Имею надежду увидеть тебя в Минске на юбилее Янки Купалы. Очевидно, к нам приедет в этот день и правление Союза писателей из Москвы. Поэтому постепенно готовься, Сережа. Янка только вчера приехал со своей дачи». *Колас, т. 13, с. 207—208.*

*Верасень, 21.* «Літаратура і мастацтва» паведамляла: «Члены праўлення ССП БССР і група пісьменнікаў — Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, П. Броўка, К. Крапіва, П. Глебка, З. Аксельрод, М. Танк, П. Пестрак, Г. Камянецкі, М. Модэль, А. Кучар гэтымі днямі выязджаюць у Беласток, дзе будзе прадоўжана работа праўлення ССП БССР па прыёму лепшых пісьменнікаў заходніх абласцей, якія творча выявілі сябе, у Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР».

*Кастрычнік, да 4.* Разам з Я. Коласам, П. Броўкам, Я. Бранеўскай і іншымі абіраецца членам рэспубліканскай камісіі па правядзенні 85-годдзя з дня смерці А. Міцкевіча. *«Звязда», 4 кастр.; «Сов. Белоруссия», 4 кастр.*

*Кастрычнік, 11.* Я. Колас С. М. Гарадзецкаму: «Завтра в г. Белостоке состоится сессия нашей Академии наук. Сегодня в 12 часов дня отходит поезд на Белосток. Я решил поехать завтра с утра на машине. Проехать надо около 400 километров. Но погода ясная. Полагаю, что ехать автомобилем будет неплохо. Дороги тоже неплохие. Решил выехать 12 октября в 7 ч. у[тра]. Рассчитываю доехать до Белостока за восемь часов. Со мной едет и Янка (Купала.— *Я. С.*). По крайней мере, вчера он изъявил свое согласие поехать вместе со мной. Сессия продлится до 15 октября...» *Колас, т. 13, с. 209—210.*

*Кастрычнік, 12—15.* Разам з Я. Коласам прымае ўдзел у выязной сесіі АН БССР у Беластоку. Наведаў Беластоцкі педінстытут. З дакладам пра творчасць народных паэтаў выступіў В. Барысенка. Я. Купала прачытаў студэнтам вершы «Калыханка», «З новай думкай», «Наша моладзь», «Час быў тады». *«Вольная праца», 16 кастр.; «ЛіМ», 26 кастр.*

*Кастрычнік, 12.* Напісаў запіску акадэміку В. І. Пічэце.

*Кастрычнік, да 23.* Увайшоў у склад Усесаюзнага камітэта па правядзенні 85-годдзя з дня смерці А. Міцкевіча. *«Правда», 23 кастр.*

*Кастрычнік, 27.* «Литературная газета» паведаміла: у сувязі з 85-годдзем з дня смерці А. Міцкевіча прэзідыум ССП СССР стварыў камітэт па ўшанаванні яго памяці. «У яго склад увайшлі М. Асееў, Г. Абашыдзе, Д. Благой, В. Васілеўская, Я. Купала, Я. Колас, Ю. Пшыбась, М. Рыльскі, А. Талстой, М. Танк, А. Твардоўскі, М. Ціханаў і інш.».

*Кастрычнік, 29.* Першае пасяджэнне рэспубліканскай камісіі па правядзенні 85-годдзя з дня смерці А. Міцкевіча ў Навагрудку, у якім Я. Купала прыняў удзел як член Усесаюзнага і Рэспубліканскага камітэта па ўшанаванні памяці паэта. *«Звязда», 30 кастр.; «ЛіМ», 23 лістап.*

*Лістапад, 2.* У «Літаратуры і мастацтве» артыкул Б. Іофе «Аб рамантызме Купалы», у «Звяздзе» артыкул Р. Бярозкіна «Гістарычныя паэмы Я. Купалы», у якім ён разглядае «Курган» і «Магілу льва».

*Лістапад, 4.* З М. Лыньковым наведаў Дом-музей А. Міцкевіча ў Навагрудку. *«ЛіМ», 23 лістап.*

*Лістапад, 17.* Я. Колас піша С. М. Гарадзецкаму: «Все еще висит над головой статья о Янке Купале, которую еще не начинал писать. [...] Кстати, Янка сейчас в Москве. Несомненно, что он зайдет к тебе, так что писать о нем не буду. Скажу лишь, что я послал ему письмо, просил разузнать от Лахути, как отзывался М. Горький о Н. Островском. Один украинец-красноармеец как-то заходил ко мне. Из каких-то источников ему известно, что Лахути может передать мнение М. Горького об Островском как о писателе. Украинец этот интересуется биографией и творчеством Н. Островского. У него, украинца, есть пять неизвестных писем Островского. Я читал их. Мне захотелось помочь соседу, и я написал Янке письмо». *Колас, т. 13, с. 212—213.*

*Лістапад, 23.* У «Літаратуры і мастацтве» пераклады з А. Міцкевіча: «Ваявода» («Czaty»), перапрацаваны пераклад «Трох Будрысаў», нататка Я. Купалы і М. Лынькова пра наведванне музея А. Міцкевіча.

*Лістапад, 24.* «Литературная газета» паведаміла, што Я. Купала — рэдактар кнігі «Беларуская літаратура XIX стагоддзя».

*Лістапад, 26.* Выступіў у Маскве ў Калоннай зале Дома Саюзаў на вечары памяці А. Міцкевіча. Прачытаў вершы «Песня будаўніцтву» і «Трэба нам песень». *«Правда», 27 лістап.*

*Лістапад.* У сувязі з юбілеем А. Міцкевіча перапрацоўвае свае пераклады «Удагонку», «Пані Твардоўская», «З «Конрада Валенрода», зробленыя ў дакастрычніцкі час.

*Снежань, 3.* У часопісе «Literatūros Avize» («Літаратурная газета», Рыга) артыкул Я. Гранта «Янка Купала».

*Снежань, 5.* У газеце «Камуніст» (Тбілісі) артыкул А. Баратэлі «Янка Купала».

*Снежань, 7.* У Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна адкрылася вялікая выстаўка, прысвечаная 35-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. *ЭД, с. 196.*

У газеце «Jaunais Komunārs» («Юны камунар») у Рызе артыкул У. В. Пігулеўскага «Янка Купала».

*Снежань, 8.* У Вялікім тэатры оперы і балета БССР урачысты вечар, прысвечаны 35-годдзю творчай дзейнасці Я. Купалы. Даклад пра жыццёвы і творчы шлях паэта С. Я. Вальфсона. Юбіляра віталі А. Суркоў, А. Венцлава, Т. Масэнка, С. Гарадзецкі, К. Крапіва, С. Галкін, П. Пестрак, В. Барысенка. Я. Купала атрымаў віншаванні ад ЦК КП(б)Б, СНК БССР, ССП СССР, пісьменнікаў А. Фадзеева, В. Гусева, К. Транёва, В. Лебедзева-Кумача, М. Галоднага, А. Новікава-Прыбоя, М. Ісакоўскага, М. Рыльскага, П. Тычыны, А. Пракоф'ева, У. Бахмецьева, М. Ціханава, М. Зошчанкі, В. Каверына, Б. Лаўранёва, В. Форш, М. Сланімскага, А. Карнейчука і інш. Прысутнічалі таксама Л. Гіра, В. Крэве-Міцкявічус, С. Нерыс, М. Танк і інш. З прамовай выступіў юбіляр. У «Известиях», «Звяздзе», «Чырвонай змене» Я. Колас выступіў з артыкуламі «Прывітанне другу» і «Крыштальная празрыстасць». У апошнім пісаў: «Паэзія Купалы неадлучна звязана з народам і сваімі карэннямі глыбока ўрастае ў народную глебу». З успамінаў А. Венцлавы: «Першы раз я ўбачыў яго (Я. Коласа.— *Я. С.*) у даваенным Мінску, у снежні 1940 года, калі мы з нашым незабыўным Пятрасам Цвіркам прыехалі на 35-гадовы юбілей літаратурнай дзейнасці другога буйнейшага беларускага паэта — Янкі Купалы. Ужо тады мы заўважылі, якой вялікай любоўю беларускі народ любіць сваіх слаўных сыноў Янку Купалу і Якуба Коласа. Між іншым, амаль увесь час абодвух паэтаў мы бачылі разам. Яны, відаць, жылі і працавалі рука ў руку, сэрца ў сэрца. Мы, першыя савецкія літоўскія пісьменнікі, якія прыехалі тады з толькі што створанай Савецкай Літвы, пераканаліся, што абодва песняры Беларусі — вельмі простыя, прывабныя і сардэчныя людзі. Мы з імі сустракаліся не толькі ў Саюзе пісьменнікаў, у тэатры оперы і балета, дзе адбываліся юбілейныя ўрачыстасці, але таксама і ў доміку Янкі Купалы». *«ЛіМ», 1962, 2 лістап.*

У «Советской Белоруссии» артыкул С. М. Гарадзецкага пра Я. Купалу «За что мы его любим».

У газеце «Tarybų Lietuva» («Савецкая Літва») артыкул Я. Склютаўскаса (першы ў літоўскім савецкім друку) «Янка Купала. Да 35-годдзя творчай працы», у якім аўтар ахарактарызаваў зборнікі «Жалейка», «Гусляр», драму «Раскіданае гняздо», назваў нашага паэта «найвялікшым беларускім паэтам, які сваёй здзіўляючай творчай тэхнікай і мастацкім стылем значна пераўзышоў папярэдніх беларускіх пісьменнікаў».

У азербайджанскай газеце «Адабіят газеты» («Літаратурная газета») артыкул «35-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы».

У часопісе «Октобэр» («Кастрычнік», Мінск) артыкул З. Аксельрода «Я. Купала і яўрэйскі чытач».

У клубе латышскіх пісьменнікаў (Рыга) вечар, прысвечаны 35-годдзю літаратурнай працы Я. Купалы. Адкрыў В. Лукс (Якабсан). Даклад Я. Гранта. Выступілі Я. Ніедрэ, украінскі пісьменнік Н. Рыбак.

У «Літаратуры і мастацтве», «Звяздзе», «Советской Белоруссии» вітанне грузінскага паэта С. Эулі.

*Снежань, 11.* У Мінскім палацы піянераў вечар сустрэчы Я. Купалы з піянерамі і школьнікамі. Прымалі ўдзел З. Бядуля, М. Лынькоў, К. Крапіва, К. Чорны, Т. Масэнка, эстонскі пісьменнік А. Але і інш. *«Полымя рэвалюцыі», 1941, № 1, с. 9, 188; «ЛіМ», 21 снеж.; ЭД, с. 655.*

*Снежань, 12.* Я. Колас Н. А. Нагіной: «Все эти дни уходили на юбилейные дела: отмечали 35-летие литературной деятельности Янки Купалы. Надо было написать хоть понемножку в разные газеты. Была моя заметка и в «Известиях» за 8 декабря. Ну, а там торжественное заседание, затем вечер у юбиляра, а потом банкет». *Колас, т. 13, с. 214—215.*

У газеце «Jaunais Komunārs» («Юны камунар») вершы «Арлянятам» і «Дзень Канстытуцыі», перакладзеныя на латышскую мову М. М. Рудзіцісам.

*Снежань, 14.* У «Літаратуры і мастацтве» прамова на вечары 35-годдзя літаратурнай дзейнасці.

У эстонскай газеце «Sirp ja Vasar» («Серп і молат») артыкул «Народны паэт Янка Купала (З нагоды 35-й гадавіны яго літаратурнай дзейнасці)» — першая інфармацыя пра Я. Купалу ў эстонскай літаратуры.

*Снежань, 15.* У газеце «Tiesa» («Праўда») П. Цвірка змясціў артыкул «На юбілеі Янкі Купалы».

*Снежань, 19.* У «Правде» «Письмо в редакцию» з падзякаю ўсім, хто павіншаваў яго з 35-годдзем літаратурнай працы.

*Снежань, 20.* «Правда» паведаміла, што ў Маскве на выстаўцы выяўленчага мастацтва, прысвечанай 25-й гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі, дэманстраваліся скульптурныя партрэты Я. Купалы і Я. Коласа, зробленыя З. Азгурам.

*Снежань, 21.* У газеце «Sirp ja Vasar» («Серп і молат») артыкул А. Але «Дні ўшанавання народнага паэта Янкі Купалы» (з партрэтам Я. Купалы, артыкул без подпісу). *ЭД, с. 678.*

*Снежань, 22.* У Вільні вечар 35-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Купалы. *«Полымя рэвалюцыі», 1941, № 1, с. 188.*

*Снежань, 26.* У Маскоўскім клубе пісьменнікаў творчы вечар Я. Купалы, арганізаваны праўленнем ССП СССР. У вечары ўдзельнічалі А. Фадзееў, А. Новікаў-Прыбой, В. Лебедзеў-Кумач, А. Твардоўскі, І. Фрэнкель, С. Галкін і інш.; беларуская дэлегацыя — М. Лынькоў, П. Броўка, М. Танк, Я. Бранеўская, М. Паслядовіч, М. Модэль. Уступнае слова А. Фадзеева. Даклад С. Я. Вальфсона. Вершы, прысвечаныя юбіляру, чыталі С. Гарадзецкі, М. Танк, П. Броўка. Я. Купалу віталі М. Асееў, В. Лебедзеў-Кумач, А. Суркоў і інш. Былі прачытаны вершы Я. Купалы ў перакладзе М. Святлова, А. Суркова, М. Галоднага. *«Полымя рэвалюцыі», 1941, № 1, с. 188.*

*Снежань.* Зберaглося фота: Я. Купала, П. Цвірка, А. Венцлава, П. Пестрак. *Янка Купала. Альбом. Мн., 1972, с. 125; ЭД, с. 484.*

У «Полымі рэвалюцыі» (№ 12) артыкул Ю. Пшыркова «Дарэвалюцыйныя паэмы Янкі Купалы», у якім аўтар выступае супраць вульгарызатарскай крытыкі творчасці паэта.

Б. Іофе зрабіў даклад пра творчасць Я. Купалы на пасяджэнні навукова-даследчага гуртка пры кафедры рускай славянскай філалогіі Ленінградскага універсітэта, прысвечанага 35-годдзю літаратурнай дзейнасці паэта.

*На працягу года.* Выйшлі з друку: зборнік «Ад сэрца»; 4-ы том Збору твораў; зборнікі «Для дзяцей», «Паэмы»; асобнае выданне паэмы «Над ракою Арэсай»; зборнік тэкстаў «Беларуская літаратура XIX ст.» пад рэдакцыяй Я. Купалы; на рускай мове ў Мінску — «Курган»; «Пьесы», М.—Л.; у Баку на азербайджанскай мове «Хлопчык і лётчык».

У. Ф. Луцэвіч успамінала: «Янка Купала пасля заканчэння працы над новым варыянтам перакладу балады «Пані Твардоўская» ўзяўся перакладаць крымскія санеты. Колькі і якія пераклаў ён санеты, я не памятаю, але перакладаў ён многа, працу працягваў вясною 1941 г. Пераклады сане-

таў нідзе не друкаваліся, яны загінулі ў Мінску ў пачатку вайны». *Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960, с. 56.*

## 1941

*Студзень, 12.* У газеце «Tarybų Lietuva» («Савецкая Літва») верш «Заўсёды наперад» у перакладзе на літоўскую мову А. Хургінаса.

*Студзень, 17.* Я. Колас С. М. Гарадзецкаму: «Заходил ко мне сейчас наш москвич Янка (Купала.— *Я. С.*). Он приехал сегодня из Москвы и сегодня же уезжает обратно. Приехал за материалами по изданию своих стихов — экстренно издают его сборник «От сердца» несколько в расширенном виде. Ты можешь поздравить его с Государственной премией» (Дзяржаўная прэмія СССР за зборнік «От сердца» Я. Купалу была прысуджана пастановай СНК СССР ад 15 сакавіка.— *Я. С.*). *Колас, т. 13, с. 219.*

*Студзень, 25.* Браў удзел у Маскве ў рабоце Усесаюзнага Лермантаўскага камітэта. *«Правда», 28 студз.*

*Студзень, 28.* Напісаў з Масквы ліст М. В. Ісакоўскаму, жадаў хутчэй ачуняць ад хваробы, спадзяваўся, што Ісакоўскі будзе перакладаць яго вершы для будучага зборніка.

*Студзень.* У «Полымі рэвалюцыі», № 1 вершы, прысвечаныя Я. Купалу: С. Гарадзецкага «Ад сэрца» (пераклад А. Астрэйкі), Т. Масэнкі «Дарога ў Мінск» (пераклад А. Куляшова).

*Люты, 1.* У «Літаратуры і мастацтве» артыкул І. Ляндрэса «У кіпцюрах цэнзуры» (пра верш Я. Купалы «Паэта і цэнзар»). Тут жа віншаванне П. Тычыну, падпісанае і Я. Купалам.

*Люты, 17.* У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў (Я. Колас, К. Крапіва) выязджае ў Тбілісі на святкаванне 20-годдзя Грузінскай ССР. *«Звязда», 19 лют.*

*Люты, 18.* «Літаратура і мастацтва» паведаміла, што ў в. Каменка на Уздзеншчыне пастаўлена «Паўлінка».

*Сакавік, 2—21.* З Я. Коласам адпачывае ў Цхалтуба. *Мушынскі, с. 320.*

*Сакавік, 4.* Я. Колас Н. А. Нагіной: «И вот со второго марта я нахожусь в Цхалтубо. Я не один: со мной и Янка Купала. Он уже третий раз здесь, и человек, можно сказать, свой. Поэтому мы окружены вниманием со стороны медицинского персонала. Наша докторша, Тина Дмитриевна, грузин-

ка, очень милый человек и прекрасная девушка, которой можно только восхищаться. Нам прописаны ванны, и мы вчера приняли первую. [...] Числа 22 мы выедем отсюда, остановимся на короткое время в Тбилиси, а оттуда домой». *Колас, т. 13, с. 220—221.*

*Сакавік, 12.* Разам з Я. Коласам паслаў у рэдакцыю газеты «Звязда» тэлеграму, у якой адобрыў пастанову ўрада і ЦК КП(б) Беларусі аб асушэнні балот у БССР (надрукавана ў газеце 13 сак.).

*Сакавік, 15.* Пастановай СНК СССР Я. Купалу прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР 1-й ступені за зборнік «От сердца» (М., 1941). *«Правда», 16 сак.; «ЛіМ», 22 сак.*

*Сакавік, 16.* У «Литературной газете» артыкул С. Гарадзецкага «Любимый певец».

*Сакавік, 17.* У «Правде» артыкул Я. Мазалькова «Янка Купала».

*Сакавік, 18.* У сувязі з прысуджэннем Дзяржаўнай прэміі СССР напісаў артыкул «Усе свае сілы аддадзім народу» для газет «Звязда» і «Советская Белоруссия». *«Звязда», 19 сак.*

*Сакавік, 19.* У «Звяздзе» (№ 66) артыкул «Пра вялікага Сталіна песня мая».

*Сакавік, 21.* У «Літературної газеті» (Кіеў) артыкул С. Крыжаніўскага «Пясняр беларускага народа».

*Сакавік, 22.* У «Літаратуры і мастацтве» артыкул М. Лынькова «Наша гордасць».

*Сакавік, 23.* У газеце «Tiesa» («Праўда») пад назваю «Родны край» верш «Абвілася краіна...» на літоўскай мове ў перакладзе Ф. Кірша. *ЭД, 297.*

*Сакавік, 23—24.* Напісаў вершы «Дзякую партыі Леніна — Сталіна». Упершыню — «Правда», 1941, № 85, 27 сак. (на беларускай мове) з паметай: Тбілісі — Масква; «Паклон мой народу за песні». Упершыню — «Звязда», 1941, № 101, 30 сак. з паметаю: Цхалтуба — Масква.

У газеце «Гомельская праўда» артыкул Р. К. Сабаленкі пра Я. Купалу «Песні ад шчырага сэрца».

*Красавік, 1.* Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў Палескаму абласному драматычнаму тэатру і Аршанскаму настаўніцкаму інстытуту імя Янкі Купалы. *«Звязда», 3 крас.; «Сов. Белоруссия», 3 крас.*

*Красавік, 10.* З Масквы паслаў пісьмо Ю. В. Бібіле ў Саратаў.

*Красавік, 21.* Напісаў верш «З Першым маем». Упершыню — «Звязда», 1941, № 103, 1 мая з паметаю: Масква.

У Маскве на пасяджэнні Камітэта па Дзяржаўных прэміях пад старшынствам У. І. Неміровіча-Данчанкі Я. Купалу ўручаны дыплом лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР. *«Сов. Белоруссия», 23 крас.*

*Красавік, да 29.* У новым складзе рэдкалегіі часопіса «Полымя» Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, К. Крапіва, М. Клімковіч, П. Пестрак. Зацверджаны праўленнем ССП Беларусі. *«ЛіМ», 29 крас.*

*Красавік.* Пісьмо М. І. Шыманскаму.

*Май, 1.* У газеце «Пионерская правда» пад назваю «Сталин — пример во всем» артыкул Я. Купалы.

У газеце «Komjanima Tiesa» (Вільня) зварот да моладзі Літвы «Будзь гатоў!». *ПЗТ, т. 8, с. 206—207, 415—416.*

*Май, 6.* Я. Колас С. М. Гарадзецкаму: «Янка (Купала.— *Я. С.*) благоденствует. С первого мая не видел его. Несколько раз звонил, но, как ни позвоню, он все спит. Так и не поговорил с ним...» *Колас, т. 13, с. 229.*

*Май, 15—19.* У Вільнюсе. Узначальваў беларускую дэлегацыю. *Мушынскі, с. 322; ЭД, с. 150.*

*Май, 16.* У АН Літвы прыняты прэзідэнтам В. Крэве-Міцкявічусам. Дэлегацыя дамовілася пра перадачу Беларускай ССР матэрыялаў, звязаных з гісторыяй беларускага народа. Вечарам спатканне з мясцовымі пісьменнікамі, журналістамі, прадстаўнікамі мастацтва. Сустракаўся з Л. Гірай, А. Венцлавай, П. Цвіркам, А. Жукаўскасам, В. Мікалайцісам-Пуцінасам.

*Май, 17.* Сустрэча з вучнямі вільнюскай беларускай сярэдняй школы. *«Звязда», 20 мая; «ЛіМ», 24 мая; ЭД, с. 114.*

*Май, 24.* У Маскве ўдзельнічаў у пасяджэнні Усесаюзнага Лермантаўскага камітэта. *«Правда», 25 мая.*

Фота ў «Літаратуры і мастацтве»: Я. Купала, Я. Колас, А. Венцлава, Ц. Гарбуноў, Л. Гіра, М. Ларчанка, А. Жукаўскас, журналіст Д. Умру, акадэмік В. Мікалайціс-Пуцінас.

*Чэрвень, 12.* З М. Лыньковым, П. Броўкам выехаў у Рыгу на Першы з'езд латышскіх пісьменнікаў. *«Звязда», 13 чэрв.*

*Чэрвень, 13.* Я. Ніедрэ як старшыня аргкамітэта СП сустракаў у Рызе дэлегацыю беларускіх пісьменнікаў на чале з Я. Купалам. *ЭД, с. 439.*

*Чэрвень, 14.* «Літаратура і мастацтва» паведаміла, што Я. Купала падпісаўся на 10 000 руб. пазыкі 3-й пяцігодкі.

*Чэрвень, 14—15.* У Рызе на з'ездзе латышскіх пісьменнікаў разам з А. Фадзеевым, М. Асеевым, В. Лебедзевым-Кумачом і інш.

*Чэрвень, 17.* Прысутнічаў на прыёме ў Юрмале (Ліелупэ) на дачы Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Латвіі А. Кірхенштэйна з нагоды заканчэння Першага з'езда латышскіх пісьменнікаў. *ЭД, с. 296.*

*Чэрвень, 20.* Вяртаючыся з Рыгі ў Мінск, запрошаная літоўскімі пісьменнікамі беларуская дэлегацыя заехала ў Каўнас. Там удзельнікаў дэлегацыі і заспела вайна. *ЭД, с. 291.*

*Чэрвень, 23.* Я. Купала ўбачыў палаючы Мінск.

*Чэрвень, 24.* Выехаў з Уладзіславай Францаўнай у Ляўкі на дачу. У той жа дзень падчас бамбардзіроўкі згарэў дом Я. Купалы, загінулі архіў і бібліятэка паэта (каля 20 000 кніг).

*Чэрвень, 26—27.* Ноч з 26-га на 27 чэрвеня ў Ляўках на дачы Я. Купалы правёў Я. Колас з сям'ёй.

*Чэрвень, 30.* З жонкаю пакінуў дачу ў Ляўках. Выехаў у Маскву.

*Ліпень, 3.* Ад агню нямецка-фашысцкай артылерыі згарэла дача Я. Купалы ў Ляўках (адноўлена ў 1982 г.).

*Ліпень, 7.* З У. Ф. Луцэвіч прыехаў у Маскву.

*Ліпень, 11.* У «Известиях» (№ 162) артыкул «Поднялась Беларусь».

*Ліпень, 17.* У «Известиях» артыкул «Не будет белорус рабом немецких баронов!».

*Ліпень, 18.* У «Правде» артыкул «Германский фашизм — злейший враг белорусского народа».

*Ліпень, 22.* У газеце «Красный флот» артыкул «Белорусский народ не позволит себя закабалить».

*Ліпень, 24.* «Гомельская праўда», «За Савецкую Беларусь», «Советская Белоруссия» змясцілі зварот Я. Купалы і Я. Коласа да беларускага народа, у якім яны заклікалі да рашучай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

*Ліпень, 31.* У газеце «За Савецкую Беларусь» верш «Паўстаў народ».

*Ліпень, пасля 7—жнівень, да 7.* У Клязьме жыве пэўны час з жонкаю ў сваякоў Марыі Дзмітрыеўны і Я. Коласа Каменскіх. *Мушынскі, с. 324.*

*Жнівень, 1.* Я. Колас піша М. Лынькову: «Прасядзелі дзень на ўскрайку лесу, а пад вечар прыслаў Янка (Купала.— *Я. С.*) сваю машыну — ён выехаў загадзя на дачу. Паначавалі ў яго... Янка ў Маскве. Некалькі дзён жыве ў мяне — тут лепей». *Колас, т. 13, с. 236.*

*Жнівень, 6.* Я. Колас А. Усу: «Купала в Москве. В последнее время он жил здесь, у меня. Сегодня уехал в Москву». *Колас, т. 13, с. 237.*

*Жнівень, 11.* Выступіў на Першым Усеславянскім мітынгу ў Маскве. *«Правда», 12 жн.; «Лит. газета», 13 жн.*

*Жнівень, 12.* У «Правде», «Известиях», «Комсомольской правде» зварот Я. Купалы «Выше знамя борьбы за свободу и независимость!», з якім ён выступіў у Маскве 11. 8. 1941 г. на Першым Усеславянскім мітынгу салідарнасці ў змаганні з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

У «Известиях» пад матэрыялам «Братья угнетенные славяне!» подпіс і Я. Купалы.

*Жнівень, 20.* У азербайджанскай «Адэбіет газеты» («Літаратурная газета») прамова Я. Купалы на Першым Усеславянскім мітынгу.

*Жнівень, 22.* У «Красной звезде» артыкул «Народная война» пра партызанскі рух на Беларусі.

*Жнівень, канец.* Прыязджае ў Чарнарэцкае лясніцтва (Маскоўска-Казанская чыгунка). Жыў тут з жонкаю і ў Каломне ў доме Шыманскіх да сярэдзіны кастрычніка. *Народны паэт Беларусі, с. 208; ЭД, с. 671.*

*Верасень, 5.* У газеце «За честь Родины» апублікаваны артыкул Я. Купалы «Земля горит под ногами фашистов».

*Верасень, 11.* Падпісаў свае «Избранные стихи» (М., 1941) І. Грамовічу. *ЭД, с. 167; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 338.*

*Верасень, 15.* Я. Колас А. М. Броўка, жонцы П. У. Броўкі: «Петрусь узнал, что я в Ташкенте, из моего письма к Купале. Купала мне еще ничего не ответил...» *Колас, т. 13, с. 239.*

*Верасень, 18.* У Каломне наведвае рэдакцыю газеты «Коломенский рабочий».

*Верасень, 19.* У Маскве напісаў верш «Грабежнік». Упершыню — у прамове «Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!» на радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа 18 студзеня 1942 г. у Казані. *«Красная Татария», 1942, № 16, 20 студз.* У 1942 г. у Казані быў надрукаваны лістоўкай з паметай: «Чырвоным партызанам ад працоўных Татарыі».

*Верасень, 22.* Сустрэўся з рабочымі Каломенскага машынабудаўнічага завода. Прачытаў вершы. *«Коломенский рабочий», 24 верас.*

*Верасень, 28.* У «Красной звезде» (№ 229) апублікаваны ў перакладзе М. Галоднага верш «Беларускім партызанам», на беларускай мове — «За Савецкую Беларусь», 1941, 7 кастр.

*Кастрычнік, 2.* Я. Колас П. Броўку: «Вось ужо каторая пара, а Янка (Купала.— *Я. С.*) хоць бы слова напісаў...» *Колас, т. 13, с. 242.*

*Кастрычнік, 8.* У «Учительской газете» артыкул «Белорусский народ не пойдет в рабство» (датуецца 12.9.1941 г.).

*Кастрычнік, 10.* У газеце «Красный флот» артыкул «Партизанский удар».

З Масквы напісаў В. Я. Кірпоціну.

*Кастрычнік, 14.* Просіць В. Я. Кірпоціна замест яго з жонкаю эвакуіраваць Б. А. Емельянава. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 264.*

*Кастрычнік, сярэдзіна.* Выехаў з Масквы ў Казань. *Ліст да Я. С. Мазалькова ад 20.4.1942 г.*

*Кастрычнік, 27—лістапад, 11.* Жыў на кватэры С. В. Эльгера ў Чэбаксарах. Сустракаўся з Н. І. Шэлебі, Я. Ухсаем і інш. *«ЛіМ», 1962, 11 мая.*

*Кастрычнік, 28.* Чувашскі паэт Н. І. Шэлебі падпісаў Я. Купалу сваю кніжку «Песня аўтаноміі» (Чэбаксары, 1940): «Народному поэту Белоруссии, глубокоуважаемому Я. Купале. Поэт Чувашии Н. И. Шелеби. 28.X.1941».

*Кастрычнік, 29.* Зборнік «От сердца» (М., 1941) падпісаў С. В. Эльгеру. *ЭД, с. 675; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 368.*

Я. Ухсай напісаў на сваёй кнізе «Тудзімер» (драма ў вершах, Чэбаксары, 1941): «Янке Купале по-дружески. Я. Ухсай. 29.10.1941 г. Чебоксары». *ЭД, с. 618.*

*Лістапад, 7.* У «Савецкай Беларусі» артыкул «Радзіма кліча да помсты!».

*Лістапад, 13—чэрвень, 13, 1942 г.* Пасяліўся ў пасёлку Пячышчы Татарскай АССР (ваколіцы Казані) з У. Ф. Луцэвіч у дырэктара мельзавода І. Я. Наякшына. Да Я. Купалы прыехаў К. Чорны. *ЭД, с. 139.*

*Лістапад, 20.* Я. Колас А. М. Броўка, жонцы П. У. Броўкі: «Обо мне узнал он (П. У. Броўка.— *Я. С.*) из моего письма, посланного Янке Купале еще в начале сентября. На это письмо Купала мне так и не ответил. Где он сейчас, я так и не знаю». *Колас, т. 13, с. 245.*

*Лістапад — першая палавіна снежня.* З Пячышчаў пераехаў у Казань. Жыў у гасцініцы «Татарстан». *Такі ён быў, с. 314.*

*Снежань, 3.* Я. Колас П. У. Броўку: «Ад Швэдзіка я дачуўся аб Купале. Ён спыніўся ў Чэбаксарах, шыбуючыся ў Казань на сваёй машыне... Я не трачу надзеі атрымаць ад Янкі пісьмо». *Колас, т. 13, с. 250.*

*Снежань, 31.* Новы год сустрэў на кватэры М. С. Юдзіна з жонкаю і І. Я. Наякшыным у г. Верхнім Услоне (Татарская АССР). *ЭД, с. 688.*

*На працягу года.* Выйшлі з друку ў Маскве: зборнік вершаў «От сердца», «Избранные стихи», «Стихи о Родине»; брашура «Народ — мститель» (выд. газеты «Савецкая Беларусь»), у Ашхабадзе на туркменскай мове «Выбраныя вершы і паэмы» (перакладчыкі А. Ніязаў, Б. Кербабаеў), у г. Горкім — «О народной войне», «Советским детям».

Напісаны артыкулы «О народной войне». Упершыню — кн. «Советским детям» (г. Горкі, 1941); «Народ — мститель». Упершыню — брашура «Народ — мститель» (М., 1941); «Привет белорусскому слову!» Упершыню — зб. «Публіцыстыка» (Мн., 1972); «Клянемся уничтожить врага!». Упершычю — ПЗТ, т. 8, с. 253—254.

## 1942

*Студзень, 5.* У газеце «Савецкая Беларусь» (№ 7) «З Новым годам, з блізкай перамогай». *ПЗТ, т. 8, с. 255—256, 422.*

*Студзень, 9.* Напісаны артыкул «Кліч да беларускага народа». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1942, 11 студз. *ПЗТ, т. 8, с. 256—260, 422—423.*

*Студзень, 18.* У Казані на радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа выступіў з прамоваю «Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!». *«Сав. Беларусь», 20 студз.; «Красная Татария», 20 студз.; ПЗТ, т. 8, с. 260—264, 423.*

*Люты, 27.* Падарыў В. Е. Смірнову кніжкі «Избранные стихи» (М., 1939) і «Стихи о Родине» (М., 1941) з аўтографамі. *ЭД, с. 565; ПЗТ, т. 9, кн. 1, с. 364.*

*Люты.* Верш «Беларускім партызанам» надрукаваны лістоўкай і распаўсюджваўся на тэрыторыі акупаванай Беларусі.

*Сакавік, 7.* Я. Колас жонцы з Казані: «Заўтра прыедзе Янка (Купала.— *Я. С.*). Ён тут жыве непадалёку. Яму званілі, і ён перадаў, што заўтра будзе тут. Такім чынам, прадстаіць сустрэча...» *Колас, т. 13, с. 270.*

*Сакавік, 8.* Я. Колас жонцы з Казані: «Меўся прыехаць сёння Янка (Купала.— *Я. С.*). Покі што яго няма. Учора, калі я ўжо адаслаў табе пісьмо, зайшоў з горада ў гасцініцу да нашых беларускіх хлопцаў і там застаў Уладку... Яна сказала, што пісала табе, а на Янку раіла мне пасварыцца, за тое, што не напісаў пісьма. Юрка, як яна кажа, пісьма Янку не пісаў, а даведаліся яны пра яго адрас з пісьма Юркі ў Клязьму. На сесіі Янка павінен выступіць з дакладам аб ролі беларускай

інтэлігенцыі...» *Колас, т. 13, с. 273.*

*Сакавік, 12.* На сесіі АН БССР выступіў з дакладам «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя». Упершыню — «Материалы мартовской сессии Академии наук Белорусской Советской Социалистической Республики» (Казань, 1941). *ПЗТ, т. 8, с. 264—268, 423—427.*

*Сакавік, 21.* Я. Колас піша жонцы з Масквы: «Сюды з'язджаецца многа народу. Выклікалі Александроўскую і Купалу...» *Колас, т. 13, с. 276.*

*Красавік, 4.* З Пячышчаў выслаў пісьмо М. І. Шыманскай.

*Красавік, 20.* З Пячышчаў напісаў лісты да Я. С. Мазалькова, М. Э. Зігнера.

*Красавік, 25.* Паслаў з Казані ў Маскву тэлеграму ўдзельнікам антыфашысцкага мітынгу прадстаўнікоў беларускай моладзі. *ПЗТ, т. 8, с. 278—279, 427.*

*Красавік, 27.* У Пячышчах напісаў верш «Хлопчык і лётчык на вайне». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1942, № 49, 27 мая.

*Май, 1.* З Пячышчаў выслаў ліст у рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь».

*Май, 8.* Лісты з Пячышчаў Б. А. Емельянаву, І. А. Крупені і Ц. С. Гарбунову, у ССП СССР у Маскву з Казані.

*Май, 19.* У Пячышчах напісаў верш «Зноў будзем шчасце мець і волю». Упершыню — «Савецкая Беларусь», 1942, № 51, 4 чэрв. Першапачатковы варыянт меў назву «Лютуе Гітлер».

*Май, 29.* Ліст К. Чорнаму і П. Кавалёву.

*Май — першая палавіна чэрвеня.* Напісаў верш «На Гітлера-звера...». Упершыню — «Беларусь», 1944, № 1 пад загалоўкам «Ты будзеш шчаслівы». На рускай мове апублікаваны ў газеце «Литература и искусство» (М.), 1944, № 9, 23 лют. пад загалоўкам «Ты будешь, как прежде, счастливой».

*Чэрвень, 18.* Прыехаў у Маскву. У гасцініцы «Масква» сустракаўся з М. Лыньковым, К. Чорным, К. Крапівой. *Такі ён быў, с. 319.*

*Чэрвень, 19.* Апошні ліст да жонкі У. Ф. Луцэвіч.

*Чэрвень, 23.* Тэлеграма з Масквы У. Ф. Луцэвіч.

*Чэрвень, 28.* Сустракаўся з Я. С. Мазальковым.

Трагічна загінуў у гасцініцы «Масква», дзе жыў з 21 чэрвеня.

*Чэрвень, 30.* У акупаваным фашыстамі Мінску памерла маці Я. Купалы Бянігна Іванаўна. *Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 267.*

*Ліпень, 1.* Пахаванне Я. Купалы ў Маскве.

*Ліпень, 2.* СНК БССР і Бюро ЦК КП(б) Беларусі прынялі пастанову «Аб літаратурнай спадчыне народнага паэта БССР Янкі Купалы».

З пастановы: «Усе літаратурныя працы: кнігі, рукапісы, выданыя і нявыданыя, перапіска народнага паэта з грамадскімі дзеячамі, фатаграфіі і інш. матэрыялы, якія адносяцца да жыцця і дзейнасці паэта, абвяшчаюцца дзяржаўнай уласнасцю. Для збірання, арганізацыі захоўвання і падрыхтоўкі да выдання гэтых матэрыялаў стварылі ўрадавую камісію на чале з Я. Коласам. Пасля адпаведную работу правodзіла Камісія па ўвекавечанні памяці Я. Купалы пры АН БССР (старшыня В. І. Шэмпель, адказны сакратар удава паэта У. Ф. Луцэвіч)...»

*1941—1942.* Так у ПЗТ, т. 5, с. 264 датуецца не закончаны верш Я. Купалы «Дзевяць асінавых колляў...», які ў аўтографе мае загаловак «Балада». Упершыню — літаратурны дадатак да газеты «Савецкая Беларусь», 1943, № 3 (чэрвень) (апублікаваны ўрывак пад назваю «Навала»; цалкам — «Полымя», 1946, № 6).

*На працягу года.* Выйшаў зборнік «Белорусским партизанам». *ЭД, с. 372.*



# ДАКУМЕНТЫ ДА «ЛЕТАПІСУ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ»

Ніжэй упершыню друкуюцца дакументы з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, якія датычаць грамадска-палітычнай, навуковай, культурна-асветніцкай і рэдактарска-выдавецкай дзейнасці Янкі Купалы. Матэрыялы раскрываюць асаблівасці літаратурнага жыцця, складанасць і супярэчлівасць узаемаадносін улады і творчай інтэлігенцыі ў перыяд 20—30-х гадоў.

Пададзеныя дакументы даюць магчымасць прасачыць, як атмасфера эпохі, тагачасныя афіцыйныя ідэалагічныя ўстаноўкі ўплывалі на псіхалагічны стан і творчую дзейнасць Янкі Купалы і іншых пісьменнікаў, канкрэтызуюць і ўдакладняюць многія пазіцыі «Летапісу жыцця і творчасці».

Прынятая ў дакументах форма напісання імёнаў і прозвішчаў не уніфікавалася.

## МІНСК. 1919 ГОД

*Друкуюцца дакументы пра службу Я. Купалы ў Камісарыяце харчавання БССР, у «Вестках Часовага работніцка-сялянскага радавага (савецкага) урада Беларусі», выбранне ганаровым сябрам Беларускага Нацыянальнага Камітэта, паездку ў Вільню ў верасні 1919 г.*

### № 1

Приказ по Комиссариату продовольствия Белорусской Республики 23 января 1919 г.

г. Минск

Агент Комиссариата продовольствия тов. Луцевич Иван Доминикович исключается со службы с 21 сего января[1] за откомандированием его в редакцию Правительственной газеты «Известник»[2] .

Справка: Отношение Редактора газеты «Известник» от 20 января с. г. за № 1.

Подлинный подписали:

Член Временного Правительства Белоруссии Комиссар продовольствия (Райцес)

Секретарь (Жарский)

С подлинным верно:

Заведующий Подотделом Личного Состава:[3]

Ф. 806, воп. 1, спр. 247, арк. 13.
Машынапіс.

---

[1] У ведамасці на атрыманне зарплаты супрацоўнікамі Камісарыята харчавання БССР, што прыбылі на службу са смаленскага Камісарыята забеспячэння Заходняй камуны, адзначана, што І. Д. Луцэвіч з'яўляўся агентам з 16 па 21 студзеня 1919 г. (Ф. 43, воп. 1, том 1, спр. 17, арк. 10—11).

[2] Так у тэксце. Маюцца на ўвазе «Весткі Часовага работніцка-сялянскага радавага (савецкага) ураду Беларусі», што выдаваліся ў студзені 1919 г. у Мінску на беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай мовах. Гл. таксама плацёжныя ведамасці на выплату зарплаты членам і супрацоўнікам Часовага ўрада з аўтографамі сакратара рэдакцыі І. Д. Луцэвіча: Ф. 4п, воп. 1, спр. 44, арк. 15—16, 22—29, 27—42.

[3] Подпіс неразборлівы.

## № 2

### Журнал сходу Часовага Беларускага Нацыянальнага Камітэта

### № 15

12 верасня 1919 г.

На сходзе былі прысутнымі Рак-Міхалоўскі, Смоліч, Родзевіч, Міхалевіч, Дземідовіч, Крэпскі, Більдзюкевіч, Гірконт, Вернікоўскі, Косцевіч, Бандарчык, Данілевіч, Прушынскі, Аўсянікаў, Кіркевіч, Мамонька, Козіч, Грыневіч, Яд. Луцэвіч, Серада.

[...]

3. Разбіралі: Аб выбары беларускага пісьменніка Янкі Купалы ганаровым сябром К-та.

Ухвалілі: П. Купала аднагалосна выбіраецца ганаровым сябром К-та. [...]

Старшыня Камітэта
Пісар

Ф. 368, воп. 1, спр. 1а, арк. 14.
Копія. Машынапіс.

№ 3

№ 58.13/IX.19 г.

Яго Міласці пану намесніку Генеральнага Камісара Усходніх Зямель.

Беларускі Нацыянальны Камітэт просіць Вашую Міласць зрабіць загад аб пільнай выдачы членам Камітэта п.п. Смолічу і Луцэвічу, што едуць у справах камітэту, пярэпустак:

п. Смолічу Аркадзю — на праезд да Варшавы і назад цераз Вільню, да Менску;

п. Луцэвічу Яну — да Вільні і назад да Менску.

Камітэт просіць апроч таго выдаць п.п. Луцэвічу і Смолічу дазваленне на правоз з сабою ў абодвых напрамках да 10 пудоў кніжак беларускіх школьных падручнікаў, патрэбных для пачатку заняццяў у беларускіх школах.

Старшыня Камітэта
Пісар

Ф. 368, воп. 1, спр. 3, арк. 6—6 адв.
Водпуск без подпісаў. Рукапіс.

№ 4

№ 72. 17 верасня [19]19 г.

Пасведчанне

Гэтым сведчым, што ўласнік гэтага грамадзянін Іван Луцэвіч з'яўляецца ганаровым членам Беларускага Нацыянальнага Камітэта.

Старшыня К-та
Сакратар

Ф. 368, воп. 1, спр. 7, арк. 22.
Водпуск без подпісаў. Рукапіс.

№ 5

№ 82. 22 верасня [19]19 г.

Пасведчанне

Гэтым сведчым, што ўласніку гэтага грамадзяніну Івану Луцэвічу на грунце паразумення з намеснікам генер[альнага]

Камісара ўсход. зямель п. Рачкевічам даручана перавезці з Менска ў Вільню і з Вільні ў Менск да 200 кілаграмаў беларускіх кніжак.

Старшыня К-та
Сакратар

Ф. 368, воп. 1, спр. 7, арк. 23.
Водпуск без подпісаў. Рукапіс.

№ 6

Беларуская Школьная Рада Меншчыны. 21/IX 1919 г.

№ 51. м. Менск

Копія

Разам з гэтым (праз сябра Янку Купалу) Беларуская Школьная Рада Меншчыны шлець Вам:

| | |
|---|---|
| 1) Беларускую граматыку Тарашкевіча — 100 экз. па 2 руб. на | 200 р. |
| 2) Зборнік «Зажынкі» 100 экз. па 5 р. | 500 р. |
| 3) Каляндар «Заранка» 420 экз. па 2 р. | 840 р. |
| 4) Дыямэнты бел[арускага] прыг[ожага] пісьм[енства] 500 экз. па 6 р. | 300 р. |
| 5) Зборн. сцэн. твор., сш. I 100 экз. па 5 р. | 500 р. |
| 6) — » — — » — сш. II 100 па 5 р. | 500 р. |
| 7) Якуб Колас «Сымон Музыка» 100 экз. па 2.75 | 275 р. |
| | 5815 р. |

Гэтыя кнігі, як найбольш Вам патрэбныя, па заяве Арк. Смоліча, пасылаем Вам.

«Нашу крыніцу» Лёсіка (другая чытанка) маем атрымаць тут, з друкарні, на гэтых днях, але толькі 1035 экз. Частку гэтых кніг вышлем у свой час, калі Вам будзе яна патрэбна.

На вышэй паказаную суму пасылаемых Вам кніг просім прыслаць нам як найхутчэй беларускіх падручнікаў (гражданкай):

1) «Першая чытанка» Ластоўскага;
2) другое чытанне «Родны край» Чарняўскай;
3) Смоліча «Географія»;
4) Смоліч «Першая грамат[ы]ка»;
5) Слоўнік Гарэцкага.

Спадзяемся атрымаць падручнікаў для элементарнае школы як найбольш, бо ў нас іх няма саўсім, а запатрабавання ідуць да нас са ўсіх бакоў.

Ф. 604, воп. 1, спр. 3, арк. 26. Рукапіс.

## № 7

### Спраўка аб фактурах на пасыланыя кнігі ў Вільню праз Янку Купалу. Пасланы 23/IX Бел[ despite рускаму] Выд[авецкаму] Тав[арыству] у Вільні

| | |
|---|---|
| 100 Граматыка Тарашкевіча — 2 | 200 |
| 100 Зборнік «Зажынкі» — 5 | 500 |
| 420 Календ[ар] «Заранка» на 1919 г. — 2 | 840 |
| 500 Дыямэнты белар[ускага] прыг[ожага] пісь[менства] — 6 | 3000 |
| 100 Я.Колас. «Сымон Музыка» — 3 | 300 |
| 100 Зборнік «Сцэнічн[ыя] твор[ы]» сш. I—5 | 500 |
| 100 — » — — » — — » — сш. II—5 | 500 |
| 100 Я. Лёсік «Наша крыніца» — 5 | 500 |
| | Разам на 6340 марак |

Атрыманы ў Вільні праз Янку Купалу ад «Веды»

| | |
|---|---|
| 250 Гарэцкая «Родны край» ч. 1. 3 р.50 к. | 875 м. |
| 100 Дзяціныя гульні 75 | 75 м. |
| 100 Гарэцкі. Слоўнік 7 р. | 700 м. |
| 180 Смоліч. Географія 10 р. | 1800 м. |
| | 3450 м. |

Ад БВТуВ

| | |
|---|---|
| 400 Чарняўшчынка «Родны край» ч. II 3 р.50 к. | 1400 м. |
| 140 Купала «Раскіданае гняздо» 3 р. | 420 м. |
| 50 Алехновіч «Каліся» 75 к. | 37-50 |
| 50 Апошняе спатканне 75 к. | 37-50 |
| | 1895 м. |

Невядома ад каго

| | |
|---|---|
| 50 Гарэцкі «Антон» — 2.50 | 125 м. |
| 50 Каганец «У інш[ым] шч[асці] няшч[асце] сх[авана]» 50 | 25 м. |
| | 150 м. |

| | |
|---|---|
| 98 Чарняўшчынка «Родны край» ч. II. 3.50 | 343 м. |
| 80 Лемантар «Зорка» — » — 1.75 | 140 м. |
| 100 Паўловіч «Васількі» — » —1.25 | 125 м. |
| | 3450 |
| | 1895 |
| | 150 |
| | 5495 |

Ф. 604, воп. 1, спр. 5, арк. 151. Рукапіс.

## МІНСК. 1921 ГОД

*Друкуюцца дакументы пра хатні арышт і вобыск у Я. Купалы, выдавецкія справы.*

### № 1

Личная книжка наркома просвещения
Белорусской Республики
19.III.1921 г.

В Чекабел

В виду снятия домашнего ареста с т. Луцевича (Янки Купалы) Компрос просит в возможно срочном порядке вернуть взятые у него при обыске рукописи и документы.

Ф. 42, воп. 3, спр. 46, арк. 64.
Водпуск без подпісаў. Рукапіс.

### № 2

Копия

Пратакол № 13 пасяджэння Нав. Літ. Камісіі
пры Камасвеце Беларусі, адбытага 8 ліпеня 1921 г.

Былі прысутнымі: З. Жылуновіч, М. Некрашэвіч, Я. Луцэвіч, К. Міцкевіч і Н. Панамарова.
Старшыня — З. Жылуновіч
Пісар — Н. Панамарова.

| Разглядалі: | Пастанавілі: |
| --- | --- |
| 1) Творы Паўловіча. | 1) Прыняць да друку. Перагляд даручыць: лірыкі — З. Жылуновічу, гумарыстыкі — С. Некрашэвічу. |
| 2) Апавяданні Бруевіча | 2) Перагляд даручаецца С. Некрашэвічу. |
| 3) Зборнік казак З.Бядулі «Залатая лісічка». | 3) Прыняць для выдання. Ацаніць згодна існуючым стаўкам. |
| 4) Драма Цягуновіча «Гаротнікі». | 4) Даручаецца перагледзець К. Міцкевічу. |

| | |
|---|---|
| 5) Беларускія прыказкі і вершыкі. | 5) Набыць. Заплаціць 100 000 руб. |
| 6) Праэкты малюнкаў Гутлоўскага | 6) Прызнаны не падходзячым для лемантара. |
| 7) Рахунак Ч. Родзевіча на 200.000 р. за перапіску нотаў для зборніку песняў | 7) Рахунак зацвердзіць. |
| 8) Заява Ч. Родзевіча аб выдачы яму авансу пад пераклад падручніка Траяноўскага даручаны яму Калегіяй. | 8) Выплаціць аванс у 300.000 рублёў. |
| 9) Малюнкі Дваракоўскага для лемантара С. Некрашэвіча. | 9) Малюнкі прыняць. Грошы выплаціць, згодна пастанове (кантракт ад 25/V 1921 г.) |
| 10) Пратакол ад 26/VI Жыдоўскай секцыі. | 10) Пратакол зацвердзіць. |
| 11) Заява гуртка Моладзі аб выданні журнала. | 11) Лічачы выданне журнала патрэбным — запрапанаваць гуртку прадставіць на разгляд Калегіі матэрыял для першага № журнала. |

Пратакол падпісалі:

Старшыня *З. Жылуновіч*
Пісар — *Н. Панамарова*

З арыгіналам згодна:

Сакратар Нав. Літ. Аддзела
Камасветы Беларусі *Н. Панамарова*[1]

Ф. 42, воп. 1, спр. 66, арк. 104—104 адв.
Рукапіс.

---

[1] Гл. таксама пратакол сходу Навукова-літаратурнага аддзела 29 мая 1921 г., на якім прысутнічаў Я. Купала (ф. 42, воп.1, спр. 368, арк. 77—79 адв.).

№ 3

Выдавецкі план
Акадэмічнага Цэнтру Наркамасветы на 1922 год

*Якія кнігі патрэбна надрукаваць у першую чаргу.*

| Аўтар і назва кнігі | Лік экземпляраў | Лік аркушаў |
|---|---|---|
| [...] | | |
| 9. Луцэвіч. Тэорыя прозы і паэзіі | 10.000 | 15 |
| [...] | | |
| *Якія кнігі патрэбна надрукаваць у трэцюю чаргу* | | |
| [...] | | |
| 3. Я. Купала. Жалейка. Гусляр | 7.000 | 20 |
| [...] | | |
| 20. Я. Купала. Эрос і Псыха | 5.000 | 10 |
| [...] | | |
| 28. Я. Купала. Песня аб паходзе Ігара | 5.000 | 7 |
| [...] | | |
| *На выданне журналу «Вольны Сцяг»* | | |
| 1. 24 выпускі па 4 друкаваных аркуша | 5.000 | 96 |
| [...] | | |

З подл. верно

Загадчык Канцылярыі АЦ *Н. Панамарова*

Гербавая пячатка
Акадэмцэнтра
Наркамасветы БССР

Ф. 42, воп. 1, спр. 66, арк. 70—71 адв.
Машынапіс з рукапіснымі праўкамі.
Завераная копія.

## ЕЎПАТОРЫЯ. 1924 ГОД

*Друкуюцца дакументы пра паездку Я. Купалы ў Еўпаторыю.*

№ 1

Протокол заседания бюро секции
научных работников с 6/V—24 г.

Присутствовали: т.т. Вольфсон, Успенский, Некрашевич, от Союза Медсантруд — Кутковский.

[...]

Слушали: 2. О распределении мест в санаториях.

Постановили: Предоставить следующие места: Симеиз с 1/6 — 1/7 — тов. Мелешко. Симеиз с 15/7 — 1/9 — Проф. Каценбогену, канд. Полоновской. Анапа с 15/7 — 1/9 — т. Тепину и профес. Евлахову. Железноводск с 15/7 — 1/9 — т. Харламповичу. Саки с 15/7 — 1/9 — два места т.т. Блоху, канд. Гуревичу (1 м.). Евпатория с 15/7 — 1/9 — два места — Купала.

Предложить указанным лицам, кои бронируют эти места, внести 30% стоимости мест до 12/VI— с. г.[1], в противном случае предоставить места кандидатам [...]

Председатель *Е. Успенский*
Секретарь

Ф. 306, воп. 1, спр. 90, арк. 48.
Арыгінал. Машынапіс.

---

[1] Гл. таксама «Ведомость учета взносов на курортные места по секции научных работников Белрабпрос», дзе пазначаны ўзносы Я. Купалы за 2 месцы ў Еўпаторыю (ф. 306, воп. 1, спр. 91, арк. 114).

## № 2

### Удостоверение

Дано оно Секцией Научных Работников Союза БЕЛРАБПРОС научному сотруднику Луцевичу Ивану Доменик[овичу] в том, что действительно следует на экскурсию в Крым.

Выдан льготный экскурсионный билет за № [1].

Изложенное подписью и приложением печати удостоверяется.

Председатель секции

Ф. 306, воп. 1, спр. 90, арк. 153.
Водпуск. Машынапіс без подпісу.

---

[1] Нумар не ўказаны.

## № 3

### Удостоверение

Дано оно Секцией Научных Работников Союза Белрабпрос жене научного работника тов. Луцевича, Луцевич В. Ф. в том, что она действительно следует на экскурсию в Крым.

Выдан льготный экскурсионный билет за № .

Изложенное подписью и приложением печати удостоверяется.

Председатель секции

Ф. 306, воп. 1, спр. 90, арк. 153.
Водпуск. Машынапіс без подпісу.

## 1925 ГОД

*Паездка за мяжу*

## № 1

### Протокол № 40[б] закрытого заседания Секретариата [ЦК КП(б)Б] от 31/VII—[19]25 г.

Присутствовали: 1. Дьяков. 2. Гессен. 3. Криницкий. 4. Игнатовский. 2. Славинский. 3. Исаак. 4. Грузель. 5. Ульянов.

[...]

Слушали: 10. О поездке по Европе белорусских поэтов.

Постановили: Считать необходимым обязательный проезд поэтов через Польшу. Тов. Козюре поручить, организовать проезд через Польшу.

[...]

Секретарь ЦК КП(б)Б *Дьяков*[1]

Ф. 4п, воп. 3, спр. 6, арк. 252—253, 255.
Арыгінал.

---

[1] Подпіс іншай асобы.

## № 2

Минск, ЦК, Криницкому
Мінск [из] Москвы
Принята 20-го [августа 1925 г.] 21 ч. 37 м.

=Куделько [в выдаче] визы отказали. Купале возможен отказ. Очень прошу санкционировать поездку мою одного. Жду разрешения представительстве=Жилунович.

Памета: Секретариат.
Не возражаю. А. Криницкий, Гессен, Ендаков.

Ф. 4п, воп. 3, спр. 6, арк. 287.
Тэлеграфны бланк.

## № 3

### Протокол № 47 закрытого заседания Бюро ЦК КП(б)Б от 21 августа 1925 г.

Присутствуют: т.т. Криницкий, Гессен, Ендаков, Матусевич, Левин, Гельтман, Козырев, Кремер.

[...]

Слушали: 2. О поездке т. Жилуновича.

Постановили: Еще раз просить НКИД через т. Козюру о выдаче виз, в случае отказа в визах Кудельке и Луцевичу[1], считать поездку одного тов. Жилуновича нецелесообразной.

[...]

Секретарь ЦК КПБ(б)Б *А. Криницкий*

Ф. 4 п, воп. 3, спр. 6, арк. 286.
Арыгінал. Машынапіс.

---

[1] У тэксце памылкова *Луцкевич*.

## 1927 ГОД

*Спроба стварэння Асацыяцыі беларускіх пісьменнікаў. Паездка ў Чэхаславакію.*

### № 1

### Пратакол № 5 пасяджэння шырокай калегіі Аддзела друку ЦК КПБ ад 9/III—27 г.

Прысутнічалі: т.т.Сянкевіч, Чарот, Жылуновіч, Гурскі, Міхайлаў, Сербента, Шукевіч, Дудар, Маневіч, Александровіч, Шамардзіна, Абрамчук, Васкабойнікаў, Скракоўскі.

[...]

3. Слухалі: Аб утварэнні Беларускай асацыяцыі пісьменнікаў.

[...]

Пастанавілі:

Для падрыхтоўкі гэтага пытання ўтварыць камісію з наступных таварышоў: т.т.Сянкевіч, Жылуновіч, Чарот (Маладняк), Я. Колас, Бабарэка (Узвышша), Гольдберг (Звенья), Аршанскі (Яўгрупа ВАПП), А. Вольны, Вансоўскі [...]

Заг. аддзела друку ЦК КПБ *А. Сянкевіч*

Памета: Зацверджан Сак[ратарыя]там ЦК КПБ, прот. № 11. 30/III.

Ф. 4п., воп. 8, спр. 8, арк. 219.
Арыгінал. Машынапіс.

### № 2

### Протокол № 18 закрытого заседания Бюро ЦК КП(б)Б от 11 марта [19]27 г.

Присутствовали: т.т. Криницкий, Абрамчук, Пилляр, Игнатовский, Борушко, Калнин, Червяков, Колодко, Вноровский, Адлерштейн (ЦКК), Сенкевич, Иванов, Шафранский, Перепечко, Голодед, Чернушевич, Виноградов (ЦКК), Виленстович, Бейлин, Гельман, Муратова, Бенек, Чарот.

[...]

93. Слушали: О комиссии по организации Всебелорусской Ассоциации писателей (т. Сенкевич).

Постановили: Ввести дополнительно в комиссию т.т. Я. Купала, Я. Колоса, Бабарэку, Гольдберга, Оршанского, Вольного и Сенкевича, к ранее утвержденным товарищам Чарот и Жилунович.

Созыв за тов. Жилуновичем.

Секретарь ЦК КПБ *А. Криницкий*[1]

Ф. 4п, воп. 3, спр. 25, арк. 151, 152 адв.
Арыгінал. Машынапіс.

---

[1] Рашэнне па гэтаму пытанню запісана і ў пратаколе «адкрытага» пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 11 сакавіка 1927 г., але тэкст зафарбаваны зялёным чарнілам, і ёсць паметкі алоўкамі *закрыт, закрыты* (спр. 20, частка II, арк. 5).

## № 3

[Не пазней 26 мая 1927 г.]

### Пратакол № 1 пасяджэння часовага бюро Асацыяцыі беларускіх пісьменнікаў

| Абгаварылі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1. Пытанне аб правядзенні Статута | 1. Запатрабаваць ад арганізацыяў і ўстаноў перагледжаны і папраўлены імі праект статута і ўлічыць вопыт статута РСФСР Федэрацыі, зрабіць гэта на працягу двух тыдняў. Адносна статуту РСФСР Федэрацыі даручыць выясніць т. Сянкевічу. |
| 2. Аб грашовых справах. | 2. Запрасіць ад арганізацыяў, якія ўваходзяць у Федэрацыю, сметных заявак на наступны 1927/28 г. Заяўкі павінны паступіць на імя т. Сянкевіча не пазней 15/VI—г.г. |
| 3. Аб літаратурным будынку. | 3. Лічыць асабова неабходным мець сталы будынак для патрэбаў літаратурных аб'яднанняў, якія ўваходзяць у Усебеларускую Федэрацыю пісьменнікаў. Узняць хадайніцтва праз Аддзел Друку перад адпаведнымі органамі аб выдзяленні гэткага будынку. |
| 4. Аб становішчы пісьменнікаў БССР. | 4. Прымаючы пад увагу не спрыяючыя для літаратурнай працы беларускіх пісьменнікаў умовы (жылі- |

10. Каштарыс:

| | | |
|---|---|---|
| 1) Пошта і машыністкі | | 200 р. |
| 2) Пераклады на 7 мовах | | 350 р. |
| 3) Выданне брашуры: | | |
| На беларускай мове | 40.000 экз. | |
| « расейскай « | 20.000 » | |
| « ангельскай « | 1000 » | |
| « французскай « | 1000 » | |
| « нямецкай « | 1000 » | |
| « эсперанто « | 1000 » | |
| « яўрэйскай « | 7000 » | |
| « польскай « | 5000 » | 1560 р. |
| | 76.000 | 2110 р. |

Увага: Бел., рас., польс., яўр. брашуры далучаюцца як дадатак да адпаведных газет.

| | |
|---|---|
| 4) Камандзіроўка за межы 2 чал. на 1 мес. | 1500 р. |
| 5) Непрадугледжаныя расходы | 1000 р. |
| 6) Выезды дакладчыкаў па СССР па 100 р. | 500 р. |
| Разам | 5110 р. |

2) Парадак дня
Пленума Камітэта:
1) Зачытанне пратаколаў камітэта № 1 і Прэзідыума №№ 1 і 2.
2) Зацвярджэнне плана працы.
3. Бягучыя справы.

Даручыць тав. Клысу даваць шырокую інфармацыю ў прэсу аб дзейнасці камітэта.

Старшыня [*Я. Купала*]

НАРБ. Ф. 4п, воп. 21, спр. 115, арк. 65—66. Машынапіс. Вядомы таксама варыянт з праўкамі алоўкам, зробленымі, відаць, у Бюро ЦК КП(б)Б (ф. 4п, воп. 3, спр. 28, арк. 51—52, часткова надрукаваны ў зб. «Знешняя палітыка Беларусі», т. 3, Мн., 2001, с. 17—18).

Закрытае пасяджэнне Бюро ЦК КП(б)Б 2 сакавіка 1928 г. было цалкам прысвечана кампаніі па абароне Беларускай сялянска-работніцкай Грамады:

Протокол № 13 закрытого заседания Бюро КП(б)Б от 2-го марта 1928 г.

Присутствовали: тт. Кнорин, Василевич, Голодед, Абрамчук, Игнатовский, Червяков, Карклин, Борушко, Бейлин, Акулик, Славинский, Иванов, Кремер, Сенкевич, Гарбуз, Виленстович, Клыс.

| Слушали: | Постановили: |
|---|---|
| 1. О процессе Громады. | 1. Считать необходимым посылку корреспондента на процесс Громады от газеты «Савецкая Беларусь». Предложить тов. КОЗЮРЕ срочно согласовать этот вопрос по линии НКИД.<br>2. Выдвинуть кандитатуру тов. Шушкевича-Третьякова корреспондентом от «Савецкай Беларусі» на процесс Громады. |
| 2. О комитете белорусских писателей и ученых по защите Громады (тов. Козюра). | 1. Комитет утвердить в составе 17 человек, в состав комитета ввести тт. Сенкевича и Игнатовского.<br>2. Окончательное утверждение Комитета внести на Секретариат. |
| 3. Протокол заседания Президиума комитета научных работников и писателей по обороне Громады (тов. Сенкевич). | 1. Согласиться с решением Президиума Комитета научных работников и писателей (протокол № 2). В пункте 2 — вместо тов. Игнатовского — тов. Горецкому Гавриле. |

По пункту 4: Считать возможным при запросе посылки докладчиков по отдельным городам БССР использовать поездку научных работников и писателей по этим вопросам.

По пункту 6: Поручить Президиуму обсудить вопрос, к кому можно было бы обратиться с этим письмом.

По пункту 7: Все речи выступлений должны быть написаны и оставлены на радиостанции.

По п. 9: Через ЦК ВКП(б).

По п. 10: Поручить тов. Сенкевичу разработать вопрос о сборе средств. Взаимообразно 1000 рублей получить от Красного Креста.

2. Признать возможным вынесение решения Комитетом о целесообразности поездки представителей от комитета за границу, согласовав этот вопрос в срочном порядке с НКИД.

1. Об оплате корреспондента «Звезда» по процессу Громады (тов. Осьмов).

Считать возможным израсходование редакцией «Звезда» до 1000 р. на содержание корреспондента сверх отпущенной дотации.

Секретарь ЦК КП(б)Б *(В. Кнорин)*

НАРБ. Ф. 4п, воп. 3, спр. 28, арк. 50.
Арыгінал. Машынапіс.

Першы сакратар ЦК КП(б)Б В. Г. Кнорын 4 сакавіка накіраваў адозву «Да навуковых і культурных дзеячоў і працоўных усяго свету» сакратару ЦК ВКП(б) С. В. Касіору і звярнуўся з просьбай санкцыянаваць план работы Камітэта. Палітбюро ЦК ВКП(б) 15 сакавіка 1928 г. санкцыянавала арганізацыю Камітэта. Вядомы таксама ліст Наркома замежных спраў СССР Г. В. Чычэрына Генеральнаму сакратару ЦК ВКП(б) І. В. Сталіну ад 18 сакавіка 1928 г., у якім паведамлялася пра ўдзел НКЗС СССР у арганізацыі і дзейнасці Камітэта і падкрэслівалася немэтазгоднасць звярнуцца Камітэту з пратэстам да польскага суда ў Вільні (гл. Знешняя палітыка Беларусі, т. 3. Мн., 2001, с. 21—24).

Камент. *В. У. Скалабана.*

*Адозва да культурных дзеячоў і працаўнікоў СССР і ўсяго свету* (с. 16 )

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1929, № 44, 24 лют., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Напісана да гадавіны разгрому Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. (Гл. дадзены том, с. 14.)

*<Віншаванне А. Гурло>* (с. 19)

Друкуецца па газ. «Савецкая Беларусь», 1929, № 297, 29 снеж., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Напісана з нагоды 20-гадовага юбілею літаратурнай дзейнасці Алеся Гурло.

*Гурло Алесь* (Аляксандр Кандратавіч; 1892—1938) — беларускі паэт. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый, грамадзянскай вайны. У

1921 г. вярнуўся на Беларусь і працаваў у Інбелкульце і ў Інстытуце мовы АН БССР. Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Полымя», «Пробліск». У 1930 г. рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

Выдаў зб. паэзіі «Барвёнак» (1924); «Спатканні» (1925); «Сузор'і» (1926); «Зорнасць» (1927); «Межы» (1929).

*Стойкаму бальшавіку — прывітанне!* (с. 19)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1932, № 8, 15 мая, дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Прывітанне беларускіх пісьменнікаў М. М. Галадзеду з нагоды пяцігоддзя яго работы на пасадзе Старшыні СНК БССР.

*Галадзед Мікалай Мацвеевіч* (1894—1937) — партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. У 1927—1937 гг.— Старшыня СНК БССР. Арыштаваны органамі НКУС у Маскве. Накіраваны ў Мінск, дзе ў час чарговага допыту 21 чэрв. 1937 г. выкінуўся з акна 5-га паверха будынка НКУС. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Рэзалюцыя пратэсту пісьменнікаў БССР* (с. 20)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1932, № 120, 30 мая, дзе ўпершыню апублікавана пад агульным загалоўкам «Разгром ТБШ і ліквідацыя рэштак беларускага школьніцтва польскім фашызмам выклікала буру гневу і абурэння сярод пралетараў чырвонага Менску».

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Таварыства беларускай школы (ТБШ)* — культурна-асветная арганізацыя ў Заходняй Беларусі ў 1921—1936 гг. Створана на аснове рашэння Цэнтральнай беларускай школьнай рады ў Вільні, статут зацверджаны 1.7.1921 г. Да яго далучылася ТБШ у Радашковічах, заснаванае Б.А.Тарашкевічам 7.12.1921 г. Акрамя Тарашкевіча кіраўнікамі і актыўнымі дзеячамі ТБШ у розны час былі Р. К. Астроўскі, Ф. І. Валынец, Я. Е. Гаўрылік, І. М. Грэцкі, І. С. Дварчанін, П. П. Кізевіч, П. С. Крынчык і інш. Галоўная мэта таварыства — «распаўсюджваць і дапамагаць асвеце сярод беларусаў, пашыраць беларускія школы і беларускую асвету наогул». ТБШ зрабіла значны ўклад у вызваленчую барацьбу ў Заходняй Беларусі: выступала супраць паланізацыі, сацыяльнага прыгнёту, праводзіла шырокую дзейнасць па адкрыцці беларускіх школ, павышала агульнаадукацыйны і культурны ўзровень насельніцтва, яго нацыянальную свядомасць. Улады буржуазнай Польшчы ўсяляк перашкаджалі дзейнасці ТБШ, забаранялі з'езды, закрывалі ўправы, гурткі, клубы, бібліятэкі, арыштоўвалі і судзілі кіраўнікоў. У 1937 г. ТБШ было забаронена польскімі ўладамі.

*Сацыялістычны рахунак* (с. 21)

Друкуецца па часоп. «Полымя», 1933, № 10, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Памяці Эдуарда Багрыцкага* (с. 25)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1934, № 8, 16 лют., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Багрыцкі Эдуард Георгіевіч* (сапр. Дзюбін, 22.10.1895—16.02.1934), рускі паэт. Быў знаёмы з Я. Купалам. Неаднаразова сустракаліся ў Мінску, Маскве. Пэўны час перапісваліся, але лісты не захаваліся. Э.Багрыцкі пераклаў на рускую мову восем вершаў Я.Купалы: «Заклятая кветка», «Плача восень», «Удосвітак», «Зімой у лесе», «Снег», «Паязджане», «Крым», «Дзве таполі», якія ўвайшлі ў кнігу «Сборник стихов». М.— Л., 1930.

*Протест белорусских общественных деятелей против зверств германских властей, чинимых над народом Белоруссии* (с. 26)

Друкуецца і датуецца па машынапіснай копіі, якая захоўваецца ў НАРБ (ф. 4, воп. 33 а, спр. 161, лл. 100—107).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Захоўваецца таксама яшчэ адзін варыянт гэтага пратэсту са значнымі розначытаннямі (НАРБ, ф. 750, воп. 1, спр. 223, лл. 19—29). Пералік асоб, падпісаўшых пратэст, адсутнічае.

## СЛУЖБОВЫЯ ДАКУМЕНТЫ

№ 1. *Прыблізны месячны каштарыс па рэдагаванню часопіса «Беларускае жыццё»* (с. 32)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 21, арк. 340). Уверсе — рэзалюцыя К. Цярэшчанкі: «Да спраў «Беларускага жыцця». 19.IV.20 г.».

Публікуецца ўпершыню.

№ 2. *Каштарыс часопіса «Беларускае жыццё» з 15 красавіка да 15 мая 1920 г.* (с. 33)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 368, воп. 1, спр. 21, арк. 339—339 адв.). На чарнавым варыянце (арк. 328—328 адв.) — рэзалюцыя К.Цярэшчанкі: «На разгляд Пленума Нац. Кам. 21.IV.20 г.».

Публікуецца ўпершыню.

Рэдактар «Беларускага жыцця» Ф. Аляхновіч 31 сакавіка 1920 г. падаў заяву ў Беларускі нацыянальны камітэт аб адстаўцы і паведаміў, што Я.Купала згодны стаць рэдактарам часопіса (НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 17, арк. 45).

№ 3. *Ведамасць на выплату ганарару аўтарам часопіса «Вольны сцяг», № 5 (7)* (с. 34)

Друкуецца па рукапісе, напісаным невядомай рукой з уласнаручным подпісам Я. Купалы. Захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 70, спр. 3, арк. 195—196). На арк. 195 паметка і рэзалюцыя: «К пратаколу Літ. Камісіі ад 17/XII—21 г. № 3», «Оплатить 13/XII 1921 г. Зам. пред. А[кадемического] Ц[ентра] С. Некрашевич».

Прыкладзена гербавая пячатка Акадэмічнага цэнтра Народнага камісарыята асветы БССР.

Публікуецца ўпершыню.

№ 4. *Ведамасць на выплату ганарару аўтарам часопіса «Зоркі» № 4* (с. 36)

Друкуецца па рукапісе, напісаным С. Плаўнікам (З. Бядулем), з уласнаручным подпісам Я. Купалы. Арыгінал захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 3, адз. зах. 70, арк. 201 — адв. 202). На арк. 201 паметка: «К пратаколу Літ. Камісіі ад 17/XII—21 г. № 3».

Публікуецца ўпершыню.

№ 5. *Ведамасць на выплату ганарару аўтарам часопіса «Зоркі» № 5* (с. 38)

Друкуецца па рукапісе, напісаным С. Плаўнікам (З. Бядулем), з уласнаручным подпісам Я. Купалы. Арыгінал захоўваецца ў НАРБ (ф. 42, воп. 3, адз. зах. 70, арк. 199—200). На аркушы 199 паметка: «К пратаколу Літ. Камісіі ад 17/XII—21 г. № 3».

Публікуецца ўпершыню.

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК*





* Першая калонка лічбаў — том выдання, другая — тэкстаў, трэцяя — каментарыяў.

# ЗМЕСТ*



## ДАПАЎНЕННІ ДА ПАПЯРЭДНІХ ТАМОЎ



* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

## ДАДАТАК

## ДАКУМЕНТЫ ДА «ЛЕТАПІСУ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ»

**Купала Я.**

К92 Поўны збор твораў: У 9 т. Т. 9, кн. 2. Дапаўненні да папярэдніх тамоў; Летапіс жыцця і творчасці; Дадатак/ Янка Купала.— Мн.; Маст. літ., 2003.— 414 с., [4] л. іл.

ISBN 985-02-0661-6.

Другая кніга дзевятага тома завяршае выданне Поўнага збору твораў Янкі Купалы.

**УДК 821.161.3+821.161.3.09**
**ББК 84(4Беи)+83.3(4Беи)**






Літаратурна-мастацкае выданне

КУПАЛА ЯНКА

*Поўны збор твораў*
*у дзевяці тамах*

**Том 9**

**Кніга другая**

*Дапаўненні да папярэдніх тамоў*
*Летапіс жыцця і творчасці*
*Дадатак*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Тэхнічны рэдактар *В. І. Барута*
Стылістычныя рэдактары *Л. А. Дзядзюля, Я. А. Бебель*

Падпісана да друку з дыяпазітываў 1.12.03. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера афсетная № 1. Гарнітура Літаратурная. Высокі друк з ФПФ. Умоўн. друк. арк. 21,84 + 0,42 укл. Улік.-выд. арк. 23,85. Тыраж 5800 экз. Заказ 2477.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 28.11.2002. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа». 220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.

ISBN 985-02-0661-6


